КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ПОЛЬШЧЫ.
(Сэкцыя Камінтэрну).
КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ЗАХ. БЕЛАРУСІ.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!
פראָלעטאַריער פון אַלע לענדער. פאַראייניקט זיך!
Proletarjusze wszystkich krajow, łączcie się!
Пролетарии всех стран, соединяйтесь!
Visú šalių proletarai, vienykitės!

# БАЛЬШАВІК

ОРГАН ЦК КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ.

СТУДЗЕНЬ
1933 год.

№ 1 (46)

КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ПОЛЬШЧЫ.
(Сэкцыя Камінтэрну.)

Пралетарыі ўсіх краёў злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК

ОРГАН ЦК КАМУНІСТЫЧНАЕ ПАРТЫІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ.

№ 5 (4) ВІЛЬНЯ, СТУДЗЕНЬ 1933 г. № 5 (46)

# Даклад тав. Сталіна

### НА АБ'ЕДНАНЫМ ПЛЕНУМЕ ЦК і ЦКК УсеКП(б) 7-I-1933 г.

Падрыхтоўваючы да друку асобнай брашурай даклад і прамову т. Сталіна на аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК УсеКП(б) 7 студзеня 1932 г. зьмешчаем з некаторымі скаротамі даклад. У першых двух разьдзелах т. Сталін адзначае вялікае міжнароднае значэньне рэалізацыі першай пяцігодкі, посьпехі якой «мабілізуюць рэвалюцыйныя сілы рабочае клясы ўсіх краёў супроць капіталізму». Адносна-ж асноўных задач пяцігадовага пляну і шляхоў яго ажыцьцяўленьня т. Сталін кажа: «устанавіць стражайшы рэжым экономіі і награмаджаць сродкі, неабходныя для фінансаваньня індустрыялізацыі нашага краю, — вось на які шлях трэба было стаць, каб дабіцца адбудовы цяжкай індустрыі і ажыцьцяўленьня пяцігадовага пляну».

## ВЫНІКІ ПЯЦІГОДКІ ЗА ЧАТЫРЫ ГАДЫ Ў ГАЛІНЕ ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ

Пяройдзем цяпер да пытаньня аб выніках ажыцьцяўленьня пяцігадовага пляну.

Якія вынікі пяцігодкі за чатыры гады ў галіне **прамысловасьці?** Ці дабіліся мы перамогі ў гэтай галіне? Так, дабіліся. І ня толькі дабіліся, а зрабілі больш, чым мы самі чакалі, чым маглі чакаць самыя гарачыя галовы ў нашай партыі. Гэтага не адмаўляюць цяпер нават ворагі. Тым больш ня могуць гэтага адмаўляць нашы прыяцелі.

У нас ня было чорнай мэталюргіі — асновы індустрыялізацыі краіны. У нас яна ёсьць цяпер.

У нас ня было трактарнай прамысловасьці. У нас яна ёсьць цяпер.

У нас ня было аўтамабільнай прамысловасьці. У нас яна ёсьць цяпер.

У нас ня было варштатабудаўніцтва. У нас яно ёсьць цяпер.

У нас ня было сур'ёзнай і сучаснай хэмічнай прамысловасьці. У нас яна ёсьць цяпер.

У нас ня было сапраўднай і сур'ёзнай прамысловасьці па вырабу сучасных сельска-гаспадарчых машын. У нас яна ёсьць цяпер.

У нас ня было авіяцыйнай прамысловасьці. У нас яна ёсьць цяпер.

У сэнсе выпрацоўкі электрычнай энэргіі мы стаялі на самым апошнім месцы. Цяпер мы выйшлі на адно з першых месц.

У сэнсе здабываньня нафтавых прадуктаў і вугалю мы стаялі на апошнім месцы. Цяпер мы выйшлі на адно з першых месц.

У нас была толькі адна адзіная вугольна-мэталюргічная база на Украіне, з якою мы ледзь спраўляліся. Мы дабіліся таго, што ня толькі паднялі гэту базу, але стварылі яшчэ новую вугольна-мэталюргічную базу на Ўсходзе, якая зьяўляецца гонарам нашай краіны.

Мы мелі толькі адну адзіную базу тэкстыльнай прамысловасьці на Поўначы нашай краіны. Мы дабіліся таго, што будзем мець у бліжэйшы час дзьве новыя базы тэкстыльнай прамысловсьці ў Сярэдняй Азіі і Ўсходняй Сібіры.

І мы ня толькі стварылі гэтыя новыя вялізарныя галіны прамысловасьці, але мы іх стварылі ў такім маштабе і ў такіх разьмерах, перад якімі бляднеюць маштабы і разьмеры эўрапэйскай індустрыі.

А ўсё гэта прывяло да таго, што капіталістычныя элемэнты выцесьнены з прамысловасьці канчаткова і беспаваротна, а сацыялістычная прамысловасьць стала адзінай формай індустрыі ў СССР.

А ўсё гэта прывяло да таго, што краіна наша з аграрнай стала індустрыяльнай, бо ўдзельная вага прамысловай прадукцыі ў адносінах сельска-гаспадарчай узьнялася з 48 проц. у пачатку пяцігодкі (1928 г.) да 70 проц. пад канец чацьвертага году пяцігодкі (1932 г.).

А ўсё гэта прывяло да таго, што пад канец чацьвертага году пяцігодкі нам удалося выканаць праграму агульнай прамысловай вытворчасьці, разьлічаную на пяць год, на 93,7 проц., узьняўшы аб'ём прамысловай прадукцыі больш, чым у тры разы параўнальна з даваенным узроўнем і больш чым у два разы параўнальна з узроўнем 1928 г. Што-ж датычыць праграмы вытворчасьці па цяжкай прамысловасьці, то мы выканалі пяцігадовы плян на 108 проц. Праўда, мы тут недавыканалі агульную праграму пяцігодкі на 6 проц. Але гэта тлумачыцца тым, што, з прычыны адмаўленьня суседніх краін падпісаць з намі пакты аб ненападзе і ўскладненьняў на Далёкім Усходзе нам прышлося насьпех пераключыць рад заводаў у мэтах узмацненьня абароны на выраб сучасных прылад абароны. Ну, а пераключэньне гэта, з прычыны неабходнасьці прайсьці некаторы падрыхтоўчы пэрыяд, прывяло да таго, што заводы гэтыя спынілі выраб прадукцыі на працягу чатырох месяцаў, што не магло не адбіцца на выкананьні агульнай праграмы вытворчасьці па пяцігадоваму пляну на працягу 1932 г. Апэрацыя гэта прывяла да таго, што мы папоўнілі цалкам і поўнасьцю прабелы ў справе абароназдольнасьці краіны. Але яна не магла не адбіцца адмоўна на выкананьні праграмы вытворчасьці па пяцігадоваму пляну. Ня можа быць ніякага сумленьня, што бяз гэтай прыўваходзячай акалічнасьці мы ня толькі выканалі-б, але напэўна перавыканалі-б лічбовую частку пяцігадовага пляну.

Нарэшце, усё гэта прывяло да таго, што з краіны слабай і непадрыхтаванай да абароны Савецкі Саюз ператварыўся ў краіну магутную ў сэнсе абароназдольнасьці, у краіну, гатовую да ўсякіх выпадковасьцяй, у краіну, здольную вырабляць у масавым маштабе ўсе сучасныя прылады абароны і забясьпечыць імі сваю армію ў выпадку нападу звонку.

Гэтакія ў агульным вынікі пяцігодкі за чатыры гады ў галіне прамысловасьці. Цяпер мяркуйце самі: чаго варта пасьля ўсяго гэтага балбатня буржуазнай прэсы аб «правале» пяцігодкі ў галіне прамысловасьці.

А як стаіць справа з капіталістычнымі краінамі, якія перажываюць зараз жорсткі крызыс у сэнсе росту іх прамысловай прадукцыі? Вось усім вядомыя афіцыяльныя даныя. У той час, як аб'ём прамысловай прадукцыі СССР пад канец 1932 году вырас у параўнаньні з даваенным узроўнем да 334 проц., аб'ём прамысловай прадукцыі ПАЗШ зьнізіўся за той-жа пэрыяд да 84 проц. даваеннага ўзроўню, Англіі—да 75 проц., Германіі—да 62 проц.

У той час, як аб'ём прамысловай прадукцыі СССР вырас пад канец 1932 году ў параўнаньні з узроўнем 1928 г. на 219 проц., аб'ём прамысловай прадукцыі ПАЗШ зьнізіўся за той-жа пэрыяд да 56 проц., Англіі—да 80 проц., Германіі—да 65 проц., Польшчы—да 54 проц. Аб чым гавораць гэтыя даныя, як не аб тым, што капіталістычная сыстэма прамысловасьці ня вытрымала экзамэну ў цяжбе з савецкай сыстэмай, што савецкая сыстэма прамысловасьці мае ўсе перавагі перад сыстэмай капіталістычнай. Нам гавораць, што ўсё гэта добра, што пабудавана шмат новых заводаў, закладзены асновы індустрыялізацыі. Але было-б значна лепш адмовіцца ад палітыкі індустрыялізацыі, ад палітыкі пашырэньня вырабу сродкаў вытворчасьці, або прынамсі адкласьці гэту справу на задні плян з тым, каб выраблять больш паркалю, абутку, вопраткі і інш. прадметаў шырокага ўжытку. Прадметаў шырокага ўжытку выпушчана менш, чым трэба, а гэта стварае пэўныя затрудненьні. Але тады трэба ведаць і трэба ўявіць сабе, да чаго прывяла-б нас падобная палітыка адсоўваньня на задні плян задач індустрыялізацыі. Зразумела, мы маглі-б з

паўтара мільярдаў рублёў валюты, патрачаных за гэты пэрыяд на абсталяваньне нашай цяжкай прамысловасьці, адкласьці палову на імпарт бавоўны, скуры, воўны, каўчука і г. д. У нас тады было-б больш паркалю, абутку, вопраткі. Але ў нас ня было-б тады ні трактарнай, ні аўтамабільнай прамысловасьці, ня было-б колькі небудзь сур'ёзнай чорнай мэталюргіі, ня было-б мэталю для вырабу машын,—і мы былі-б бяззбройнымі перад тварам узброенага новай тэхнікай капіталістычнага акружэньня.

Мы пазбавілі-б тады сябе магчымасьці забясьпечваць сельскую гаспадарку трактарамі і сельгасмашынамі, — стала быць, мы сядзелі-б бяз хлеба. Мы пазбавілі-б сябе магчымасьці атрымаць перамогу над капіталістычнымі элемэнтамі ў краіне,—стала быць мы неймаверна павысілі-б шансы на рэстаўрацыю капіталізму. Мы ня мелі-б тады ўсіх сучасных сродкаў абароны, без якіх немагчыма дзяржаўная незалежнасьць краіны, без якіх краіна ператвараецца ў аб'ект ваенных апэрацый замежных ворагаў. Наша становішча было-б тады больш ці менш аналёгічна становішчу цяперашняга Кітаю, які ня мае сваёй цяжкай прамысловасьці, ня мае сваёй ваеннай прамысловасьці і які клююць усе, каму толькі не лянота. Адным словам, мы мелі-б у такім выпадку ваенную інтэрвэнцыю, ня пакты аб ненападзе, а вайну, вайну небясьпечную і сьмяротную, вайну крывавую і няроўную, бо ў гэтай вайне мы былі-б амаль што бяззбройнымі перад ворагамі, якія маюць у сваім распарадженьні ўсе сучасныя сродкі нападу.

Вось як абарочваецца справа, таварышы.

Ясна, што паважаючая сябе дзяржаўная ўлада, паважаючая сябе партыя не магла стаць на такі пагібельны пункт гледжаньня. І іменна таму, што партыя адкінула такую антырэвалюцыйную ўстаноўку, іменна таму яна дабілася рашаючай перамогі ў справе выкананьня пяцігадовага пляну ў галіне прамысловасьці. Ажыцьцяўляючы пяцігодку і арганізуючы перамогу ў галіне прамысловага будаўніцтва, партыя праводзіла палітыку найбольш паскораных тэмпаў разьвіцьця прамысловасьці. Партыя, якбы падхлёствала краіну, паскараючы яе бег уперад. Ці правільна рабіла партыя, праводзячы палітыку найбольш паскораных тэмпаў? Так, бязумоўна правільна.

Нельга не падганяць краіну, якая адстала на сто год і якой пагражае з-за яе адсталасьці сьмяротная небясьпека. Толькі такім чынам можна было даць краіне магчымасьць наспех пераўзброіцца на базе новай тэхнікі і выйсьці, нарэшце, на шырокую дарогу. Далей, мы не маглі ведаць, у які дзень нападуць на СССР імпэрыялісты і перапыняць наша будаўніцтва. А што яны маглі напасьці ў любы момант, карыстаючыся тэхніка-эканамічнай слабасьцю нашай краіны,—у гэтым не магло быць сумненьня.

Таму партыя была прымушана падхлёстваць краіну, каб ня ўпусьціць часу скарыстаць да дна передышку і пасьпець стварыць у СССР асновы індустрыялізацыі, якія прадстаўляюць базу яго магутнасьці. Партыя ня мела магчымасьць чакаць і манэўраваць, яна павінна была праводзіць палітыку найбольш паскораных тэмпаў.

Нарэшце, партыя павінна была пакончыць у магчыма кароткі тэрмін са слабасьцю краіны ў галіне абароны. Умовы моманту, рост узбраеньняў у капіталістычных краінах, правал ідэі разбраеньня, нянавісьць міжнароднай буржуазіі да СССР — усё гэта штурхала партыю на тое, каб фарсаваць справу ўзмацненьня абароназдольнасьці краіны, асновы яе незалежнасьці.

Але ці мела партыя рэальную магчымасьць ажыцьцяўляць палітыку найбольш паскораных тэмпаў? Так, мела. Яна мела гэту магчымасьць ня толькі таму, што яна пасьпела сваячасова раскачаць краіну ў духу шпаркага прасоўваньня ўперад, але перш за ўсё таму, што яна магла абаперціся ў справе шырокага новага будаўніцтва на старыя або абноўленыя заводы і фабрыкі, якія былі ўжо асвоены рабочымі і інжынэрна-тэхнічным пэрсаналам і якія давалі, з прычыны гэтага магчымасьць ажыцьцяўляць найбольш паскораныя тэмпы разьвіцьця.

Вось на якой аснове вырасьлі ў нас, у пэрыяд першай пяцігодкі шпаркі ўздым новага будаўніцтва, пафас разгорнутага будаўніцтва, героі і ўдарнікі новабудоўляў, практыка бурных тэмпаў разьвіцьця.

Ці можна сказаць, што ў другой пяцігодцы прыдзецца праводзіць такую - ж

дакладна палітыку найбольш паскораных тэмпаў?

Не, нельга гэтага сказаць.

Па-першае, у выніку пасьпяховага правядзеньня пяцігодкі мы **ужо выканалі** ў асноўным яе галоўную задачу — падвядзеньне базы новай сучаснай тэхнікі пад прамысловасьць, транспарт, сельскую гаспадарку. Ці варта пасьля гэтага падхлістваць і падганяць краіну? Ясна, што няма ў гэтым цяпер неабходнасьці.

Па-другое, у выніку пасьпяховага выкананьня пяцігодкі нам удалося ўжо падняць абароназдольнасьць краіны на належную вышыню. Ці варта пасьля гэтага падхлістваць і падганяць краіну? Ясна, што цяпер у гэтым няма патрэбы.

Нарэшце, у выніку паспяховага выкананьня пяцігодкі нам удалося пабудаваць дзесяткі і сотні новых вялікіх заводаў і камбінатаў, якія маюць новую складаную тэхніку. Гэта азначае, што ў аб'ёме прамысловай прадукцыі ў другой пяцігодцы асноўную ролю будуць адыгрываць ужо не старыя заводы, тэхніка якіх ужо асвоена, як гэта мела месца ў пэрыяд першай пяцігодкі, а новыя заводы, тэхніка якіх яшчэ не асвоена і якую трэба асвоіць. Але асваеньне новых прадпрыемстваў і новай тэхнікі прадстаўляе значна больш труднасьцяй, чым скарыстаньне старых або абноўленых заводаў і фабрык, тэхніка якіх ужо асвоена. Яно патрабуе больш часу для таго, каб падняць кваліфікацыю рабочых і інжынэрна-тэхнічнага пэрсаналу і набыць новыя навыкі для поўнага скарыстаньня новай тэхнікі. Ці ня ясна пасьля ўсяго гэтага, што калі-б мы нават і хацелі, мы не маглі-б ажыцьцявіць у пэрыяд другой пяцігодкі, асабліва ў першыя два гады другой пяцігодкі, палітыку найбольш паскораных тэмпаў разьвіцьця.

Вось чаму я думаю, што для другой пяцігодкі нам прыдзецца ўзяць менш паскораныя тэмпы росту прамысловай прадукцыі. У пэрыяд першай пяцігодкі штогодны прырост прамысловай прадукцыі складаў у сярэднім 22 проц. Я думаю, што для другой пяцігодкі прыдзецца ўзяць 13-14 проц. штогоднага прыросту прамысловай прадукцыі ў сярэднім. Для капіталістычных краін такі тэмп прыросту прамысловай прадукцыі зьяўляецца недасяжным ідэалам. І ня толькі такі тэмп прыросту прамысловай прадукцыі, нават 5 проц. штогоднага срэдняга прыросту, складае для іх цяпер недасяжны ідэал. Але на тое яны і капіталістычныя краіны. Іншая справа савецкая краіна з савецкай сыстэмай гаспадаркі. Пры нашай сыстэме гаспадаркі мы маем поўную магчымасьць і мы павінны ажыцьцявіць 13-14 проц. штогоднага прыросту прадукцыі, як **мінімум.**

У пэрыяд першай пяцігодкі мы здолелі арганізаваць энтузіязм, пафас **новага будаўніцтва** і дабіліся рашаючых посьпехаў. Гэта вельмі добра. Але цяпер гэтага мала. Цяпер гэту справу мы павінны дапоўніць энтузіязмам, пафасам **асваеньня** новых заводаў і новай тэхнікі, сур'ёзным узьняцьцем прадукцыйнасьці працы, сур'ёзным скарачэньнем сабекошту. **У гэтым цяпер галоўнае.** Бо тольк на гэтай базе мы можам дабіцца, скажам, да другой паловы другой пяцігодкі новага магутнага разьбегу як у галіне будаўніцтва, так і ў галіне прыросту прамысловай прадукцыі.

Нарэшце, некалькі слоў аб самых тэмпах і працантах штогоднага прыросту прадукцыі. Нашы прамыслоўцы мала займаюцца гэтым пытаньнем. А між тым гэта вельмі цікавае пытаньне. Што такое проценты прыросту прадукцыі і што, уласна, крыецца за кожным працантам прыросту? Возьмем, прыклад, 1925 год, пэрыяд адбудоўчы. Гадавы прырост прадукцыі быў тады 66 проц. Валавая прадукцыя прамысловасьці складала 7.700 млн. руб. 66 проц. прыросту складала тады ў абсалютных лічбах 3 мільярды з лішкам. Стала быць, кожны процант прыросту раўняўся тады 43 мільёнам р. Возьмем цяпер 1928 год. Ён даў 26 проц. прыросту, гэта значыць амаль у тры разы менш у процантных адносінах, чым 1925 год. Валавая прадукцыя прамысловасьці складала тады 15.500 мільёнаў рублёў. Увесь прырост на год складаў у абсалютных лічбах 3.280 мільёнаў рублёў. Стала быць, кожны процант прыросту раўняўся тады 120 млн. руб., г. зн. складаў амаль у тры разы большую суму, чым у 1925 годзе, калі мы мелі 66 проц. прыросту. Возьмем, нарэшце, 1931 год. Ён даў 22 проц. прыросту, г. зн. у тры разы менш, чым у 1925 годзе. Валавая прадукцыя прамысловасьці складала тады 30.800 млн. руб. Увесь прырост даў у абсалютных лічбах 5.600 млн. з лішкам.

Стала быць, кожны процант прыросту склаў звыш 250 млн. руб., г. зн. у шэсьць раз больш, чым у 1925 годзе, калі мы мелі 66 проц. прыросту і ў два разы больш, чым у 1928 годзе, калі мы мелі 26 з лішнім процантаў прыросту.

Аб чым усё гэта сьведчыць? Аб тым, што пры вывучэньні тэмпаў прыросту прадукцыі нельга абмяжоўвацца разглядам аднэй толькі агульнай сумы процантаў прыросту, трэба яшчэ ведаць, што хаваецца за кожным процантам прыросту і якая агульная сума гадавога прыросту прадукцыі. Мы бярэм, напрыклад, для 1933 году 16 проц. прыросту, г. зн. у чатыры разы менш, чым у 1925 годзе. Але гэта яшчэ ня значыць, што прырост прадукцыі за гэты год будзе таксама ў чатыры разы менш. Прырост прадукцыі ў 1925 годзе ў абсалютных лічбах склаў 3 млрд. з лішкам, а кожны процант раўняўся 43 млн. руб. Няма падстаў сумнявацца ў тым, што прырост прадукцыі ў 1933 годзе ў абсалютных лічбах пры норме 16 проц. прыросту складзе ня менш 5 млрд. рублёў г. зн. амаль у два разы больш, чым у 1925 годзе. А кожны процант прыросту будзе раўняцца, прынамсі, 320 - 340 млн. руб., г. зн. будзе складаць, прынамсі, у 7 раз большую суму, чым кожны процант прыросту ў 1925 годзе.

Вось як абарочваецца справа, таварышы, калі разглядаць пытаньне аб тэмпах і процантах прыросту канкрэтна.

Так стаіць справа з вынікамі пяцігодкі за чатыры гады ў галіне прамысловасьці.

## ВЫНІКІ ПЯЦІГОДКІ ЗА ЧАТЫРЫ ГАДЫ Ў ГАЛІНЕ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

Пяройдзем да пытаньня аб выніках пяцігодкі за чатыры гады ў галіне сельскай гаспадаркі.

Пяцігодка ў галіне сельскай гаспадаркі ёсьць пяцігодка калектывізацыі. З чаго выходзіла партыя, праводзячы калектывізацыю? Партыя выходзіла з таго, што для ўмацаваньня дыктатуры пралетарыяту і пабудовы сацыялістычнага грамадзтва, апрача індустрыялізацыі, неабходзен яшчэ пераход ад дробнай індывідуальнай сялянскай гаспадаркі да буйнай, калектыўнай сельскай гаспадаркі, забясьпечанай трактарамі і сучаснымі сельска - гаспадарчымі машынамі, як адзіна моцнай асновы савецкай улады на вёсцы.

Партыя выходзіла з таго, што без калектывізацыі нельга вывесьці нашу краіну на шырокую дарогу пабудовы эканамічнага фундаманту сацыялізму, немагчыма вызваліць шматмільённае працоўнае сялянства ад галечы і невуцтва.

Ленін гаварыў, што «дробным гаспадаркам з галечы ня выйсьці» (Ленін, 3-е выд., т. XXIV, стар. 540).

Ленін гаварыў, што «калі мы будзем сядзець па-старому на дробных гаспадарках, хоць і вольнымі грамадзянамі на вольнай зямлі, нам усё роўна пагражае няминучая пагібель» (Ленін, 3-е выд., т. XX, стар. 417).

Ленін гаварыў, што «толькі пры дапамозе агульнай, арцельнай, таварыскай працы можна выйсьці з таго тупіку, у які загнала нас імпэрыялісцкая вайна» (Ленін 3-е выд., т. XXIV, стар 537).

Ленін гаварыў, што «неабходна перайсьці да агульнай апрацоўкі ў буйных узорных гаспадарках; бяз гэтага выйсьці з тэй разрухі, з таго проста такі распачлівага становішча, у якім знаходзіцца Расія, нельга» (Ленін, 3-е выд., т. XX, стар. 418).

Выходзячы з гэтага Ленін прышоў да наступнага асноўнага вываду:

«Толькі ў тым выпадку, калі ўдасца на справе паказаць сялянам перавагі грамадзкай, калектыўнай, таварыскай, арцельнай апрацоўкі зямлі, толькі калі ўдасца дапамагчы селяніну пры дапамозе таварыскай арцельнай гаспадаркі, тады толькі рабочая кляса, якая трымае ў сваіх руках дзяржаўную ўладу, сапраўды дакажа селяніну сваю правату, сапраўды прыцягне на свой бок моцна і сапраўдным чынам шматмільённую сялянскую масу» (Ленін, 3-е выд., т. XXIV, стар. 579-580).

З гэтых палажэньняў Леніна выходзіла партыя, праводзячы праграму калектывізацыі сельскай гаспадаркі, праграму пяцігодкі ў галіне сельскай гаспадаркі.

У сувязі з гэтым задача пяцігодкі па сельскай гаспадарцы заключалася ў тым, каб аб'яднаць разрозьненыя і дробныя індывідуальныя сялянскія гаспадаркі, пазбаўленьня магчымасьці скарыстаць

трактары і сучасныя сельска-гаспадарчыя машыны, — у буйныя калектыўныя гаспадаркі, узброеныя ўсімі сучаснымі прыладамі высока разьвітай сельскай гаспадаркі, а свабодныя зямлі пакрыць узорнымі дзяржаўнымі гаспадаркамі, саўгасамі.

Задача пяцігодкі па сельскай гаспадарцы заключалася ў тым, каб ператварыць СССР з краіны дробна-сялянскай і адсталай у краіну буйнай сельскай гаспадаркі, якая арганізавана на базе калектыўнай працы і дае найбольшую таварнасьць. Чаго дабілася партыя, праводзячы праграму пяцігодкі за чатыры гады ў галіне сельскай гаспадаркі? Выканала яна гэту праграму ці пацярпела крах?

Партыя дабілася таго, што на працягу якіх-небудзь трох год яна здолела арганізаваць больш 200.000 калектыўных гаспадарак і каля 5.000 саўгасаў збожжавага і жывёлагадоўчага напрамку, дабіўшыся аднначасна пашырэньня пасеўных плошчаў за чатыры гады на 21 млн. гектараў. Партыя дабілася таго, што калгасы яднаюць цяпер звыш 60 проц. сялянскіх гаспадарак з ахопам звыш 70 проц. усіх сялянскіх плошчаў, што азначае **перавыкананьне пяцігодкі ў тры разы.**

Партыя дабілася таго, што замест 500-600 млн. пудоў таварнага збожжа, якое загатаўлялася ў пэрыяд пераважваньня індывідуальнай сялянскай гаспадаркі, яна мае цяпер магчымасьць загатаўляць 1.200 — 1.400 млн. пудоў збожжа штогод.

Партыя дабілася таго, што кулацтва як кляса разгромлена, хоць і недабіта яшчэ, працоўнае сялянства вызвалена ад кулацкай кабалы і эксплёатацыі і пад савецкую ўладу падведзена моцная эканамічная база ў вёсцы, база калектыўнай гаспадаркі. Партыя дабілася таго, што СССР ператвораны ўжо з краіны дробнай сялянскай гаспадаркі ў краіну самай буйнай сельскай гаспадаркі ў сьвеце.

Такія ў агульным выніку пяцігодкі за чатыры гады ў галіне сельскай гаспадаркі.

Мяркуйце цяпер самі: чаго варта пасьля ўсяго гэтага балбатня буржуазнай прэсы аб «краху» калектывізацыі, аб «правале» пяцігодкі ў галіне сельскай гаспадаркі.

А як стаіць справа з сельскай гаспадаркай у **капіталістычных** краінах, якія перажываюць зараз жорсткі сельска-гаспадарчы крызіс?

Вось усім вядомыя афіцыйныя даныя:

Скарочаныя пасеўныя плошчы ў асноўных збожжавытвараючых краінах на 8-10 проц., скарочаны пасеўныя плошчы па бавоўне ў ПАЗШ на 15 проц., па цукровых бураках у Германіі і Чэха-Славакіі—на 22-30 проц., па ільну ў Літве і Латвіі—на 25-30 проц.

Паводле даных амэрыканскага сельска-гаспадарчага дэпартаманту кошт валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі ў ПАЗШ зьнізіўся з 11 млрд. даляраў у 1929 г. да 5 млрд. у 1932 г., г. зн. больш чым на 50 проц. Па збожжы там-жа кошт валавой прадукцыі зьнізіўся з 1.288 млн. даляраў у 1929 г. да 391 млн. даляраў у 1932 г., г. зн. больш чым на 68 проц. Па бавоўне там-жа зьніжэньне з 1.389 млн. даляраў у 1929 г. да 397 млн. даляраў у 1932 г., г. зн. зьніжэньне больш чым на 70 проц. Ці-ж не гавораць усе гэтыя факты аб перавагах савецкай сыстэмы сельскай гаспадаркі перад сыстэмай капіталістычнай? Ці-ж не гавораць гэтыя факты аб тым, што калгасы зьяўляюцца больш жыцьцяздольнай формай гаспадаркі, чым аднаасобныя і капіталістычныя гаспадаркі?

Гавораць, што калгасы і саўгасы ня зусім рэнтабэльны, што яны паглынаюць безьліч сродкаў, што трымаць такія прадпрыемствы няма ніякага рэзону, што больш мэтазгодным было-б распусьціць іх, пакінуўшы толькі рэнтабэльныя з іх. Але так могуць гаварыць толькі людзі, якія нічога не разумеюць у пытаньнях народнай гаспадаркі, у пытаньнях эканомікі. Больш паловы тэкстыльных прадпрыемтсваў некалькі год таму назад былі нерэнтабэльнымі. Адна частка нашых таварышоў прапаноўвала нам тады закрыць гэтыя прадпрыемствы. Што было-б з намі, калі-б мы паслухалі іх? Мы зрабілі-б найвялікшае злачынства перад краінай, перад рабочай клясай, бо мы разбурылі-б гэтым нашу ўзрастаючую прамысловасьць. Як-жа мы паступілі тады? Мы пачакалі год з лішкам і дабіліся таго, што ўся тэкстыльная прамысловасьць стала рэнтабэльнай. А наш аўтазавод у г. Горкім? Таксама-ж нерэнтабэльны пакуль што. Ці не загадаеце закрыць яго? Або наша чорная мэта-

люргія, якая таксама пакуль што нерэнтабэльная? Ці не закрыць яе, таварышы? Калі так глядзець на рэнтабэльнасьць, дык мы павінны былі-б разьвіваць ва ўсю толькі некаторыя галіны прамысловасьці, якія даюць найбольшую рэнту, напрыклад — кандытэрскую прамысловасьць, мукамольную прамысловасьць, парфумэрную, трыкатажную, прамысловасьць дзіцячых цацак і г. д. Я, зразумела, ня супроць разьвіцьця гэтых галін прамысловасьці, наадварот, яны павінны быць разьвіты, бо яны таксама патрэбны для насельніцтва. Але, па-першае, яны ня могуць быць разьвіты без абсталяваньня і апалу, якія дае ім цяжкая індустрыя. Па-другое, на іх немагчыма базаваць індустрыялізацыю. Вось у чым справа, таварышы. На рэнтабэльнасьць нельга глядзець па-гандлярску, з пункту погляду данай мінуты. Рэнтабэльнасьць трэба браць з пункту гледжаньня агульна-народнай гаспадаркі ў разрэзе некалькіх год. Толькі такі пункт гледжаньня можа быць назван сапраўды ленінскім, сапраўды марксыцкім. І гэты пункт гледжаньня абавязковы ня толькі ў адносінах да прамысловасьці, але яшчэ ў большай ступені ў адносінах да калгасаў і саўгасаў. Вы толькі падумайце: за якія-небудзь тры гады мы стварылі больш 200.000 калгасаў і каля 5 тыс. саўгасаў, г. зн. мы стварылі зусім новыя буйныя прадпрыемствы, якія маюць такое-ж значэньне для сельскай гаспадаркі, як заводы і фабрыкі для прамысловасьці. Назавеце краіну, якая здолела-б стварыць на працягу трох год ня 205 тыс. новых буйных прадпрыемстваў, а хоцьбы 25.000 такіх прадпрыемстваў. Вы не назавяцё, бо няма і ня бывала такой краіны. А мы стварылі 205 тыс. новых прадпрыемстваў у сельскай гаспадарцы. І вось ёсьць, аказваецца, на сьвеце людзі, якія патрабуюць, каб гэтыя прадпрыемствы сталі адразу рэнтабэльнымі, а калі яны ня стануць адразу рэнтабэльнымі, то зруйнаваць і распусьціць іх. Ці ня ясна, што лаўры Герастрата не даюць спаць гэтым больш чым дзіўным людзям? Гаворачы аб нерэнтабэльнасьці калгасаў і саўгасаў, я зусім не хачу сказаць, што яны ўсе нерэнтабэльныя. Нічога падобнага. Усім вядома, што ўжо цяпер ёсьць цэлы рад высока-рэнтабэльных калгасаў і саўгасаў. У нас ёсьць тысячы калгасаў і дзесяткі саўгасаў зусім рэнтабэльных ужо цяпер. Гэтыя калгасы і саўгасы зьяўляюцца гонарам нашай партыі, гонарам савецкай улады. Калгасы і саўгасы, зразумела, ня ўсюды аднолькавыя. Сярод калгасаў і саўгасаў ёсьць старыя, новыя і зусім маладыя. Гэта яшчэ слабыя, ня зусім адлітыя гаспадарчыя арганізмы. Яны перажываюць у сваім арганізацыйным будаўніцтве прыблізна той-жа пэрыяд, які перажывалі нашы заводы і фабрыкі ў 1920-21 г.г. Зразумела, што яны ня могуць быць яшчэ рэнтабэльнымі ў сваёй большасьці. Але што яны стануць рэнтабэльнымі на працягу 2-3 год таксама, як сталі рэнтабэльнымі нашы фабрыкі і заводы пасьля 1921 г., у гэтым ня можа быць ніякага сумненьня. Адмовіць ім у дапамозе і падтрыманьні на тэй падставе, што ня ўсе яны рэнтабэльныя ў даную мінуту,—значыць зрабіць найвялікшае злачынства перад рабочай клясай і сялянствам. Толькі ворагі народу і контр-рэвалюцыянэры могуць ставіць пытаньне аб непатрэбнасьці калгасаў і саўгасаў.

Ажыцьцяўляючы пяцігодку па сельскай гаспадарцы, партыя праводзіла калектывізацыю паскоранымі тэмпамі. Ці правільна зрабіла партыя, праводзячы палітыку паскораных тэмпаў калектывізацыі? Так, бязумоўна правільна, хоць і не абышлася тут справа без некаторых захапленьняў. Праводзячы палітыку ліквідацыі кулацтва як клясы і выкарчоўваючы кулацкія гнёзды, партыя не магла спыніцца на паўдарозе, яна павінна была давесьці да канца гэту справу. Гэта, па-першае. Па-другое, маючы ў сваім распараджэньні трактары, сельгас. машыны, з аднаго боку, і карыстаючыся адсутнасьцю прыватнай уласнасьці на зямлю (нацыяналізацыя зямлі), з другога боку, партыя мела ўсе магчымасьці фарсаваць калектывізацыю сельскай гаспадаркі. І яна сапраўды дабілася ў гэтай галіне найвялікшага посьпеху, бо перавыканала праграму пяцігодкі па калектывізацыі ў тры разы. Ці значыць гэта, што мы павінны праводзіць палітыку фарсаваных тэмпаў калектывізацыі і ў пэрыяд другой пяцігодкі? Не, ня значыць. Справа ў тым, што мы ўжо **закончылі** ў асноўным калектывізацыю асноўных раёнаў СССР. Стала быць, зрабілі больш у гэтай галіне, чым можна было

чакаць. І ня толькі скончылі ў асноўным калектывізацыю. Мы дабіліся таго, што ва ўсьведамленьні вялізарнай большасьці сялянства калгасы сталі найбольш ужытнай формай гаспадаркі. Гэта вялізарнае заваяваньне, таварышы. Цяпер пытаньне стаіць ужо не аб тым—быць ці ня быць калгасам, — гэта пытаньне ўжо вырашана станоўча. Калгасы замацаваны і шлях да старой аднаасобнай гаспадаркі закрыт канчаткова. Цяпер задача заключаецца ў тым, каб умацаваць калгасы арганізацыйна, вышыбіць адтуль шкодніцкія элементы, падабраць сапраўдныя правераныя бальшавіцкія кадры для калгасаў і зрабіць калгасы сапраўды бальшавіцкімі. **У гэтым цяпер галоўнае.** Так стаіць справа з пяцігодкай за чатыры гады ў галіне сельскай гаспадаркі.

## ВЫНІКІ ПЯЦІГОДКІ ЗА ЧАТЫРЫ ГАДЫ Ў ГАЛІНЕ ПАЛЯПШЭНЬНЯ МАТАР'ЯЛЬНАГА СТАНОВІШЧА РАБОЧЫХ І СЯЛЯН

Я гаварыў вышэй аб посьпехах у галіне прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, аб уздыме прамысловасьці і сельскай гаспадаркі ў СССР. Якія рэзультаты атрымаліся ад гэтых посьпехаў з пункту гледжаньня паляпшэньня матар'яльнага становішча рабочых і сялян? У чым заключаюцца асноўныя рэзультаты нашых посьпехаў у галіне прамысловасьці і сельскай гаспадаркі з пункту гледжаньня карэннага паляпшэньня матар'яльнага становішча працоўных?

Яны заключаюцца, па-першае, у зьнішчэньні беспрацоўя і ліквідацыі няўпэўненасьці ў заўтрашнім дні сярод рабочых.

Яны заключаюцца, па-другое, у абхваце калгасным будаўніцтвам амаль усёй сялянскай беднаты, у падрыве на гэтай аснове распластаваньня сялянства на кулакоў і беднякоў і ў зьнішчэньні ў сувязі з гэтым зьбядненьня і паўпэрызму ў вёсцы.

Гэта вялізарнае заваяваньне, таварышы, аб якім ня можа марыць ні адна буржуазная дзяржава, хоць гэта будзе самая «дэмакратычная» дзяржава.

У нас у СССР рабочыя даўно ўжо забылі аб беспрацоўі. Гадоў тры таму назад мы мелі каля паўтара мільёнаў беспрацоўных. Вось ужо два гады, як зьнішчылі беспрацоўе. І рабочыя пасьпелі ўжо забыць за гэты час аб беспрацоўі, аб яго гнёце, аб яго жудасьцях. Паглядзеце на капіталістычныя краіны, якія жудасьці творацца там на глебе беспрацоўя. У гэтых краінах ёсьць цяпер ня менш 30-40 мільёнаў беспрацоўных. Што гэта за людзі? Аб іх звычайна гавораць, што гэта «кончаныя людзі». Яны кожны дзень дамагаюцца работы, шукаюць работы, гатовы прыняць амаль любыя ўмовы работы, але іх ня прымаюць на работу, бо яны «лішнія» людзі. І гэта ў той час калі вялізарныя масы тавараў і прадуктаў кідаюцца на вецер дзеля капрызаў пястуноў лёсу, сынкоў капіталістаў і памешчыкаў. Беспрацоўным адмаўляюць у харчох таму, што ім няма чым плаціць за прадукты, ім адмаўляюць у кватэры таму, што ім няма чым плаціць за яе.

Чым і дзе яны жывуць? Яны жывуць жабрачымі падачкамі з панскага стала, раскопваньнем сьметнікаў, дзе яны находзяць гнілыя рэшткі ежы, жывуць у трушчобах вялікіх гарадоў, а больш за ўсё ў хібарках за горадам, насьпех пабудаваных беспрацоўнымі з дошак ад скрынь і драўлянай кары. Але гэта ня ўсё. Ад беспрацоўя церпяць ня толькі беспрацоўныя. Ад яго церпяць таксама і рабочыя, якія яшчэ маюць работу. Церпяць, бо вялікая колькасьць беспрацоўных стварае для іх няўстойлівае становішча на вытворчасьці, няўпэўненасьць у заўтрашнім дні. Сёньня яны працуюць на прадпрыемстве, але яны ня ўпэўнены, што, прачнуўшыся, заўтра не даведаюцца, што яны ўжо разьлічаны.

Адно з асноўных заваяваньняў пяцігодкі за чатыры гады заключаецца ў тым, што мы зьнішчылі беспрацоўе і пазбавілі рабочых СССР ад яго жудасьцяй.

Тое-ж самое трэба сказаць пра сялян. Яны таксама забылі аб распластаваньні сялян на кулакоў і беднякоў, аб эксплёатацыі беднаты з боку кулакоў, аб руйнаваньні, якое кожны год пускала па сьвету сотні тысяч і мільёны беднаты. Гадоў 3-4 таму назад у нас мелася беднякоў сярод сялян ня менш 30 проц. усяго сялянскага насельніцтва. Гэта складала больш дзесятка мільёнаў людзей. А яшчэ раней,

да Кастрычнікавай рэвалюцыі, беднякі складалі ня менш 60 проц. сялянскага насельніцтва. Што такое бедняки? Гэта такія людзі, у якіх звычайна не хапала для гаспадаркі або насеньня, або каня, або прылад, або не хапала ўсіх гэтых рэчаў разам узятых. Бедняки гэта такія людзі, якія жылі ўпрогалодзь і, як правіла, знаходзіліся ў кабале ў кулакоў, а ў старыя часы і ў кулакоў, і ў памешчыкаў. Яшчэ зусім нядаўна каля паўтара мільёна, а то і цэлых два мільёны беднякоў накіроўваліся штогод на заработкі на Поўдзень, на Паўночны Каўказ і Украіну ў найміты да кулакоў, а яшчэ раней да кулакоў і памешчыкаў. Яшчэ больш прыходзіла іх штогод да заводзкіх брам, запаўняючы рады беспрацоўных. І ня толькі бедняки знаходзіліся ў такім незавідным становішчы. Добрая палова сераднякоў знаходзілася ў такой-жа галечы і нястатках, як і бедняки. Пра ўсё гэта пасьпелі ўжо забыць сяляне.

Што дала пяцігодка за чатыры гады бедняком і ніжэйшым пластом серадняко́ў? Яна падарвала і разьбіла кулацтва як клясу, вызваліўшы беднякоў і добрую палову серадняко́ў ад кулацкай кабалы. Яна ўцягнула іх у калгасы і стварыла для іх моцнае становішча. Яна зьнішчыла тым самым магчымасьць распластаваньня сялянства на эксплёататараў, кулакоў і эксплёатуемых беднякоў. Яна ўзьняла беднату і ніжэйшыя пласты серадняко́ў у калгасах на становішча людзей забясьпечаных, зьнішчыўшы тым самым працэс руйнаваньня і зьбядненьня сялянства. Цяпер ужо няма ў нас такіх выпадкаў, каб мільёны сялян зрываліся штогод з сваіх месц і ішлі на заработкі ў далёкія краі.

Для таго, каб выцягнуць селяніна на работу куды небудзь па-за яго ўласны калгас, цяпер трэба падпісваць дагавор з калгасам, ды яшчэ забясьпечыць калгасьніку дармовы праезд па чыгунцы. Цяпер ужо няма ў нас такіх выпадкаў, каб сотні тысяч і мільёны сялян руйнаваліся і абівалі парогі фабрык і заводаў. Гэта справа была, але яна ўжо даўно сплыла. Цяпер селянін забясьпечаны гаспадар, член калгасу, які мае ў сваім распараджэньні трактары, сельгасмашыны, насенныя фонды, запасныя фонды і г. д. і інш.

У рэзультаце гэтых асноўных заваяваньняў у галіне паляпшэньня матар'яльнага становішча рабочых і сялян, мы маем за першую пяцігодку:

а) рост колькасьці рабочых і служачых буйнай прамысловасьці ў два разы ў параўнаньні з 1928 годам, што дае перавыкананьне пяцігадовага пляну на 57 проц.;

б) рост народнага даходу, стала быць, рост даходаў рабочых і сялян, які дасягнуў у 1932 годзе 45,1 млд. рублёў, што дае павялічэньне на 85 проц. у параўнаньні з 1928 годам;

в) рост сярэдня-гадавой заработнай платы рабочых і служачых буйнай прамысловасьці на 67 проц. у параўнаньні з 1928 годам, што дае перавыкананьне пяцігодкі на 18 проц.;

г) рост фонду сацыяльнага страхаваньня на 292 проц. у параўнаньні з 1928 годам (4.120 млн. руб у 1932 годзе супроць 1.050 млн. руб. у 1928 годзе), што дае перавыкананьне пяцігадовага пляну на 111 проц.;

д) рост грамадзкага харчаваньня з ахопам звыш 70 проц. рабочых рашаючых галін прамысловасьці, што дае перавыкананьне пяцігодкі ў шэсьць раз.

Зразумела, мы яшчэ не дабіліся таго, каб поўнасьцю забясьпечыць матар'яльныя запатрабаваньні рабочых і сялян. І наўрад ці мы даб'емся гэтага ў бліжэйшыя гады. Але мы бязумоўна дабіліся таго, што матар'яльнае становішча рабочых і сялян паляпшаецца ў нас з году ў год. У гэтым могуць сумнявацца хіба толькі заклятыя ворагі савецкай улады, або быць можа некаторыя прадстаўнікі буржуазнага друку, у тым ліку і адна частка карэспандэнтаў гэтага друку ў Маскве, якія разумеюць у эканоміцы народаў і ў становішчы працоўных наўрад ці больш, чым, скажам, абісінскі кароль у вышэйшай матэматыцы.

А як стаіць справа са становішчам рабочых і сялян у капіталістычных краінах? Вось афіцыяльныя даныя:

Катастрафічна ўзрасла колькасьць беспрацоўных у капіталістычных краінах. У ПАЗШ, паводле афіцыяльных даных, на аднэй толькі апрацоўчай прамысловасьці колькасьць занятых рабочых зьменшылася на 8,5 млн. чал. у 1928 годзе да 5,5 млн. у 1932 годзе. Паводле даных-жа амэрыканскай фэдэрацыі працы, колькасьць беспрацоўных у ПАЗШ ва

ўсёй прамысловасьці даходзіць у канцы 1932 году да 11 млн. чалавек. У Англіі колькасьць беспрацоўных, паводле даных афіцыяльнай статыстыкі, узрасла з 1.290 тыс. у 1928 годзе да 2,8 млн. чалавек у 1932 годзе. У Германіі, паводле афіцыяльных даных, колькасьць беспрацоўных узрасла з 1.376 тыс.у 1928 г. да 5,5 млн. ў 1932 г.

Такі-ж малюнак пазіраецца ва ўсіх капіталістычных краінах, прычым афіцыяльная статыстыка, як правіла, пераўмяншае даныя аб беспрацоўных, колькасьць якіх хістаецца ў капіталістычных краінах ад 35 да 40 млн. чалавек.

Сыстэматычна праводзіцца зьніжэньне заработнай платы рабочых. Паводле афіцыяльных даных, зьніжэньне сярэднямесячнай зарплаты ў ПАЗШ дасягнула 35 проц. у параўнаньні з узроўнем 1928 г. У Англіі за той-ж тэрмін — 15 проц., а ў Германіі — нават 50 проц. Паводле падліку амэрыканскай фэдэрацыі працы, страты амэрыканскіх рабочых у рэзультаце зьніжэньня зарплаты ў 1930-31 г. склалі больш 35 мільёнаў даляраў.

Значна скарочаны і без таго нязначныя фонды страхаваньня рабочых у Англіі і Германіі. У ПАЗШ і ва Францыі зусім адсутнічае або амаль адсутнічаюць якія-б там ні было формы страхаваньня беспрацоўных, з прычыны чаго надзвычай расьце лік бяздомных рабочых і бяспрытульных дзяцей, асабліва ў ПАЗШ.

Ня лепш стаіць справа са становішчам сялянскіх мас у капіталістычных краінах, дзе сельска-гаспадарчы крызыс у корані падрывае сялянскую гаспадарку і пускае мільёны зруйнаваных сялян і фэрмэраў па сьвету.

Такавы вынікі пяцігодкі за чатыры гады ў галіне паляпшэньня матар'яльнага становішча працоўных СССР.

Далей тав. Сталін, затрымоўваючыся аб выніках пяцігодкі за чатыры гады ў галіне таваразвароту паміж горадам і вёскай адзначае:

—Чаго дабіліся мы ў рэзультаце правядзеньня пяцігодкі ў галіне разгортваньня савецкага гандлю?

У рэзультаце пяцігодкі мы маем:

а) павялічэньне прадукцыі лёгкай прамысловасьці, якая паднялася да 18 проц. у параўнаньні з 1928 годам;

б) рост раздробнага каапэрацыйна-дзяржаўнага таваразвароту, які складае зараз у цэнах 1932 г. 39,6 млрд. р., г. зн. павялічэньне тавarнай масы ў раздробным гандлі да 175 проц. у параўнаньні з 1928 годам;

в) рост дзяржаўна-каапэрацыйнай гандлёвай сеткі на 158 тыс. крам і магазынаў у адносінах да 1929 г.;

г) усё ўзрастаючае разгортваньне калгаснага гандлю і сельска-гаспадарчых загатовак, паасобных дзяржаўных і каапэрацыйных арганізацый.

## ВЫНІКІ ПЯЦІГОДКІ ЗА ЧАТЫРЫ ГАДЫ Ў ГАЛІНЕ БАРАЦЬБЫ З РЭШТКАМІ ВАРОЖЫХ КЛЯСАЎ

У выніку ажыцьцяўленьня пяцігодкі ў галіне прамысловасьці сельскай гаспадаркі і гандлю мы ўмацавалі ва ўсіх сфэрах народнай гаспадаркі прынцып сацыялізму, выгнаўшы адтуль капіталістычныя элемэнты.

Да чаго гэта павінна было прывесьці ў адносінах капіталістычных элемэнтаў і да чаго яно на самой справе прывяло?

Гэта прывяло да таго, што аказаліся вышыбленымі з каляіны апошнія рэшткі паміраючых клясаў: прамыслоўцы і іх лёкаі, гандляры і іх прысьпешнікі, былыя дваране і папы, кулакі і падкулачнікі, былыя белыя афіцэры і ўраднікі, былыя паліцэйскія і жандары, усякага роду буржуазныя інтэлігенты шавіністычнага толку і ўсе іншыя антысавецкія элементы

Будучы вышыбленымі з каляіны і раскідаўшыся па ўсім СССР, гэтыя былыя людзі распаўзьліся па нашых заводах і фабрыках, па нашых установах і гандлёвых арганізацыях, па прадпрыемствах чыгуначнага і воднага транспарту і галоўным чынам — па калгасах і саўгасах.

Распаўзьліся і схаваліся яны там, накінуўшы маску «рабочых» і «сялян», прычым сёй-той з іх пралез нават у партыю. З чым яны прышлі туды? Зразумела, з пачуцьцём нянавісьці да савецкай улады, з пачуцьцём лютай варожасьці да новых форм гаспадаркі, быту, культуры.

Пайсьці ў простую атаку супроць савецкай улады гэтыя паны ўжо ня ў сілах.

Яны і іх клясы некалькі раз вялі ўжо такія атакі, але былі разьбіты і расьсеяны. Таму адзінае, што застаецца ім рабіць,—гэта паскудзіць і шкодзіць рабочым, калгасьнікам, савецкай уладзе, партыі. І яны паскудзяць, як толькі могуць, дзейнічаючы ціхай сапай. Падпальваюць склады і ломяць машыны, арганізуюць сабатаж, арганізуюць шкодніцтва ў калгасах і саўгасах, прычым некаторыя з іх, у ліку якіх ёсьць і сякія-такія прафэсары, у сваім шкодніцкім парыве даходзяць да таго, што прышчапляюць жывёле ў калгасах і саўгасах чуму, сібірскую язву, садзейнічаюць пашырэньню мэнінгіту сярод коняй і г. д. Але галоўнае ня ў гэтым. Галоўнае ў «дзейнасьці» гэтых былых людзей заключаецца ў тым, што яны арганізуюць масавае раскрадваньне дзяржаўнай маемасьці, каапэрацыйнай маемасьці, калгаснай уласнасьці. Зладзейства і раскрадваньне чыгуначных грузаў, зладзейства і раскрадваньне ў складах і гандлёвых прадпрыемствах асабліва зладзейства і раскрадваньне ў саўгасах і калгасах—такава асноўная форма «дзейнасьці» гэтых былых людзей. Яны адчуваюць нібы клясавым інстынктам, што асновай савецкай гаспадаркі зьяўляецца грамадзкая ўласнасьць, што іменна гэту аснову трэба расхістаць, каб нашкодзіць савецкай уладзе,—і яны сапраўды стараюцца расхістаць грамадзкую ўласнасьць шляхам арганізацыі масавага раскрадваньня і зладзейства.

Для арганізацыі раскрадваньняў яны выкарыстоўваюць прыватна-ўласьніцкія навыкі і перажыткі калгасьнікаў, учорайшых аднаасобнікаў, а цяпер членаў калгасаў. Вы, як марксысты, павінны ведаць, што сьвядомасьць людзей адстае ў сваім разьвіцьці ад фактычнага іх становішча. Калгасьнікі па становішчы ўжо не аднаасобнікі, а калектывісты, але сьвядомасьць у іх пакуль што яшчэ старая, прыватна-ўласьніцкая. І вось былыя людзі з радоў эксплёататарскіх клясаў скарыстоўваюць прыватна - ўласніцкія прывычкі калгасьнікаў, каб арганізаваць раскрадваньне грамадзкай маемасьці і тым пахістаць аснову савецкага ладу, грамадзкую ўласнасьць. Многія нашы таварышы добрадушна глядзяць на падобныя зьявішчы, не разумеючы сэнсу і значэньне фактаў масавага зладзейства і раскрадаваньня. Яны, як сьляпыя праходзяць міма гэтых фактаў, мяркуючы, што «тут нічога няма асаблівага». Але яны, гэтыя таварышы, глыбока памыляюцца.

Асновай нашага ладу зьяўляецца грамадзкая ўласнасьць таксама, як асновай капіталізму—уласнасьць прыватная. Калі капіталісты абвясьцілі прыватную ўласнасьць сьвяшчэннай і недатыкальнай, дабіўшыся ў свой час умацаваньня капіталістычнага ладу, дык мы, камуністы, тым больш павінны абвясьціць грамадзкую ўласнасьць сьвяшчэннай і недатыкальнай, каб замацаваць тым самым новыя сацыялістычныя формы гаспадаркі ва ўсіх галінах вытворчасьці і гандлю. Дапускаць пакражы і раскрадваньне грамадзкай уласнасьці,—усё роўна ці справа ідзе аб уласнасьці дзяржаўнай, ці ўласнасьці каапэрацыйнай і калгаснай, і праходзіць міма падобных контр-рэвалюцыйных агіднасьцяй,—значыць спрыяць падрыву савецкага ладу, які апіраецца на грамадзкую ўласнасьць, як на сваю базу. З гэтага выходзіў наш савецкі ўрад, калі ён выдаў нядаўна закон аб ахове грамадзкай уласнасьці. Гэты закон ёсьць падстава рэвалюцыйнай законнасьці ў цяперашні момант. А неабходнасьць найстражэйшага правядзеньня яго ў жыцьцё зьяўляецца першым абавязкам кожнага камуніста, кожнага рабочага і калгасьніка. Кажуць, што рэвалюцыйная законнасьць нашых часоў нічым не адрозьніваецца ад рэвалюцыйнай законнасьці першага пэрыяду нэпу, што рэвалюцыйная законнасьць нашых часоў ёсьць зварот да рэвалюцыйнай законнасьці першага пэрыяду нэпу. Гэта зусім няверна. Рэвалюцыйная законнасьць першага пэрыяду нэпу накіроўвалася сваім лёзам галоўным чынам супроць крайнасьцяй ваеннага камунізму, супроць «незаконных» канфіскацый і пабораў. Яна гарантавала прыватнаму гаспадару-капіталісту захавальнасьць яго маемасьці пры ўмове самага строгага захаваньня ім савецкіх законаў. Зусім інакш стаіць справа з рэвалюцыйнай законнасьцю ў нашы часы. Рэвалюцыйная законнасьць нашых часоў накіравана сваім лёзам супроць зладзеяў і шкоднікаў, супроць хуліганаў і раскрадвальнікаў грамадзкай уласнасьці. Асноўны клопат рэвалюцыйнай законнасьці ў нашы часы заключаец-

ца ў ахове грамадзкай уласнасьці, а ня ў чым-небудзь іншым. Вось чаму барацьба за ахову грамадзкай уласнасьці, барацьба ўсімі мерамі і ўсімі сродкамі, якія прадастаўляюцца ў наша распараджэньне законамі савецкай улады,—зьяўляецца аднэй з асноўных задач партыі. Моцная і магутная дыктатура пралетарыяту —вось што нам патрэбна цяпер для таго, каб разьвеяць ушчэнт апошнія рэшткі паміраючых клясаў і разьбіць іх зладзейскія махінацыі.

Некаторыя таварышы зразумелі тэзіс аб зьнішчэньні клясаў, аб стварэньні бясклясавага грамадзтва і адміраньні дзяржавы, як апраўданьне ляноты і «благодушия», апраўданьне контр - рэвалюцыйнай тэорыі патуханьня клясавай барацьбы і аслабленьня дзяржаўнай улады. Няма чаго і казаць, што такія людзі ня могуць мець нічога агульнага з нашай партыяй. Зьнішчэньне клясаў дасягаецца ня шляхам патуханьня клясавай барацьбы, а шляхам яе ўзмацненьня. Адміраньне дзяржавы прыдзе не праз аслабленьне дзяржаўнай улады, а праз яе максымальнае ўзмацненьне, неабходнае для таго, каб дабіць рэшткі паміраючых клясаў і арганізаваць абарону супроць капіталістычнага акружэньня, якое далёка яшчэ ня зьніішчана і ня хутка яшчэ будзе зьнішчана.

У рэзультаце ажыцьцяўленьня пяцігодкі мы дабіліся таго, што вышыблі канчаткова апошнія рэшткі варожых клясаў з іх вытворчых пазыцый, разграмілі кулацтва і падрыхтавалі глебу для яго зьнішчэньня. Такі вынік пяцігодкі ў галіне барацьбы з апошнімі атрадамі буржуазіі.

Але гэтага мала. Задача заключаецца ў тым, каб вышыбіць гэтых былых людзей з нашых-жа ўласных прадпрыемстваў і ўстаноў і канчаткова іх абязшкодзіць. Нельга сказаць, каб гэтыя былыя людзі маглі што-небудзь зьмяніць сваімі шкодніцкімі і зладзейскімі махінацыямі ў цяперашнім становішчы СССР. Яны занадта слабыя і немачныя для таго, каб процістаяць мерапрыемствам савецкай улады. Але калі нашы таварышы ня ўзброяцца рэвалюцыйнай пільнасьцю і ня выганяць з практыкі абывацельска-спакойныя адносіны да фактаў раскрадваньня грамадзкай уласнасьці, то былыя людзі могуць нарабіць ня мала брыдот.

Трэба мець на ўвазе, што рост магутнасьці савецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленьне апошніх рэштак паміраючых клясаў. Іменна таму, што яны паміраюць і дажываюць апошнія дні, яны будуць пераходзіць ад адных форм наскокаў да другіх больш рэзкіх форм наскокаў, апэлююочы да адсталых пластоў насельніцтва і мабілізуючы іх супроць савецкай улады. Няма такой брыдоты і паклёпу, якіх-бы гэтыя былыя людзі не ўзьвялі на савецкую ўладу і вакол якіх не папрабавалі-б мабілізаваць адсталыя элементы. На гэтай глебе могуць зажыць і заварушыцца разьбітыя групы старых контр-рэвалюцыйных партый — эсэраў, меншавікоў, буржуазных нацыяналістаў цэнтру і акраін, могуць зажыць і заваружыцца асколкі контррэвалюцыйных апазыцыйных элемэнтаў з трацкістаў і правых ухілістаў. Гэта, зразумела, ня страшна. Але ўсё гэта трэба мець на ўвазе калі мы хочам пакончыць з гэтымі элементамі хутка і без асаблівых ахвяр. Вось чаму рэвалюцыйная пільнасьць зьяўляецца тэй самай якасьцю, якая асабліва неабходна цяпер бальшавікам.

## АГУЛЬНЫЯ ВЫВАДЫ

Такавы асноўныя вынікі правядзеньня ў жыцьцё пяцігадовага пляну ў галіне прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, у галіне паляпшэньня быту працоўных і разьвіцьця таваразвароту, у галіне ўмацаваньня савецкай улады і разгортваньня клясавай барацьбы супроць рэштак і пережыткаў аджываючых клясаў.

Такавы посьпехі і заваяваньні савецкай улады за апошнія чатыры гады. Было-б памылковым думаць на падставе гэтых посьпехаў, што ўсё абстаіць у нас добра. Зразумела, у нас ня ўсё яшчэ абстаіць добра. Недахопаў і памылак у нашай рабоце ёсьць даволі. Безгаспадарчасьць і бесталкоўшчына ўсё яшчэ маюць месца ў нашай практыцы. Я, на жаль, не магу зараз спыніцца на недахопах і памылках, бо рамкі даручанага мне падагульваючага дакладу не даюць для гэтага прастору. Але справа цяпер ня ў гэтым. Справа ў тым, што, ня гледзячы

на недахопы і памылкі, наяўнасьці якіх ніхто з нас не адмаўляе, мы дабіліся такіх сур'ёзных посьпехаў, якія выклікаюць захапленьне ў рабочай клясы ўсяго сьвету. Мы дабіліся такой перамогі, якая мае сапраўды сусьветна-гістарычнае значэньне.

Што магло адыграць і што сапраўды адыграла галоўную ролю ў тым, што, нягледзячы на памылкі і недахопы, партыя дабілася ўсё-ж рашаючых посьпехаў у справе правядзеньня пяцігодкі за чатыры гады? Дзе тыя асноўныя сілы, якія забясьпечылі нам гэту гістарычную перамогу, ня гледзячы ні на што?

Гэта перш за ўсё актыўнасьць і самаахвярнасьць, энтузіязм і ініцыятыва мільёнаых мас рабочых і калгасьнікаў, якія разьвілі разам з інжынэрна-тэхнічнымі сіламі, вялізарную энэргію па разгортваньню сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва. Ня можа быць сумненьня, што бяз гэтай акалічнасьці мы не маглі-б дабіцца мэты, не маглі-б рушыцца наперад ні на крок.

Гэта, па-другое, цьвёрдае кіраўніцтва партыі і ўраду, якія заклікалі масы наперад і перамагалі ўсе і ўсялякія труднасьці на шляху да мэты.

Гэта, нарэшце, асобыя вартасьці і перавагі савецкай сыстэмы гаспадаркі, якая тоіць у сябе вялізарныя магчымасьці, неабходныя для перамаганьня ўсіх і ўсякіх труднасьцяй.

Такавы тры асноўныя сілы, вызначыўшыя гістарычную перамогу СССР.

Агульныя вывады:

1. Вынікі пяцігодкі перакулілі цьверджаньне буржуазных і сацыял-дэмакратычных дзеячоў аб тым, што пяцігадовы плян ёсьць фантазія, брэд, неажыцьцёўная мара. Вынікі пяцігодкі паказалі, што пяцігадовы плян ужо ажыцьцёўлен.

2. Вынікі пяцігодкі разьбілі вядомы буржуазны «сымбаль веры» аб тым, што рабочая кляса нядзольна будаваць новае, што яна здольна толькі разбурыць старое. Вынікі пяцігодкі паказалі, што рабочая кляса здольна таксама добра будаваць новае, як і разбураць старое.

3. Вынікі пяцігодкі разьбілі тэзіс сацыял-дэмакратаў аб тым, што немагчыма пабудаваць сацыялізм у аднэй асобна ўзятай краіне. Вынікі пяцігодкі паказалі, што зусім магчыма пабудаваць у аднэй краіне сацыялістычнае грамадзтва, бо эканамічны фундамант такога грамадзтва пабудаваны ўжо ў СССР.

4. Вынікі пяцігодкі перакулілі цьверджаньне буржуазных эканамістаў аб тым што капіталістычная сыстэма гаспадаркі зьяўляецца найлепшай сыстэмай, што ўсякая іншая сыстэма гаспадаркі нямоцная, нядзольная вытрымаць экзамэн перад тварам труднасьцяй эканамічнага разьвіцьця.

Вынікі пяцігодкі паказалі, што капіталістычная сыстэма гаспадаркі нягрунтоўная, нямоцная, што яна ўжо аджывае свой век і павінна ўступіць сваё месца другой вышэйшай савецкай сацыялістычнай сыстэме гаспадаркі, што адзіная сыстэма гаспадаркі, якая не баіцца крызісаў і здольна перамагчы труднасьці, невырашальныя для капіталізму, — гэта савецкая сыстэма гаспадаркі.

5. Нарэшце, вынікі пяцігодкі паказалі, што партыя непераможна, калі яна ведае куды весьці справу і не баіцца труднасьцяй. **(Бурныя, працяжныя аплёдысмэнты, якія пераходзяць у авацыю. Заля, стоячы вітае тав. СТАЛІНА).**

---

**Партыя павінна ўказваць масам на прыкладзе СССР — шлях перамогі над дыктатураў буржуазіі, шлях рэвалюцыйнага выхаду з крызысу.**

**(З пастаноў VI пленуму ЦК КПЗБ).**

# Да вынікаў пленума ВККІ *)

ХІІ пленум ВККІ зьяўляецца сур'ёзным этапам ў барацьбе камуністычных партый за рэвалюцыйны выхад з крызысу, за дыктатуру пралетарыяту.

ХІ пленум ВККІ, які адбываўся ў варунках разгортваньня сусьветнага крызысу, здолеў вызначыць далейшае разьвіцьцё гэтага працэсу і канстатаваць **насьпяваньне прадпасылак рэвалюцыйнага крызысу** ў шэрагу важнейшых капіталістычных краін,—у першую чаргу ў Нямеччыне і Польшчы.

Яшчэ праз год на базе надзвычайнага абвастрэньня сусьветнага эканамічнага крызысу, крайняга ўзмацненьня супярэчнасьцяў паміж імпэрыялістамі і **ўзмацненьня ўнутраных клясавых супярэчнасьцяў** у капіталістычных краёх, на базе аграмаднага росту сіл рэвалюцыі, вострага ўзмацненьня супярэчнасьцяў двух сыстэм і канчатковага замацаваньня СССР на шляху сацыялізму **частковая стабілізацыя** капіталізму закончылася. Гэта **важнейшае** гістарычнае **слова ХІІ пленуму ВККІ.**

«Абвастрэньне агульнага крызысу капіталізма адбываецца аграмаднымі зрушшамі, якія вядуць гэты крызыс на новую усходку... Усе... факты, разам узятыя, цалкам сьцьвярджаючы правільнасьць ацэнкі тэндэнцый разьвіцьця, паказаных ў рашэньнях Х і ХІ пленумаў ВККІ, выяўляюць у ходзе разьвіцьця агульнага крызысу капіталізму пэўны **пералом,** своеасаблівую раскачку антаганістычных сіл, якая адбываецца месцамі бурна, месцамі **затрымліваецца».**

«У пэўных, надзвычайна важных, вузлавых пунктах антаганістычныя сілы ўжо разьвязваюцца для сутычак. Наступіў канец адноснай стабілізацыі капіталізму. **Але яшчэ няма непасрэднай рэвалюцыйной сітуацыі** ў важнейшых і рашаючых капіталістычных краінах. У сучасны момант адбываецца менавіта **пераход** да новага туру буйных сутычак паміж клясамі і паміж дзяржавамі, да новага туру войн і рэвалюцый» (тэзісы ХІІ пленуму ВККІ аб міжнародным палажэньні і задачах сэкцый КІ).

**Сьцьвярджэньне** канца капіталістычнай стабілізацыі ўскладае аграмадную адказнасьць на ўсе сэкцыі Камуністычнага Інтэрнацыяналу ў справе вырашэньня **асноўнай стратэгічнай задачы**—непасрэднага **заваяваньня большасьці рабочае клясы** і падрыхтоўкі мас да рашаючых рэвалюцыйных баёў за ўладу. З ацэнкі канца капіталістычнай стабілізацыі выцякаюць тактычныя вывады аграмаднага міжнароднага значэньня для ўсяго Камуністычнага інтэрнацыяналу.

Цяпер няма ніводнага буржуазнага і сацыял - дэмакратычнага эканаміста, які адважыўся бы, як гэта было тры гады таму назад у пачатку крызыса, пярэчыць наяўнасьць крызыса. Мана сацыял-дэмакратыі і капітулянцкія ілюзіі апартуністаў заключаецца цяпер у тым, што яны прабуюць прышчапіць масам **устаноўку на новы пэрыяд капіталістычнай стабілізацыі.** Гэта робіцца перадусім пад сьцягам агалашэньня новай «дзяржаўна-капіталістычнай» эры, як «пераходнай ступені да сацыялізму». Пад гэтым сьцягам сацыял-фашызм падводзіць манапалістычны капітал да кішэні мільёнаў працоўных — падаткаплацельшчыкаў, а рабочыя масы—да перакананьня ў няміну-часьці далейшага аздараўленьня капіталістычнай гаспадаркі.

Тры гады нясупынна нарастаючага сусьветнага эканамічнага крызысу давялі да надзвычайнага абвастрэньня супярэчнасьцяў паміж вытворчымі магчымасьцямі і звужанымі ўжо ў варунках усеагульнага крызысу капіталізма рынкамі. На гэтым фоне канец капіталістычнай стабілізацыі характарызуецца **аграмадным ростам супярэчнасьцяў паміж імпэрыялістычнымі краінамі,** агульнай перагрупоўкай імпэрыялістычных сіл, **глыбокім падрывам вэрсальскай сыстэмы** і

*) Скарочаны артыкул з «Большевика» — орган ВКП(б).

зруйнаваньнем базы дагавораў і згодаў, якія служылі аднэй з важнейшых падстаў частковай стабілізацыі капіталізму. Канец капіталістычнай стабілізацыі азначае непасрэднае ўступленьне ў **новы цыкл войнаў.** Гэты пераход да новага цыклю войнаў фактычна ўжо пачаўся. Грабежніцкі захоп японскім імпэрыялізмам аграмадных кітайскіх тэрыторый зьяўляецца **прэлюдыяй да сусьветнай вайны імпэрыялістаў** за манаполію на невычарпальных рынках каленіяльнага Ўсходу, уступам да контррэвалюцыйнай вайны супроць Савецкага Саюзу і Савецкага Кітаю.

Вайна на Далёкім Усходзе зьяўляецца **працягам** іншымі сродкамі **тэй клясавай барацьбы,** якая адбываецца **ўнутры** паасобных імпэрыялістычных краін за **капіталістычны** альбо **рэвалюцыйны** выхад з крызысу. Пераход да новага цыклю войнаў азначае зацятую барацьбу за **захаваньне** альбо **прыстасаваньне** вэрсальскай сыстэмы да варункаў канца капіталістычнай стабілізацыі. Менавіта таму ваенны паход японскага імпэрыялізму ў Манчжурыю зьяўляецца падзеяй не лёкальнага, а сусьветнага значэньня. І менавіта таму XII пленум ВККІ абвясьціў рашучую барацьбу супроць усялякай **апартуністычнай недаацэнкі** вайны на Далёкім Усходзе як супроць апартуністычнай недаацэнкі разьвіцьця капіталістычнага крызысу ў цэлым.

**Новае** ў міжнародных адносінах імпэрыялістаў—гэта **актывізацыя нямецкага імпэрыялізму,** які імкнецца расцягнуць рамкі Вэрсальскага дагавору,—асабліва ў галіне ўзбраеньняў. Гэтыя спробы, якія адкрыта пачаліся яшчэ паўтары гады таму назад у часе XI пленуму ВККІ (праект аўстра-нямецкага мытнага саюзу), павінны былі вырасьці разам з далейшым ростам крызыса ў Нямеччыне, абвастрэньнем клясавай барацьбы і ростам фашызму.

Вэрсальская сыстэма пакуль-што толькі падарвана, але ня зьнішчана. Яна не зруйнавана ўжо таму, што ў наяўнасьці маецца нераўнамернае разьвіцьцё эканамічнага крызысу і побач з Нямеччынай, якая зьяўляецца слабейшым зьвяном сярод буйных дзяржаў капіталістычнага сьвету, з другога боку галоўнай дзейнічаючай асобай вэрсальскай сыстэмы зьяўляецца Францыя, якая прадстаўляе мацнейшае зьвяно сучаснага капіталістычнага сьвету. Францускі імпэрыялізм усё яшчэ мабілізуе пад сваім кіраўніцтвам цэлы шраг ланцуговых сабак вэрсальскай сыстэмы ў цэнтральнай і паўднёва-ўсходняй Эўропе (Польшча, Чэха-Славакія, Румынія, Юга-Славія).

Канец капіталістычнай стабілізацыі не азначае абавязкова ўжо канец вэрсальскай сыстэмы. Цэлы шраг працэсаў, зьвязаных з канцом капіталістычнай стабілізацыі, далёка яшчэ не закончаны. Менавіта таму, як канстатаваў XII пленум ВККІ, ня гледзячы на канец капіталістычнай стабілізацыі, яшчэ няма непасрэднай рэвалюцыйнай сітуацыі ў важнейшых і рашаючых капіталістычных краінах. Але працэсы раскладу вэрсальскай сыстэмы растуць з кожным днем і зьвязаны непасрэдна з кожным новым ударам па капіталістычнаму выхаду з крызыса. У гэтых адносінах надзвычайна характэрна пазыцыя ангельскага імпэрыялізму ў адносінах да нямецкай ноты аб роўнаправаі ўзбраеньняў. Ня гледзячы на тое, што пануючыя колы нямецкай буржуазіі мелі падставу спадзявацца на некаторае падтрыманьне ангельскага ўраду, ангельскі адказ далёка перакрыў сваёй рэзкасьцю францускую ноту адказа, аж да прамой пагрозы, што «Нямеччына залежыць ад добрай волі крэдытораў». І ў якасьці асноўнага абвінавачаньня супроць Нямеччыны ангельская нота прыводзіць тое, што яна ставіць вастрэйшыя пытаньні вэрсальскай сыстэмы як раз у той пэрыяд, калі «усе краіны спрабуюць аднавіць творчы і камэрцыйны дабрабыт сьвету».

Ніколі яшчэ імпэрыялізмам так выразна не была выяўлена ўзаемазалежнасьць суцэльнасьці вэрсальскай сыстэмы і капіталістычнага выхаду з крызыса. Але для цяперашняга становішча, у якім назьбіралася значна больш імпэрыялістычных супярэчнасьцяў чым напярэдадні 1914 г., ня менш характэрна вострая дыскусія, якая разгарнулася адначасна паміж ангельскім і францускім буржуазным друкам у сувязі з франка-амэрыканскімі перагаворамі, якая выявіла ўсю глыбіню і дамінуючае значэньне асноўнай імпэрыялістычнай супярэчнасьці паміж Англіяй і ПАЗШ.

Задача камуністычнага авангарду ва ўсім капіталістычным сьвеце — і гэта

ёсьць бальшавіцкая дырэктыва XII пленума ВККІ,—умела і сваечасова выкарыстаць усе гэтыя супярэчнасьці і «шчыліны» ў капіталістычным лягэры для барацьбы супроць капіталістычнага выхаду з крызысу, за дыктатуру пралетарыяту.

Як ігнараваньне ўнутраных супярэчнасьцяў за кошт вонкавых, гэтак і ігнараваньне вонкавых супярэчнасьцяў буржуазіі за кошт унутраных аднолькава няверна, шкодна, паслабляе рэвалюцыйную барацьбу пралетарыяту, даючы яму ілжывую пэрспэктыву, і зьяўляецца прамым адхіленьнем ад тактыкі ленінізму. І ня чым іншым, як прамым працягам асуджанай X пленумам ВККІ тэорыі Бухарына аб разьвіцьці рэвалюцыі толькі з адных вонкавых супярэчнасьцяў імпэрыялізму, тэорыі, якая зьявілася рэзультатам фактычнага прызнаньня сацыял-дэмакратычнай тэорыі «арганізаванага капіталізму», зьяўляецца ў сваю чаргу шэраг перагібаў у камуністычнай партыі Нямеччыны, зробленых у практычным ужываньні правільнага ленінскага лёзунгу народнай рэвалюцыі і праграмы сацыяльнага і нацыянальнага вызваленьня Нямеччыны, высунутай КПН яшчэ два гады таму назад.

Але важнейшым фактарам, які абумовіў канец капіталістычнай стабілізацыі, зьявіўся **рост рэвалюцыйнага ўздыму мас ва ўсім** капіталістычным сьвеце. Капіталістычны сьвет уступае ў **другі тур** ня толькі імпэрыялістычных войнаў, але і **рэвалюцый.** І тут таксама маецца большы размах рэвалюцыйнага ўздыму мас, чым гэта было ў першым туры войнаў і рэвалюцый, ня гледзячы на адсутнасьць у важнейшых капіталістычных краінах непасрэднай рэвалюцыйнай сітуацыі. Сучасны рэвалюцыйны ўздым адрозьніваецца перадусім тым, што ён ахапіў **увесь** капіталістычны сьвет, у той час як тады рэвалюцыйны рух галоўным чынам абмяжоўваўся тэрыторыяй Эўропы. Рэвалюцыя ў Кітаі і Гішпаніі, надыходзячы рэвалюцыйны крызыс у Нямеччыне і Польшчы, прадсказаны яшчэ XI пленумам ВККІ, набліжаючыся рэвалюцыйны крызыс у Японіі, выступленьне ўсё больш і больш шырокіх рабочых мас на фронт стачачнай барацьбы, рэвалюцыянізаваньне самой стачачнай барацьбы, ахоп эканамічным і палітычным стачачным рухам новых атрадаў пралетарыяту, якія доўга ня былі ў рэвалюцыйна-клясавых баёх (усеагульная забастоўка ў Бэльгіі), вылучэньне новага рабочага актыву, зачастую самастойна ўзьнімаючага і ўзначальваючага барацьбу (стачка гарнякоў у Борынажы), усё большае спалучэньне ў шэрагу аграрных і шматнацыянальных краінах рабочага, сялянскага і нацыянальна-вызваленчага руху, нарэшце аграмадны рост палітычнага ўплыву, як і лічбовы рост амаль усіх сэкцый Камуністычнага інтэрнацыяналу,—усё гэта зьяўляецца найбольш яскравымі паказчыкамі наступіўшага канца капіталістычнай стабілізацыі. Той факт, што ў наяўнасьці бліскучая праверка магчымасьці савецкай сыстэмы ня толькі для Кітая, але і для ўсяго колёніяльнага сьвету, што гішпанскай буржуазіі і сацыял-дэмакратыі, ня гледзячы на слабасьць камуністычнай партыі, значна ўжо ўзрослай за пэрыяд рэвалюцыі, не ўдалася затрымаць далейшае разьвіцьцё рэвалюцыйнага руху, што камуністычным партыям удаецца здабываць аграмадныя перамогі ў выбарах, кажа аб магутнай сіле тых рэвалюцыйных працэсаў, якія ўсё больш і больш падточваюць зараз устойлівасьць усіх капіталістычных рэжымаў.

У той час як у шэрагах сацыял-дэмакратыі рэфармісцкіх прафсаюзаў ідзе бесперапыннае падзеньне членскага складу, камуністычныя партыі, за выключэньнем Францыі і ПАЗШ, амаль паўсямесна прасунуліся наперад, а агульны рост усіх сэкцый Камуністычнага інтэрнацыяналу паміж XI і XII пленумамі ВККІ перавыша 73 проц. Паасобныя сэкцыі Камуністычнага інтэрнацыяналу вырасьлі **удвая.** Тэмп гэтага росту і арганізацыйнага замацаваньня павялічыўся асабліва з другой паловы 1931 г., г. зн. разьвіваўся аднычасна з абвастрэньнем крызысу і нарастаньнем буйных рэвалюцыйна-клясавых баёў.

Разьвіцьцё рэвалюцыйнага ўздыму абапіраецца на магутны фактар эканамічнага парадку: гэта нячуваны рост абсалютнага і адноснага абнішчаньня рабочых мас, гэта страшэнная паўпэрызацыя гарадзкой і вясковай дробнай буржуазіі ў выніку трохгадовага сусьветнага эканамічнага крызысу. Досыць указаць, што ў трох важнейшых індустрыяльных краінах сьвету—у Нямеччыне, Англіі і

ПАЗШ — лік фактычных беспрацоўных (ня лічучы працуючых няпоўны час) дасягае **52 мільёнаў** чалавек. Зьніжэньне сацыяльнага страхаваньня, скарачэньне тэрмінаў для дапамог па страхаваньню ад беспрацоўя кідаюць усё новыя і новыя мільёны пралетараў у бяздоньне жабрацтва і паўпэрызацыі. Усё большыя і большыя масы верхавінных колаў пралетарыяту, якія раней падкармліваліся буржуазіяй і зьяўляліся галоўнымі праваднікамі ў гушчу рабочае клясы дэмакратычных і клясава-пацыфісцкіх ілюзій, пазбаўляюцца сваіх прывілегіяў па колькі буржуазія ня ў стане іх больш падкармліваць, і тым самым **падрываецца эканамічная база гэтых ілюзій.** У часе апошняй бельгійскай стачкі, напрыклад, аднолькавую рэвалюцыйную ініцыятыву праяўлялі кваліфікаваныя і некваліфікаваныя рабочыя, неарганізаваныя і арганізаваныя ў рэфармісцкіх профсаюзах.

Але XII пленум ВККІ павінен быў **адначасна** канстатаваць значнае **адставаньне** сэкцый Камуністычнага інтэрнацыяналу ад агульнага рэвалюцыйнага ўздыму і далёка ня поўнае скарыстаньне камуністычным авангардам усіх аб'ектыўных магчымасьцяў. Адставаньне камуністычных партый ня можа зьмяніць ацэнкі бягучага моманту як канца капіталістычнай стабілізацыі. Але ад **ступені актыўнасьці** камуністычнага авангарду, ад **тэмпу перамажэньня** ім свайго адставаньня, побач з шэрагам аб'ектыўных фактараў, будзе залежыць і **тэмп перарастаньня** сучаснага канца капіталістычнай стабілізацыі ў непасрэдную рэвалюцыйную сітуацыю.

Рэвалюцыйны ўздым, як і крызыс, разьвіваецца няроўнамерна. Выходзячы з аналіза гэтага няроўнамернага разьвіцьця рэвалюцыйнага ўздыму ў паасобных краінах, XII пленум ВККІ даў наступную **характарыстыку пераходу да новага туру рэвалюцый у паасобных важнейшых капіталістычных краінах:**

«У Гішпаніі адбываецца рэвалюцыя. У Кітаі рэвалюцыйная сітуацыя, а на значнай тэрыторыі—перамога савецкай рэвалюцыі. У Нямеччыне—надзвычайнае абвастрэньне клясавых антагонізмаў: з аднаго боку,—рост фшызму, з другога, — рост рэвалюцыйнай масавай барацьбы, паскоранае насьпяваньне прадпасылак рэвалюцыйнага крызысу. Некаторыя іншыя краіны альбо шчыльна падыходзяць да рэвалюцыйнага крызысу (Польшча) альбо ў выніку крайняга абвастрэньня ўнутраных і вонкавых супярэчнасьцяў могуць у бліжэйшы час апынуцца ў абстаноўцы рэвалюцыйнага крызысу (Японія). Ва ўсіх капіталістычных краінах сілы сусьветнай рэвалюцыі няўхільна растуць, але ў такіх важнейшых краінах сус,ветнага капіталізму, як ПАЗШ, Англія і Францыя, уздым рэвалюцыйнага руху хоць і разьвіваецца, але пакуль яшчэ моцна адстае ад высокай напружанасьці ўсёй міжнароднай абстаноўкі» (тэзісы XII пленуму ВККІ аб міжнародным становішчы і задачах сэкцый КІ).

Было-б супроць асноўных прынцыпаў бальшавіцкай ленінскай тактыкі, было-б вульгарным мэханічным спрашчэньнем выбражаць наступленьне канца капіталістычнай стабілізацыі як нейкі новы, чацьверты пэрыяд, за якім пасьледуе новы, пяты пэрыяд рашаючых рэвалюцыйных баёў за дыктатуру пралетарыяту. Той аграмадны размах рэвалюцыйнага ўздыму, які адбываецца зараз і працягвае нарастаць, і **ёсьць** менавіта разгорнуты **трэці** пэрыяд, характарыстыка якога дадзена ў тэзісах VI кангрэсу Камуністычнага інтэрнацыяналу. Тав. Сталін яшчэ напярэдадні X пленуму ВККІ засьцерагаў супроць такога механістычнага стварэньня «кітайскага муру» паміж паасобнымі пэрыядамі. Нельга выбражаць кожную буйную клясавую сутычку як новы гістрычны пэрыяд.

**Недааценіць** значэньне сучаснага рэвалюцыйнага ўздыму мае значыць апартуністычна недаацэніць **рэвалюцыйныя задачы цяперашняга падрыхтоўчага часу.** Гэта перадусім адносіцца да ацэнкі **фашызацыі буржуазнай дзяржавы і росту** фашыстоўскага руху. У некаторых кампартыях (Швэйцарыя, Польшча) былыя і ўноў роджаныя правыя элементы спрабуюць зрабіць выходным пунктам для ацэнкі міжнароднага становішча узмацненьне рэакцыі і рост фашыстоўскага руху—асабліва ў Нямеччыне. XII пленум ВККІ з усёй бальшавіцкай пасьлядоўнасьцю да канца здэмаскаваў капітулянцкую крыніцу гэтых апартуністычных тэорый. Гэтыя тэорыі ня новы. Іх паўтараў Троцкі на VIII пленуме ВККІ, іх паўтаралі Брандлеры на парозе трэцьцяга пэрыяду, і нічога дзіўнага, што яны

зноў выплываюць зараз, калі кампартыі стаяць на павароце да вышэйшай ступені рэвалюцыйнай барацьбы.

**Новае** ў становішчы паміж XI і XII пленумам ВККІ — гэта менавіта **адначасны рост** рэвалюцыйнага ўздыму і камуністычных партый, з аднаго боку, і фашызму — з другога. **Рэвалюцыйны ўздым** яднае сілы контррэвалюцыі. У выніку страты магчымасьці падкормліваць значныя верхавінныя колы пралетарыяту буржуазія прымушана ўсё больш прыбегаць да адкрытых формаў сваёй дыктатуры. У той час, не адмаўляючыся ад сваёй галоўнай сацыяльнай апоры ў асобе сацыял-дэмакратыі, буржуазія імкнецца пашырыць сваю звужаную базу, ствараючы масавы фашыстоўскі рух шляхам спалучэньня мэтадаў фашыстоўскага тэрору і сацыяльнай і нацыянальнай дэмагогіі. Але ні на адну хвіліну нельга забываць, што фашызм ёсьць **прадукт не ўзмацненьня, а раскладу** капіталізму, усе рысы якога яўна выпіраюць звонку нават у моманты найбольш «головокружительных» посьпехаў фашызму. Толькі безнадзейныя апартуністы і адкрыта працуючыя на капіталістычны выхад з крызысу сацыял-фашысты могуць бачыць асноўную лінію сучаснага разьвіцьця ва ўзмацненьні буржуазнай рэакцыі і посьпехах фашыстоўскага руху.

«Калі буржуазія і прывыкшыя служыць ей чыноўнікі, служачыя, дактары, інжэнэры і інш. прыбегаюць да самых крайніх мераў супраціўленьня, гэта прыводзіць у жах інтэлігентыкаў. Яны дрыжаць ад жаху і галосяць яшчэ больш скавытліва аб неабходнасьці вярнуцца да «згоды». Нас жа як і ўсіх шчырых прыяцеляў паняволенай клясы, надзвычайныя захады супраціўленьня эксплёататараў могуць толькі радаваць, бо мужаньня, насьпяваньня пралетарыяту да ўлады мы чакаем не ад угавораў і ўгаварваньняў, не ад школы салодзенькіх пропаведзяў альбо навучальных дэклямацый, а ад школы жыцьця, **ад школы барацьбы**» (Ленін, т. XXII, стар. 157. Падкрэсьл. нашае—Рэд.).

Адначасна з гэтым канец капіталістычнай стабілізацыі дыктуе неабходнасьць рашучай барацьбы **з недаацэнкай барацьбы з фашызмам.** Было - б вялічэзнай небясьпекай для справы рэвалюцыі і прамым капітулянцтвам (а паасобныя такія зьявішчы мелі месца ў КП Нямеччыны, асабліва ў мінулым годзе) фаталістычна адносіцца да разьвіцьця фашызму і лічыць, што рабочая кляса павінна прайсьці абавязкова праз фашыстоўскую дыктатуру, каб усьведаміць сабе неабходнасьць рэвалюцыі, што азначала-б дапушчэньне з боку фашыстоўскай дыктатуры камуністычнага авангарду без рэвалюцыйнай барацьбы. І тое і другое па сутнасьці вядзе да аднолькавай **пасыўнасьці** камуністычнага авангарда, да аднолькавага адмаўленьня ад рэвалюцыйнай барацьбы з фашызмам, да аднолькавай пасыўнасьці ў барацьбе супроць капіталістычнага выхаду з крызысу і на справе зьяўляецца прамой дапамогай сацыял-дэмакратыі.

З другога боку, у варунках канца капіталістычнай стабілізацыі выключную небясьпеку для камуністычнага авангарда прадстаўляла-б **апартуністычнае скажэньне** задачы **барацьбы** з сацыял-дэмакратыяй, без чаго немагчыма выкананьне асноўнай стратэгічнай задачы моманту — заваяваньне большасьці рабочае клясы. XII пленум ВККІ даў рашучы адпор усім апартуністычным спробам зьмягчыць альбо зусім зьняць пытаньне аб ролі сацыял-дэмакратыі як галоўнай сацыяльнай апоры буржуазіі ў сувязі з ростам фашызацыі буржуазнай дзяржавы і выбражальнай апазыцыяй сацыял-дэмакратыі. **Наадварот,** паколькі ў наяўнасьці ёсьць новая ступень фашыстоўскага разьвіцьця, нямінуча адначасна разьвіцьцё новага этапу перапляценьня сацыял-дэмакратыі з буржуазнай рэакцыяй і фашызмам. Гэта асабліва яскрава відаць на прыкладзе Нямеччыны, дзе сацыял - дэмакратыя, знаходзячыся ў «апазыцыі» і агалашаючы сябе «змагаром» супроць нацыянал-сацыялізму, на справе на ўсіх этапах разьвіцьця фашызацыі Нямеччыны фактычна падтрымлівала і падтрымлівае ўсе контррэвалюцыйныя мерапрыемствы ўраду Брунінга і фон-Папена, патрабуючы «ахвяр» ад нямецкай рабочай клясы ў імя ратаваньня нямецкага капіталізму і нязьменна пракладаючы **шлях** кожнаму далейшаму этапу фашызацыі Нямеччыны.

Але **новае** ў палітыцы сацыял - дэмакратыі з часоў XI пленуму ВККІ заключаецца ў шырокавяшчальных «левых»

манэўрах усяго ІІ Інтэрнацыяналу. Усё ўзрастаючы крызыс шэрагу сацыял-дэмакратычных партый і насьпяваньне крызысу ў рэфармісцкіх профсаюзах, асабліва ў выніку падрыву эканамічнага дабрабыту больш значных пластоў рабочай арыстакратыі і наогул верхавінных кваліфікаваных пластоў пралетарыяту, усё больш і больш прымушаюць сацыял-дэмакратыю да такіх «левых» манэўраў. Апартуністычная небясьпека ўнутры камуністычнага авангарду больш усяго пагражае якраз цяпер з гэтага боку. Выступаючы пад сьцягам «сацыялізму» (пад якім яны разумеюць «дзяржкапіталістычны» грабеж рабочых з боку манапалістычнага капіталу), пад сьцягам «абароны СССР» і «барацьбы супроць вайны», якімі яны ў інтарэсах падрыхтоўкі ваеннай інтэрвэнцыі супроць СССР і Савецкага Кітаю і імпэрыялістычнага здушэньня калёній замянілі сваю ранейшую адкрытую ваенна-інтэрвэнцыйную агітацыю, сацыял-фашысты імкнуцца прымазацца і да стачачачнага руху, калі пераконваюцца ў тым, што стачка немінуча, аж да заклікаў да ўсеагульных «дэманстратыўных» забастовак і да масавай палітычнай стачкі (ППС 16 сакавіка, лютаўская ўсеагульная забастоўка ў Вэнгрыі, рэзалюцыя зьезду нямецкіх мэталістаў у жніўні г.г.). Перад абліччам магутнай цягі рабочых мас да адзінства і шэрагу буйных посьпехаў камуністычных партыяў у справе арганізацыі адзінага фронту зьнізу (антыфашыстоўская акцыя ў Нямеччыне, посьпехі адзінага фронту ў Чэха-Славакіі, Польшчы, Бельгіі і інш.) сацыял-дэмакратыя прабуе рознымі мэтадамі манэўраваньня выбіць гэтую зброю з рук камуністычнага авангарду. Тактыка сацыял-дэмакратыі ў галіне адзінага фронту вядзецца менавіта галоўным чынам з разьлікам на тое, каб сьцягнуць камуністычны авангард з рэвалюцыйна-бальшавіцкага на капітулянцка-апартуністычны шлях, з разьлікам на **зрыў** арганізацыі дзейнічаючага баявога адзінага фронту зьнізу і **падмену** яго згодніцкім **блёкам вярхоў.**

Вось чаму ХІІ пленум ВККІ з усёй сілай падкрэсьліў неабходнасьць рашучага і пасьлядоўнага правядзеньня тактыкі «клясы супроць клясы» **асабліва ў варунках канца капіталістычнай стабілізацыі.** Сацыял-дэмакратыя прабуе праз «грамадзянскі мір» паміж сацыял-дэмакратыяй і камунізмам працягнуць прамую нітку да «грамадзянскага міру» з буржуазіяй і гэтым сарваць барацьбу пралетарыяту за рэвалюцыйны выхад з крызысу. І невыпадкова больш усяго памылак у шэрагах камуністычных партый рабілася і робіцца ў галіне даверлівых адносін да гэтых «левых» манэўраў сацыял-дэмакратыі. ХІІ пленум ВККІ здэмаскаваў плятформу Эмбэр Дро і групы правых апартуністаў у КП Польшчы, якія заяўлялі аб «тожсамасьці (!) задач» кампартыяў і паасобных атрадаў «левай» сацыял-дэмакратыі (Эмбэр Дро) і прапанавалі ў канкрэтных варунках Польшчы і Жэнэўскага кантона выступаць **супольна з правадырамі** сацыял - дэмакратыі, **зьмягчаючы** супроць іх **дэмаскаваўчую** кампанію. Адзіны бальшавіцкі адказ, які здолеў даць і даў ХІІ пленум ВККІ,— гэта рашучае **ўзмацненьне** барацьбы з «левымі» і «лявейшымі» манэўрамі сацыял-дэмакратыі.

ХІІ пленум ВККІ накіраваў адначасна агонь і па тых, хто спрашчэнчаскі, вульгарна **утожсамляе сацыял-фашызм** і фашызм, затушоўваючы гэтым **асаблівыя** мэтады ашуканства рабочае клясы, якія ўжывае сацыял-дэмакратыя, якія выцякаюць з яе **асаблівай** задачы—дабіцца кампрамісу з клясавым ворагам і праз выбражальную барацьбу супроць буржуазнай рэакцыі і фашызму ўтрымаць рабочых ад сапраўднай рэвалюцыйнай барацьбы з фашызмам і наступленьнем капітала.

Гэтакі ёсьць асноўны аналіз, дадзены ХІІ пленумам ВККІ **абставінам канца капіталістычнай стабілізацыі.** Усе паказаныя рысы разьвіцьця рэвалюцыйна-клясавай барацьбы ў гэтых варунках яскравей усяго відаць на прыкладзе Нямеччыны, якая зьяўляецца **вузлавым пунктам міжнароднай пралетарскай рэвалюцыі.** Рост фашыст. руху ў Нямеччыне стымулюецца аграмадным ростам **нацыяналізму,** які нямецкая буржуазія выкарыстоўвае ў першую чаргу **супроць пралетарскай рэвалюцыі.** Асаблівасьці фашызацыі Нямеччыны адбываюцца ў першую чаргу ад таго, што Нямеччына зьяўляецца самай індустрыяльна разьвітай краінай капіталістычнай Эўропы, што гэтая

фашызацыя адбываецца не да частковай стабілізацыі капіталізма, як у Італіі, і не да сусьветнага эканамічнага крызысу, як у Польшчы, а ў працэсе нячуванага абвастрэньня ўсіх унутраных і вонкавых супярэчнасьцяў нямецкага капіталізму, якія паглыбляюцца становішчам Нямеччыны як **аб'екта** вэрсальскай сыстэмы. Менавіта таму ўсе капіталістычныя супярэчнасьці за ўвесь пэрыяд пасьля вайны насілі тут значна больш востры характар, чым у іншых капіталістычных краінах. **Асаблівасьць** становішча Нямеччыны заключаецца ў тым, што рабочая кляса тут паражэньня не пацярпела, як гэта было ў Італіі ў 1922 г., і што ў наяўнасьці ёсьць масавая бурна растучая і загартаваная многімі гадамі рэвалюцыйнай барацьбы з буржуазіяй, гадамі барацьбы з сацыял-дэмакратыяй і апартунізмам у сваіх уласных шэрагах камуністычная партыя, правідловасьць палітычнай лініі якой даведзена на вопыце канкрэтнай рэвалюцыйна - клясавай барацьбы.

**Менавіта дзеля** таго XII пленум ВККІ здэмаскаваў як адзін з відаў парляменцкага крэтынізму капітулянцкую ўстаноўку, меўшую месца ў пасобных зьвеньнях КПН у часе прэзыдэнцкіх выбараў, быццам КПН пацярпела на гэтых выбарах паражэньне, ня бачучы насьпеваючага рэвалюцыйнага ўздыму нямецкага пралетарыяту супроць фашызму. Менавіта дзеля таго XII пленум ВККІ здэмаскаваў, як своеасаблівую праяву эканамізму, паражэнчую ўстаноўку, меўшую месца ў паасобных зьвеньнях КПН, быццам недастатковае разьвіцьцё эканамічных баёў у Нямеччыне сьведчыць аб паражэньні рабочае клясы Нямеччыны і КПН. Напружанасьць клясавых адносін у Нямеччыне настолькі аграмадна, што тут зачастую значна лягчэй разьвіваюцца масавыя палітычныя выступленьні пралетарыяту (антыфашыстоўскія акцыі і інш.), чым выключна эканамічная барацьба. Гэтыя масавыя палітычныя рухі, якія пераходзяць фактычна ў «малую грамадзянскую вайну», стымулююць разьвіцьцё і эканамічнай барацьбы рабочае клясы супроць наступленьня капітала. Як - раз апошні пэрыяд характарызуецца ўсё большым спалучэньнем (хоць і ў адносна скромных яшчэ памерах) **адначаснага** разьвіцьця самых рознастайных форм эканамічнай і палітычнай барацьбы пралетарыяту.

Канец капіталістычнай стабілізацыі патрабуе ўзьняцьця ўсіх форм і мэтадаў барацьбы камуністычных партый за дыктатуру пралетарыяту і за **канкрэтныя** задачы штодзённай барацьбы ў кожнай паасобнай капіталістычнай краіне. **Агульныя** задачы для ўсіх сэкцый Камуністычнага інтэрнацыяналу, якія пастаўлены XII пленумам ВККІ, выходзячы з усёй ацэнкі абставін канца капіталістычнай стабілізацыі, заключаюцца ў барацьбе супроць **наступленьня капітала,** супроць **фашызма і рэакцыі,** супроць набліжаючайся **імпэрыялістычнай вайны і інтэрвэнцыі,** супроць Савецкага Саюзу. Гэтыя актуальныя задачы мяркуюць на сучасным этапе пастаноўку ў цэнтры агітацыі камуністычных партый **лёзунга ўлады,** лёзунга **дыктатуры рабочае клясы.** Запамятаць гэта — значыць недаацаніць значэньне сучаснага рэвалюцыйнага ўздыму, факта канца капіталістычнай стабілізацыі. Недаацаніць гэта — значыць **прынізіць** як самы размах рэвалюцыйна-клясавай барацьбы ў варунках канца капіталістычнай стабілізацыі, так і **зьвязаныя** з гэтым непасрэдныя **практычныя задачы.** Кампартыі павінны весьці рашучую барацьбу з усялякімі спробамі прыніжэньня альбо змазваньня лёзунга пралетарскай дыктатуры.

Адсюль вынікае задача **ўзьняцьця** (вядома бяз **камандваньня** і штучнага **пераскокваньня** праз этапы) усіх формаў клясавай барацьбы пралетарыяту на вышэйшую **палітычную** ступень і ў прыватнасьці пастаноўка «пры наяўнасьці адпаведных варункаў у якасьці аднаго з важнейшых чарговых зьвеньняў у рэвалюцыйнай барацьбе пралетарыяту падрыхтоўкі правядзеньня **масавай палітычнай стачкі»** (тэзісы XII пленуму ВККІ).

Падводзіць рабочыя масы Нямеччыны і Польшчы да вырашэньня гэтай задачы, падводзіць рабочыя масы іншых капіталістычных краін з больш слабым размахам рэвалюцыйнага ўздыму да вырашэньня асноўнай стратэгічнай задачы заваяваньня большасьці рабочае клясы ўсе камуністычныя партыі здолеюць толькі пры тэй умове, калі яны здолеюць **менавіта ў варунках канца капіталістычнай стабілізацыі** адкрываць шлях шырокаму рэвалюцыйнаму руху **самай**

**актыўнейшай работай у масах, штодзённай падрыхтоўкай, арганізацыяй і кіраўніцтвам частковымі эканамічнымі і палітычнымі баямі пралетарыяту.** Біць зараз па рашаючаму вучастку клясавага ворага, г. ё., біць па **с.-д.** — значыць зразумець, **дзе** яшчэ сілы сацыял-дэмакратыі, **якімі** штодзеннымі ніткамі яна **зьвязана** з рабочымі масамі, значыць зразумець, **якімі** шляхамі **разьбіваць** гэтую **сувязь.** Значэньне **эканамічных баёў** у варунках канца капіталістычнай стабілізацыі ня толькі не прыніжаецца, а наадварот, **значна павышаецца** для рашэньня задачы фарміраваньня пад кіраўніцтвам кампартыі масавай палітычнай арміі пралетарыяту ў мэтах неабходнага паскарэньня працэсу ўцягваньня ў сьвядомую рэвалюцыйна-клясавую барацьбу як мас, якія ідуць за сацыял-дэмакратыяй, гэтак і аграмадных новых мас, усе больш абуджаючыхся да актыўнай палітычнай барацьбы, але яшчэ не заўсёды гатовых да сьмелай і рашучай рэвалюцыйнай барацьбы, не заўсёды ўсьведамляючых сабе, дзе лінія распалажэньня фронту клясавай барацьбы, поўных яшчэ зачастую усялякіх сацыял-дэмакратычных ілюзій.

Ніводная галіна рэвалюцыйна - клясавай барацьбы пралетарыяту ня можа мець посьпеху, калі кмуністычныя партыі ня зьвяжуць кожную галіну гэтай барацьбы з самай інтэнсыўнай, штодзённай, сыстэматычнай **работай у масах,** калі камуністычныя партыі ня будуць гаварыць з масамі у **разумелай** і блізкай ім мове, калі яны ня здолеюць па-бальшавіцку змагацца за **заваеваньне кіраўніцтва ў кожным паасобным частковым баю пралетарыяту.**

Але выкананьне гэтай задачы, г. зн. ажыцьцяўленьне на справе шырачэзнага дзейнага адзінага фронту зьнізу пад кіраўніцтвам камуністычнага авангарду для барацьбы супроць фашызму, наступленьня капітала і вайны, магчыма толькі ў тым выпадку, калі рэвалюцыйны авангард пралетарыяту будзе **незалежны ад буржуазных і рэфармісцкіх уплываў,** калі рэвалюцыйны авангард будзе здольны **ізаляваць** дробнабуржуазныя згодніцкія партыі, калі ён навучыцца **біць па рашаючых вучастках** фронту клясавага ворага, калі ён зможа палітыкай уплываньня на дробнабуржуазныя масы **прыцягваць рашаючыя колы іх на свой бок,** калі ён зможа ў рашаючы момант **без спазьненьня,** але і без **пераскокваньня** хутка і рашуча **наступаць** супроць клясавага ворага.

Менавіта дзеля таго XII пленум ВККІ з усёй сілай падкрэсьліў неабходнасьць **узмацненьня барацьбы з апартуністычнымі ўхіламі, з галоўным правым ухілам** які знаходзіць зараз свае выражэньне ў **недаацэнцы** канца капіталістычнай стабілізацыі, **у страце тэмпу і адставаньні** ад аб'ектыўных магчымасьцяй, **легалізьме і парламенцкім крэтынізьме,** у апартуністычным капітулянцтве перад сацыял-дэмакратыяй у пытаньнях тактыкі адзінага фронту, у змазваньні абліччa камуністычнай партыі, у **пераацэнцы** сіл буржуазіі і **недааценцы** рэвалюцыйнага ўздыму пралетарыяту, нарэшце ў **самаабмежаваньні** ў сучасных зьмяніўшыхся варунках **мэтадамі работы пэрыяду частковай стабілізацыі** капіталізму.

Побач з гэтым XII пленум ВККІ абвясьціў бязьлітасную барацьбу **«левацкаму» фразэрству,** падмяняючаму сур'ёзную падрыхтоўку пралетарыяту да рашаючых рэвалюцыйных боек, усялякай стаўцы на **самацёк** і **аўтаматызм** у пытаньнях разьвіцьця рэвалюцыйнага ўздыму і перарастаньня яго ў непасрэдную рэвалюцыйную сітуацыю, усялякаму мэтаду **пераскокваньня, камандваньня і ігнараваньня** глыбокай сур'ёзнай работы ў **масах** і перадусім **ігнараваньня задачы арганізацыі эканамічных баёў і работы ўнутры рэфармісцкіх прафэсыйных саюзаў.**

Толькі ідучы гэтым шляхам, камуністычныя партыі здолеюць цалкам выкарыстаць усе аб'ектыўныя рэвалюцыйныя магчымасьці, якія адкрывае канец капіталістычнай стабілізацыі, і **на чале мас прыйсьці да рашаючых і пераможных рэвалюцыйных баёў за дыктатуру пралетарыяту.**

**Ю. ЛЕНСКІ.**

# VI ЗЬЕЗД КПП.

XII пленум Выканкому Камінтэрну ў рэзалюцыі па дакладу тав. Куусінена ўказаў на «пэўны пералом у ходзе разьвіцьця агульнага крызыса капіталізму» і рэвалюцыйнага руху ў шэрагу капіталістычных краёў. Гэткі пералом ва ўсім укладзе суадносін адбываецца ў Польшчы, якая зьяўляецца фарпостам сусьветнага імпэрыялізму, накіраваным супроць СССР.

«Сучасная сытуацыя — кажуць тэзысы XII пленуму Выканкому Камінтэрну — багата неспадзяванымі выбухамі і нечаканымі паваротамі ў ходзе падзеяў». Гэтыя словы акрэсьляюць сёньнешняе становішча КПП, якая стаіць перад магчымасьцю раптоўных патрасеньняў фашыстоўскай дыктатуры. У такім пераломным мамэнце разьвіцьця рэвалюцыйнага ўздыму **адбыўся нядаўна VI зьезд КПП*)**. Вузлавыя задачы Зьезду заключаліся ў тым, каб на падставе правільнай ацэнкі сытуацыі накрэсьліць рэвалюцыйную пэрспэктыву і — згодна з рэзалюцыямі XII пленуму Выканкому Камінтэрну — рушыць наперад справу падрыхтаваньня партыі і пралетарыяту Польшчы да рашаючых баёў за ўладу.

Завостраны эканамічны крызыс і глыбокія клясавыя зрушэньні ў Польшчы ствараюць аб'ектыўныя варункі да таго, каб прарваць адно з зьвеньняў імпэрыялістычнага ланцугу.

У сэнсе тэмпаў завастрэньня эканамічнага крызысу Польшча пабіла рэкорд капіталістычных краёў. Шэраг галін польскага гаспадарчага жыцьця набліжаецца да катастрофы.

*) На зьезьдзе былі прадстаўлены амаль усе акруговыя арганізацыі. У працах зьезду прыняла ўдзел 59 дэлегатаў, сярод іх 33 дэлегаты з рашаючым голасам (у тым ліку 28 рабочых). Сярэдні партыйны стаж прадстаўнікоў акруг складаў 7 год і 5 месяцаў. Сярэдні турэмны стаж — адзін год і 9 месяцаў.

Рэзкае скарачэньне прамысловай прадукцыі пераходзіць ужо ў параліч пасобных галін прамысловасьці. Беспрацоўе і напоўбеспрацоўе агарнулі ўжо значную большасьць фабрычнага пралетарыяту, асуджаючы яго на міластыню буржуазнай філянтропіі.

Аграрны крызыс, які цягне за сабой дэградацыю сельскай гаспадаркі, давёў да нячуванай нэндзы мільёны сялян, якія зьведзены да напоўпаншчынных варункаў жыцьця.

Імпэрыялістычная роля Польшчы, як ваеннай антысавецкай цытадэлі, паскарае яе фінансавае банкруцтва. З кожным месяцам расьце дэфіцыт бюджэту, ствараючы беспасрэдную пагрозу інфляцыі.

Узімку эканамічны крызыс з падвойнай сілай ударыць па зубожаных масах пралетарыяту, сялянства і гарадзкой дробнай буржуазіі. Буржуазная прэса бье на алярм, чакаючы вялікіх рэвалюцыйных падзеяў. «Роспач мас можа давесьці да катасрафальных вынікаў» — скавычуць буржуазныя пісакі. «Польшча коціцца па нахільнай роўні» — надрываюцца сацыял-фашысты, рыхтуючыся адыграць апошнюю рэзэрву буржуазіі.

Нават «афіцыйныя сфэры» перасталі сымуляваць оптымізм. Так напрыклад, Ч. Кларнэр, старшыня Ізбы Гандлёва-Прамысловай, змушан быў проста заявіць у пачатку сьнежня:

«Калі два месяцы таму назад мы гаварылі з оптымізмам, дык сёньня мы павінны канстатаваць, што адпала ўсякая падстава для оптымізму. Ніхто ня ведае, які доўгі шлях аддзяляе нас ад «дна крызысу».

Яшчэ больш панура глядзіць на жыцьцё найбліжэйшы хэўрусьнік Пілсудзкага, палкоўнік Славэк:

«Прышоў цяжкі пэрыяд — казаў ён 3-га сьнежня на зьезьдзе легіянэраў —

жыцьцё б'е нас палкаю па галаве. Адусюль чуваць стогны. Рукі ападаюць, Патрэбны жалезны характар, каб перацярпець у варунках сучаснай «галадоўкі».

Нават у верхавінах пануючай фашыстоўскай партыі раздаюцца галасы, што «край перажывае ня толькі эканамічны крызыс, але і палітычны».

На працягу двух год, якія прайшлі ад V Зьезду КПП, рэвалюцыйны рух узьняўся на вышэйшы ўзровень. Стачачная хваля, падстава якой перасунулася ад дробнай і сярэдняй прамысловасьці да буйнай прамысловасьці, ахапіла падставовую масу рабочае клясы. Агульная колькасьць удзельнікаў стачак у 1932 г. **перакрочыла адзін мільён** — пры 400 тысячах рабочых, занятых яшчэ ў прамысловасьці.

Новы вельмі важны момант пасьля V зьезду — гэта станоўчая перавага ў пралетарскім руху барацьбы працуючых рабочых (асабліва рабочых з буйнай прамысловасьці), як падставовы фактар кіруючай ролі пралетарыяту ва ўсім рэвалюцыйным руху. Барацьба працуючых рабочых, у адрозьненьне ад пэрыяду V зьезду, высунулася наперад руху беспрацоўных. Гэта ёсьць адзін з найсільнейшых бакоў рэвалюцыйнага ўздыму ў Польшчы. Але слабым бакам зьяўляецца зараз агульнае нєпасьпяваньне руху беспрацоўных.

Адпор рабочых мас супроць наступленьня буржуазіі набірае мейсцамі формы контрнаступленьня супроць фашыстоўскай дыктатуры і капіталізму. Ад распарушаных стачак пралетарыят перайшоў да стачак у цэлых галінах і прамысловых акругах, стачак, якім спадарожнічалі вулічныя сутычкі, захоп паасобных фабрык і бурлівыя выступленьні беспрацоўных.

Падобным шляхам разьвіцьця прахоходзіць сялянскі рух. У адрозьненьне ад пэрыяду V Зьезду гэты рух сваім размахом, сваім баявым характарам ня ўступае руху пралетарыяту. Перамагаючы даўнюю распарушанасьць, сялянскія выступленьні пачынаюць ахопліваць групы вёсак, выяўляючы, побач з фактарамі стыхійнасьці, параўнаўча большую арганізаванасьць.

Побач з масавай барацьбой супроць падаткаў і шарваркаў, выступаюць стачка—байкот кірмашоў. Бастуюць цэлыя паветы, адмаўляючыся выяжджаць на кірмашы. Што-раз часьцей адбываюцца крывавыя сутычкі сялян з паліцыяй з прычыны вырубаньня лясоў і выганяньня быдла на панскія пашы.

VI Зьезд мог адзначыць **увязваньне пралетарскай барацьбы з насьпяваючымі элемэнтамі аграрнай рэвалюцыі,** як адну з найбольш характэрных рысаў разьвіцьця рэвалюцыйнага ўздыму ў Польшчы. На Зах. Украіне і Беларусі масавыя рэвалюцыйныя выбухі сярод сялянства, прыцісканага падвойным ярмом, сыгналізуюць насьпяваньне нацыянальна-вызваленчых паўстаньняў супроць польскай акупацыі.

**Узмацнілася кіруючая роля партыі** на ўсіх вучастках рэвалюцыйнага фронту. Партыя дасягнула значных посьпехаў у кіраўніцтве штодзённай барацьбой рабочае клясы, асабліва эканамічнымі стачкамі.

Адначасна Зьезд даў падрабязную ацэнку працэсу разлажэньня ў буржуазным лягеры. Галоўныя праявы нарастаючага крызісу вярхоў—гэта далейшае завастрэньне ўнутраных канфліктаў, гвалтоўнае звужэньне масавай базы пілсудчыны, усеагульны адыход ад яе дробнабуржуазных мас, вялікае незадаваленьне і дэмаралізацыя ў ніжэйшых зьвеньнях дзяржаўнага апарату, а таксама ідэолёгічны разнабой сярод пілсудчыкаўскай інтэлігенцыі.

Палкоўнік Славэк быў змушаны прызнаць, што яго лягэр з пункту гледжаньня арыфмэтычнага «прадстаўляе меншасьць грамадзтва». Калі пілсудчыкі лічыліся-бы з арыфмэтыкаю, дык «ня мелі бы права кіраваць дзяржаваю». Але справа не ў арыфмэтыцы, а ў спраўнай арганізацыі насільства. Ляпей колькасьць замяніць «якасьцю», масы—выпрабаванымі кадрамі. Славэк — прыхільнік ачышчэньня пануючай партыі ад хістаючыхся элемэнтаў, раскладаючых дзяржаўны апарат. «Наш дзяржаўны апарат—скардзіцца ён—у агромнай лічбе складаецца з людзей, што паддаюцца настроям незадавальненьня, з людзей, якія зьневажаюць інтарэсы паньства».

Санацыйная моладзь мітусіцца, шукаючы якойсь ідэі. Частка яе з зайздрасьцю глядзіць «на расійскіх ударнікаў і камсамольцаў, носьбітаў творчага энтузіазму, каторым ужо нічога нельга су-

процьпаставіць, бо вера ўжо даўно збанкрутавала...». «І толькі калісь—чытаем у адозве «легіёну млодых»—прачынаецца ў нас роспачлівае прагненьне гэтай вялікай хвілі, калі сталёвыя краны Гдыні выцягнуць рукі да дымячых домнаў Магнітагорска».

Далей ісьці немагчыма — кажуць з задаваленьнем нарадовыя дэмакраты.

Калатня буржуазных груп у разбітага карыта пры адначасным ідэолёгічным разнабою сярод буржуазіі аблягчаюць нам ідэолёгічнае ўплываньне на шырокія пласты дробна-буржуазнай інтэлігенцыі і далейшае падкопваньне масавай базы санацыі. Трэба выкарыстаць праявы раскладу ў буржуазным лягеры з мэтаю канчатковага скампрамэнтаваньня яго ў вачох мас, з тым, каб даць яму ў належную хвіліну друзгочучы ўдар. Гэта ёсьць элемэнтарны прынцып ленінскай тактыкі. «Усе гэтыя дармаеды рознай масьці—пісаў Энгэльс у 1882 г.—павінны перагрызьціся і скампрамэтаваць сябе і гэтым падрыхтаваць грунт для нас...».

Банкроцтва спробаў зьмягчэньня эканамічнага крызісу і няпэўнасьць цяперашняга становішча Польшчы, якая паразытуе на вэрсальскім трактаце, хістае аўтарытэт ўраду сярод буржуазіі, параджаючы сярод яе тэндэнцыі пашырэньня падставы ўраду і абмяжаваньня выключных прывілеяў пануючай партыі.

На гэтым грунце наступае ўнутранае перагрупаваньне сіл, якому спадарожнічаюць высілкі пілсудчыкоўскай клікі, якая імкнецца захаваць свае манапольныя позыцыі.

Усе гэтыя перасоўкі азначаюць, што Польшча, дзе яскрава выступае канец адноснай стабілізацыі капіталізму—**«набліжаецца шчыльна да рэвалюцыйнага крызісу»**. Але гэтае набліжэньне, ня маючае нічога супольнага з аўтаматычным скокам, адбываецца ў варунках няроўнамернага, часамі зыгзагаватага працэсу, у варунках згуртоўваньня ўсіх сіл контррэвалюцыі, націску разбухшага вайскова-фашыстоўскага апарату, у варунках узможаных труднасьцяў і **яшчэ значных хістаньняў сярод масаў.**

Адгэтуль—устаноўка зьезду на разгортваньне эканамічных і палітычных стачак, на завяваньне кіруючай ролі на ўсім фронце баёў пралетарыяту і эксплёатаванага сялянства, на ліквідацыю масавай базы сацыял-фашызму і на прысьпешаныя тэмпы заваяваньня большасьці пралетарыяту.

У духу гэтай устаноўкі зьезд згуртаваў асаблівую ўвагу на слабых вучастках партыйнае працы, паправіў шэраг яе недахопаў і правёў пасьлядоўную бальшавіцкую самакрытыку.

Асаблівай труднасьцю у разьвіцьці масавых баёў зьяўляецца — апрача шалёнага фашыстоўскага тэрору — гнуткае манэўраваньне сацыял-фашызму, які імкнецца аблегчыць буржуазіі капіталістычны выхад з крызісу пад заслонаю фраз аб дэмакратычным выхадзе. Чым больш набліжаецца рэвалюцыйны крызіс, тым больш радыкальнай становіцца фразэолёгічная платформа сацыял-фашыстаў, выступаючых з нібы «прынцыповай непрымірымасьцю» да капіталізму, за сацыялістычную плянавую гаспадарку, супроць улады капіталістаў і абшарнікаў, за ўладу рабочых і сялян, выступаючых з той мэтаю, каб, захоўваючы свае ўплывы сярод мас, «унікнуць катастрофы», г. ё. выратаваць капіталізм ад пралетарскай рэвалюцыі. Гэтым тлумачыцца таксама пэўны паварот у стачачнай тактыцы сацыял-фашыстаў, менавіта паварот да замаскаванага штрэйкбрэхерства, каб стаць на чале няўнікнённых стачак з тым, каб фактычна зламаць іх.

«Сацыялізм немагчым—пісала адна з пэпэсоўскіх газэт — без здабыцьця пралетарыятам улады ў дзяржаве ў саюзе з сялянствам і пры падтрыманьні зубожаных дробна-буржуазных мас».

У больш туманай форме выкладвае гэтую думку афіцыяльны правадыр ППС—Недзялкоўскі, злучаючы лёзунг рабоча-сялянскага ўраду з «плянавай перабудовай сацыяльнага строю». Левая фразеолёгія Баўэра знаходзіць пераемнікаў сярод правадыроў ППС. Яна служыць прыкрыцьцём таго факту, што «рабоча-сялянскі» урад сацыял-фашыстаў быў-бы ў практыцы «дэмакратычнай» адменаю фашыстоўскай дыктатуры ў барацьбе з пралетарскай рэвалюцыяй. «Сацыялісты—заявіў нядаўна кандыдат на польскага Носке — Станчык — не запярэчваюць неабходнасьці ў пэўных акрэсьленых варунках дыктатарскага ўраду для

разграмленьня анты-дэмакратычных руxaў».

Даючы падрабязную характарыстыку сацыял-фашыстоўскіх манэўраў, зьезд падкрэсьліў, што тэмп раскладу сацыял-фашызму не адпавядае ўзроўню рэвалюцыйнага ўздыму.

Партыя павінна сыстэматычна дэмаскоўваць і сваечасова паралізоўваць сацыял-фашыстоўскія манэўры **у практыцы штодзённай барацьбы**, якая ў варунках канца капіталістычнай стабілізацыі зьяўляецца «падставовым зьвяном для давядзеньня мас да надыходзячых вялікіх рэвалюцыйных баёў (XII пленум ВККі).

Дзеля таго зьездаўская дыскусыя канцэнтравалася на праблемах пашырэньня самастойнага кіраўніцтва стачкамі, шырокага ўжываньня адзінага фронту зьнізу, уменьня хутка мяняць формы і мэтады барацьбы, падхватваць формы, што высоўваюцца масамі з той мэтаю, каб згодна з ленінскім прынцыпам «усё гэта вяло да глыбейшага і больш станоўчага канфлікту» і каб «узьняцьцё форм барацьбы на вышэйшы зровень было сталай тэндэнцыяй». Масы, непасрэдна сутыкаючыся з дзяржаўным апаратам, пачынаюць высьвятляць сабе ўладу ў **рэвалюцыйны спосаб.** Сюды-ж вядуць таксама нямінуча такія формы барацьбы, як масавае адмаўленьне ад плацяжу падаткаў, адпор падатковым экзэкуцыям і карным экспэдыцыям, канфіскацыя прадуктаў і апалу ў капіталістаў і абшарнікаў, разбройваньне паасобных атрадаў паліцыі, «Стральца», фашыстоўскіх баёвак і т. п. У нашых стратэгічных лёзунгах мы павінны падкрэсьліваць **Савецкі ўстрой улады,** як сапраўдную рабочую дэмакратыю, дэмаскуючы контррэвалюцыйны зьмест лёзунга ў сацыял-фашызму.

Падкрэсьліваючы непасьпяваньне руху беспрацоўных за рухам працуючых рабочых, Зьезд даў партыі выразныя дырэктывы для разгортваньня масавай барацьбы беспрацоўных і ўвязваньня яе са стачачнай барацьбой.

Зьезд паставіў перад партыяй, як ударную задачу, **узмацненьне працы сярод сялянскіх мас,** указаўшы на арганізацыйную слабасьць партыі ў польскай вёсцы. Выходным пунктам гэтай працы павінна быць сыстэматычная арганізацыя адпору ўсялякім формам вызыску ня толькі сялянскай беднаты, але таксама і пераважнай часткі серадняцтва, руйнаванага праз ліхвярства і варожа настроенага супроць абшарнікаў і кулакоў. Цэнтральным зьвяном гэтай тактыкі зьяўляецца зямельны голад—гэта зьвяно, на якім зьбягаюцца ўсе формы сялянскай барацьбы. У гэтым напрамку трэба завастрыць увагу партыі. Найцясьнейшая сувязь барацьбы за зямлю бяз выкупу ва ўсіх яе канкрэтных праявах з лёзунгам рабоча-сялянскага ўраду і са штодзённай барацьбой пролетарыяту ўзмоцніць на дзеле рэвалюцыйны саюз рабочых і сялян. Лічучыся з гэтай небясьпекаю, хітрыя правадыры Строніцтва Людовего, абвяшчаючага «клясавае адзінства сялянства», гатовы бы прызнаць на словах лёзунг зямлі бяз выкупу, каб паслабіць, паралізаваць рост уплываў на вёсцы.

Ва ўсёй шырыні было пастаўлена на Зьезьдзе нацыянальнае пытаньне, асабліва пытаньне **ўзмацненьня кіруючай ролі партыі ў нацыянальна - вызваленчым руху на Заходняй Украіне і Зах. Беларусі.** Тут барацьба сялянскіх мас за зямлю бяз выкупу перадусім накіравана супроць польскіх абшарнікаў. Тут кожнае рэвалюцыйнае выступленьне мас наносіць удар польскаму імпэрыялізму. Тут партыя мабілізуе масы на барацьбу супроць польскай окупацыі, пад падставовым лёзунгам «права паняволеных народаў на самавызначэньне аж да аддзяленьня ад Польшчы», высьвятляючы ім, што шлях для зьдзейсьненьня гэтага лёзунгу ідзе праз супольную барацьбу з працоўнымі масамі Польшчы супроць фашыстоўскай дыктатуры. Партыя вядзе масы да беспасрэдной барацьбы супроць польскай акупацыі, заклікаючы праганяць яе агентаў, уводзіць явачным парадкам родную мову ў школах, адчыняць школы, зачыненыя фашыстоўскай уладаю і т. п.

«Узмацненьне саюзу рабочай клясы з масамі паняволеных народаў магчыма толькі пры ўмове, што пралетарыят пад кіраўніцтвам КПП будзе весьці штодзенную і бязьлітасную барацьбу супроць каленіяльнай грабежы і ўціску паняволеных народаў, будзе актыўна падтрымоўваць вызваленчую барацьбу прыгнеча-

ных народаў супроць польскага імпэрыялізму».

Зьезд высунуў, як адну з найважнейшых задач, **арганізацыю масавых палітычных стачак,** якія зьяўляюцца найлепшым сродкам увязваньня пралетарскай барацьбы з рэвалюцыйным сялянскім і нацыянальна-вызваленчым рухам. Палітычная стачка павіннна ўжо зараз стаць аружжам у барацьбе супроць імпэрыялістычнай вайны.

Праз палітычныя стачкі, разгорнутыя на шырокай падставе эканамічных баёў, партыя вядзе масы да **ўсеагульнай палітычнай забастоўкі,** увязваючы яе папулярызацыю з прапагандаю ўзбройнага паўстаньня рабочых, сялян і салдат. Зразумелая рэч, што такая забастоўка вымагае адпаведнага завастрэньня ўсёй сытуацыі і высокага ў.зроўню рэвалюцыйнай актыўнасьці мас. Улічваючы досьлед усеагульнай стачкі-пратэсту 16-га сакавіка, якая захапіла партыю зьнянацку, Зьезд з усёй вастратою ўказаў на неабходнасьць таго, каб заўчас браць ініцыятыву і падрыхтоўваць такога роду выступленьні рабочае клясы. Досьлед 16-га сакавіка таксама паказаў вялікія магчымасьці для арганізацыі стачкі сярод мэталістаў і чыгуначнікаў — гэтых вельмі важных атрадаў пралетарыяту ў барацьбе з наступленьнем капіталу і пагрозаю новай вайны.

Сур'ёзнае месца ў працах Зьезду занялі пытаньні антываеннай кампаніі і працы ў арміі. Адзначаўшы паскораныя падрыхтоўваньні польскага імпэрыялізму да вайны з СССР, якія маскуюцца пацыфісцкімі фразамі фашыстаў і сацыял-фашыстаў, **Зьезд заклікаў партыйныя арганізацыі ўзмацніць барацьбу супроць імпэрыялістычнай вайны і ў абарону СССР** і выпрацаваў шэраг канкрэтных дырэктыў для працы ў ваеннай прамысловасьці, сярод транспартоўцаў, рэзэрвістаў і пабаровых.

Зьезд абавязаў усе партыйныя арганізацыі, усіх членаў партыі і КСМ ствараць **станоўчы пералом у працы сярод салдат,** уважаючы слабасьць гэтай працы, як тыповую праяву апартуністычнай недаацэнкі ваеннай небясьпекі і завастрэньня палітычнай сытуацыі. Барацьба за армію, якую фашыстоўскі ўрад усё часьцей ужывае для барацьбы на ўнутраным фронце, будзе мець рашаючае значэньне для перамогі пралетарскай рэвалюцыі.

У галіне арганізацыйных посьпехаў партыі вялікай здабычай зьяўляецца **падваеньне колькасьці членаў партыі і КСМ** ад часу V зьезду. У варунках нелегальнасьці КПП здолела стаць сапраўды масавай партыяй. Аднак задача стварэньня моцнай апоры ў буйных фабрыках, асабліва ў ваеннай прамысловасьці, усё яшчэ ня зьдзейсьнена.

Вельмі вялікім недахопам, выступаючым усё больш востра ў сувязі з стачачнай хваляй, зьяўляецца арганізацыйная слабасьць рэвалюцыйнага прафсаюзнага руху. Разбудова сеткі клясавых саюзаў, фабрычных груп профлявіцы і зацятая барацьба за масы ў рэфармісцкіх, хрысьціянскіх і іншых прафсаюзах становіцца неабходным варункам шырокай сувязі камуністаў з масамі і моцнасьці заваяваньняў у стачачным руху.

Рэвалюцыйны ўздым і шалёны фашыстоўскі тэрор паставілі перад Зьездам задачу **палепшаньня ўсёй сыстэмы кіраўніцтва,** задачу, як кажа т. Сталін — «перабудовы штодзеннай працы партыі, яе практыкі ў гэткім напрамку, каб кожны крок партыі і кожная яе акцыя вялі неадступна да рэвалюцыйнага выхаваньня мас, да падрыхтоўкі рэвалюцыі».

Галоўныя прадпасылкі бальшавіцкай сыстэмы кіраўніцтва — гэта выразная канкрэтызацыя задач, хуткая ініцыятыва ў кожным зьвяне партыі, умелы распадзел працы, шырокая прапрацоўка досьледу, шырокі жывы інструктаж, дакладная праверка выкананьня, сьмелае вылучэньне кадраў, няўхільнае захоўваньне канспірацыі і бязьлітасная барацьба з правакацыяй.

У галіне барацьбы з ухіламі Зьезд заастрыў увагу партыі на канкрэтных праявах найбольш небясьпечнага правага апартунізму, асабліва ў адносінах да сацыял-фашыстоўскіх манэўраў, а таксама на сэктанцкіх адносінах да рабочых з варожых арганізацый.

Апрача гэтага Зьезд падкрэсьліў **узросшую небясьпеку трацкізму,** вырастаючага ў Польшчы на грунце збанкрутаваньня ідэолёгіі костшэвізму і растучых труднасьцяй. У непапраўных правых фракцыянэраў гэтая ідэолёгія перарасла ў контррэвалюцыйны трацкізм. Правыя двурушнікі сталі яго кантрабандыстамі

ўнутры партыі. Плятформа трацкісцкай групы, групы, якая паставіла сабе па-за шэрагамі партыі, выяўляе мешаніну ўсялякіх правых канцэпцый і зьбежных з німі трацкісцкіх поглядаў. Гэтая плятформа ўважае, што сацыял-фашыстоўскія партыі выражаюць дробна-буржуазную дэмакратыю, што гэта — «часовыя саюзьнікі», з якімі партыя павінна заключыць кампраміс і ўтварыць блёк накіраваны супроць фашызму. Не падлягае сумненьню, што антыпартыйная і рэнэгацкая дзейнасьць гэтай групы, якая зьяўляецца фактычна агентурай сацыял-фашызму, ідзе на руку дэфэнзыве ў яе барацьбе з КПП. Маральна - палітычную адказнасьць за гэтую групу нясуць Варскі і Кастцэва, якія дагэтуль не капітулявалі перад партыяй.

Зьезд даў аднадушны адпор выпадам кастшэва-трацкістаў, якія не змаглі пахістаць ідэёвай зьнітованасьці партыйнага актыву і пахістаць адзінства партыі. Калі V зьезд давёў да канца кансалідацыю партыі на падставе лініі Камінтэрну, дык VI Зьезд выявіў **бальшавіцкую зьнітованасьць партыі, згуртаванай навакол цэнтральнага камітэту.**

Вянцом прац VI Зьезду было **прыняцьцё праграмы партыі.** Абапіраючыся на праграму Камінтэрну, праграма КПП дае багаты аналіз імпэрыялізму і фашызму, рухавых сіл і характару пралетарскай рэвалюцыі ў Польшчы, выкладае задачы гэтай рэвалюцыі і задачы савецкай улады пасьля яе перамогі, а таксама прынцыповыя моманты стратэгіі і тактыкі КПП. Праграма акрэсьлівае характар пралетарскай рэвалюцыі ва ўсёй польскай дзяржаве, як сацыялістычную, са значным аб'ёмам буржуазна-дэмакратычных задач, асабліва на Заходняй Украіне і Заходняй Беларусі. Дыскусія на Зьезьдзе спрыяла канкрэтызацыі гэтых задач, бяз пасьлядоўнага вырашэньня якіх немагчыма пераможная сацыялістычная рэвалюцыя.

«У сучаснай Польшчы — кажа праграма — пры далёка прайшоўшым наперад распластаваньні сялянства, пры зрастаньні абшарніцтва з гарадзкой буржуазіяй, пры буржуазным устрою польскай дзяржавы — буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя зьяўляецца ўжо пройдзеным этапам. Аднак факт, што значны, а ў аднosінах да акупаваных зямель пераважаючы аб'ём яе задач яшчэ ня зьдзейсьнен, стварае ў Польшчы гэткае асабліваe сьпляценьне гістарычных варункаў, пры якім сацыялістычная рэвалюцыя пралетарыяту павінна мімаходам па шляху выканаць і давесьці да канца задачы буржуазна - дэмакратычнай рэвалюцыі, сьпляценьне, пры якім пралетарыят можа павесьці за сабою да рэвалюцыі супроць буржуазіі і абшарніцтва найшырэйшыя масы эксплёатаваных і ўціснутых у горадзе і на вёсцы».

Праграма КПП, канчатковую апрацоўку якой Зьезд даручыў Цэнтральнаму Камітэту, будзе праводнікам ня толькі для партыйных шэрагаў, але таксама для шырокіх мас у барацьбе за рэвалюцыйны выхад з крызісу. Зьезд зьвязаў рэвалюцыйную пэрспэктыву ў Польшчы з усёй міжнароднай сітуацыяй, перадусім жа з палажэньнем у Нямеччыне. Зьезд цалкам здаваў сабе справу з таго, што вузлавым пунктам нарастаньня рэвалюцыйнага крызісу ў капіталістычных краёх Эўропы зьяўляецца Нямеччына, як з пункту гледжаньня сваёй міжнароднай сытуацыі, гэтак і напружаньня ўнутраных супярэчнасьцяў і ўдзельнае вагі нямецкага пралетарыяту. Рэвалюцыя ў Польшчы сьцісла зьвязана з рэвалюцыяй ў Нямеччыне, перамога якой, паводле слоў т. Сталіна, — «забясьпечыць перамогу міжнародай рэвалюцыі». Дзеля таго Зьезд абавязаў Цэнтральны Камітэт узмацніць братэрскі саюз з Камуністычнай партыяй Нямеччыны шляхам супольнай барацьбы супроць вэрсальскай сыстэмы і супроць нацыяналістычнай траўлі, якая шырака распаўсюджваецца на грунце завастрэньня польска-нямецкіх супярэчнасьцяй.

Дзелавая праца, праведзеная VI Зьездам у варунках рэвалюцыйнага пералому ў Польшчы і пагрозы ўзбройнага нападу на СССР, дапаможа Камуністычнай партыі Польшчы стаць сапраўдным правадыром мільённых мас у барацьбе за зваленьне крывавай дыктатуры буржуазіі.

І. С.

# VI пленум ЦК КПЗБ.

Гэты пленум ЦК КПЗБ быў **пашыраным** пленумам: на ім былі з дарадчым голасам прадстаўнікі кіраўніцтва актыву з найважнейшых акругоў і галоўных адзелаў партыйнай працы. Рэзалюцыі VI пленума ахоплiваюць бадай усю дзейнасьць партыі. Апрача таго пленум абгаварыў у асобным пункце парадку дня («Рухавыя сілы і характар рэвалюцыі на ЗБ») вузлавое заданьне **праграмнага** характару.

Гэтыя ўсебаковыя выключныя задачы пленума выцякалі з цясьнейшай лучнасьці яго працы з вынікамі XII пл. ВККІ і з VI зьездам КПП. У гэтым зьвязку трэба разглядаць пастановы VI пленума.

XII пленум ВККІ адзначыў прыход аканчатку адноснай стабілізацыі капіталізму і пераход да новага туру рэвалюцыяй і войнаў. XII пленум ацаніў сытуацыю ў Польшчы, як непасярэднае прыбліжэньне да рэвалюцыйнага крызысу. VI зьезд КПП выпуклiў найбольш характэрную адзнаку ўзрастаючай рэвалюцыйнай хвалі ў Польшчы, а менавіта: **зьнітаваньне барацьбы пролетарыяту з дасьпеваючымі элемэнтамі аграрнай рэвалюцыі** і з рэвалюцыйным рухам сялянскіх мас на ЗУ і ЗБ, высокае напружаньне якога **сыгналізуе дасьпяваньне нацыянальна-вызваленчых паўстаньняў супроць польскай акупацыі.** VI зьезд паказаў тыя зьвеньні, за якія партыя павінна з усёй сілай ўхапіцца, каб прыблізіць гэты працэс, каб заваяваць рашаючую большасьць рабочае клясы, каб падцягнуць і ў бліжэйшым часе стаць на чале рэзэрву пролетарыяту—сялянскага і нацвызваленчага руху. Таксама і ў галіне арганізацыйнай—палепшыць усю сыстэму кіраўніцтва—і ў галіне ідэолёгічнай—прыняцьце праграмы партыі—ва ўсіх гэтых галінах VI зьезд КПП стаіць пад знакам арганізаваньня рэвалюцыйнага фронту з пэрспэктывай **непасрэднага прыбліжэньня рэвалюцыйнага крызысу і барацьбы за ўладу.**

Перад VI пленумам ЦК КПЗБ стаялі задачы бадай таго самага значэньня і размаху ў прымяненьні да Зах. Беларусі. Пленум зрабіў падрабязны аналіз тым формам, якія крызыс капіталізму ў Польшчы набірае на Зах. Беларусі і адгэтуль момэнты, выцякаючыя з аб'ектыўнай сытуацыі, якія спрыяюць разьвіцьцю рэвалюцыйнага руху, а таксама дадатковыя труднасьці для гэтага руху, якія знаходзяцца ў тэй жа аб'ектыўнай сытуацыі. Вывады з аналізу сытуацыі пленум зьмясьціў у канкрэтных стратэгічных і тактычных указаньнях, большасьць якіх мае **пастаяннае значэньне** на цэлы пэрыяд, што дзеліць нас ад непасрэднай барацьбы за ўладу.

У нашых варунках асаблівыя труднасьці сустракаюцца на дарозе да ўгрунтаваньня рэчавістага — у штодзеннай барацьбе — кіраўніцтва пролетарыяту сялянскім і нацыянальна-вызваленчым рухам. Умацаваньне рэвалюцыйнай гегемоніі пролетарыяту, яднаньне барацьбы пролетарыяту з сялянскім і нац.-вызваленчым рухам патрабуе ад нашай партыі несупыннага напружаньня ў гэтым напрамку волі і энэргіі і адпаведнай палітычнай падрыхтоўкі ўсяго партыйнага актыву. Пленум мог сьцьвярдзіць, што «на ЗБ, як і ва ўсёй Польшчы, пашыраецца фронт забаст. барацьбы» і што «у ходзе гэтай барацьбы рабочыя масы пераходзяць у контр-наступленьне супроць атак капіталу і фашыстоўскага ўраду».

Ад гэтага часу гэроічная барацьба лесарубаў Белавежскай пушчы і іншыя цалкам гэта падцьвярджаюць, паказваючы адначасна, як гэтая забастовачная барацьба непасрэдна ўцягвае сялянскія масы і даець вузорны прыклад баёвой салідарнасьці рабочых і сялян. Апошнія баі заключаюць у значнай меры тыя адзнакі, на якія ўказвае VI пленум: усьцяж большая **масавасьць** руху, упорлівасьць, трываласьць і паўтарэньне забастовак, усё часьцейшыя забастоўкі салідарнасьці, вышэйшы палітычны ровень барацьбы. Але з боку бэспасрэднай **ролі партыі** ў кіраваньні гэтай барацьбой маем і ў далейшым значныя недахопы і пахібы. Забастоўка белавежскіх дравасекаў застала партыю так як і забастоўка беластоцкіх тэкстыльшчыкаў з вельмі слабымі арганізацыйнымі пазыцыямі сярод змагаючыхся рабочых. У абоіх выпадках партыя павінна была ўжо ў ходзе акцыі як бы з боку прабівацца на забастовачны фронт каб разгарнуць барацьбу супроць здрадніцкай сацыял-фашыстоўскай хэўры, за рэвалюцыйнае кіраўніцтва забастоўкай.

Пленум на падставе міжнароднага досьледу, досьледу КПП і нашага ўласнага —асабліва ў астатнім страйку тэкстыльшчыкаў — даў у агульна-палітычнай і спэцыяльнай рэзалюцыі («досьлед эканамічных баёў пралетарыяту і задачы партыі») падрабязныя тактычныя ўказаньні для выкананьня гэтай задачы.

Пленум яшчэ раз дэталёва і выразна вызначыў прынцыпы **тактыкі адзінага фронту зьнізу,** як **падставовай зброі ў нашых руках пры правядзеньні стачак, пры правядзеньні кожнай эканамічнай і палітычнай акцыі.**

«Камуністы — указвае рэзалюцыя («Досьлед эканамічных баёў пралетарыяту і задачы партыі») — павінны быць ініцыятарамі адзінага фронту барацьбы на кожным вучастку, выкарыстоўваючы для гэтага нават дробны канфлікт, уселякае незадаваленьне мас. Партыйныя арганізацыі і прафсаюзная лявіца павінны **фармуляваць дамаганьні рабочых** на сходах, масоўках і ў індывідуальных гутарках, разам з рабочымі абгаварваць гэтыя дамаганьні і распаўсюджваць іх у масах. Трэба склікаць частыя **нарады** супольна з рабочымі—членамі сацыял-фашыстоўскіх партый і рабочымі, якія ідуць за імі — для супольнага абгаварваньня гэтых дамаганьняў. Трэба выдаваць спэцыяльныя адозвы да пэпэсаўскіх, бундаўскіх і іншых рабочых. Трэба абавязкова ўцягваць у органы адзінага фронту (фабрычныя камітэты і фабрычныя дэлегаты, камітэты акцыі, стачачныя камітэты, стачачныя пікеты, антырэдукцыйныя камітэты і г. д.) беспартыйных рабочых, а таксама рабочых членаў ППС, Бунду, ХД і інш. на падставе стасаваньня шырокай **пралетарскай дэмакратыі.** Гэтых рабочых трэба ўцягваць у органы адзінага фронту **на платформе супольнай барацьбы за канкрэтныя дамаганьні, не ставячы ім зьверху жадных** (іншых) **варункаў** накшталт прызнаньня ўсіх нашых лёзунгаў, неадкладнага парваньня са сваёй партыяй і г. д. Трэба ў ходзе самой барацьбы на ўласным досьледзе рабочых пераконваць іх у тым, што пераможную барацьбу з капіталам можна весьці толькі пад кіраўніцтвам нашай партыі. Трэба ўцягваць у органы адзінага фронту членаў фабрычных камісій, упаўнаважаных, дэлегатаў прафсаюзаў і іншых, каторыя гатовы разам з рэвалюцыйнымі рабочымі і камуністамі змагацца супроць капіталу. Трэба аднак засьцерагацца ілюзій у дачыненьні да тых сацыял-фашыстоўскіх дэлегатаў, якія праводзяць дырэктывы сваіх правадыроў. Шырока стасуючы тактыку адзінага фронту зьнізу партыя рашуча змагаецца супроць апартуністычных ілюзій і хістаньняў у дачыненьні да сацыял-фашызму (разглядваньне «левых» манэўраў сацыял-фашызму як фактара, каторы аб'ектыўна аблегчае партыі разьвязваньне масавай барацьбы), які супроць сэктанцкіх адносін да пэпэсаўскіх і бундаўскіх рабочых, спробаў камандаваньня масамі і т. п.».

У гэтым сьціслым і ясным фармуляваньні прынцыпаў тактыкі адзінага фронту сканцантравана вялікая сума досьледу партыйнай практыкі і маецца адказ на важнейшыя неяснасьці, якія высоўваюцца ў практыцы. Вялікае значэньне мае тое, што тут гаворыцца аб нарадах і аб пралетарскай дэмакратыі. Адзіны фронт ня можа быць утвораны на падставе дамаганьняў, выдуманых на якімсь цесным партыйным альбо саюзным пасяджэньні, а толькі на падставе такіх дамаганьняў, за якія масы **хочуць змагацца.** Справа ня ў тым, каб таргавацца з сацыял-фашыстамі на конт разьмераў дамаганьняў, але аб тым, каб супроцьпаставіць сапраўдную барацьбу за дамаганьні, што высоўваюцца масамі, сацыял-фашыстоўскім манэўрам, маючым на мэце не дапусьціць да барацьбы, лёкалізаваць барацьбу, распарушыць барацьбу, утрымаць яе ў рамках фашыстоўскай легальнасьці з тым, каб у адпаведным моманце барацьбу змахляваць, задушыць, зламаць. Толькі на падставе выпрацаванай супольна з рабочымі бяз розьніцы іх палітычных перакананьняў платформы дамаганьняў могуць быць вылучаны **органы адзінага фронту** (стачачныя камітэты і т.п.), бяз каторых ня-

ма барацьбы за самастойнае рэвалюцыйнае кіраўніцтва. Асабліва трудная—гэта справа адносін да рабочых з сацыял-фашыстоўскіх і іншых партый, у тым ліку да фабрычных дэлегатаў і т. п. У Белавежскай забастоўцы мы мелі зноў б'ючыя ў вочы памылкі ў нашых адносінах да іх, як правага характару, гэтак і сэктанцкія (трактаваньне ўсёй гэтай апазыцыі як «чарговага манэўру ППС»). Тут няма «рэцэптаў», якія маглі-бы мэханічна ўжывацаа для адрозьніваньня, напрыклад, сапраўды адданага рабочай справе, хоць яшчэ паддаючагася пэпэсоўскай фразэолёгіі рабочага дэлегата, ад «малога бондзы», выконваючага старанна здрадніцкія інструкцыі вялікіх бондзаў. Тут указаньні Цэнтральнага Камітэту павінны абмяжавацца агульнай устаноўкаю і накіраваньнем пільнасьці актыву ў данным напрамку.

Надзвычайна важна, асабліва ў нашых варунках, указаньне пленуму аб неабходнасьці **«канцэнтрацыі сіл на вузлавых пунктах, на рашаючых атрадах рабочае клясы, рашаючых фабрыках і аддзелах.** На гэтых вузлавых пазыцыях яшчэ моцна дагэтуль сядзяць сацыялфашысты, яшчэ слаба замацаваны нашыя арганізацыі. З такімі суадносінамі сіл трэба як найхутчэй скончыць. Бяз шкоды для рабочых дробнай прамысловасьці, якія далі нашай партыі вялікую колькасьць здольных дзеячоў, і не ўступаючы ні пядзі нашай пазыцыі ў дробнай прамысловасьці, мы павінны дамагацца ад кожнай нашай арганізацыі **плянавай барацьбы за перадавыя на яе вучастку галіны працы.** Заваяваньне тэкстыльшчыкаў, чыгуначнікаў, дрэваапрацоўчых рабочых, камунальных рабочых, манапалёвых прадпрыемстваў і сельскагаспадарчых рабочых становіцца ў сёньняшняй сытуацыі, пры шпаркіх тэмпах і кароткіх тэрмінах, падзеляючых нас ад рашаючых баёў, **вузлавой** праблемаю рэвалюцыйнага руху.

Пленум з усім націскам ставіць пытаньне ўзмацненьня **рэвалюцыйнага прафсаюзнага руху ва ўсялякіх формах:** тварэньне груп Профлявіцы, умасаўленьне рэвалюцыйных профсаюзаў, барацьба за іх легальнасьць, узмацненьне рэвалюцыйных саюзаў, абапіраючы іх на арганізаваныя групы ў прадпрыемствах і сярод беспрацоўных, тварэньне і ўзмацненьне профапазыцыі ва ўсіх рэакцыйных саюзах. У рэакцыйных саюзах апазыцыя павінна выступаць з ініцыятываю ў барацьбе за **прафсаюзную дэмакратыю,** выступаць з канкрэтнымі прапазыцыямі, зьвязанымі з патрэбамі рабочых мас, змагацца за ўсякія выбарчыя пасады (дэлегатаў, членаў праўленьняў і т.п.) Камуністы і камсамольцы арганізуюць у саюзе камфракцыю, адказную за правядзеньне лініі партыі ў прафсаюзным руху.

Пленум зьвярнуў пільную ўвагу на слабасьць працы сярод **беспрацоўных** і даў канкрэтныя ўказаньні для мабілізацыі і арганізацыі беспрацоўных мас, завастрыў увагу мясцовых партарганізацый на гэты адстаючы вучастак працы партыі.

Рэзалюцыя пленуму падкрэсьлівае вялікае значэньне **акцыі дапамогі і акцыі** раб.-сял. **салідарнасьці.** Досьлед Белав. стачкі цалкам пацьвердзіў асаблівае значэньне **матар'яльнай дапамогі бастуючым,** увязанай з шырокай акцыяй салідарнасьці, для барацьбы за рэвалюцыйнае кіраўніцтва стачкаю, а таксама для пашырэньня і ўпалітычненьня барацьбы.

Партыя павінна сёньняшнюю шырокую стачачную хвалю разгортваць нестанна ў напрамку **масавых палітычных стачак,** даводзячы масы да **ўсеагульнай палітычнай забастоўкі,** папулярызацыю якой трэба ўвязваць з прапагандаю ўзбройнага паўстаньня рабочых, сялян і салдат. Масавыя палітычныя стачкі зьяўляюцца найлепшым сродкам увязваньня пралетарскай барацьбы з рэвалюцыйным сялянскім і нацыянальна - вызваленчым рухам.

У сялянскім і нацыянальна-вызваленчым руху галоўнай задачай, якую ўказаў пленум, зьяўляецца **згуртоўваньне** адасобленых масавых выступленьняў і наданьне ім характару шырокага руху народных мас супроць акупантаў пад лёзунгамі «вон акупантаў», «права на самавызначэньне аж да аддзяленьня», «зямлі сялянам бяз выкупу» і ўвязваньне гэтага руху з барацьбою пралетарыяту ЗБ і Польшчы за зваленьне дыктатуры буржуазіі, за рабоча-сялянскі ўрад. Адсюль аграмадны націск, які палажыў Пленум на справу **арганізацыйнага ахопу руху сялянскіх мас,** на разбудову сет-

**кі сялянскіх камітэтаў,** як падставовай арганізацыйнай формы, тварэньне масавай **самаабароны,** арганізацыю лучнасьці праз **чырвоных ганцоў** і т. п., а таксама на справу супрацоўніцтва партыі ў пашырэньні і тварэньні новых масавых арганізацый нацыянальна-вызваленчага руху. Праводзячы далей з усёй сілаю антыпадатковую і антышарварковую акцыю, мы завастраем адначасна барацьбу мас навакол ўсіх іншых балячак (голад, ліцытацыі, адработкі, аплаты тарговыя, паліцэйскія штрафы), асабліва-жа навакол тых, якія зачапляюць непасрэдна за пытаньне **зямлі,** як камасацыя, ліквідацыя сэрвітутаў, апал і лес, насеньне і т. п. У варунках шалеючага голаду і нэндзы і на асягнутым ужо ўзроўні масавага сялянскага руху, партыя мабілізуе масы да беспасрэднага захопа збожжа і пашы з абшарнічых і дзяржаўных магазынаў, вывазу дрэва з лясоў, самавольнага выпасу і т. п. Патрэбна сталая чуйнасьць у дачыненьні да такіх форм барацьбы, якія стыхійна высоўваюць самыя масы (сялянская стачка, байкот таргоў), форм, якія ўсьцяж яшчэ недаацэньваюцца, зьневажаюцца, з якімі часам нават нашыя арганізацыі змагаюцца. Правільная тактыка патрабуе таго, каб падхватваць гэтыя формы барацьбы, арганізацыйна ахопліваць іх, разгортваць і завастраць на масавай аснове. Усялякая барацьба мас павінна быць стала накіравана супроць **нац. ўціску і акупацыі** (канкрэтныя праявы нацыян. ўціску павінны брацца як выходны пункт для мабілізацыі мас), супроць тэрору і імпэрыялістычнай вайны, пры чым ня толькі шляхам выкідваньня адпаведных лёзунгаў, але і шляхам кіраваньня выступленьнямі непасрэдна супроць акупацыі ў такіх формах, як дэманстрацыі і паходы, школьныя забастоўкі, нявыконваньне загадаў акупацыйных уладаў, праганяньне канфідэнтаў і паасобных прадстаўнікоў улады, праганяньне экзэкутараў і паліцыі, зрываньне акупацыйных урачыстасьцяў шляхам контр-дэманстрацый, нішчэньне дзяржаўных гэрбаў, масавы адпор акупацыйным гвалтам, карным экспэдыцыям і т. п.

Пленум адзначыў пэўныя здабычы партыі ў нацыянальна-вызваленчым руху але адначасна прызнаў, што рашаючага павароту ў духу ўказаньняў V пленуму **яшчэ няма.** Адсутнасьць падставовага элемэнту павароту выражаецца ў тым, што партыйныя арганізацыі і КСМ яшчэ не навучыліся разьвіваць шырокую масавую барацьбу супроць кожнай праявы нацыянальнага ўціску, абмяжоўваючыся прапагандаю і агітацыяй. Гэта на практыцы роўназначна недаацэнцы нацыянальна-вызваленчага руху, як аднаго з падставовых фактараў нарастаючай рэвалюцыі ў Польшчы.

Пленум указаў, што неабходна ўзмацніць працу сярод каталіцкай часткі беларускага насельніцтва ЗБ, а таксама спэцыяльна прыняць пад увагу — з пункту гледжаньня нацыянальна-вызваленчага руху — патрэбы літоўскіх і украінскіх раёнаў (Палесьсе). Пленум патрабуе ажывіць працу партыйных арганізацый у галіне **гмінных рад,** дзе легальныя магчымасьці дагэтуль яшчэ ня выкарыстаны. Барацьба супроць гмінных бюджэтаў — процістаўленьне ім бюджэтных прапазыцяў, забясьпечваюць інтарэсы працоўных мас коштам заможных клясаў, — барацьба супроць назначаных войтаў і солтысаў, супроць новай выборчай уставы да гмінных рад, барацьба за беларускую мову ў гміне — гэта ёсьць шырокая галіна дзейнасьці, якую можна апанаваць шляхам сканцэнтраваньня антыфашыстоўскіх элемэнтаў у гмінных радах і кіраўніцтва імі праз мясцовыя ячэйкі альбо фракцыі ў самай гміннай радзе.

Пленум сфармуляваў шэраг **мабілізацыйных лёзунгаў** партыі ў нацыянальна-вызваленчым руху, якія павінны быць неадкладна кінуты ў масы.

Пленум даў адказ на дзьве актуальных праблемы, у дачыненьні да якіх пануе неяснасьць у шэрагах партыі. Першая — гэта характар і аб'ём нашай **барацьбы з кулацтвам** на сёньняшнім этапе руху. Другая — гэта адносіны партыі да **стыхійнага партызанскага руху.**

Шмат таварышоў маюць склоннасьць зваліваць у адну купу абшарніка і кулака, як нашага клясавага ворага. Гэта памылка. Абшарнік — гэта цэнтральная фігура эксплёатуючых клясаў на ЗБ. Абшарніцтва найбольш сьцісла зьвязана з польскай акупацыяй, абшарнік зьяўляецца для найшырэйшых народных мас увасабленьнем акупацыі, побач з чыноў-

нікам і паліцыянтам. Барацьба сялянскіх мас за зямлю патрабуе сёньня **перадусім** рэвалюцыйнай ліквідацыі абшарніцтва, **як клясы.** Вострая клясавая барацьба, якая вядзецца ўжо сёньня супроць кулака ў беларускай вёсцы (асабліва навакола справы камасацыі і ліхвярскага кулацкага вызыску) яшчэ не зьяўляецца барацьбою за ліквідацыю кулацтва як клясы. Але ліквідацыя яго як клясы стане на парадку дня толькі як задача сацыялістычнага наступленьня супроць недабітых элемэнтаў буржуазіі пад дыктатураю пралетарыяту.

Разьвязваючы клясавую барацьбу ўнутры вёскі, мабілізуючы масы да барацьбы супроць кулацкай эксплёатацыі і ліхвярства, партыя кіруе барацьбою сялянскіх мас **супроць акупацыі і абшарніцтва,** як **галоўнага клясавага ворага** і падставовай базы польскай акупацыі. Але **варункам** пасьпяховай мабілізацыі мас да барацьбы з акупацыяй і абшарніцтвам зьяўляецца **ізаляцыя ад мас кулацкіх польскіх, беларускіх і ўкраінскіх партый,** якія зьяўляюцца **галоўным праваднiком** фашыстоўскай дыктатуры і акупацыі ў сялянскіх масах. Ясна, што калі мы хочам зьнішчыць абшарніцтва і акупацыю, мы мусім пераламаць уплыў на масы нацыянал-фашыстоўскіх кулацкіх **партый,** ізаляваць іх ад мас. Гэта ёсьць задача ня менш важная ў працы сярод сялянства, як задача ізаляваньня ад мас сацыял-фашыстоўскіх партый у працы сярод пралетарыяту. Але звальваньне кулака ў адну купу з абшарнікам зацямняе толькі лінію партыі і перашкаджае, а не дапамагае выконваць гэтую задачу.

У адносінах да стыхійнага партызанскага руху Пленум патрабуе ад партыі перадусім найбольшай **чуйнасьці** на праявы гэтага руху. Партыя не адмаўляецца ад партызанскага руху наогул, наадварот — **у адпаведнай сытуацыі партыя** стане на чале такога руху. **У даннай** сытуацыі партыя ўважае сваёй галоўнай задачаю накіраваньне рэвалюцыйнай энэргіі мас ў рэчышча масавай барацьбы, масавага адпору супроць фашыстоўскага тэрору, адпору бандам паліцыі, карным атрадам аж да збройнага адпору. Але калі стыхійна паўстаюць партызанскія атрады, партыя не асуджае іх і не адмяжоўваецца ад іх, але — разгортваючы масавую кампанію пратэсту супроць крывавай расправы акупантаў з гэтымі атрадамі — адначасна стараецца ўсялякімі сіламі зьвязваць іхнюю барацьбу са штодзённай барацьбою сялянскіх мас. Партыйныя арганізацыі павінны знайсьці шлях да партызанскіх атрадаў і ўцягваць партызанскія элемэнты да масавага руху сялянскай самаабароны. Гэтая дырэктыва Пленуму, зразумелая рэч, стасуецца толькі да сёньняшняй фазы руху і можа быць зьменена ў адпаведнасьці з сытуацыяй.

Пленум прыняў падрабязную рэзалюцыю аб **барацьбе супроць вайны і працы ў арміі** — адным з найслабейшых вучасткаў партыйнай працы. Гэтая рэзалюцыя бярэ за падставу адпаведную рэзалюцыю XII Пленуму Выканкому Камінтэрну, стасоўна да сытуацыі на ЗБ. Яна заключае ў сабе каштоўныя ўказаньні, якія датычаць як мэтадаў антываеннай **агітацыі,** гэтак і канкрэтнай працы ў арміі, у напоўваенных арганізацыях, сярод пабаровых і рэзэрвістаў, у важных з пункту гледжаньня ваеннага галінах працы. Рэзалюцыя ўказвае на шырокае распаўсюджваньне **праваенных настрояў,** што знаходзіць выраз у пасыўным чаканьні ў надзеі, што вайна прынясе вызваленьне з ярма акупацыі і зламае панаваньне буржуазіі Гэтыя настроі зьяўляюцца запораю для рэвалюцыйнага руху наогул, а для антываеннай акцыі ставяць у нашых варунках другую сур'ёзную небясьпеку, побач з **пацыфізмам,** які аблягчае буржуазіі маскаваньне сваіх ваенных падрыхтовак. Барацьба з імі мусіць праводзіцца стала і пасьлядоўна.

Рэзалюцыя зьвяртае ўвагу на лічныя праявы незадаваленьня сярод салдат гарнізонаў, што стаяць на ЗБ, за што партыя наша ня ўмее зачапіцца. З часу Пленуму шэраг новых фактаў, а перадусім увядзеньне **даразных судоў** у арміі кажа аб праявах пачынаючагася раскладу ў фашыстоўскай арміі. Але шырокае ўварваньне рэвалюцыйнага руху ў кашары можа адбыцца толькі праз **кантакт паміж салдатамі знутры кашар з працоўнымі масамі, гэтак і з боку працоўных мас.** У гэтым напрамку павінны быць накіраваны высілкі партыі. Кожная пар-

тыйная арганізацыя мае дзеля гэтага шырокія магчымасьці — толькі мала ініцятывы і вытрыманасьці.

Пленум зацьвердзіў рэзалюцыі 2-й канфэрэнцыі КСМ ЗБ. Пленум сьцьверджае, што рэзалюцыя ў справе партыйнага кіраўніцтва камсамолам, прынятая Цэнтральным Камітэтам у студзені мінулага году, вельмі слаба уводзіцца ў жыцьцё. З мэтаю перамажэньня гэтага становішча Пленум прапануе **ўзмацніць партыйнае ядро ў КСМ** шляхам уцягваньня актыву КСМ да партыйнай працы і перадачы членаў партыі для работы ў КСМ. Камітэты партыі абавязаны супольна з адпаведнымі інстанцыямі КСМ зьбіраць нарады прадстаўнікоў партыі ў КСМ. Партыйныя камітэты і ячэйкі павінны сыстэматычна абгаварваць пытаньні працы сярод моладзі пры ўдзеле прадстаўнікоў камітэтаў і ячэяк КСМ. Гэткія прадстаўнікі павінны стала ўваходзіць у партыйныя органы. Перадача камсамольцаў у партыю не павінна рабіцца мэханічна, кандыдатуры павінны быць абгавораны на ячэйках і райкомах.

У галіне **арганізацыйных пытаньняў** Пленум канцэнтруе ўвагу партыі на двух задачах: узмацненьне і вылучэньне партыйнага актыву і ўзмацненьне гарадзкіх арганізацый з апораю на галоўныя галіны працы. Першая з гэтых задач была ўжо перад гэтым з усёй сілаю пастаўлена ў рэзалюцыі ЦК у сьнежані 1931 г., якая цалкам захоўвае сваю актуальнасьць і павінна надалей служыць дырэктываю ў гэтым пытаньні. Прадпасылкаю для вылучэньня новага актыву зьяўляецца ўзьняцьцё актыўнасьці і ініцыятывы ўсіх зьвеньняў партыі, забясьпячэньне— у рамках канспірацыі — унутрыпартыйнай дэмакратыі і рашучы курс ва ўсіх зьвеньнях партыі на вылучэньне актыву з пасярод **рабочых** — перадусім рабочых рашаючых галінаў прамысловасьці — сельска-гаспадарчых рабочых і вясковай беднаты. Партыйнае будаўніцтва наогул і ўзмацненьне пралетарскага ядра партыі павінна стаць, як сталая задача, перад кожнай партыйнай арганізацыяй ва ўсіх зьвеньнях партыі ўключна да ячэйкі.

Палітычнае значэньне задачы разбудовы партыі ў вузлавых галінах працы, падкрэсьленае з усёй сілаю Пленумам, азначае ў галіне арганізацыйнай няўстанную плянавую барацьбу за заваяваньне, арганізацыйны ахоп і ўмацаваньне пазыцый у гэтых галінах працы. Калі напрыклад Беластоцкая арганізацыя ня ў стане утрымаць і далей пашыраць сваю базу сярод **тэкстыльшчыкаў**, дык з пункту гледжаньня палітычных і арганізацыйных установак VI Пленуму, ніякае хоцьбы значнае дасягненьне ў меншых фахах гэтага **не** кампэнсуе.

Сытуацыя вымагае ўзьняцьця палітычнага і ідэалёгічнага ўзроўню партыйных шэрагаў. Бяздзейныя, замкнутыя ў сабе партыйныя ячэйкі — не патрэбны. Нам патрэбны ячэйкі—рэвалюцыйныя кадры, дзе кожны член адчувае сабе кіраўнікоm масавай акцыі ў сваёй галіне. А рэвалюцыя ставіць нават нізавым кіруючым кадрам аграмадные трэбаваньні ў сэнсе самастойнай ініцыятывы і агульнага зразуменьня стратэгічнага пляну. Пастаноўка Пленумам у якасьці асобнага пункту парадку дня праблемы «рухавых сіл і характару рэвалюцыі на ЗБ» адказвае на гэтую палючую патрэбу. Гэтая праблема стаіць у сьціслай сувязі з дыскусыяй у КПП, з зацьверджаньнем партыйнай праграмы VI Зьездам КПП. Кожны член партыі і КСМ павінен хаця-бы ў агульных зарысах арыентавацца, якія сілы рэвалюцыі і сілы клясавага ворага на ЗБ, на чым партыя мусіць сканцантраваць свае сілы ў момант рашаючых баёў і пасьля заваяваньня улады, які характар будзе насіць пралетарская рэвлюцыя ў Польшчы і на ЗБ *). Зразуменьне гэтых пытаньняў аблегчыць зразуменьне бягучых задач і паасобных дырэктыў Цэнтральнага Камітэту і дазволіць нам хутчэй перамагчы недаацэнку, напрыклад, такіх задач як узмацненьне пралетарскага ядра партыі, як паварот у адносінах да нацыянальна-вызваленчага руху і т. п.

Узьняцьцё ідэалёгічнага ўзроўню партыі вымагаецца таксама ўзможаным націскам варожай ідэалёгіі на нашыя шэрагі. Пленум прыняў вострую рэзалюцыю супроць рэнэгацкай **трацкісцкай** групы, што вырасла на грунце ідэалёгіі **кастшэвізму**, даведзенай да сваіх выразна контррэвалюцыйных вынікаў. Гэтая група жыруе галоўным чынам на дробна-буржуазных элемэнтах у партыі,

*) Пазыцыю VI Пленуму ў гэтых пытаньнях чытач знойдзе ў артыкуле т. Сьпіса пад назваю «Рухавыя сілы і характэр рэвалюцыі на ЗБ».

меніш адпорных перад труднасьцямі рэвалюцыйнай барацьбы і націску варожай ідэалёгіі. Даўленьне ідэалёгіі дробнай буржуазіі на шэрагі партыі ў варунках ЗБ бязумоўна яшчэ больш значнае. Дзеля таго трацкісцкія хітрыкі могуць знайсьці шлях да нашых шэрагаў, калі яны ня сустрэнуць адразу зьнішчальнага адпору. Рэзалюцыя VI Пленуму ўзбройвае партыю да такога адпору рэнэгатам.

Апрача гэтага маем націск **нацыяналізму** на нашыя шэрагі. Асабліва небясьпечным зьяўляецца націск польскага вялікадзяржаўнага нацыяналзму на пэўныя зьвеньні нашых гарадзкіх арганізацый. У Польшчы, пад непасрэднаю апекаю санацыі і дэфэнзывы, паўстала спэцыяльная фашыстоўская агентура, якая вядзе пад нацыяналістычнымі лёзунгамі раскладовую працу ў нашых шэрагах пад фірмаю «польскай народовай партыі камуністычнай». Раскладваючая работа рэнэгацкай групы ў **Вільні** блізка родніцца з гэтай працаю клясавага ворагу. Нашым адказам — апрача няшчадных арганізацыйных вывадаў у дачыненьні да рэнэгатаў і яўна чуждых нам элемэнтаў—павінна быць **узмацненьне выхаваньня партыйных шэрагаў у духу пралетарскага інтэрнацыяналізму** (не маючага нічога супольнага з нігілізмам у нацыянальным пытаньні, а — наадварот — зьяўляючагася неабходнай прадпасылкаю ў нацыянальным пытаньні) і ламаньне нацыянальных перагародак у штодзённай працы і арганізацыі. Выкідваючы з нашых шэрагаў тыя адзінкі, якія пераносяць туды сьвядома і ўпорна атруту нацыяналізму і антысэмітызму, мы павінны адначасна разгарнуць узмоцненую растлумачальную працу. Бо мы здаем сабе справу, што працоўныя масы не адгароджаны кітайскім мурам ад буржуазнага грамадзтва і ўплыў нацыяналістычнага цкаваньня, якое разьвязваецца буржуазіяй, пранікае да нас нязьлічонымі шляхамі.

«Адозва VI Пленуму ЦК КПЗБ», папулярызуючы мэты, лёзунгі і шляхі пралетарскай рэвалюцыі ў зразумелы для кожнага рабочага і селяніна спосаб, зьяўляецца свайго роду **праграмным дакумантам** і так павінна трактавацца партыйнай арганізацыяй. «Адозва» павінна ня толькі распаўсюджвацца, але абгаварвацца на сходах і масоўках. Адозва павінна быць шырока распаўсюджана шляхам каляктыўнага чытаньня, правільнага выкарыстоўваньня атрыманых экзэмпляраў, арганізаваньня перадачы іх з рук у рукі.

VI Пленум ЦК правёў багатую працу. Каб вынікі гэтае працы ўявіліся ў дзейнасьці партыі трэба, каб рэзалюцыі Пленуму дайшлі да кожнага члена партыі і былі прапрацаваны кожнай партыйнай ячэйкай. Давядзеньне рашэньняў Пленуму да партыйных шэрагаў у найкарацейшы час зьяўляецца задачай усяе партыі. Арганізацыі, якія ня маюць рашэньняў Пленуму, павінны дамагацца іх ад адпаведнай партыйнай інстанцыі. Кожны экзэмпляр рашэньняў VI Пленуму павінен быць на вучоце (запісаны) і належна выкарыстаны. Ад гары да нізу павінен быць праведзены дакладны кантроль давядзеньня рашэньняў VI пленуму да партыі.

---

**«РЭВАЛЮЦЫЙНЫ СЯЛЯНСКІ РУХ ПАЧЫНАЕ НАБІРАЦЬ НА ПААСОБНЫХ ВУЧАСТКАХ ХАРАКТАР МАСАВЫХ ПАЎСТАНЧЫХ ВЫБУХАЎ. НА ЗБ і ЗУ ГЭТЫЯ ВЫБУХІ, УКЛЮЧНА З МЯСЦОВЫМІ ПАРТЫЗАНСКІМІ БАЯМІ, СЫГНАЛІЗУЮЦЬ НАБЛІЖЭНЬНЕ НАЦЫЯНАЛЬНА - ВЫЗВАЛЕНЧЫХ ПАЎСТАНЬНЯЎ СУПРОЦЬ ПОЛЬСКАЙ АКУПАЦЫІ».** (VI зьезд КПП).

**А. СТАЛЕВІЧ.**

# Пагражаючае адставаньне на вашнейшым вучастку.

Заключэньне пакту аб ненападзе з боку такіх пасьлядоўна агрэсыўных, саветаненавісных дзяржаў як Францыя і Польшча можа выклікаць у некоторых таварышоў дэмабілізацыйныя настроі быццам небясьпека вайны страціла сваю вастрыню. Гэта было-б грубой апартуністычнай памылкай, якая па сутнасьці садзейнічала-б імпэрыялістычным намерам фашыстоўской Польшчы.

Падпісаньне памяненых пактаў аб ненападзе трэба расцэньваць як вымушаны манэўр з боку Польшчы і Францыі, разьлічаны на ўсыпленьне мас, на аслабленьне іх барацьбы супроць вайны. Бурлівы рост рэвалюцыйнага руху робочых і сялян ва ўсіх краёх панаваньня капіталу, (антываенныя баявыя выступленьні рабочых у Жэнэве і братаньне з салдатамі, посьпехі кампартыі ў Нямеччыне і інш.) ды пераможны поступ сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР змусілі польскіх і французкіх імпэрыялістаў замаскаваць сваю неаслабную падрыхтоўку да вайны за пацыфістычнай фразэолёгіяй, «добрасуседзкіх адносінах» і іншых ашуканчых фразах.

Гэтыя пакты паказалі наколькі ўзрасла сіла міжнароднай рэвалюцыі як на сацыялістычнай стройцы ў СССР, так і на фронце рэвалюцыйнай барацьбы за дыктатуру пралетарыяту. Гэтая сіла ўжо цяпер змушае адступаць буржуазію на тым ці іншым вучастку, крыжуе яе крывавыя пляны. Але ні на момант нельга задавальвацца гэтымі дасягненьнямі, дэмабілізавацца ў барацьбе супроць вайны. Трэба і надалей не паслабляць націску на буржуазію, а з яшчэ большай энэргіяй, з большым размахам і арганізаванасьцю не даваць буржуазіі рэмантавацца ад udараў крызісу за кошт наступленьня на жыцьцёвы ровень працоўных мас, разгарнуць контр-наступленьне аж да зваленьня панаваньня эксплёататарскіх капіталістычных клясаў, а разам з імі і іх імпэрыялістычныя войны.

Гэтыя пакты паказалі аб паглыбленьні унутры-капіталістычных цярцеў, паказалі, што ня гледзячы на агульную гатоўнасьць напасьці на СССР капіталістычныя дзяржавы ўсьцяж сустракаюць перашкоды ў стварэньні адзінафронтовага ванннага нападу на СССР. Аднэй з найбольш яскравых такіх супярэчнасьцяў наглядаецца паміж Польшчай і Нямеччынай, супярэчнасьць, якая ў апошнія часы прымае даволі вострыя формы. Нямецкі імпэрыялізм, карыстаючы аслабленьнем Вэрсальскай сыстэмы, пачынае прад'яўляць свае правы на большае ўзбраеньне, дамагаецца звароту земляў заграбленых Польшчай, ставіць пытаньне аб сваіх каленіях. У сваю чаргу Польшча, падтрымоўваемая буйнымі капіталістамі і ваеннымі кругамі Францыі, вядзе агрэсыўную палітыку ў адносінах да Нямеччыны, пашырае свае правы ў Данцыгу, вядзе шавіністычную кампанію супроць Нямеччыны за захоп новых ад яе земляў як «рдзэнна польскіх». Гэтыя завостраныя адносіны паміж Польшчай і Нямеччынай ня трэба недаацэньваць, ня трэба выпускаць з віду, але ні ў якім разе нельга праз гэта зьменшаць небясьпекі вайны супроць СССР.

У сучасных варунках кожны ваенны канфлікт, кожны факт канкурэнцыйнай барацьбы паміж імпэрыялістычнымі дзяржавамі вастрыём сваім накіраваны супроць СССР, выкарыстоўваецца буржуазіяй дзеля траўлі супроць Савецкага Саюзу, дзеля кансалідацыі антысавецкага блёку. Вайна ў Марокко, у Чылі, зьніжэньне цэн на тавары ў выніку крызысу, нават пажар на тым ці іншым караблі (Атлянтык) і інш, усяму гэтаму буржуазія сьвядома хлусьліва пры-

пісвае «работу СССР», ва ўсім гэтым яна бачыць «руку Масквы», усё гэта робіць з правакацыйнай зачэпнай мэтай. З вышэй сказанага вачавідна што антаганізм, які ўзьнікае паміж двума процілежнымі варожымі гаспадарчымі і палітычнымі сыстэмамі — капіталістычным сьветам і Савецкім саюзам, зьяўляецца асноўнай і пераважаючай супярэчнасьцю.

Калі будзе патрэбна тэй жа Польшчы ці Францыі напасьці на СССР, дык усе гэтыя пакты будуць стаптаны ваенным ботам так як Японія стаптала мірны пакт Келёга, заключаны ў сваім часе з Кітаем. А гэткая патрэба можа ўзьнікнуць у любы момант. Буржуазія, ратуючыся ад крызысу, ратуючы сваё панаваньне ад сакрушальных udараў нарастаючай рэвалюцыі, вядзе тэрорам, шыбеніцамі шалёнае наступленьне на працоўныя масы. Аднак гэтае наступленьне, у сваю чаргу паглыбляе руйнуючыя дзействы крызысу, тэрор становіцца невыстарчальным для прыдушэньня рэвалюцыйнага руху. А таму буржуазія прыбегае да ўсё больш вострых і нахабных форм у сваёй палітыцы вызыску і ўціску, прыбегае да вайны. Імпэрыялістычнай вайной буржуазія хоча ўтрымаць сваё панаваньне, адцягнуць рэвалюцыю хоць - бы на якісь час шляхам паняволеньня слабейшых народаў, шляхам захопу новых рынкаў, калёніі, новых мас для эксплёатацыі. Буржуазія, ушчэмлёная гаспадарчым крызысам, загнанная пралетарскай рэвалюцыяй у цесны тупік, у любы момант можа зрабіць «скок у невядомасьць» і ніякія там пакты і дагаворы не паўстрымаюць яе ад гэтага шалёнага скоку.

Фактычна скок гэты, калі глядзець з міжнароднай сытуацыі, дык ён ужо зроблены. Японія фарсаваным разгорнутым парадкам, крывава рэалізуе свае захопніцкія пляны. Прадстаўнік Японіі на апошніх паседжаньнях Лігі нацыі цынічна заявіў, што акупацыя Манджуры гэта абаронны вал для Кітаю супроць бальшавізму, што Манджурыя грунттраплін для скоку на СССР, існаваньне якога нецярпіма для імпэрыялістычнай Японіі. Гэтыя словы падцьвярджаюць факты. Ваенныя выдаткі Японія павялічыла ўдвоя, у Манджурыі згрупавана добрая палова ўсёй японскай арміі; да акупацыі было 2 аэрадромы, цяпер—каля 20;, будуюцца новыя масты., чатыры чыгункі стратэгічнага значэньня; Японія да гэтага часу адмаўляецца падпісаць з СССР пакт аб ненападзе, ня хоча ісьці нават на гэты паказны, вонкавы крок да міру. Японія ўпарта і пасьлядоўна «урастае» у вайну супроць СССР.

У капіталістычным сьвеце «урастаньне» ў вайну наогул настолькі пасунулася .далёка, што ўжо трудна сказаць, **дзе канчаецца мір, а дзе пачынаецца вайна.** Як паказвае досьлед апошніх войн гэтае «урастаньне» пачынаецца без афіцыйнага аб'яўленьне вайны і без агульнай мабілізацыі. На такі мэтад вядзеньня вайны змушае новая растаноўка клясавых сіл на карысьць міжнароднай пралетарскай рэвалюцыі. Буржуазія стараецца ўсяляк замаскаваць перад масамі свае крывавыя пляны, хоча паступова, няўзнаку, уцягнуць масы ў крывавую мясарубку, уцягнуць **не сразу** ўсе свае рэзэрвы, на якія яна не мае вялікія надзеі, якім **сразу** ня хоча даць аружжа, не давярае.

Аднак, нельга мэтад «урастаньня» у вайну ўзаконіваць. Зусім ня выключана распачацьця вайны поўным парам, калі будуць мабілізаваны і кінуты буржуазіяй на тэатр вайны ўсе жывыя сілы, усе рэзэрвы краю. Бо трэба мець на ўвазе, што да ўсеагульнай мабілізацыі цяпер буржуазія значна больш падрыхтавана, чым перад 1914 г. Цяпер у значнай меры фашыстоўскія і напоўфашыстоўскія ўрады правялі падгатоўчыя меры проці рэвалюцыйнага руху. Бадай ва ўсіх, нават і ў так зв. «дэмакратычных» рэспубліках,—«адноўлены» канстытуцыі, адменяюцца так зв. «дэмакратычныя свабоды», уведзены шыбенічны напоўваенны ражым, ваенізаваны дзяржаўны апарат.

А калі ўзяць прамысловасьць, якая ў сучасны пэрыяд будзе адыгрываць рашаючае значэньне на ход вайны, дык як сьвярджаюць нават буржуазныя пісакі, прамысловасьць цяпер, у «мірны» час у большай меры пераключана ўжо на абслугоўваньне вайны, чым гэта было на 2-3 год імпэрыялістычнай вайны 1914-20 г.г.

Што да людзкіх рэзэрваў, дык і тут капіталістычныя дзяржавы па свойму падрыхтаваны да новай бойні. Па ўсіх буржуазных краёх маюцца асобныя вайсковыя часьці з падабраным сацыяльным

складам, створаны так званыя **рэзэрвовыя арміі**—кулацкія фашыстоўскія арганізацыі — гатовыя ў любы момант выступіць з аружжам у руках.

Аднак непамерна больш у параўнаньні з -914 г. падрыхтаваны цяпер і ўсьцяж падрыхтоўваецца рэвалюцыйны лягер. Цяпер існуе і ўзмацняецца апора міжнароднай рэвалюцыі—СССР, бадай ва ўсіх краёх дзейнічаюць баявыя рэвал. авангарды кампартыі, рэвалюцыйны рух рабочых і сялян усьцяж гартуецца і набірае сіл у магутных клясавых баёх. Аднак перамога можа быць абеспечана толькі пры несупыннай далейшай падрыхтоўцы і арганізацыі сіл пролетарскай рэвалюцыі

Падрыхтоўка да капіталістычнага выхаду з крызысу—імпэрыялістычнай вайны—ідзе поўным ходам і пагражае непараўнальна большымі злыбедамі, ахвярамі, сьмерцю для працоўных мас, чым гэта было ў першым туру імпэрыялістычных войн.

У часе бойні 1914-18 г.г. было зьнішчана 23 млн. чалавек, інакш кажучы, у адну мінуту забівалі 6 чалавек, а ў дзень—8.320. Дзесяць мільёнаў асталіся бяздомнымі; 9 мільёнаў дзяцей засталіся сіротамі. У аднэй Францыі за час вайны было зруйнавана 3,256 гарадоў і мястэчак; 319.000 жылых дамоў і 131.000 дамоў напалову зруйнаваных, зьнішчаны 20 буйных заводаў, 7.985 кілм. чугункі, 4.875 мастоў, 12 тунэляў і г. д.

Але гэтыя цыфры яшчэ не адбіваюць жудаснай сапраўднасьці, гэта толькі тое, што статыстыка змагла падлічыць. Яшчэ горш выглядае справа ў нас на Зах. Беларусі дзе хваля крывавай бойні перапілівалася па некульку разоў, дзе пята шматлікіх акупантаў няшчадна нішчыла і руйнавала вытворчыя сілы і сродкі прамысловасьці, сельскай гаспадаркі і прыродныя багацтвы краю. Жудасныя itогі імпэрыялістычных войнаў трэба ўсьцяж напамінаць працоўным масам, каб перашкодзіць міжнародным імпэрыялістам да паўтарэньня яшчэ больш жудаснай бойкі.

Рэч вачавідная, што і Польшча, зьяўляючыся перадавым атрадам міжнароднага імпэрыялізму, пад заслонай густога туману пацыфізму вядзе шалёную **тэхнічную, арганізацыйную і палітычную** падрыхтоўку да вайны. Выдаткі па дзяржаўнаму бюджэту ўсьцяж растуць: у 1923 г.—74 міл. зл., у 1928 г.—85 міл. зл., у 1930 г. — 95 міл. зл., у 1932 г., — ня гледзячы што бюджэт быў зьменшаны на 500 міл. зл, аднак ваенныя выдаткі засталіся ня зьменены. За гады фашыстоўскае дыктатуры на дарожнае будаўніцтва выдаткавана 140 м. зл., з гэтага 70 м. зл. праз гмінныя бюджэты, а ў адным 1932 г. — каля 100 м. зл., з якіх на дзяржаўны бюджэт толькі 1.540 тысяч зл., а рэшта з гмінных бюджэтаў. На ЗБ закончана пабудова стратэгічнай чыгункі Друя — Варапаева і распачата новая — Дзісна — Загацьце, Варапаева — Ліда.

На ЗБ у апошнія гады пабудавана 6 жалезных мастоў, пабудавана ў Баранавічах аграмадная бойня, якая магла-б абслужыць вялікі горад, а цяпер стаіць бадай зусім бяз ужытку. У Гайнаўцы будуецца вялікая скіпідарная фабрыка, якую лёгка перавесьці на выработку труючых газаў, а ў Пінску кансэрвная фабрыка ваеннага назначэньня. Цэлы шэраг мерапрыемстваў з боку ўраду маюць яскрава мілітарны, ваенны характар: фарсаваньне асадніцтва, перавядзеньне «Стральца» у дзяржаўную арганізацыю, мілітарызацыя чыгунак, пошты, школ, новы пашыраны закон аб даразных судох і забарона забастовак на чыгунках і ўсіх камунальных прадпрыемствах, увядзеньне ваенна-палявых судоў у войску, закон аб «стовазышэнях», узмацненьне падатковага прэсу і іншае.

З вялікім напружаньнем урад імкнецца скалаціць сваю так званую рэзэрвовую армію («Стралец», «ПВ», саюз рэзэрвістаў і інш.), якая па сутнасьці зьяўляецца складовай часткай узбройных сіл фашыстоўскай дыктатуры і якая ў 1931 г. налічвала 1.530.000 чалавек.

Апрача гэтага фашызм арганізаваў да 400.000 пажарнікаў (10.337 пажарных дружын), сярод якіх таксама праводзіцца палітычная апрацоўка, вайсковыя муштры і азнаямленьне з ваеннай тэхнікай. Вось некалькі даных паводле газэты «Армія ў рэзэрве» (Ліпень 1932 г.), якія адносяцца да ЗБ. Віленскае кола рэзэрвістаў налічвае 791 членаў, Сьвянцянскае—2.000 (22 кола, 9 дружын, 16 сьвятліц); у Палянах — 200 чл., Груздова (Пастаўшчына) — 194 чл., з якіх 2 афіцэры і 34 падафіцэры; у Дунілавічах—10 дружын; арганізацыі рэзэрвістаў маюцца ў Маладэчне, Палачанах, Аляхновічах, Аш-

мянах і г. д. А вось рост гэтых арганізацый на ЗБ: «Стралец» — 1929 г. 4.290 чл., а ў 1931 г. каля 7.000; у Пастаўшчыне у 1931 г. налічвалася 45 чл. рэзэрвістаў, а ліпень 1932 г. ужо 432 чл., а саюз рэзэрвістаў ва ўсёй Польшчы за адзін мінулы год вырас з 95 тысяч да 160 тысяч.

Вышэйпададзеныя цыфры паказваюць, як партыя, нягледзячы на спрыяючыя аб'ектыўныя варункі, слаба арганізуе адпорнасьць мас да стварэньня гэтых ваенных арганізацый, што трэба расцэньваць, як недаацэнку антываеннай працы.

Фашызм уцягвае ў свае ваенныя арганізацыі значныя масы, вядзе сярод іх сыстэматычную фашызацыю. Будзе адпавядаць сапраўднасьці, калі сказаць, што фашыстоўскія арганізацыі рэзэрвістаў ахопліваюць большыя масы, як «Стралец», пры гэтым месцам іх разьмяшчэньня зьяўляецца галоўным чынам вёска. Партыя па сутнасьці вельмі мала працуе па лініі арганізацыі рэзэрвістаў, хаця палітычны уплыў партыі сярод іх даволі значны. Прызваныя ў 13 полк уланаў (Нова-Вялейка) рэзэрвісты паставілі дамаганьні выдачы ім тытуню і дапамогі іх сем'ям. Ні пагрозы, ні ўгаворы афіцэраў не памаглі, змушаны быў прыехаць генэрал з Вільні, які выставіў рэзэрвістаў у шэрагі на пляцу і пад ахранаю войска пачаў іх супакойваць і ўгаварваць. Аднак, рэзэрвісты аднагалосна настайвалі на сваіх дамаганьнях і генэрал паабяцаў задаваленьня іх дамаганьняў.

Побач са сталымі вайсковымі і напоўвайсковымі фашыстоўскімі арганізацыямі фашызм паліцэйскім і эканамічным тэрарам змушае і рабочых з фабрык займацца пастаяннымі муштрамі. Напрыклад у Лунінцы ўсе 560 чыгуначнікаў належаць да ПВ; партавых рабочых ў Пінску, рабочых гумовай фабрыкі «Ардаль» у Лідзе запісываюць да «Стральца», а жанчын—да санітарных часьцей. Як падае «ІКЦ» работніц з мэталюргічных заводаў ў Варшавы ганяюць на два тыдні ў Сколю для ваенных муштраў. Пасол ББ Тышкевіч заяўляе ў «Слове», што «на крэсах павінны быць усе аднэй нагой у войску», а «тыдзен. аброны паньства» праведзены «Стральцом» прайшоў пад лёзунгам «ні аднаго грамадзяніна, які не належаў-бы да Стральца». Аб задачах ваенных арганізацый так піша «Армія ў рэзэрве» (Вільня):

**«Трэба стварыць такі маральны націск, стварыць такія абставіны, каб грамадзянін (абыватэль) ці грамадзянка, якія ня біруць актыўнага ўдзелу ў працы над падрыхтаваньнем рэзэрваў і ваеннага прыспасабленьня — пастаўлены былі за рамкі грамадзянскага, таварыскага жыцьця і мелі самае абмяжаванае немагчымае існаваньне».**

Статут саюзу рэзэрвістаў абавязуе

**«усямернае садзейнічаньне працы для дабра войска і змаганьне з усім, што перашкаджае працы арміі, пашырэньне ваеннай веды».**

Фашызм, даючы зброю ў рукі, стараецца максымальна абясьпечыць, гарантаваць сябе, каб гэтая зброя ня была зьвернута супроць яго. З гэтай мэтай вядзецца вышуканымі спосабамі ідэолёгічная апрацоўка. На ўслугах фашызму касьцёл, школа, друкаванае слова, мастацтва, сацыял- і нацыянал-фашызм. Падрыхтаванай базай для ідэолёгічнай апрацоўкі мас зьяўляюцца і кашары ды розныя фашыстоўскія арганізацыі. У арміі ня рэдка за кошт муштраў праводзіцца плянавае атручваньне салдат тым, што няма клясаў, а ёсьць адзін народ, айчына і што любоў да гэтай айчыны—гэта любоў да сваіх хат, поля, майстэрняў, фабрык. Адгэтуль — абарона айчыны і зьяўляецца абаронай сваёй уласнасьці. Прышчэпленьне дробнабуржуазных уласьніцкіх, шавіністычных навыкаў і перажыткаў зьяўляецца галоўным каньком у палітычнай апрацоўцы салдат.

Чым-жа займаюцца «Кулкі» вайсковых і напоўвайсковых арганізацый? У Віленскім саюзе рэзэрвістаў былі за зіму прачытаны лекцыі на такія палітычныя тэмы: што такое грамадзянства; што такое дзяржава; палітычны лад Польшчы; значэньне мора для Польшчы; абарона Вільні; роля салдата ў мірны час і т. п. Пастаўская арганізацыя правяла 96 лекцый, 13 дэфіляд за 5 месяцаў на розных фашыстоўскіх сьвятах, 47 спэктакляў, 52 вечарыны, 2 канцэрты, 15 кіно-сэансаў, сабрана 4.000 кл. бульбы і 47 злотых пад відам дапамогі для беспрацоўных і бедных. Гэтыя-ж «кулкі» ладзяць спартыўныя гульні, у якіх заманіваюць падарункамі, як папіросьніца, каробка для тытуню, кашалькі і т. п.

Наколькі ў руках фашызму нацыяналізм зьяўляецца яшчэ моцнай зброяй сьведчыць кампанія, праведзеная каля Данцыгскага пытаньня, калі фашызму ўдалося нават на ЗБ уцягнуць значныя

масы гораду і вёскі пад сьцягі польскага імпэрыялізму. Гэтая кампанія была **«пробнай мабілізацыяй фашыстоўскіх сіл, падвяла itoгi ідэолёгічнай падрыхтоўкі фашызму да вайны... выявіла недаацэнку партыі барацьбы з нацыяналізмам, асабліва з польскім вялікадзяржаўным шавінізмам** (VI пленум ЦК КПЗБ).

Кажучы аб падрыхтоўцы да вайны фашыстоўскага лягеру ў Польшчы, трэба з усёй сілай падкрэсьліць узрастаючую дапаможную ролю сацыял-народніцкаі нацыянал-фашызму ў гэтай падрыхтоўцы. Дапасоўваючы сваю тактыку да новых абставін, створаных паглыбляючымся крызысам і ростам рэвалюцыйнага руху, гэтыя агенты і саюзьнікі фашызму ідуць на ўсё большую сацыяльную і нацыянальную дэмагогію. ППС-аўскі «Роботнік» у гадавіну Кастрычнікавай рэвалюцыі зьмяшчае фатаграфію Леніна, выступаючага на мітынгу; Бунд агітуе за эміграцыю ў Біробіджан; БХД высоўвае ў сваёй праграме «дабравольную калектывізацыю»; Вітос кідае лёзунг — зямля бяз выкупу, а ўсе разам узмацняюць пацыфістычную прасавецкую фразэолёгію. Гэтую фразэолёгію падхоплівае правацкісцкая група і на ёй будуе сваю контррэвалюцыйную тэорыю, што сацыял-фашысты «ня ворагі, а часовы нятрывалы саюзьнік», што яны «з аднаго боку баяцца фашызму, а з другога—камунізму». Дэмагогія сацыял - і нацыянал-фашызму ні ў якім выпадку не азначае іх палявеньне, як гэта прадстаўляюць трацкісты, бо побач з «левай» пацыфістычнай фразай і «левых» манэўраў гэтая агентура фашызму ідзе на далейшае зрастаньне з фашызмам, выяўляе большае ажыўленьне ў падаўленьні рэвалюцыйнага руху і ў падрыхтоўцы вайны, ня спыняе траўлю аб «чырвоным імпэрыялізме» СССР.

Гэтая дэмагогія не перашкаджае паслу ППС Навіцкаму сказаць у сойме: «У часе вайны 1920 году было заяўлена: «салдат, ідзі на фронт, а як вернішся, атрымаеш надзел зямлі. Абяцаньне гэтага ня выканана»... Далей Навіцкі адзначае, што каб сялянскай беднаце ўдалося тады захапіць зямлю ,дык «сумляваюся ў тым, — заяўляе ён — ці можна было-б тады выйграць вайну». Орган ППС «Хлопска Праўда» лічa прыгоньніцкія шарваркі «культурна-гаспадарчым абавязкам сялян», а «Бел. Крыніца», ідэалізуючы Слуцкі антысавецкі бунт, ускладае надзею на такі «новы гістарычны чын», які «ажыцьцёвіць ідэалы» Слуцкага бунту.

Лепшым паказчыкам, як гэтыя «нятрывалыя саюзьнікі» будуць саюзьнічаць у часе вайны, зьяўляецца прадажная здрадніцкая работа японскіх сацыял-фашыстаў у цяперашней вайне з Кітаем. «Левы» с.-д. дэпутат Матсутані кажа:

> **«Апэрацыя японскіх войск у Манджуры ні ў якім разе не праводзіцца ў абарону капіталістычных інтарэсаў, наадварот, яны выкліканы неабходнасьцю вырашэньня нашай нацыянальнай праблемы».**

Арганізацыя японскай сацыял-дэмакратычнай моладзі апублікавала маніфэст, дзе кажа:

> **«На палёх Манджуры, дзе крыніцы сыравіны іграюць рашаючую ролю для японскай народнай гаспадаркі, мы наглядаем агрэсыўныя дзействы СССР, а таксама байкот японскіх тавараў з боку фэадальных кітайскіх генэралаў. Мы павінны спачатку пабудаваць на аснове народнай гаспадаркі нацыянальны сацыялізм для таго, каб пасьля паступова перайсьці к інтэрнацыянальнаму сацыялізму».**

Старшыня саюзу японскіх маракоў Хэмада заяўляе:

> **«Упартую пазыцыю Кітаю, які маючы надмерныя багацтвы, бязсэнсоўна адказываецца ад аддзяленьня Манжуры і Манголіі, нельга не назваць агідным буржуазным протэкцыянізмам».**

Падсобным атрадам польскага імпэрыялізму зьяўляюцца рускія белаэмігранцкія арганізацыі, якія найбольш разгалузьнены на ЗБ. На выбары ў папярэдні сойм белагвардзейскія арганізацыі правялі свайго адзінага ў Польшчы прадстаўніка ЗБ; на 9 рускіх гімназіяў у Польшчы на ЗБ прыпадае 6; усе белабандыты, якіх фашызм выкарыстоўваў для канфлікту з СССР, як Кавэрда, Палянскі, Вайцахоўскі і інш. паходзяць з белагвардзейскіх арганізацыяў ЗБ. Белагвардзейцы налічваюць у ЗБ некалькі сваіх каапэратываў, так называемае «Общество русской правды», маюць у Бярэсьці і Вільні свае газэты. Выкарыстоўваючы параўнальна меншую нацыянальную сьвядомасьць беларусаў, руская эміграншчына імкнецца пашырыць тут сваю базу, канцантруюць сілы каля сваіх арганізацый, з якіх фашызм стварае цяпер дывэрсыйныя банды проці СССР, а ў часе вайны будзе камплектаваць свае надзейныя штурмовыя атрады.

Пад'агульваючы напружанасьць сытуацыі, падмінаванай як ніколі перш выбуховымі матэрыялямі, пад'агульваючы гатоўнасьць ворага да вайны, узьнікае пытаньне, як стаіць справа падрыхтоўкі мас да ператварэньня імпэрыялістычнай вайны ў грамадзянскую, як партыя спраўляецца ў справе мабілізацыі мас за зрыў падрыхтоўкі вайны? На гэтыя пытаньні дае адказ VI пленум ЦК КПЗБ. Адзначаючы некаторае ажыўленьне антываеннай працы ў зьвязку з 1-м жніўня і кампаніі вакол Амстэрдамскага кангрэсу VI пленум кажа:

**Гэтыя нязначныя дасягненьні не зьменшаюць ПАГРАЖАЮЧАГА АДСТАВАНЬНЯ партыі ў справе мабілізацыі мас на барацьбу супроць імпэрыялістычнай вайны. Партарганізацыі ў штодзённай практыцы не праявілі належнай актыўнасьці ў дзеле мабілізацыі шырокіх мас на актыўныя выступленьні супроць узрастаючай пагрозы вайны, пранікненьня за сьцены кашар (скарачэньні партарганізацыі ў арміі), раскладу ваенных і напоўваенных фашыстоўскіх арганізацый, (асабліва сярод рэзэрвістаў), па замацаваньню сваіх пазыцый на вузлавых стратэгічных пунктах, чыгунках, буйных фабрыках, маёнтках.**

Усё гэта сьведчыць аб сур'ёзным прарыве на гэтым важнейшым вучастку працы партыі. І калі заўтра, пасьля заўтра выбухне вайна, а гэта зусім магчыма, ды яна нас захопіць зьнянацку не падрыхтаванымі.

Такі дрэнны стан працы партыі ў барацьбе супроць вайны ніяк нельга тлумачыць аб'ектыўнымі варункамі. Праўда, кіраўніцтва барацьбой працоўных мас за рэвалюцыйны выхад з крызысу, за зрыў падрыхтоўкі вайны ўскладняецца тым, што прыходзіцца зьдзейсьняць гэтае кіраўніцтва ў варунках акупацыйнага шыбенічнага рэжыму, у варунках лічбовай слабасьці пралетарыяту пры аграмадным дробна-буржуазным акружэньні, з якога фашызм найбольш чэрпае свае сілы ў барацьбе супроць рабочага руху і кamплектуе сваю армію.

Аднак, гэтыя труднасьці кампэнсуюцца высокім напружаньнем рэвалюцыйнага руху рабочых, сялян і салдат, шырокай сымпатыяй мас да Савецкага Саюзу. Ужо ня кажучы аб узрастаючай забастовачнай барацьбе пралетарыяту, аб большай арганізаванасьці і завастрэньню форм барацьбы сялянскіх мас,— на ЗБ маем шэраг масавых выступленьняў, накіраваных непасрэдна супроць вайны, у абарону СССР. Значны ўдзел мас у кампаніях, зьвязаных з барацьбой супроць вайны і абароны СССР 1-шы жнівень, 7 лістапада), усё чаьцейшыя факты дэманстрацый, паходаў да кашар (Вільня, Ружаны), увязка эканамічных баёў з барацьбой супроць вайны (прыняьцьцё рэзалюцыяў на мітынгах і выбар дэлегата на Амстэрдамскі кангрэс у часе забастоўкі беластоцкіх шаўцоў, барацьба супроць шарварак і падаткаў), братаньне салдат з рэвалюцыйнай масай, (пераход на бок дэманструючых беспрацоўных у Станіславове пасланага для падаўленьня атраду войска) урэшце ўсё больш частае забурэньне салдат у кашарах, — вось факты, якія паказваюць, што разгортваньне антываеннай барацьбы залежыць галоўным чынам ад актыўнасьці, сыстэматычнасьці, упорнасьці партарганізацыяў на мясцох. А вось гэтага не хапае нават у нашых лепшых арганізацыях, што зьяўляецца вынікам **«недаацэнкі ўсяе вастрыні міжнароднай сытуацыі і ўзрастаючай небясьпекі вайны»** (VI пленум).

Магутнае гаспадарчае і палітычнае ўзмацненьне СССР побач з уздымам міжнароднага рэвалюцыйнага руху пры ўсё паглыбляючымся гаспадарчым крызысе капіталістычнага сьвету, ствараюць у некаторых партыйцаў настроі, быццам буржуазія, быццам Пілсудзкі пабаіцца распачаць вайну, а значыць нечага вельмі завіхацца з барацьбой супроць вайны. Віленскі АК у сваёй справаздачы піша: **«у шэрагах нашае арганізацыі ёсьць выразная недаацэнка небясьпекі вайны, з якой выцякае недапусьцімая пасыўнасьць у дзеле разгартваньня антываеннай кампаніі».** Справаздача Беластоцкай камсамольскай арганізацыі кажа: **«Многія камсамольцы ня вераць у актуальнасьць пагрозы нападу на СССР».**

У сувязі з заключэньнем пакту аб нэагрэсіі буржуазія і сацыял- і нацыянал-фашызм падымаюць шум і балбатню аб «трывалым міры», аб «дабрасуседзкіх адносінах». Усё гэта можа выклікаць у некаторых пластох працоўных мас пацыфістычныя ілюзіі, зрабіць даўленьне на слабейшыя зьвеньні партыі і ў выніку адставаньня ў барацьбе супроць вайны стане яшчэ больш пагражаючым. Трэба своечасова з корнем вырываць гэты правы апартунізм на практыцы, які часта

прыкрываецца псэўдорэвалюцыйнасьцю быццам масы ўжо гатовы да ўзброінай барацьбы, быццам першы дзень вайны стане першым днём рэвалюцыі.

Задача партарганізацый і КСМ пастаянна, даступна, пераканаўча даводзіць масам агітацыяй і рэвалюцыйным прыкладам ленінскае разуменьне аб імпэрыялістычнай вайне, даводзіць, што буржуазія шукае выхаду з крызысу ў імпэрыялістычнай вайне, у нападзе на СССР і што ў інтарэсах працоўных мас пастаяннай арганізаванай барацьбой супроць эксплёататарскіх клясаў не дапускаць да гэтай вайны, ісьці да рэвалюцыйнага выхаду да пралетарскай рэвалюцыі, да зьнішчэньня капіталізму, а разам з ім і яго грабежніцкія войны.

Аднак, у нашай агітацыі супроць вайны маецца цэлы шэраг пахібаў, якія па сутнасьці даюць адʼемныя рэзультаты Каб пераканаць масы аб пагрозе вайны мы трафарэтна павярхоўна паўтараем, што вайна немінуча, вайна блізка. **«Толькі дні аддзяляюць ад новай бойні»** — кажа адна з адозваў ЦК КСМ ЗБ. Тое самае і ў дырэктывах партыйных, з мэтай завастрыць ўвагу партыі на барацьбу супроць вайны, часта неправідлова адарвана прапагандыстычна накіроўваецца ўвесь агонь барацьбы супроць вайны. З той-жа мэтай як у агітацыі, так і ў партыйных дырэктывах заклікаюцца масы да барацьбы супроць вайны, якой па сутнасьці ў варунках Польшчы яшчэ няма.

Такая пастаноўка барацьбы супроць падрыхтоўкі вайны не дасягае сваёй мэты, непераканаўча, прытупляе ўспрыняцьцё нашых лёзунгаў, не мабілізуе на барацьбу. Нярэдка можна чуць з боку мас, нават некаторых партыйцаў пытаньне: «Вось вы кажаце ўжо даўно аб вайне, а вайны дагэтуль няма».

Замест паўтарэньня аб пагрозе вайны неабходна на канкрэтных прыкладах як з гісторыі, так і з акружаючай абстаноўкі, міжнароднай сытуацыі даводзіць да разуменьня шырокіх мас клясавую сутнасьць вайны, растлумачваць, што грабежніцкая прырода капіталізму немінуча прыводзіць да вайны, што пакуль існуюць клясы эксплёататараў і эксплёатуемых вайна немінуча і тым яна бліжэй, чым вастрэй клясавыя і ўнутры капіталістычныя супярэчнасьці, чым вастрэй палітыка вызыску і прыгнячэньне. І калі вайны яшчэ да гэтага часу няма, дык гэта дзеля таго, што рэвалюцыйная барацьба міжнароднага пралетарыяту ўсьцяж крыжуе і зрывае крывавыя пляны буржуазіі, што мірная палітыка СССР ужо не раз дала па крывавых кіпцях міжнароднага капіталізму. **УСЯ** наша барацьба проці падрыхтоўкі імпэрыялістычнай вайны, у абарону СССР азначае ўзмацненьне рэвалюцыйнага руху на ўсіх вучастках рэвалюцыйнага фронту за штодзённыя патрэбы, за рэвалюцыйны выхад з крызысу, за заваяваньне большасьці рабочае клясы і ўсіх працоўных— барацьбу супроць арганізатара вайны — фашыстоўскага ўраду. Барацьба за зрыў падрыхтоўкі вайны **неаддзяліма ад барацьбы за рэвалюцыйны выхад,** адна другую папаўняе, адна з другой выцякае. Зваліць капіталізм — гэта значыць зьнішчыць вайну. Проці падрыхтоўкі вайны — падрыхтоўка рэвалюцыі.

Цяпер падрыхтоўка вайны настолькі прасякла ўсю фашыст. палітыку, што недапусьціма весьці барацьбу за штодзённыя дамаганьні без адначасовай барацьбы проці вайны і наадварот. Разьясьняючы клясавую сутнасьць вайны — імпэрыялістычная ў інтарэсах буржуазіі, грамадзянская пад кіраўніцтвам Кампартыі ў інтарэсах працоўных мас, — адначасна трэба падыходзіць з клясавага пункту гледжаньня і да барацьбы супроць падрыхтоўкі вайны, даказваючы на прыкладах як гэтая падрыхтоўка бʼе па інтарэсах працоўных мас і якія злыбяды для іх нясе імпэрыялістычная вайна.

Вайна—гэта прадаўжэньне палітыкі вызыску і ўціску ў найбольш вострых і яўных формах, а палітыка гэта не ёсьць нешта, як сказаў Ленін, «самодавлеющее», а сканцэнтраваная экономіка, значыць і барацьба проці вайны ня можа быць адарванай ад штодзённай эканамічнай барацьбы, ад сацыяльных патрэб працоўных мас, ад барацьбы за фабрыкі, зямлю і ўладу.

Вялікім тормазам у разгортваньні барацьбы супроць імпэрыялістычных плянаў буржуазіі зьяўляюцца праваенныя настроі. З месц паступаюць алярмуючыя весткі аб узмацненьні гэтых настрояў ня толькі сярод сялянскіх, але і рабочых мас і што гэтым настроям паддаюцца некаторыя камсамольцы і партыйцы. Вось як формулююцца праваенныя на-

строі: «на што нам змагацца супроць вайны, яна нясе нам рэвалюцыю. Вось, каб хутчэй вайна, атрымалі-б аружжа ды пабілі-б буржуазію. Бяз вайны не дамо рады з фашызмам».

Ня рэдка можна чуць нават сярод рабочых (Беласток), якія робяць дакор камуністам: «Чаму вы староніцеся вайны, вось глядзіце, Кастрычнікавая рэвалюцыя ўзьнікла ў ходзе вайны. Так будзе і ў нас». Перш-на-перш Камуністычная партыя не супроць вайны наогул, а за вайну грамадзянскую, рэвалюцыйную, за ўзбройную барацьбу рабочых і сялян як самую вострую і рашучую форму барацьбы. Далей, Кастрычнікавая рэвалюцыя не ўзьнікла сама сабой, а была **падрыхтавана вялікім напружаньнем энэргіі і сіл партыі бальшавікоў** яшчэ задоўга да вайны, а таксама і ў часе вайны. Імпэрыялістычная вайна ў 1914 г. была капіталістычным выхадам з эканамічнага і нарастаючага палітычнага крызысу, калі рабочая кляса ў Расіі і ў другіх пераходзіла ўжо да магутных палітычных стачак, вострых масавых выступленьняў. Агульная мабілізацыя, ваенна-паляўы рэжым, распаясаная шавіністычная агітацыя,—усё гэта ўнясло **ПЕРАБОЙ** ў разгортваньні рэвалюцыйнага руху. І толькі дзякуючы партыі бальшавікоў і яе правадыру Леніну, кінуўшых лёзунг — «паражэньне сваіх урадаў, братаньне салдат, пераутварэньне імпэрыялістычнай вайны ў грамадзянскую», дзякуючы падтрыманьню міжнароднага пралетарыяту, пры раскладзе падстаў царызму **выбухнула і перамагла** Кастрычнікавая рэвалюцыя.

Праваенныя настроі ў шэрагах партыі выяўляюцца не заўсёды адкрыта. Часьцей ўсяго яны скрытыя, маскуюцца пад розным відам і тым больш небясьпечны. Яны выяўляюць недаацэнку рэвалюцыйнага руху і няверра ў сілы партыі, чаканьне на дапамогу Чырвонай арміі, адрыў ад агульна-польскага рэвалюцыйнага руху, адгэтуль пасыўнасьць, што па сутнасьці ідзе на руку фашызму і яго заборчых плянаў. Усе гэтыя ўра-ваякі сучаснага моманту ў часе вайны скаваныя ваеннай дысцыплінай будуць цягнуць ярмо фашызму ў арміі, бо яны ціпер у штодзённай барацьбе ня будуць загартаваны, не навучацца як ламаць гэтую дысцыпліну, не навучацца мэтадам масавай барацьбы.

**«Толькі даводзючы на прыкладах штодзённай барацьбы, што партыя зьяўляецца адзіным правадыром усіх эксплёатаваных і прыгнечаных, што партыя гэта баявы кіруючы штаб ва ўзбройным паўстаньні рабочых і сялян,—можна ўкараніць у масах ўпэўненасьць і даверра да партыі, разьбіць іх апатыю і пасыўнасьць, узьнікаючыя ў выніку праваенных настрояў, разьбіць у партыйцаў, ахопленых праваеннымі настроямі, няверра ў свае сілы і сілы рэвалюцыйнага руху мас».** (VI пленум ЦК КПЗБ).

Найбольш яскравай недаацэнкай небясьпекі вайны зьяўляецца слабасьць працы ў арміі і недаацэнка працы сярод ваенных і поўваенных фашыстоўскіх арганізацый, а таксама слабасьць працы партыі сярод транспартнага пралетарыяту тых прадпрыемстваў, якія маюць ваеннае стратэгічнае назначэньне — камунальныя прадпрыемствы, хімічныя фабрыкі, аўта-рамонтныя майстэрні і інш.

У часе вайны ўся прамысловасьць мабілізуецца і пераводзіцца на ваеннае палажэньне, фабрыка становіцца часткай фронта, а пры цяперашнім разьвіцьці тэхнікі і мэханізацыі арміі фабрыка мае вялікае рашаючае значэньне на ход вайны. Вядомы ваенны буржуазны спэцыяліст Фулер выводзе, што для абслугаваньня аднаго салдата з вінтоўкай на фронце патрэбна паўтары рабочага ў тылу, на 25 танкавых салдат патрэбна 70 рабочых, на 25 лётнікаў — 125 рабочых.

Правільна падкрэсьліваецца ва ўсіх рашэньнях партыі, што фабрыка зьяўляецца падставай падстаў усёй нашай працы. Недастатковае кіраўніцтва партыі барацьбой пралетарыяту аслабляе ажыцьцяўленьне на дзеле гегемоніі пралетарыяту ў рэвалюцыйным руху працоўных мас. Дабіцца, каб пралетарыят на дзеле праводзіў кіраўніцтва рэвалюцыйнай барацьбой мас, асабліва пралетарыят буйнай прамысловасьці і прадпрыемстваў ваенна-стратэгічнага значэньня, зьяўляецца пастаяннай ударнай задачай партыі.

Уключэньне чыгуначнікаў—транспартнага пралетарыяту наогул у рэвалюцыйны рух мае аграмаднае рашаючае значэньне ў падрыхтоўцы пралетарскай рэвалюцыі, а ў часе вайны роля транспартнага пралетарыяту яшчэ больш увыдатняецца. На ЗБ, дзе налічваецца да дзесятка вузлавых станцыяў, чыгуначнікі зьяўляюцца найбольш шматлікім пралетарыятам. Да гэтага часу партыя яшчэ

ня здолела арганізаваць рэвалюцыйных масавых выступленьняў (чыгуначнікаў, шофераў, партовых рабочых у Пінску) асабліва ў часе манэўраў, карных экспэдыцыяў, перавозак войск на ЗБ, маршаўпаходаў «Стральца» і інш.

Фабрыкі, чыгункі, кашары павінны стаць крэпасьцю, апорнымі пунктамі партыі. Выбіць адтуль сацыял-фашыстаў і фашыстаў, арганізацыйна замацавацца там—вось адна з прадпасылак ліквідацыі адставаньня ў антываеннай працы, гэта ёсьць падставовы варунак зрыву падрыхтоўкі вайны і пасьпяховай падрыхтоўкі рэвалюцыі.

Паварот партыі фронтам да гэтых камандных высот павінна паслужыць не аслабленьнем на іншых вучастках, а яшчэ большаму ўзмацненьню барацьбы на ўсіх астатніх вучастках, павінна паслужыць выраўненьнем агульнага ўсебаковага контрнаступленьня працоўных мас на фашыстоўскую дыктатуру.

Асабліва дрэнна абстаіць справа арганізацыі барацьбы салдацкіх мас. Армія для фашыстоўскай Польшчы гэта найбольш чулае, апякуемае месца, гэта ўзбройная апора фашызму. Польшча першым чынам пастаўшчык гарматнага мяса для міжнародных імпэрыялістаў—гэта прызнае і генэрал Сікорскі:

**«Сучасны гістарычны момант зьяўляецца пераломным. Без перавялічэньня можна сказаць, што сёньня вырашаецца пытаньне: мір ці вайна. Трэба сказаць, што Польшча на выпадак ўзброенага канфлікта будзе пастаўлена перад фактам матар'яльнай перавагі сваіх ворагаў. Гэтай перавазе Польшча павінна проціставіць мэтазгодную абдуманую і дасканальна арганізаваную яшчэ ў мірных варунках ваенную падрыхтоўку, менавіта: ВАЕННАЕ КІРАЎНІЦТВА, ЯКОЕ АДПАВЕДАЕ СВАЙМУ НАЗНАЧЭНЬНЮ І ВАЕННЫЯ КАДРЫ, ВЫВУЧАНЫЯ ЛЕПШ ЧЫМ У СУСЕДЗЯЎ».**

Мы маем цэлы шэраг фактаў, калі фашызм усё часьцей ужывае армію ў падаўленьні рэвалюцыйнага руху, змушае салдат на штрэйкбрэхерства, а партыя да гэтага часу недастаткова проціставілася гэтым намерам фашызма, і гэта вынікае з слабай працы партыі сярод арміі. Ленін на II кангрэсе Камінтэрну казаў, што

**«Абавязак распаўсюджываньня камуністычнай ідэі мае ў сябе асабліва неабходнасьць настойлівай, сыстэматычнай прапаганды ў войсках. Адмаўленьне ад такой працы было-бы роўназначна здрадзе рэвалюцыйнаму абавязку і нясумяшчальнасьці з належнасьцю да III Інтэрнацыяналу».**

У нашай партыйнай практыцы часта наглядалася грубое нарушэньне партыйных дырэктыў і дысцыпліны ў працы сярод арміі і мясцовыя арганізацыі праяўлялі гнілы лібэралізм. У Беластоку два партыйцы адмовіліся ўзяць працу сярод салдат і АК на гэта не рэагаваў. На працягу 16 месяцаў партыяц-салдат у Вільні дабіваўся бяз выніку ад партарганізацыі дырэктыў і кіраўніцтва. Ня раз партыйцы маючы кантакты з арміяй не выкарыстоўваюць і затрачываюць іх. Такіх фактаў шмат. Што-ж чакаць ад такога тыпу партыйца ў часе вайны. У далейшым трэба пакончыць з такімі недапусьцімымі адносінамі да працы ў арміі. Беручы за падставу ленінскую пастаноўку неабходна рашуча, неадкладна рэагаваць на кожнае нарушэньне парт. указаньняў і дысцыпліны, уключна да орг. высадаў з шырокім апавяшчаньнем дзеля прыкладу і выхаваньня шэрагаў партыі.

Побач з гэтымі ад'емнымі фактамі маем шэраг фактаў геройскага ўзорна-бальшавіцкага прыкладу, калі партыйцы, будучы ў арміі высока трымалі сьцяг барацьбы. У Вільні быў растрэляны салдатпартыяц Літвіновіч, арыштаваны з парт. літаратурай. Перад растрэлам трымаў сабе па-геройску, праганяў ксяндза, горача прамаўляў да салдат, указваючы, што на яго месца паўстануць сотні і тысячы іншых рэвалюцыянэраў, а перад залпам крыкнуў—«няхай жыве рэвалюцыя». Аб гэтым выпадку, ня гледзячы на тое, што партарганізацыі своечасова ведалі, ня была паднята шырокая кампанія сярод працоўных мас, гэты выпадак не стаў выхадным пунктам дзеля разгортваньня антываеннай барацьбы і рэвалюцыйнага зьбліжэньня працоўных мас, гэты выпадак не стаў выхадным пунктам дзеля разгортваньня антываеннай барацьбы і рэвалюцыйнага зьбліжэньня працоўных мас з салдатамі.

Ня гледзячы на ўсямерныя запрэты і перасьцярогі з боку фашызму, каб зьберагчы армію ад стыку з рэвалюцыйнымі масамі, рэвалюцыйныя настроі сярод салдат **усьцяж разрастаюцца.** Недавольства салдат узьнікае на грунце катаржнага рэжыму ў кашарах і зьдзеку афіцэрства. У апошнія часы дзеннае ўтрыманьне салдата зьніжана з 1 зл. 30 гр. да 82 гр. Салдатам не даюць папірос, за пропуск у горад бярэцца 10 гр., за най-

меншае нарушэньне казарменнага ражыма ўскладаюцца штрафы, побач тым ускладаецца кара за ўжываньне роднай мовы, за нячыста польскі выгавар вайсковых тэхнічных прыладаў альбо пры рапарце. Вось балячкі штодзеннага кашаровага жыцьця, на грунце якіх ёсьць шырокая магчымасьць мабілізаваць на барацьбу салдацкія масы і арганізаваць гэтую барацьбу.

Перад партарганізацыямі на мясцох стаіць неадкладная задача ўсямерна **пранікнуць** за сьцены кашар, павесьці там рэвалюцыйную працу **па раскладу** польскай імпэрыялістычнай арміі, наладзіць цесьнейшую сувязь у барацьбе салдат і шырокіх працоўных мас. Дабіцца гэтага трэба як шляхам барацьбы ўнутры кашар, так і з боку шырокіх працоўных мас.

Другім вучасткам, няменш важным, але таксама зусім запушчаным зьяўляецца праца партыі па раскладу ваенных і напоўваенных фашыстоўскіх арганізацый. Мясцовыя арганізацыі партыі і КСМ, калі вядуць дзе працу, дык галоўным чынам сярод «Стральца», а сярод іншых такога-ж тыпу арганізацый, як фашыстоўскі саюз рэзэрвістаў, жаночыя ваенныя арганізацыі і інш., праца не вядзецца. Ды і праца сярод «Стральца» не вядзецца ўпорыста і сыстэматычна. Аб недаацэнцы працы сярод гэтых фашыстоўскіх арганізацый сьведча справаздача Берасьцейскага КСМ:

> «У Бярэсьці за апошні час адбыўся раскол у «Стральцы». КСМ ня толькі нічога не зрабіў, каб перахапіць гэтыя настроі недавольства і выкарыстаюць іх дзеля аканчальнага развала арганізацыі, але аб гэтым нічога нават ня ведаў».

У Гдыні летам адбыўся цэлы ваенны кангрэс, дзе было звыш 80.000 дэлег. ад розных ваенных арганізацый. Ад Віленшчыны і Навагрудчыны прысутнічала 1000 легіянэраў, прыехаўшых спэцыяльным цягнікам. Перад гэтым кангрэсам праводзілася падрыхтоўчая праца на мясцох, а партаргнізацыі ніяк не рэагавалі.

Арганізацыі на мясцох павінны ўсьвядоміць сабе,што праца па раскладу «Стральца», саюзу рэзэрвістаў і іншых зьяўляецца складовай часткай працы ў арміі, працы па раскладу ўзбройных сіл фашыстоўскай дыктатуры. Трэба выкарыстаць тое нарастаючае нездавольства і абурэньне сярод працоўных мас, якія ўваходзяць у гэтыя арганізацыі і ня толькі адцягнуць іх адтуль, але і ўцягваць у рабоча-сялянскія арганізацыі — саюз пабаровых, рэзэрвістаў, спартыўныя, самаабарону, чырвоных ганцоў і інш.

Нечага даводзіць, што ў апошнія часы пацыфістычная балбатня праводзіцца буржуазіяй і сацыял-фашызмам, як ніколі перш — чым гусьцей туман пацыфізму, тым бліжэй вайна. Даходзіць да таго, што нават старосты (гл. «Чырвоны сьцяг № 8 — карэспондэнцыя з Косаўшчыны) выдаюць адозвы, запэўняючы масы аб міралюбівай палітыцы фашыстоўскага ўраду. Змагацца супроць буржуазнага і сацыял-фашыстоўскага пацыфізму — гэта значыць дэмаскаваць яго канкрэтнымі фактамі падрыхтоўкі буржуазіі да вайны, яе паклёпы супроць СССР, прыкладамі з гісторыі аб ашуканстве і здрадзе мас з боку буржуазіі і сацыял-і нацыянал-фашыстаў. Трэба даводзіць да-ведама шырокіх мас тое, што кажуць аб вайне капіталісты, ушчэмленыя ў цiскі крызысу. Ня буду паўтараць вядомага імпэрыялістычнага пляну прэм'ера міністраў Японіі Танака і неаднакратныя заявы Мусаліні, што язык гармат павінен замяніць дыплёматыю мірных канфэрэнцый. Подамо тут некалькі шчыра выказаных думак капіталістаў і іх пісак. Амэрыканскі эканаміст Малеры так піша:

> «Ані водзін урад ніколі яшчэ ня спыніў ні аднаго крызыса іншым шляхам, як толькі вайной. Падобны выхад з крызысу прадстаўляе сабой небясьпеку, аднак, будзе больш небясьпечна не зрабіць гэтага».

Былы міністр фінансаў Францыі Пальнад на сваім публічным дакладзе зачвіў, **«што адзіным сродкам барацьбы з беспрацоўем зьяўляецца новая размашыстая вайна».**

Ідэолёг амэрыканскіх міліянэраў Бебітон заяўляе ў прэсе:

> «Калі я прабую знайсьці практычнае дзела, якое магло-б вярнуць на зямлю добрыя часы, я знаходжу толькі адзін сродак: нам патрэбна новая вайна, якая працягвалася-б больш, забіла-б больш людзей, зруйнавала-б больш гарадоў і царквей і абыйшлася-б даражэй, чым апошняя вайна».

Духоўнікі ўсіх рэлігіяў складаюць малітвы за

> «пераможнасьць нашым гарматам, нявідзімасьць самалётам, цякучасьць і паўсюднасьць газам».

Неабходна ўсьцяж тлумачыць масам, якая розьніца паміж балбатнёй клясава-

га ворага аб міры і чалавекалюбія, яго байкамі аб гуманасьці, што мае на мэце ўсыпляць барацьбу мас, рабіць іх паслухмянай прыладай у руках пануючых клясаў і паміж пасьлядоўнай барацьбой СССР і Камінтэрна за мір, супроць імпэрыялістычнай вайны. Трывалы пастаянны мір магчымы толькі пры дыктатуры пралетарыяту, пры зьнішчэньні эксплёататарскіх клясаў. **Мір не здабудзеш мірным шляхам.** Да такога міра ляжыць шлях крывавай зацятай барацьбы, барацьбы супроць імпэрыялістычнай вайны, якую можна перамагчы ўзброенай грамадзянскай рэвалюцыйнай вайной. Камуністы за грамадзянскую вайну, за ўзброенае паўстаньне рабочых і сялян. Бо толькі ўзброенай сілай можна выбіць аружжа з рук клясавага ворага, перамагчы яго фізычна, а з ім і яго пастаянныя крывавыя пляны і работу.

Пастановы VI пленуму ЦК КПЗБ, а таксама і папярэднія пастановы ЦК КПП ды ЦК КПЗБ даюць шэраг канкрэтных задач, узбраіваюць партыю бальшавіцкай тактыкай у барацьбе за зрыў падрыхтоўкі вайны і ператварэньне імпэрыялістычнай вайны ў вайну грамадзянскую супроць капіталістаў, абшарнікаў і фашыстоўскай акупацыі.

Але мала прыняць, вывучыць рэзалюцыю. Рэзалюцыя гэта толькі пачатак, першы крок у правядзеньні лініі партыі. **«Сутнасьць партыйнага кіраўніцтва выяўляецца менавіта ў выкананьні рэзалюцыі і дырэктыў»** (Сталін). Каб зрушыць з месца антываенную барацьбу мас, неабходна сыстэматычная праверка выкананьня дырэктыў партыі ва ўсіх яе зьвеньнях і кожнага камуніста паасобна; рашучы адпор і асуджэньне ўсялякіх адгаворак быццам антываенная праца гэта дзела ваеннага аддзелу, альбо зьвядзеньне яе да працы толькі сярод салдат і т.п. Уся партыя зьверху данізу павінна ўсьвядоміць сабе адказнасьць і важнасьць антываеннай працы і пранізаць ёю ўсю барацьбу мас за свае штодзённыя дамаганьні.

Партыя мае ўсе дадзеныя як суб'ектыўнага, так і аб'ектыўнага парадку, каб ліквідаваць пагражаючае адставаньне на важнейшым вучастку сваёй дзейнасьці.

---

**ТРЭБА РАЗГАРНУЦЬ ШЫРОКІ МАСАВЫ ПРАТЭСТАЦЫЙНЫ РУХ, ШЫРОКУЮ МАСАВУЮ БАРАЦЬБУ СУПРОЦЬ КРЫВАВАГА ФАШЫСТОЎСКАГА ТЭРАРУ, СУПРОЦЬ СТАЎШЫХ ШТОДЗЁННЫМ ЗЬЯВІШЧАМ НАДЗВЫЧАЙНЫХ СУДОЎ, ШЫБЕНІЦ, ЗАБОЙСТВАЎ І КАТАВАНЬНЯЎ ПАЛІТВЯЗЬНЯЎ, СУПРОЦЬ НОВАГА КАРНАГА КОДЭКСУ І АБВОСТРАНАГА ВАСТРОЖНАГА РЭЖЫМУ, СУПРОЦЬ КАРНЫХ ЭКСПЭДЫЦЫЙ І РАСТРЭЛАЎ. НІВОДЗІН ФАКТ КРЫВАВАГА ТЭРАРУ НЕ ПАВІНЕН ЗАСТАЦЦА БЕЗ АДПОРУ ПРАЗ МАСАВЫЯ ВЫСТУПЛЕНЬНІ, МІТЫНГІ ПРАТЭСТУ, ДЭМАНСТРАЦЫІ, ЗАБАСТОЎКІ. З ПАСЫЎНАСЬЦЮ ПАРТАРГАНІЗАЦЫЙ НА ГЭТЫМ ВУЧАСТКУ ЯК НАЙХУТЧЭЙ ТРЭБА СКОНЧЫЦЬ!**

(З пастаноў VI пленуму ЦК КПЗБ).

С. В.

# Забастоўка ў Белавежскай Пушчы.

У варунках шыбенічнага рэжыму і прыгоннага вызыску асабліва значэньне набірае гераічная забастоўка лясных рабочых у Белавескай Пушчы. Забастоўка гэтая, якая праходзіла з выключным запалам з масоўкамі і сутычкамі з паліцыяй, заслугоўвае спэцыяльнай увагі. Яна ня толькі ўзьняла на барацьбу адзін з самых адсталых пластоў рабочае клясы, лесарубаў, але ўцягнула ў стачку малазямельных сялян-возчыкаў. Стачка ўзварушыла сялян акаляючых вёсак, выклікала дапамогу з боку прамысловых рабочых, адгукнулася рэхам нават у кашарах. Тыя абставіны, што Белавеская Пушча належыць дзяржаве, надавала стачцы глыбока палітычны характар. Дзякуючы сваёй упорлівасьці і баявому характару, стачка закончылася частковай перамогай лесарубаў.

Лясныя рабочыя ў Белавескай Пушчы працуюць у жахлівых варунках. Дзеля аблягчэньня для сябе эксплёатацыі дзяржава, апрача мясцовых рабочых, якія родам з суседніх беларускіх вёсак, наймае рабочых з карэннай Польшчы, і такім чынам прабуе стварыць нацыянальную грызьню сярод рабочых. Урадам пушчан ў ход цэлы апарат шпіянажу і тэрарызаваньня рабочых. У гэтай справе дапамагаюць фашыстоўскаму ўраду былыя балахоўцы і пятлюроўцы, працуючыя ў вялікай колькасьці ў Белавескай Пушчы. Але трэба адзначыць што за апошнія гады рэвалюцыйным элемэнтам у паасобных выпадках удаецца ўцягваць шэраговых рабочых з былых контррэвалюцыянэраў у барацьбу рабочае клясы.

А барацьба гэтая працягваецца на Пушчы нясупынна,—то ледзь прыкметная, то выбухаючы вялікім полымем. У рабочых Пушчы няма кватэр—яны туляцца ў зямлянках, што пакінулі немцы ў часе сусьветнай вайны. За гэтыя маленькія кануры ўрад ня чураецца спаганяць вялікую кватэрную плату. Хто ня можа плаціць, выкідваецца вон: хай жыве ў пабудаванай ім самым шалашы, альбо зямлянцы. Пры гвалтоўным высяленьні нярэдка даходзіць да крывавых сутычак з уладамі. Рабочыя Пушчы, што жывуць у буйнейшым у Польшчы лесе, не атрымліваюць дрэва ані на маленькія пабудовы, ані на апал яны павінны пакупляць яго па высокіх цэнах у дырэкцыі лясных распрацовак. Па - прычыне так званага «крадзяжа» лесу, праводзімага як рабочымі Пушчы, гэтак і сялянамі суседніх вёсак, насельніцтва падлягае праследваньню, зьбіваньню і арыштам. Сярод рабочых гадамі цягнецца барацьба за атрыманьне ад дзяржавы кавалку зямлі на агароды, якую лясьнічаства дае толькі ў выключных выпадках. Рабочыя Пушчы, чорныя ад дыму кастроў, прасякнутыя пахам смалы, абросшыя і пакрытыя лахманамі, выклікаюць пры сваім паяўленьні на станцыях чыгункі жах сярод сытых буржуазных пасажыраў.

У 1932 г. рабочыя Пушчы атрымоўвалі за 8-гадзінны рабочы дзень 80 гр., пры 12-гадзінным рабочым дні яны маглі зарабляць 1 зл. 20 гр. Максымальныя заробкі за спэцыяльныя работы не перавышалі 1,40 зл. пры 8-гадзінным і 2 зл.—пры 12-гадзінным рабочым дню. Жанчыны і моладзь атрымоўвалі яшчэ менш. Пры такіх мізэрных заробках рабочыя абавязаны прынасіць з сабой пілы, тапары і г. д. Лесарубы, нягледзячы на тое, што яны працуюць усяго толькі 6 меся-

цаў у год, не застрахованы ад беспрацоўя і не атрымоўваюць ніякіх дапамог. Яны таксама пазбаўлены ўсялякай мэдыцынскай дапамогі і ня маюць права карыстацца «касамі хорых».

Такія варункі даводзілі лясных рабочых Белавескай Пушчы некалькі разоў у працягу апошніх гадоў да забастовачнай барацьбы. Але ніколі яшчэ барацьба ня была так упартай, ніколі яшчэ роля кампартыі не выступала так яскрава, як у сучаснай забастоўцы.

Ужо ў лістападзе месяцы, калі лясныя работы толькі пачаліся (летам работы былі спынены і толькі жанчыны выходзілі на ачыстку леса, атрымоўваючы за гэта 25 гр. у дзень), адчувалася сярод рабочых моцнае незадаваленьне. Пепеэсаўцы, якія акапаліся ў Белавескай Пушчы, імкнуліся стаць на чале руху, узяць яго ў свае рукі і прыдаць яму мірныя формы. Яны пусьцілі ў ход усякага роду левыя фразы, паслалі ў Пушчу аднаго з сваіх «левых» верхаводаў Дзібуа, які даўным-даўно арудуе сярод лесарубаў Пушчы. У зьвязку з настроем сярод рабочых, пепеэсаўскі прафсаюз арганізаваў нарады праўленьняў сваіх аддзелаў, пасылаў дырэкцыі Пушчы то лісты, то дэлегацыі. Аднак, настрой сярод рабочых усьцяж завастраўся. У пепеэсаўскім прафсаюзу, які налічвае 500 сяброў, узьніклі апазыцыйныя элементы, якія нягледзячы на ўсе сваі хістаньні, імкнуліся да барацьбы.

Дзякуючы працы кампартыі ў лесе адбыліся бурныя масоўкі рабочых, на якіх выступалі паасобныя камуністы і члены профлевай, заклікаючы да забастоўкі. Не зважаючы на арышты, што праводзіла паліцыя сярод самых актыўных рабочых, рух узрастаў. У Пасудзкіх Будах рабочыя прынялі рашэньне распачаць забастоўку і хацелі дэманстратыўным паходам накіравацца ў турму, каб вызваліць арыштаваных. Пепеэсаўцы, бачучы, што ім без забастоўкі не абыйсціся, рашыліся ўрэшце абвясьціць яе на 1-е лістападу. Забастоўка адразу-ж ахапіла ўсіх лесарубаў Пушчы, г. зн. 4.000 чалавек, раскінутых на тэрыторыі 1.000 кв. клм. Рабочыя выставілі наступныя патрабаваньні: 1) тарыф з 1930-31 г. (што азначае павялічэньне зарплаты на 50 проц.), 2) 8-гадзінны рабочы дзень, 3) пэнсіі ў часе беспрацоўя, 4) мэдычную дапамогу з «Касы хорых», 5) аплачваньне распілаваньня дрэва, не зважаючы на тое, што яно акажацца гнілым.

Ня гледзячы на страшэнны тэрар (масавыя арышты, зьбіваньні і катаваньні, забойства аднаго з бастуючых Тарасевіча ў дэфэнзыве), ня гледзячы на спробы зламаць забастоўку пры дапамозе штрэйкбрэхераў, не зважаючы на ППС, якая ўвесь час пробавала сарваць забастоўку, рабочыя трымаліся амаль два месяцы і выйгралі стачку: павышэньне зарплаты, лекарскую дапамогу абавязалася даваць дырэкцыя, а патрабаваньне зямлі пад агароды, пашы, дрэва — таксама былі задволены. Але з прычыны таго, што ўмова ахапіла толькі лесарубаў, а не датычыць сялян-беднякоў, то апошнія ў ліку 3.000 чалавек з 15 вёсак працягваюць барацьбу і ўжо трэці месяц бастуюць*).

Забастоўка выбухла на грунце платформы, распрацаванай профлевай. Палітычныя ўплывы камуністаў у Пушчы былі аграмадныя. Але разам з тым, арганізацыйнае афармленьне гэтага ўплыву было невыстарчальным. Партыя пасьпяхова змагалася за самастойнае кіраўніцтва забастоўкі, вырываючы яго на некаторых адрэзках барацьбы з рук ППС. Аб гэтым сьведча вынятка з ніжэй прыведзенай партсправаздачы:

**«2-га сьнежня 32 г. лясьнічы прывёў штрэйкбрэхераў. Забком заклікаў масы на барацьбу з штрэйкбрэхерамі і выгнаў іх вон з лесу разам з бандытам лясьнічым. Уначы таго-ж дня паліцэйскія бандыты забралі аднаго актыўнага таварыша, якога страшэнна каталі і выбілі два зуба, думаючы катаваньнем запалохаць масу і зламіць іх гатоўнасьць да забастоўкі. Пабіўшы яго, як ім хацелася, яны выпусьцілі яго на волю, але Пружанскі бандыт-стараста патрабаваў яго да сябе. 3-га сьнежаня 32 г. зьявіліся два паліцэйскіх бандытаў і хацелі зноў арыштаваць таго-ж таварыша, але сабраўшыся натоўп з 40-50 чалавек не далі яго арыштаваць. Тады бандыты сталі прасіць і далі слова ня біць і нават не заводзіць на пастарунак, а накіраваць яго прама ў Пружаны. Той таварыш згадзіўся. Маса на вачох бандытаў дала яму**

*) У часе вёрсткі артыкулу атрымана паведамленьне аб пераможным заканчэньні забастоўкі возчыкаў.

фурманку і сабрала грошы на прадукты, вызначыўшы адначасова двух дэлегатаў для ахраны, якія павінны былі суправаждаць гэтага таварыша, пагражаючы паліцыі, што калі будуць біць, тады ўсе пойдуць у партызаны і пачнуць з лесу біць паліцыю. Паліцэйскія бандыты давялі таварыша да пастарунку і даўшы яму паперку, накіравалі ў Пружаны бяз варты. Стараста, зьняўшы з яго допыт, пусьціў яго дамоў. Бандыт-лясьнічы, карыстаючыся гэтым момантам і думаючы, што вёска запалохана, прывёў назад штрэйкбрэхераў, але сяляне, сабраўшыся да 40 чал., выгналі вон іх з лесу, паламаўшы ім пілы і сякеры. Уначы зьявіўся атрад паліцыі ў 40 чал. і арыштавалі 8 чал., у тым ліку і таварыша, якога бралі раней, і пайшлі.

Забкомы напракі правадыроў ППС заклікалі дэманстраваць 10 сьнежаня 32 г. ППСаўскія правадыры, баючыся падарваць давер'е да сябе ў сваіх паноў, пайшлі на ўступкі і падпісалі ўмову: безьзямельным 30 проц., а малазямельным 15 проц., а патрабаваньне рабочых было 50 проц.

10-га сьнежаня сабралося чалавек 300, але тут паявіліся два прадстаўніка Акр. Камітэту ППС, да дэманстрацыі не дапусьцілі і сталі заклікаць масы ісьці на працу. Але масы з абурэньнем адкінулі гэта і на месцы на мітынгу выбралі свой забком з 30 чал. і парашылі баставаць далей да перамогі, за выраўненьне зарплаты ўсім шляхам павышэньня яе на 30%; ППС'аўцы, бачучы, што іх здрадніцкі замер не ўдаўся, кінуліся на хітрасьць і адзін пепеэсавец Грыневіч далучыўся да бастуючых, баючыся выпусьціць масы са сваіх здрадніцкіх лап, і назначыў сход забкома на 29-XII. На сходзе забкома пепеэсаўскі брахун зноў хацеў зламаць забастоўку, запэўняючы што сяляне не прымалі ўдзелу ў забастоўцы і былі штрэйкбрэхерамі. Забастовачны камітэт адкінуў гэтае яго выступленьне. Тады пепеэсавец Грыневіч паставіў на агульнае галасаваньне пытаньне — баставаць далей ці не. Усяго членаў было 39, 15 галасавала за забком, 6—супроць, а астатнія ўстрымаліся. Тады Грыневіч заявіў, што ўстрымаўшыяся таксама супроць забастоўкі. Члены камітэту запратэставалі і паднялі рукі ўсе за забком. Забком пад кіраўніцтвам нашых таварышоў парашыў ісьці ў вёскі і агітаваць сялян за далучэньне да забастоўкі. Сяляне прымалі ахвотна і замест 12 вёсак прыступіла да забастоўцы 39, а ў 8 вёсках абралі забкомы. ППС'аўскія правадыры бачучы сваю няўдачу, адсталі і цяпер на сходзе забкома зусім не прыходзяць, палохваючы іх тым, што яны кіраваць забастоўкай зусім ня змогуць за выключэньнем толькі аднаго ППС'яка, старшыні саюзу «пжемыслу джэвнегой, які падтрымоўвае бастуючых і хоча правесьці ў жыцьцё свой брыдкі замер. Забком назначых на 12-і сход дэлегатаў, на які сабралося 100 чал. і парашылі баставаць далей, вызначылі камісію дапамогі, якая павінна зьбіраць прадукты для галадуючых стачачнікаў па вёсках і далучыліся да забастоўкі возчыкаў, патрабуючы 50% падвышкі. Сход скончыўся пяяненьнем рэвалюцыйных сьпеваў. Агульны забком Белавежу заклікае ўсіх рабочых да забастоўкі салідарнасьці праз галавы ППС, гэтых вядомых усім здраднікаў

На сходзе часовага РК пастанавілі выбіць з рук ППС'аўцаў трымаўшае праз іх кіраўніцтва забастоўкай і паказаць іх здрадніцкі твар масам. Пад кіраўніцтвам нашай арганізацыі забастоўка ўсільваецца, з кожным днём далучаюцца новыя вёскі бастуючых. Праводзіцца сбор грошаў на патрэбы забкома».

Мясцовая партарганізацыя прыклала ўсе сілы дзеля здэмаскаваньня здрадніцкай тактыкі пепеэсаўцаў. Сацыял-фашысты адказвалі камуністам рознастайнымі манэўрамі. Паміж іншым, яны ўжылі, бадай упяршыню ў Польшчы, наступны мэтад. На сваіх партсходах пепеэсаўцы зачытывалі нелегальныя лістоўкі кампартыі, крытыкавалі паасобныя месцы, абвяшчаючы, што з такім ці іншым месцам яны згаджаюцца,—клалі на лістоўках сваю пячатку і прыкладвалі іх да протаколу. Такім чынам яны прабавалі стварыць у масах уражаньне, быццам, яны вельмі нямногім адрозьніваюцца ад камуністаў. Адначасова пепеэсаўцы распускалі чуткі, што лясьнічаства мае паддастаткам лішнія рабочыя рукі, бо няма дарогі для падвозкі лесу, і што з гэтай прычыны забастоўка зьяўляецца безнадзейнай. Яны ўвесь час вялі агітацыю за шпаркае заканчэньне барацьбы і прапаноўвалі рабочым згадзіцца на ўрадавы

арбітраж. Бачучы ўзрастаючы ўплыў камуністаў, яны выдалі супроць кампартыі спэцыяльную лістоўку. Дзеля замацаваньня сваёй пазыцыі, яны ў той-жа час заяўлялі, што дырэкцыя лясных распрацовак адмаўляецца весьці перагаворы са старшынёю пепеэсаўскага прафсаюзу **Песяком,** бо ён — гэты майстра левай фразы і здрадніцтва — быццам зьяўляецца занадта рэвалюцыйным для капіталу.

Кампартыя пастаянна растлумачвала масам, што толькі левае кіраўніцтва, вылучанае непасрэдна з мас, можа давесьці барацьбу да перамогі. Не задавальняючыся аднэй агітацыяй, камуністы імкнуліся да стварэньня такога кіраўніцтва, г. зн. да выбару стачачных камітэтаў праз саміх бастуючых. Спачатку гэта было зьвязана з вялікімі цяжкасьцямі, з прычыны таго, што нашых ячэек сярод рабочых ня было і існавалі толькі сярод сялян акаляючых вёсак. Сяляне-партыйцы праяўлялі вялікую актыўнасьць, выступалі на склікаемых праз прафапазыцыю масоўках і праводзілі правільную палітычную лінію, але ня маючы ніякага вопыту ў кіраўніцтве стачачнай барацьбой, ня ўсюды дабіліся выбараў стачачных камітэтаў і камітэтаў дапамогі бастуючым. Ня гледзячы на гэтыя цяжкасьці, профлевай ўдалося стварыць напракі шалеючаму тэрару, тры забастовачных камітэты сярод лесарубаў (Пасуцкія Буды. Гданск, Чарлянкі). Стачкомы абіраліся на масавых сходах бастуючых. Калі праўленьне пепеэсаўскага прафсаюзу прыступіла да перагавораў з дырэкцыяй, профлевая прапанавала масам абіраць паўсюды дэлегатаў для правядзеньня гэтых перагавораў. Такія дэлегаты былі высунуты ў шмат мясцох. Стачкомы і дэлегаты мала-па-малу ператварыліся ў сапраўдных правадыроў забастоўкі. Яны арганізавалі пікеты бастуючых і самаабарону, змагаліся з штрэйкбрэхерамі якіх арганізоўваў урад. Яны пасылалі ў суседнія вёскі рабочых, якія праводзілі прапаганду на карысьць бастуючых і ўгаварвалі сялян ня прымаць працы на лесапілках. Гэтая кампанія праходзіла з вялікім посьпехам, тым больш, што ў ёй прымаў удзел аграмадны лік бастуючых. І вось, напрыклад, у Гайнаўцы рабочым удалося затрымаць навербаваных праз дырэкцыю сялян вёскі Нароўка, якіх яна наняла на працу, не гаворачы ім нічога пра адбываючуюся забастоўку і абяцаючы, што калі праца ім неспадабаецца, яны атрымаюць 10 злотых на дарогу назад. Пасьля растлумачальнай працы ўсе сяляне адмовіліся выканаць штрэйкбрэхерскую работу, пайшлі ў кантору і калектыўна патрабавалі, каб іх адправілі назад. Дырэкцыя прымушана была задаволіць іх патрабаваньне, выплачваючы ім абяцаныя 10 злот. У другім месяцы, як паведамляе адзін з рабочых карэспандэнтаў лясьнічаства навербавала здалёку рабочых, якія прыняліся за працу. Але яны атрымалі ад рабочых добрую навуку з боку бастуючых, якія хаця галодныя і змораныя паказалі сваю сілу і салідарнасьць: яны паламалі штрэйкбрэхерам 9 піл і прагналі іх з лесу.

Забастовачныя камітэты і дэлегаты стаялі на чале кампаніі салідарнасьці і дапамогі, праводзімай сярод сялян акаляючых вёсак. Сяляне адгукнуліся на барацьбу рабочых зборам харчоў, пасылалі ня гледзячы на сваю жудасную нэндзу, вазы з бульбай і хлебам бастуючым. У Новым Гданску сяляне прывезьлі бульбы, не маглі дачакацца бастуючых рабочых, якія ўсе былі расстаўлены ў лесе ў якасьці пікетчыкаў. Тады яны зарганізавалі па ўласнай ініцыятыве масоўку жонак бастуючых. Сабралася каля 30 жанчын, якім сяляне расказвалі, скуль узялася гэтая дапамога. Яны адмежаваліся ад сацыял-фашызму, заяўляючы, што збор праводзіў не пепеэсаўскі прафсаюз, а рэвалюцыйныя сяляне і патрабавалі, каб не чапаць прывезеную бульбу, пакуль не паявіцца забастовачны камітэт і разьдзеліць яе справядлівым чынам. Перад ад'ездам яны разьвіталіся з жанчынамі з выкрыкам: «Няхай жыве забастоўка!» Улады неаднакраць пробавалі канфіскаваць харчы, падвадзімыя сялянамі, што прыводзіла да сутычак і да рэзалюцый пратэста з боку бастуючых.

Бачучы ўзрастаючы ўплыў забастовачных камітэтаў, паліцыя прыступіла да іх арышту. Вось што піша з гэтага повада вышэйпамянёны рабкор: «Адзін забастовачны камітэт, а менавіта ў Пасуцкіх Будах, быў арыштаваны. Паліцыі гэта ўдалося таму, што ў данны момант у гэтым раёне знаходзілася мала рабочых. Але калі паліцыя прынялася арыш-

тоўваць другі забастовачны камітэт у Чарлянцы, гэта ёй не удалося, дзякуючы энэргічнаму выступленьню ўсіх рабочых супроць паліцэйскай улады, якая павінна была ўцякаць, як мышы, без ніякай для сабе карысьці».

Ня гледзячы на тэрар фашыстоўскай дыктатуры і манэўры пепеэсаўцаў, кіраўніцтва, абранае масамі існавала і ўзмацоўвалася. Удалося арганізацыйна сканцэнтраваць два забастовачных камітэты. Скліваліся канфэрэнцыі стачкомаў і абраны дэлегаты. Дэлегаты змусілі пепеэсаўцаў дапусьціць іх на канфэрэнцыі з дырэкцыяй Пушчы. Аб ходзе перагавораў дэлегаты інфармавалі бастуючых на масавых скліканых імі сходах. Пепеэсаўцы дарэмна пробавалі браць дэлегатаў на сваю вудачку; правільная тактыка прафлевай згуртавала гэтых людзей вакол рэвалюцыйнага крыла. Калі перагаворы пачалі зацягвацца, агульны сход дэлегатаў пастанавіў «спыніць канфэрэнцыю з саноўнікамі капіталу і выступіць разам усёй масай 10 сьнежня дэманстрацыйна пад дырэкцыю дзяржаўных лясоў» (з рэзалюцыі агульнага сходу дэлегатаў). Гэтае рашэньне было падпісана 20-ю дэлегатамі і адаслана інспэктару працы. На наступны дзень адбыліся справаздаўчыя сходы, на якіх дэлегаты паведамлялі аб прынятым рашэньні. Бастуючыя аднадушна адобрылі прынятае рашэньне. «Пасьля справаздачы прадстаўніка нашага раёну маса пераканалася, што толькі масавымі выступленьнямі можна паправіць шкоду, нанесеную ёй дырэкцыяй урадавых лясоў». (З пратаколу сходу ў Новым Гданску ад 8-XII).

Пастановы канфэрэнцыі дэлегатаў і водгук, які яна знайшла ў масах вырашыла лёс забастоўкі. Капітал зрабіў усё, каб не дапусьціць да завастрэньня і пашырэньня барацьбы. Напярэдадні рыхтуючагася паходу ўсіх бастуючых пад дырэкцыю, 9-га сьнежаня была падпісана калектыўная ўмова. У канфэрэнцыі з дырэкцыяй прымала ўдзел 14 дэлегатаў і тры члены праўленьня пепеэсаўскага прафсаюзу. Такім чынам дэлегаты дабіліся прызнаньня іх уладамі і яны менавіта арганізаваным чынам закончылі забастоўку. Усе падставовыя патрабаваньні рабочых былі задаволены.

За ўвесь час забастоўкі камуністы пробавалі расшырыць барацьбу па-за межамі Белавежа. Неабходнасьць зьвязацца з рабочай клясай добра зразумелі самі забастовачныя камітэты. Маюцца весткі аб пасылцы ад імя стачкому аднаго з бастуючых да чыгуначнікаў буйнага чыгуначнага вузла ў Лапах.

Кампартыя Заходняй Беларусі вяла цьвёрдую лінію на злучэньне забастоўкі ў Пушчы з рухам прамысловых рабочых. Па ініцыятыве камуністаў адбыліся сярод тэкстыльшчыкаў у Беластоку шматлікія сходы. Не зважаючы на супраціўленьне пепеэсаўскіх правадыроў, якія мелі нахабнасьць сьцьверджаць перад рабочымі, што ніякай забастоўкі ў Пучы наогул няма, тэкстыльшчыкі пачалі зьбіраць грашовую дапамогу, абіралі камітэты салідарнасьці, пасылалі да бастуючых сваіх дэлегатаў. У пратаколах сходаў бастуючых маецца шэраг квіткоў на атрыманыя стачкомам ад тэкстыльшчыкаў грошаў. Адну з гэтакіх квіткоў прыводзім поўнасьцю: «Мы, лясныя рабочыя, Белавескай Пушчы атрымалі грошы ў ліку 100 злотых ад рабочых г. Беластоку для падтрыманьня нашай забастоўкі. Мы бастуем ужо 5 тыдняў і будзем баставаць аж да поўнай перамогі пад кіраўніцтвам справядлівых і чэсных рабочых; выганім вон з нашых шэрагаў здрадніцкіх правадыроў сацыял-фашыстаў, падобна Дзібуа і інш. Няхай жыве забастоўка аж да перамогі! Няхай жыве пралетарыят Беластоку! Далоў здрадніцкую работу сацыял-фашыстаў! Пасылаем пралетарскае прывітаньне рабочым Беластоку і пралетарскую падзяку!»

Партарганізацыі, разгортваючы кампанію салідарнасьці, не абмежаваліся арганізацыяй грашовых збораў; яны пробавалі выклікаць забастоўкі салідарнасьці, што ім часткова ўдавалася. І вось, напрыклад, 200 шаўцоў Беластоку на поўдня кінулі працу, выражаючы гэтай палітычнай стачкай сваю салідарнасьць з бастуючымі Пушчы. Зьвязваючы пякучыя мясцовыя патрэбы і мясцовыя забастоўкі, перадусім у тэкстыльшчыкаў з барацьбой лесарубаў, камуністы ставілі выразна пытаньне аб аднадзеўнай усеагульнай забастоўцы ў Беластоку.

Пепеэсаўцы, аклапочаныя як папулярнасьцю, якую набірала кампанія салідарнасьці, узьначальваемая камуністамі, гэ-

так і разьмерамі агітацыі за ўсеагульную забастоўку, прыбеглі да новых «левых» манэўраў. Бачучы, што тактыка замаўчваньня забастоўкі ў Пушчы ні да чаго не вядзе, яны прапанавалі рабочым сабраць грошы для бастуючых, але... адсылаць іх у праўленьне пепеэсаўскага прафсаюза лясных рабочых. У той-жа час яны пачалі пагаварваць аб неабходнасьці арганізаваньня аднадненай забастоўкі салідарнасьці ва ўсім Беластоцкім ваяводзтве, але заяўлялі, што цяпер час для яе яшчэ не насьпеў, што трэба яе лепей арганізацыйна падрыхтаваць і г.д. Камуністы давалі адпор гэтым здрадніцкім мэтадам сацыял-фашызму.

Кампанія салідарнасьці пры рупнай ініцыятыве кампартыі ахапіла шырокай хваляй рабочых і адбілася нават у казарах. Група рэвалюцыйных салдат піша з гораду бастуючым Пушчы: «Дарагія браты! Даведаўшыся аб тым, што вы знаходзіцеся ў вагні барацьбы з нашым супольным ворагам — капіталістамі, мы, група салдат, шлем вам братэрскае прывітаньне з пажаданьнем стойкасьці ў барацьбе аж да перамогі. У данны момант мы пазбаўлены магчымасьці дапамагчы вам матарыяльна. Наш вораг ганяе нас па цэлых днях, а нават ноччу і калі толькі яму ўздумаецца. Пры дапамозе надзвычайных судоў, фашыстоўскай дысцыпліны, кормяць нас сухарамі, напоўненымі чарвякамі і зупай «галоп», толькі каб не паміраць з голаду. Вораг аддзяляе нас калючым дротам ад акаляючага жыцьця, за сьценамі кашар; не дазваляе нам чытаць газэт, выходзіць на вуліцу, кантралюе нашы лісты ад сваякоў, каб мы толькі не даведаліся аб адбываючыхся рэвалюцыйных баёх. Аднак, мы дапамагаем вам тым, што, знаходзячыся ў арміі, не перастаем змагацца з нашым супольным ворагам. Ворагу здаецца, што калі прысудзіць 26 салдат у Вільні на шматгодную катаргу, калі будзе расстрэльваць салдат за кожнае слова, дык гэта нас устрымае ад рэвалюцыйнай барацьбы. Для нас няма ўжо жаху. Пойдзем разам з вамі супроць нашага супольнага ворага — капіталістаў, за справу рабочых і сялян».

У чым выявіліся асноўныя слабасьці кіраўніцтва партарганізацыі забастоўкай у Пушчы?

Перадусім, паасобнымі зьвеньнямі партыі былі дапушчаны памылкі ў адносінах да ППС. Пры правільнай установцы на дэмаскоўваньне ППС, на штодзённую барацьбу за самастойнае кіраўніцтва, усё-ж у арганізацыі меліся хістаньні як правага, гэтак і сэктанцкага характару, якія выявіліся асабліва яскрава пры пытаньні аб апазыцыі ўнутры ППС. Апазыцыя гэтая паўстала незалежна ад кампартыі і профлевай, яна была вельмі нясьпелай, не хацела адмежавацца канчаткова ад правадыроў і г. д., але ў той-жа час не згадзілася распаўсюджываць пепеэсаўскай лістоўкі, скіраванай супроць камуністаў. Мясцовыя таварышы рашылі, што гэтая апазыцыя зьяўляецца чарговым левым манэўрам ППС, што яна створана штучна «левымі» правадырамі Дзібуа і Пасякам, і пробавалі знайсьці на падставе адзінага фронту шляху да рабочых апазыцыянэраў. Замест таго, каб шляхам штодзённай працы пераконваць іх у правільнасьці рэвалюцыйнага шляху барацьбы, у правільнасьці камуністычных лёзунгаў, у здрадзе рабочай клясе з боку іх правадыроў, камуністы пробавалі камандаваць імі і хацелі, каб яны адразу-ж сталі стопрацэнтнымі камуністамі, забываючы, што толькі на вопыце барацьбы, на вопыце канкрэтных фактаў дзейнасьці іх правадыроў, камуністы могуць пераканаць іх у сваёй праваце, у хлусьлівасьці левых фраз і манэўраў іх правадыроў і іх партыі, і, што толькі тады для іх стане зразумелым патрабаваньне выступаць супроць сваіх правадыроў і парваць са сваімі партыямі.

Адначасна з гэтым лявацкім, сэктанцкім адносінам да апазыцыі, выступалі і права-апартуністычныя тэндэнцыі: паасобныя камуністы лічылі, што могуць не выступаць перад масамі, бо іх выратоўваюць апазыцыянэры. Гэтыя тэндэнцыі былі тым больш небясьпечныя, што ў шырокіх масах існавала думка, што «ППС—гэта паскудная партыя, але затое Дзібуа дасканалы чалавек».

Вось што гавораць па гэтаму поваду «Партработнік» № 1, 1933 г.

«Апартуністычныя хістаньні ў адносінах да ППС знайшлі сваё выяўленьне ў невыстарчальным здэмаскаваньні левых манэўроў ППС, а ў паасобных выпадках нават у ілюзіях у адносінах да іх левай фразы. Сярод нашых таварышоў былі чутны нават такія галасы, як напры-

клад: «Ма' быць трэба устрымацца ад крытыкі Пасяка, бо-ж ён выступае амаль-што як камуніст». Пасяк і яго таварышы карысталіся гэтым і нахабна ашуквалі рабочых».

Партарганізацыі на мясцох не здалелі стварыць цэнтральнага забастовачнага камітэту, які аб'яднаў-бы ня толькі мясцовыя забастовачныя камітэты, але і ўсіх высунутых масамі дэлегатаў. Гэта аблягчала пазыцыю ППС: дэлегаты нявопытныя ў барацьбе часта не маглі супроцьставіцца манэўрам ППС. Кіруючы значнымі масамі бастуючых, партыя аказалася недастаткова сільнай, каб адсунуць пепеэсоўскае кіраўніцтва забастоўкай, не змагло цалкам узяць кіраўніцтва ў свае рукі.

«Партработнік», такім чынам, крытыкуе недахопы, зробленыя парт. кіраўніцтвам забастоўкай.

«Заместа таго, каб неадкладна і рашуча ўзяцца за арганізацыю цэнтральнага забастовачнага камітэту, ці пераняцьце гэтых функцыяў адным з нізавых стачкомаў, папоўненым дэлегатамі ад другіх, — зьдзейсьненьне гэтай важнейшай задачы адкладалася з дня на дзень і ўрэшце зусім ня было зрэалізавана. Таксама былі праяўлены нерашучасьць і хістаньні адносна арганізацыі дэманстрацыі, што зьяўлялася падставовым варункам расшырэньня і абвастрэньня стачкі, залогам яе перамогі».

У той час пры правільнай лініі на расшырэньне забастовачнага руху камуністам не ўдалося ўцягнуць у стачку працуючых побач з лесарубамі і непасрэдна з імі зьвязаных рабочых дзяржаўных тартакоў. Нягледзячы на рэвалюцыйны настрой сярод рабочых тартакоў, камуністы паставілі пытаньне аб іх удзеле ў барацьбе ў залежнасьці ад хода перагавораў з дырэкцыяй лясоў і недастаткова гэтую барацьбу арганізавалі. Тое-ж самае адносіцца да рабочых хэмічнай прамысловасьці, якая таксама разьвіта ў Пушчы.

У Беластоку, ня гледзячы на цьвёрдую ўстаноўку партыйнага кіраўніцтва, асобныя зьвеньні партыі не разумелі палітычнага значэньня ўвязкі стачкі ў Пушчы з забастоўкай тэкстыльшчыкаў Беластоку і па-апартуністычнаму сьцьвярджалі, што быццам сярод тэкстыльшчыкаў неадпаведныя настроі. Дзякуючы такой недаацэнкі сытуацыі, партыя не змагла выкарыстаць бурнай забастоўкі тэкстыльшчыкаў у Сокол-Зільбэрфэніга, якая праходзіла ў той час у форме захопа фабрыкі. Беласт. арганізац. недастаткова цьвёрда вяла курс на рэалізацыю агульнай забастоўкі, хаця стачка вялася ня толькі пад эканамічнымі, але і пад палітычнымі лёзунгамі (напрыклад: вызваленьне арыштаваных стачачнікаў), камуністы ня здолелі зьвязаць барацьбы рабочых і сялян Белавежу з барацьбой супроць нацыянальнага ўціску, які зьяўляецца набалелай справай шырачэзных мас на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Агульная слабасьць партыі ў барацьбе супроць акупацыі выявілася і ў гэтым выпадку.

Зрабіць вывад апошняй барацьбы тым больш важна, што забастоўка ў Пушчы далёка не закончана. Па атрыманых ў апошні час вестках дырэкцыя адмаўляецца выконваць умовы паводле калдагавору. Выбух новай барацьбы вельмі магчымы. Вопыт мінулай барацьбы дасьць магчымасьць бязумоўна перамагчы памылкі і павесьці рабочых Белавежу разгорнутым фронтам на барацьбу з капіталам.

Забастоўка ў Белавежы мае аграмаднае значэньне. VI Зьезд КПП гаворыць аб тым, што «падставовым зьвяном рэвалюцыйнага ўздыму зьяўляецца адпор што ставяць рабочыя масы шалёнаму наступу капіталу, супраціўленьне, якое пераходзіць на некаторых адзінках у **контрнаступленьне супроць фашыстоўскай дыктатуры і капіталізму».**

Паасобныя элементы гэтага контрнаступленьня маюцца і ў забастоўцы Белавескай Пушчы. Гэтая забастоўка бязумоўна ўздыме барацьбу працоўных мас Заходняй Беларусі на вышэйшую ўсходку.

# Пытаньні камсамолу Заходняй Беларусі.

У канцы сьнежня 1932 году адбыўся пашыраны пленум Выканкому КІМа, а яшчэ перад ім — VI Зьезд КПП і VI Пленум КПЗБ.

У аснову рашэньня Пленума КІМ'а і Зьезду нашай партыі легла наступная цэнтральная задача, пастаўленая XII Пленумам ВККІ: «Менавіта таму, што тэрміны для насьпяваньня рэвалюцыйнага крызысу кароткія, зьяўляецца неабходным, не трацячы ні хвіліны, узмацніць і прысьпяшыць бальшавіцкую масавую працу над заваяваньнем большасьці рабочае клясы, над узьняцьцем рэвалюцыйнай актыўнасьці пралетарыяту».

Гэты тэзіс прасякае ўсе рашэньні вышэйшых інстанцый партыі і камсамолу, гэтая ўстаноўка павінна стаць **кіраўніцтвам да чыну** ў практычнай штодзённай працы нашага камсамолу, усіх яго арганізацый, кожнай ячэйкі і кожнага камсамольца.

Пленум КІМ'а праходзіў пад знакам бальшавіцкай самакрытыкі, накіроўваючы ўдары па важнейшаму недахопу камсамольскіх сэкцыяў, па адрыву ад мас, па сэктанцтву ў формах і мэтадах працы, сэктанцтву, якое пераплятаецца і ўсільвае галоўную права-апартуністычную небясьпеку і цягненьне ў хвасьце падзеяў.

У нашым артыкуле ставім сабе на мэце закрануць некалькі праблем КСМ ЗБ на падставе вышэйпрыведзенага асноўнага ўказаньня пленума КІМ'а, зразумела, не вычэрпываючы ў адным артыкуле гэтых пытаньняў, тым больш, што гэты артыкул пішацца яшчэ да паяўленьня рашэньняў пленума КІМ'а.

Пленум КІМ'а, VI Зьезд КПП і VI Пленум ЦК КПЗБ ставіць перад камсамолам задачу пэратварэньня КСМ у сапраўды масавую арганізацыю з моцным касьцяком фабрычных і фальварычных ячэяк, стаць на чале забастовачных баёў моладзі, разьбіць масавую базу сацыял - і нацыянал - фашыстоўскіх і фацыстоўскіх арганізацый моладзі, задачу заваяваньня ў бліжэйшы **пэрыяд большасьці рабочай моладзі.** Не як агульная дырэктыва, не як пытаньне далёкай пэрспэктывы, а як канкрэтную задачу дня, для ажыцьцяўленьня якой неабходна накіраваць і перабудаваць работу ўсіх арганізацый. У сучаснай сытуацыі, калі «непасрэдна падыходзім да рэвалюцыйнага крызысу», ажыцьцяўленьне ў найкарацейшы час гэтай задачы вырашае аб выніках і ролі камсамолу ў надыходзячых баёх.

VI пленум, падкрэсьліваючы шэраг заваёваў КСМЗБ, якія выразіліся «у колькасным ўзросьце КСМ, ва ўзьняцьці ініцыятывы арганізацыі ў штодзённай барацьбе, асабліва ў кіраўніцтве шэрагам забастовак, у ажыўленьні за апошні час антываеннай працы», — адначасна з асаблівай сілай ускрывае асноўныя недахопы КСМ «асабліва ў кіраўніцтве эканамічнай барацьбой рабочай моладзі і ў галіне нацыянальна-вызваленчага руху»

Радыкалізацыя моладзі адбываецца паскоранымі тэмпамі, палітычны ўплыў Кампартыі і КСМ вырас. Але таму што партыйныя арганізацыі слаба кіруюць камсамолам, што камсамол часта ня замацоўвае арганізацыйна гэтыя ўплывы і пранікнут у значнай меры сэктанцтвам,—таму клясавы вораг трымае яшчэ ў сваіх сетках значныя пласты працоўнай моладзі; вораг тут асабліва ўмее прыстасавацца да радыкалізуючайся моладзі: асабліва ашуканчай «левай» фразай, і клюбам, і спортам і г. д.

Цяпер, калі рэвалюцыя шпарка нарастае, барацьба паміж пралетарыя-

там і буржуазіяй, паміж кампартыяй і фашызмам і сацыял-фашызмам за моладзь — асабліва завострана. Партыйныя арганізацыі на мясцох часта недаацэньваюць маладзёжнага вучастку барацьбы, усе палагаюцца на КСМ, забываюць аб неабходнасьці кіраўніцтва з боку партыі, часта нават губляюць сувязь з камсамольскімі арганізацыямі. Перад усёй партыяй, як кіраўніком камсамолу, перад кожнай партарганізацыяй і партыйцам стаіць ва ўсёй вастраце пытаньне заваяваньня для рэвалюцыйнага руху шырокіх мас моладзі, дапамагаючы КСМ у перамажэньні сэктанцтва ў яго шэрагах, яго адставаньні ад рэвалюцыйнага руху моладзі.

## ЗЬЛІКВІДАВАЦЬ АДСТАВАНЬНЕ КСМ У ЭКАНАМІЧНЫХ БАЁХ

Усе асноўныя слабасьці КСМ самым адчувальным чынам выявіліся ў сувязі з падзеямі апошніх месяцаў у агні клясавай барацьбы. Самым пагражаючым для КСМ зьяўляецца той факт, што ў буйных забастоўках тэкстыльшчыкаў Беластоку (нават пасьля вурокаў усеагульнай забастоўкі), у забастоўках гутнікаў, шаўцоў, у апошняй ґераічнай забастоўцы 4.000 белавескіх рабочых, дзе рабочая моладзь бязумоўна прымала актыўны ўдзел у гэтых баёх, — роля камсамолу была вельмі нязначнай. Асноўнымі прычынамі гэтага зьяўляюцца: апартуністычная недаацэнка на практыцы справы заваяваньня моладзі буйных прадпрыемстваў, адрыў КСМ ад рашаючых буйных і сярэдніх прадпрыемстваў, г. зн. значны адрыў ад **асноўных мас** рабочай моладзі, сэктанцтва, апартуністычная пасыўнасьць на практыцы. У Беластоку, напрыклад, камсамол праводзіў акцыю маляроў, арганізаваў моладзь дрэваапрацоўшчыкаў, прыступіў да арганізацыі мэталістаў у дробных прадпрыемствах, — справа важная, — але ў той-жа самы час было прапушчана **асноўнае**: адбылася забастоўка на гуце, моладзь прымала актыўны ўдзел, а роля камсамолу нязначная, існуючая тады ячэйка КСМ слаба рэагавала. Яшчэ горш з забастоўкамі тэкстыльшчыкаў, дзе камсамол пры пасрэдстве новай тэкстыльнай ячэйкі не арганізаваў забастоўкі. Той факт, што ў апошняй сапраўды ґераічнай забастоўцы 4-х тысяч рабочых лесарубаў і 3-х тысяч сялян возчыкаў у Белавежы,—на працягу першых 3-х тыдняў вядзеньня забастоўкі беластоцкі ўпаўнаважаны і АК КСМ не пробавалі нават зьвязацца з Гайнаўскай арганізацыяй — гаворыць аб надзвычайна небясьпечнай недаацэнцы ў КСМ ролі і значэньня буйных забастовак. Той факт, што пасьля хаця позьняга рэагаваньня, становішча да канца забастоўкі некалькі палепшылася, (прыступілі да арганізацыі ячэйкі КСМ з лясных рабочых, правялі забастоўку на вузкай калейцы, выбралі забастовачны камітэт); той факт, што пры пачатку той-жа забастоўкі ў Белавежы партыя таксама ня мела, або амаль-што ня мела арганізацыйных сувязяй, а ў ходзе барацьбы, ставячы сабе ўдарныя задачы, усётакі ўзмоцнілася арганізацыйна і адыграла аграмадную кіраўнічую ролю ў гэтай барацьбе; — гэтыя факты паказваюць, што пры ўмелай арганізацыі і канцэнтрацыі сваіх сіл можна дасягнуць аграмадных рэзультатаў.

**Канцэнтраваць нашы сілы і дзеяньні перш за ўсё на рашаючых буйных і сярэдніх прадпрыемствах — канкрэтызуючы задачы кожнай ячэйкі ў гэтай галіне, — вось першая наша задача.** Гэта задача выступае зараз перад усім КСМ шмат вастрэй, актуальней і непасрэдней, чым калі-б то ні было, бо стаім перад непасрэднай пагрозай застацца ў хвасьце нарастаючых новых падзей.

«Забастовачная барацьба пралетарыяту зьяўляецца ў сучасны момант падставовым зьвяном рэвалюцыйнага ўздыму. Акрамя некаторых дасягненьняў камсамол ня здолеў ухапіцца за гэтае зьвяно». (VI пленум). Камсамол мае шэраг дасягненьняў у кіраўніцтве забастоўкамі, напрыклад Варапаева-Друя, якая мела палітычны і антываенны характар, забастоўкі сэзоньнікаў, тартачнікаў і інцшыя, — кіраўніцтва камсамолам у гэтых забастоўках вельмі важнае, — але і тут КСМ як-бы падмяняў партыю, слаба высоўваючы патрабаваньні моладзі, органы барацьбы моладзі. Вопыт і аналіз праведзеных акцый, іх добрыя бакі і слабасьці, як жывы прыклад для іншых арганізацый, трэба спапулярызаваць і выкарыстаць для ўсяго КСМ.

Адно з падставовых варункаў у кіраўніцтве эканамічнымі баямі ёсьць **сыстэ-**

**матычная ўпартая падрыхтоўка** эканамічнай барацьбы рабочай моладзі. Не чакаць, пакуль забастоўка выбухне, пакуль застане нас зьнянацку. Пасыўнае апартуністычнае чаканьне характарызуе шмат якія зьвеньні нашых арганізацый. Нават нашы кіруючыя органы КСМ часта ставяць пытаньні канкрэтных задач (не аб забастоўках наогул — аб гэтым шмат гаворыцца), тады і там, дзе забастоўка ўжо выбухла. Трэба загадзя сыгналізаваць, дзе і калі насьпявае забастоўка, як і дзе загадзя канцэнтраваць сілы, **даць ініцыятывы і кіраўніцтва.** Напрыклад, у справаздачы Пінскага КСМ, гаворачы аб тым, чаму там няма эканамічных акцый, спасылаецца на «пагрозу рэдукцыі і што неарганізаваныя рабочыя не адказваюць выступленьнем». Такім чынам віна перакладваецца на рабочых. У той-жа самы час, калі Пінская арганізацыя нічога не рабіла для таго, каб арганізаваць забастовачную барацьбу. Апартунізм на практыцы, свая пасыўнасьць прыкрываецца «пасыўнасьцю мас». Бязумоўна, труднасьці маюцца, але справа менавіта КСМ, каб **зарганізаваць** незарганізаваную моладзь, **перамагчы** існуючыя цяжкасьці. Факт актыўнага але ў значнай меры стыхійнага ўдзелу ў забастоўках шырокіх мас рабочай моладзі самым яскравым чынам гаворыць аб неабходнасьці **ўзмацненьня менавіта актыўнай ролі КСМ у справе падрыхтоўкі і кіраўніцтва забастоўкамі.**

Наша падрыхтоўка часта зводзіцца да голай абстрактнай агітацыі за эканамічную барацьбу наогул. Сапраўдная-ж падрыхтоўка забастоўкі азначае **арганізацыю яе,** азначае ўмела выставіць **патрабаваньні моладзі,** адно-два пякучых патрабаваньні, найбольш усяго актуальных для данай часткі моладзі ў даны момант, каб то былі патрабаваньні, высунутыя самой моладзьдзю, тыя за якія яна гатова змагацца.

Мы яшчэ не навучыліся і ня ўмеем высоўваць сапраўды пякучыя, канкрэтныя патрабаваньні моладзі, а там нават, дзе мы гэта робім, абмяжоўваемся толькі агітацыяй за гэтыя патрабаваньні. А справа ў тым, каб ня толькі агітаваць, але **змагацца за іх правядзеньне ў жыцьцё,** дамагаючыся канкрэтных вынікаў, выбіраючы на падставе адзінага фронту зьнізу **органы барацьбы, забастовачныя камісіі моладзі** пад кіраўніцтвам агульных забкомаў, каб разам са старэйшымі рабочымі дасягнуць **канкрэтных вынікаў,** каб на падставе патрабаваньняў моладзі арганізаваць і кіраваць забастовачнай барацьбой, пашырыць і завострыць гэтую барацьбу. Неабходна выкарыстоўваць таксама вопыт КСМП, дзе, напрыклад, у Лодзі забастоўка моладзі і забком моладзі былі пачаткам забастоўкі на ўсёй фабрыцы, дзе былі ўцягнуты і старшыя рабочыя, а забкоммол, выбраны моладзьдзю, выбран такжа ўсімі рабочымі, як частка агульнага забкома.

Неабходна ўмасавіць маладзёжную профлевую, стварыць юнсэкцыі пры рэвалюцыйных і рэфармісцкіх прафсаюзах, змагацца супроць сэктанцкага адносіньня і недаацэнкі работы ў прафсаюзах, супроць незразуменьня неабходнасьці ствараць юнсэкцыі пры рэфармісцкіх саюзах там дзе ёсьць масы моладзі і супроцьстаўленьня іх сацыял - фашыстоўскім верхавінам. Наскольки глыбока ўкаранілася сэктанцтва і апартунізм на практыцы ў нашых шэрагах, гаворыць тое, што калі нядаўна ў тым-жа Беластоку прыступілі да арганізацыі юнацкай сэкцыі пры прафсаюзе тэкстыльшчыкаў знашліся камсамольцы, якія пасьля таго, як убачылі варожае адносіньне да юнсэкцыі з боку Капітулкі— пепеэсаўскага правадыра прафсаюзу, паддаліся, гаварылі: «ужо нельга гэтага правесьці», «ідзем толькі на авантуры».

КІМ і VI Зьезд з асаблівай сілай высунулі пытаньне аб працы ў рэфармісцкіх прафсаюзах, аб стварэньні юнацкіх сэкцый пры рэвалюцыйных прафсаюзах і барацьба за юнсэкцыі ў рэфармісцкіх прафсаюзах. Без правядзеньня ў жыцьцё гэтых рашэньняў, без рэалізацыі таго, што кожны камсамолец павінен быць членам прафсаюзу—ня зьдзейсьнім нашай задачы кіраўніцтва эканамічнымі баямі рабочай моладзі, задачы заваяваньня яе большасьці.

Яшчэ горш стаіць справа з нашай мабілізацыяй беспрацоўнай моладзі гораду і вёскі. Мы часта і тут «агітуем» за агульныя патрабаваньні, як «дапамога для моладзі ў разьмеры зарплаты», ня лічучыся з канкрэтнымі варункамі, калі напрыклад зарплата моладзі была сьмешна нізкая, або часта тэрмінатары наогул ніякай зарплаты не атрымоўвалі, не кажу-

чы ўжо аб шырокіх масах беспрацоўнай і галоднай моладзі, якія раней наогул не працавалі. Мы часта ня ведаем дзе знаходзіцца беспрацоўная моладзь, шукаем па схэме ў ПУППах, там дзе моладзі адносна мала, дзе яе нават не рэгіструюць, а на справе беспрацоўная моладзь знаходзіцца ў кухнях для беспрацоўных, **локалях і клюбах варожых арганізацый** (дзе «цяплей, весялей», але затое лепш іх заманьваюць, адцягваюць ад барацьбы), у рабочых кварталах, у халодных дамох, — куды часта і не заглядваем. У выніку, хаця мы маем вялікія палітычныя ўплывы, хаця моладзь ахвотна ідзе за нашымі лёзунгамі, мы на 4-й галоднай крызыснай зіме яшчэ не стаім арганізацыйна на чале беспрацоўнай моладзі, сацыял-фашызм перахапляе іх рэвалюцыйныя настроі. Мы яшчэ ня здолелі **арганізаваць масавыя** выступленьні галадуючай моладзі гораду і вёскі за непасрэдныя частковыя жыцьцёвыя патрабаваньні, за хлеб, вопратку, дровы і вугаль, за канкрэтныя грашовыя дапамогі. Трэба мабілізаваць масы да выбару камісіі беспрацоўнай моладзі, завастрэньня гэтай барацьбы дэманстрацыямі, масавымі і арганізаванымі канфіскатамі; арганізаваць выступленьні галодных дзяцей у школах і па-за школамі з патрабаваньнем харчаваньня, вопраткі і г. д., увязаць барацьбу працуючай моладзі з беспрацоўнай агульнымі выступленьнямі на падставе супольных патрабаваньняў, бо голад, холад, галеча б'е і па беспрацоўнай і па працуючай, па гарадзкой і вясковай моладзі.

Фашыстоўская дыктатура пераходзіць ужо да «вырашэньня» пытаньня аб беспрацоўі, шляхам ужываньня прымусовай працы ў адносінах да беспрацоўнай моладзі. У Горнай Сілезіі 250 моладзі ўжо ўцягнуты пад шырмай дабраахвотнасьці ў гэтыя атрады. Нядаўна ББ ўнесла законапраект аб прымусовай працы і гэтак зв. «батальёнах працы». Бязумоўна, што калі не разгорнем шырокага масавага руху супроць гэтага, фашыстоўскі ўрад пашырыць прымусовыя лягеры па ўсёй краіне для мілітарызацыі беспрацоўнай моладзі і накіраваньня яе супроць рэвалюцыйнага руху. У вёсках ЗБ мы павінны барацьбу супроць увядзеньня прымусовае працы ўвязаць з барацьбой супроць шарваркаў і адработкаў, куды ганяюць галоўным чынам моладзь. Вядучы вострую барацьбу супроць увядзеньня прымусовае працы, мы там дзе фашызму ўдалося ўвесьці яе, раскладаем, узрываем гэтыя атрады знутры шляхам арганізацыі стачак і рознастайных форм выступленьняў з патрабаваньнем зарплаты, лепшага харчаваньня, супроць мілітарызацыі і г. д.

## ВЫРВАЦЬ РАБОЧА-СЯЛЯНСКУЮ МОЛАДЗЬ З ФАШЫСТОЎСКІХ, САЦЫЯЛ- І НАЦЫЯНАЛ-ФАШЫСТОЎСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ МОЛАДЗІ

Аднэй з важных прычын нашай значнай адарванасьці ад масы працоўнай моладзі зьяўляецца тое, што не вядзем масавай працы сярод **моладзі, знаходзячайся ў варожых арганізацыях.**

Пленум КІМ'а праходзіў таксама пад знакам барацьбы за заваяваньня мільёнаў мас моладзі, арганізаванай у варожых арганізацыях. У Нямеччыне напрыклад, з 7 мільёнаў моладзі 5 мільёнаў арганізаваны ў мілітарысцкіх, сацыял-фашыстоўскіх, рэфармісцкіх і іншых буржуазных арганізацыях. А ў рэвалюцыйных арганізацыях—некалькі сот тысяч. У Англіі—6 мільёнаў моладзі ў буржуазных арганізацыях; у рэвалюцыйных—некалькі дзесяткаў тысяч. Таксама і ў іншых капіталістычных краінах.

А ў нас на Заходняй Беларусі? Шматтысячныя масы моладзі знаходзяцца ў рознага роду буржуазных фашыстоўскіх сацыял- і нац.-фашыстоўскіх, спартыўных, мілітарысцкіх і рэлігійных арганізацыях; пад дзесяткамі назваў і рознастайнымі мэтадамі ўцягваецца туды працоўная моладзь, а нашы трансміcіі, рэвалюцыйныя масавыя арганізацыі налічваюць толькі пару тысяч, колькасьць меншая чым самаго камсамолу. Вялікая частка моладзі, значна больш чым звычайна думаем, арганізавана не намі, а клясавым ворагам. Варожыя арганізацыі моладзі прыстасоўваюцца да зьмяніўшайся сытуацыі, стасуюць усе новыя мэтады ашуканства, удасканальваюць сваю «левую» фразу, як, напрыклад, орган ТУРу піша, што яны мала адрозьніваюцца ад КСМ, што яны таксама за дыктатуру пралетарыяту, што яны гэта толькі інакш называюць з-за легальнасьці, з-за цэнзуры; пілсудчыкі, Дэмбін-

скія і Сівяневічы, выступаюць з праграмай нацыянал-камунізму, скіраванай галоўным чынам на ўтрыманьне пры фашызме радыкалізуючайся моладзі.

Фашыстоўскі ўрад праводзіць цяпер рэарганізацыю «Стральца». Палітыка палёнізацыі, праводзімая фашыстоўскімі і сацыял-фашыстоўскімі арганізацыямі ў нас на ЗБ недаацэньваецца намі, а іх ахоп і мэтады работы надзвычайна пашыраныя. Напрыклад, «Стралец» на аднэй Віленшчыне правёў у 1932 г. на стрэльбавыя муштроўкі 6.489 стральцоў, мае па вёсках і мястэчках 189 «сьвятліц», (клюбы-чытальні), 26 аркестраў, 113 тэатральных гурткоў, узімку правялі 405 тэатральных прадстаўленьняў і т. п., заманьваючы такім чынам частку працоўнай моладзі гораду і вёскі да сябе.

Камсамол за апошні час мае некаторыя дасягненьні ў барацьбе супроць «Стральца». Каля 20 яго атрадаў намі разьбіта ў Вуглянах, Камяніцы, Подгорадзі і шэраг іншых. Удалося ў мінулым годзе адарваць групы моладзі ад «Шомра (Вільня, Слонім і інш.). З шэрагаў «Цукунфту» у Вільні выступіла звыш 100 чал. моладзі. Аднак, большасьць гэтай зрадыкалізаванай моладзі камсамол арганізацыйна не замацаваў, не ўцягнуў у свае шэрагі, у свае трансімісіі саюза пабароўцаў, прыяцеляў СССР і г. д. Наша праца па заваяваньню гэтай моладзі абмяжоўваецца амаль толькі агітацыяй, замест таго, каб сапраўды ўцягнуць у адзіны фронт барацьбы за свае штодзённыя інтарэсы. Праца ў сацыял-фашыстоўскіх і фашыстоўскіх арганізацыях павінна быць сыстэматычна праведзена ўсёй арганізацыяй, ва ўсіх яе зьвеньнях, а не абмяжоўваца працай адзінак.

На кожнай ячэйцы, РК, АК і ЦК спэцыяльна вывучаць пытаньні варожых арганізацый, дасьледваць іх сілы (бо часта мы проста ня ведаем аб гэтых сілах), распрацаваць асобыя мэтады і формы работы ў кожнай канкрэтнай арганізацыі: іншыя нашы мэтады, формы работы і лёзунгі сярод арганізацый галоўнейшага ворага сярод рабочай моладзі сацыял-фашыстоўскіх (ТУР, Цукунфт і інш.) і нацыянал-фашыстоўскіх (Бел. Студ. Саюз, «Шлях Моладзі), іншыя—сярод палёнізатарскіх і мілітарысцкіх арганізацый («Стралец», ЗМП, ЗМВ і інш.), іншы падыход да моладзі, якая знаходзіцца пад уплывам рэлігіі, клера і г. д. Не распыліць і не раскідваць свае сілы ,але на кожным вучастку работы і ў даны момант вылучыць галоўнейшыя асяродкі ўдара. Выкарыстоўваючы незадаваленьне працоўнай моладзі супроць іх здрадніцкіх правадыроў мы павінны стварыць **масавыя апазыцыі і расколы** ў гэтых арганізацыях, ізаляваць і здэмаскаваць правадыроў, разьбіць іх масавую базу, ствараць рэвалюцыйныя масавыя арганізацыі. Без заваяваньня **мас моладзі з варожых арганізацыяў, без ізаляваньня здрадніцкіх правадыроў ад масы, знаходзячыся ў гэтых арганізацыях і па-за-іх, ня можа быць выканана задача заваяваньня большасьці працоўнай моладзі, задача ператварэньня КСМ у масавую арганізацыю.**

Адзіны фронт зьнізу на падставе барацьбы за штодзённыя эканамічныя і палітычныя дамаганьні, пастаянная антываенная барацьба, сыстэматычная масавая кампанія вакол антываеннага кангрэсу моладзі павінна служыць рычагом для вырываньня шмат тысяч моладзі з варожых арганізацый і разьбіцьця іх.

## ТАКТЫКА АДЗІНАГА ФРОНТУ.

**Правядзеньне адзінага фронту зьнізу** не азначае, як часта ў нас на практыцы бывае, голай фразы аб адзіным фронце, але штодзённа, цярпліва, крапатліва **арганізоўваць яго на справе** ў падрыхтоўцы і ў ходзе барацьбы. Не ставіць варункаў працоўнай моладзі іншых арганізацый, але арганізаваць супольную барацьбу за тыя яе непасрэдныя патрабаваньні, за якія гатовы змагацца, не навязваючы нашага кіраўніцтва, а заваёўваючы яе і ўздымаючы барацьбу на больш высокі палітычны зровень у самім яе ходзе. «Пралетарскі адзіны фронт у бальшавіцкім сэнсэ ёсьць баявое супрацоўніцтва паміж сьвядомым рэвалюцыйным камуністычным авангардам і яшчэ нерэвалюцыйнымі масамі працоўных. Палітычнай плятформай дзеля стварэньня гэтага баявога супрацоўніцтва могуць служыць толькі непасрэдныя і практычныя мэты сучасных клясавых баёў, актуальныя лёзунгі дзеяньня камуністычнай палітыкі, а не прынцыпы камуністычнай праграмы, якія яшчэ незразумелы беспартыйным і

рэфармісцкім рабочым, але якія павінны быць для іх папулярызаваны ў працэсе частковых баёў» (т. Куусінен XII пленум ВККІ). Для гэтага неабходна перамагчы шырока распаўсюджанае ўкараніўшаеся на практыцы сэктанцкае адносіны да працоўнай моладзі варожых арганізацый, як «напоўворагам», як да «малых Цэргібеляў» і т.п. У тэорыі на словах як быццам зразумела шкоднасьць такога адношэньня, як быццам, зразумела неабходнасьць адзінага фронту. Але нашы камсамольцы ня ўмеюць на справе, у штодзённай працы і барацьбы аднесьціся да маладога рабочага з «Цукунфту» і ТУР'у, з «Стральца» і «Гашомера», да маладняка, якія вераць яшчэ ня толькі ў сацыял-фашыстоўскіх і фашыстоўскіх правадыроў, але і ў бога,— аднесьціся да іх шчыра, як да сваіх братоў таварышоў па клясе. А гэта-ж рашаючае. Вырашае справу адзінага фронта ня словы аб ім, а сапраўдная супольная барацьба. Дабіцца гэтага немагчыма без **заваяваньня давер'я** да сябе моладзі варожых арганізацый, без таго, каб яны бачылі ў КСМ сваіх перадавых таварышоў па барацьбе.

Для рэалізацыі адзінага фронта неабходна на падставе пралетарскай дэмакратыі стварыць органы адзінага фронта, выбраныя самой масай рабочай моладзі. Неабходна стасаваць і адпаведныя мэтады: зварачвацца да рабочай моладзі данных прадпрыемстваў, да працоўнай моладзі даннай мясцовасьці, да членаў даннай арганізацыі.

Ня здолеем рэалізаваць на справе адзінага фронта, калі мы не завострым нашай барацьбы супроць галоўнай праваапартуністычнай небясьпекі. Гэта мела свой выраз у беластоцкай забастоўцы, у тэндэнцыях неабвастрэньня барацьбы з ППС; у Пінску, дзе сярод камсамольцаў была прапанова зьвярнуцца да камітэту Цукунфта аб адзіным фронце. Наколькі вялікі і найбольш небясьпечны ілюзіі ў адносінах да «левых» правадыроў сацыял-фашызму сьведчыць факт апошніх тыдняў у Белавежы. У часе забастоўкі і пепеэсаўскія рабочыя моцна рэвалюцыянізаваліся, стварылася апазыцыя ўнутры ППС, правадыры зараз-жа пераўзброіліся «налева», ужывалі амалькамуністычныя фразы, перахоплівалі апазыцыйныя настроі. Хаця партыі ўдавалася ўсё больш выбіць пепеэсаўскіх ашуканцаў з кіраўніцтва забастоўкай, самастойная роля партыі ўсьцяж расла— знайшліся камсамольцы, якія гаварылі: «Усе чырвоныя», — г. зн. пепеэсаўцы — таксама. У мясцовай арганізацыі фактычна не стаяла пытаньне аб адзіным фронце з рабочай моладзьдзю супроць сацыял-фашыстоўскіх правадыроў. А ў адносінах да «левага» кіраўніцтва ТУР'у ілюзіі былі такія вялікія, што паслалі яго выступаць ад імя профлевай. Той, зразумела, выступаў, але ад імя і за «левай» ППС. Адзіны фронт ня ёсьць палітыка блёка, грамадзянскага міра або «пакт неагрэсіі», з сацыял-фашыстоўскімі правадырамі аб чым цяпер гавораць Бауэр, Троцкі і нашы домарослыя рэнэгаты права-трацкісцкая група. Мы павінны умець адзіны фронт камсамольцаў з некамсамольцамі ў барацьбе супроць буржуазіі супроцьпаставіць адзінаму фронту сацыял-фашыстоўскіх правадыроў разам з буржуазіяй. Права-апартуністычная небясьпека на практыцы набірае паграsevery жаючыя разьмеры менавіта на грунце пасыўнасьці, недаацэнкі самастойнага кіраўніцтва КСМ эканамічнай і палітычнай барацьбой моладзі, на грунце няверра ў свае сілы, значнай адарванасьці ад моладзі буйных і сярэдніх прадпрыемстваў, — усё гэта штодзённа жывіць правы апартунізм на практыцы, які пераплятаецца і дапаўняецца сэктанцтвам, «левай» фразай.

## БАРАЦЬБА СУПРОЦЬ ВАЙНЫ І ПРАЦА Ў АРМІІ.

У барацьбе супроць падрыхтоўкі вайны КСМ ня толькі ня мае паляпшэньня, але апошнія месяцы,—пасьля кампаніі ў сувязі з Амстэрдамскім антываен. кангрэсам — паказываюць аслабленьне масавай антываеннай працы КСМ, як унутры арміі, так і звонку, сярод рэкрутаў, сярод шырокіх мас працоўнай моладзі. Мы павінны ліквідаваць гэтае небясьпечнае адставаньне шляхам разгортваньня сапраўды масавага антываен. руху моладзі ў сувязі з усёй масавай працай КСМ, умасавіць рэвалюцыйны саюз пабаровых весьці сталую працу ў арміі і па-за арміяй, усямерна выкарыстоўваючы і папулярызуючы слаўныя традыцыі Вілен-

скай і іншых арганізацый, як масоўкі пабаровых у трох цягніках, масоўка 150 салдат, масоўкі перад кашарамі і інш. У сувязі з падрыхтоўкай сусьветнага антываеннага кангрэсу моладзі неабходна, выкарыстоўваючы вопыт кампаніі да Амстэрдамскага кангрэсу, уцягваць у гэтую барацьбу новыя пласты працоўнай моладзі з фабрык, прафсаюзаў, беспрацоўнай моладзі з маёнткаў і вёсак, з школ, ў кашарах і сярод рэкрутаў, сярод дробна-буржуазнай беднаты і інтэлігенцыі, арганізоўваючы адзіны фронт усёй той моладзі, якая зацікаўлена ў барацьбе супроць вайны, склікаючы ўсюды дзе ёсьць працоўная моладзь масоўкі, прыняцьце рэзалюцый, дэманстрацыі, выбар антываенных камітэтаў, дэлегатаў, увязцы са штодзённай эканамічнай, палітычнай і нацыянальна - вызваленчай барацьбой працоўнай моладзі.

І тут мы павінны максымальна канкрэтызаваць нашу працу, не абмяжоўвацца толькі агітацыяй, а перайсьці да **арганізацыі** барацьбы рэкрутаў і салдат. Калі нашы арганізацыі пабароўцаў маюць некаторыя заслугі ў справе антываеннай працы, то амаль нічога дагэтуль ня зроблена ў справе разгортваньня барацьбы шырокіх мас рэкрутаў за іх непасрэдныя балячкі. Арганізацыя рэкрутаў у Берасьцейскай акрузе налічвае сотні чалавек, у Вільні—60, у Беластоку — 50, — **аднак ня маем ані воднага факту, каб прыступілі да канкрэтнага правядзеньня ў чыне**, выстаўленых патрабаваньняў аплаты за дні згубленай працы пры хаджэньні ў ПКУ і іншых, грошы на дарогу, скрынкі для рэчаў, бясплатнай фурманкі і г.д.

Мы павінны завастраць і пашыраць барацьбу ў надыходзячы пабор — у сакавіку-красавіку, абраць антываенныя камітэты і дэлегатаў на антываенны кангрэс. Не абмяжоўвацца толькі заклікам да дэманстрацыі паўсямесна. Але акрамя таго трэба плянава вызначыць важнейшыя пункты ў мясцовасьцях больш у данны момант спрыяючых і асабліва канцэнтраваць нашы сілы для арганізацыі выступленьняў, дэманстрацый працоўнай моладзі, рэкрутаў і салдат на адным або некалькіх вучастках. Дасягненьні гэтых выступленьняў неабходна папулярызаваць, пашыраць і завастраць для ўсёй Зах. Беларусі.

Праца **ўнутры арміі** выступае цяпер перад КСМ з асаблівай вострасьцю. У шэрагах КСМ распаўсюджаны апартунізм на практыцы ў справе працы КСМ **унутры арміі.** Уцёрся ў шэрагі КСМ ЗБ неправільны погляд, быццам з прычыны таго, што ўнутры арміі не арганізоўваем паасобных камсамольскіх ячэяк, дык праца КСМ абмяжоўваецца толькі па-за арміяй. Нічога падобнага! Важна і трэба ўзмоцніць справу вярбоўкі кантактаў, адрасоў для партарганізацыі, і тут праверыць вынікі не па колькасьці папяровых адрасоў, а па колькасьці завербаваных жывых салдат. Але неправільна будзе абмежаваць галоўным чынам да гэтага работу КСМ у арміі. Камсамол павінен разгарнуць шырокую работу ўнутры арміі. Рашэньне КСМ, што кожны камсамолец павінен мець сувязі, кантакты, прыяцеляў сярод салдат, частыя з імі гутаркі і вясьці агітацыю сярод іх, пісаць лісты да сваякоў і знаёмых — павінны быць праведзены на дзеле. Неабходна узяць ініцыятыву і **арганізаваць сыстэматычна салдацкія нарады,** падрыхтоўваць больш адданых да прыёма ў партыю і г. д.

Факты паказваюць, што барацьба салдат выбухае менавіта на грунце частковых патрабаваньняў. Рэвалюцыйнае абурэньне ў арміі расьце—задача КСМ дапамагчы партыі арганізоўваць яго, разгортваць гэтую барацьбу, узьняць яе на вышэйшы палітычны зровень.

Фашызм усе часьцей накіроўвае войска супроць бастуючых рабочых, для пацыфікацыі ЗБ і ЗУ. **Таму арганізаваць братаньне змагаючыхся рабочых і сялян з салдатамі** зьяўляецца актуальнай задачай КСМ у справе раскладаньня фашыстоўскай арміі, заваяваньня салдат.

Для таго, каб на дзеле разгортваць антываенны рух моладзі неабходна перамагчы, сапраўдна зьліквідаваць праваенныя настроі перадусім унутры КСМ. Умела даказаць кожнаму камсамольцу, маладому рабочаму і селяніну, як тут гучная фраза прыкрывае нявер'е ў сваі сілы і ў сілы пралетарыяту Польшчы, пасыўнасьць, адмаўленьне ад масавай працы, сэктанцтва. Пераканаўча давесьці, як такія настроі аблягчаюць фашызму правесьці сваю ваенную падрыхтоўку супроць Савецкага Саюзу, аслабляючы рэвалюцыйны рух.

## БАРАЦЬБА МОЛАДЗІ СУПРОЦЬ АБШАРНІЦКАЙ КАБАЛЫ, СУПРОЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ЎЦІСКУ І АКУПАЦЫІ.

VI Зьезд і VI пленум з асаблівай сілай ставяць перад КСМ ЗБ неабходнасьць ажыцьцяўленьня «павароту ў барацьбе супроць усялякай праявы акупанцкага ўціску». (VI Зьезд). І тут жыцьцё, барацьба апошняга часу найбольш рэзка падкрэсьлівае і выкрывае нашыя слабасьці. У такіх буйных падзеях, як Камень-Кашырск, Асташына мала ведаем аб ролі КСМ, як арганізатары і кіраўніку змагаючайся там моладзі. У апошніх падзеях у Баранове, Пружаншчыне КСМ ужо адыгрывае адносна большую роль. Наш камсамол Зах. Беларусі мае буйныя традыцыі і дасягненьні ў справе ўдзелу ў сялянскім і нацыянальна-вызваленчым руху, але вопыт менавіта маладзёжнага характару гэтага ўдзелу маладзёжных патрабаваньняў, арганізацыйнага кіраўніцтва сялянскім і нацыянальна-вызваленчым рухам моладзі, — у нас вельмі мала. Удзел моладзі ў сялянскай і нац.-вызваленчай барацьбе за апошні час бязумоўна вырос. Актыўны ўдзел моладзі і камсамольцаў у паўстанцкім руху на Палесьсі і ў іншых мясцох—нясумненны. Але іх удзел галоўным чынам стыхійны, а арганізуючая і кіруючая роля камсамольскіх арганізацый слабая.

І ў гэтай галіне мы павінны пачаць з канкрэтных масавых выступленьняў. Мы маем, напрыклад, за апошні час дзесяткі фактаў школьных выступленьняў у вёсках супроць палёнізацыі, дзе-ні-дзе (Беластоцкая акруга) прагналі ненавісную настаўніцу, у другіх правялі школьныя забастоўкі, дзеці зрываюць фашыстоўскія школьныя ўрачыстасьці, нішчаць партрэты Пілсудзкага і Масьціцкага, зрываюць польскія сьцягі, пяюць рэвалюцыйныя песьні і г. д. Наша справа дзеля таго, каб разгарнуць сапраўдную барацьбу вакол нашых лёзунгаў, гэта зачапіцца за канкрэтныя выпадкі барацьбы, стаць на яе чале, у ходзе барацьбы завастраць яе, здолець выкарыстаць, папулярызаваць гэтыя падзеі ва ўсёй ЗБ, разгортваць хвалю школьных забастовак, пераходзячы на справе да прагнаньня ненавісных настаўнікаў, палёнізатараў і г. д. Школьны кураторыум пасьлядоўна праводзіць у жыцьцё новы школьны закон, узмацняючы рэжым тэрару, мілітарызацыі, палёнізацыі і клеру. Мы павінны барацьбу вучнёўскай моладзі канкрэтызаваць на падставе частковых патрабаваньняў, дамаганьня бясплатнага харчаваньня, падручнікаў, абутку, ужываючы формы дэманстрацыйнага неадказваньня на лекцыях, масавага ўходу з лекцый, разма́ўленьне явачным парадкам на беларускай мове ў школе, упалітычняючы і завастраючы гэтую барацьбу да школьных забастовак і вулічных дэманстрацый.

У Пінску, напрыклад, нядаўна адчынена новая дзяржаўная фабрыка Дыкта, маючая і ваенныя мэты. Беларускіх і яўрэйскіх рабочых амаль ня прынята. Мясцовая арганізацыя КСМ толькі апісала гэты факт, але нажаль не рэагавала на гэты факт, на якім трэба было шырока разгарнуць **інтэрнацыянальную акцыю** супроць такой канкрэтнай праявы акупанцкай палітыкі. Адначасна змагацца супроць польскага, беларускага і яўрэйскага шавінізму, пашырыць гэтую барацьбу. Некалькі праведзеных канкрэтных, хоць спачатку невялікіх акцый, палітычны аналіз іх добрых і слабых бакоў, паставіць на ўсіх камсамольскіх ячэйках Зах. Беларусі вывады і задачы, канкрэтызаваць у кожнай мясцовасьці, — дасьць значна больш у справе сапраўднага правядзеньня павароту, чым толькі агульныя ўстаноўкі.

Сэктанцтва на практыцы, слабая масавая праца, тэндэнцыя ператварэньня вясковых ячэяк у тэхнічныя прыдаткі да партарганізацый характарызуе шмат нашых вясковых арганізацый. Распаўсюджан пагляд, што апрача агульных лёзунгаў няма на вёсцы маладзёжных патрабаваньняў і форм барацьбы. Нічога падобнага! Удзел КСМ, працоўнай моладзі ў барацьбе за зямлю бяз выкупу, супроць абшарніцкай кабалы, супроць акупацыі зьяўляецца важнейшай задачай Камсамолу. Але гэты ўдзел і дапамога ў шмат разоў павялічыцца, пашырыць сваю масавую базу менавіта на падставе патрабаваньняў моладзі. Трэба умець зьвязацца і жыць усімі дамаганьнямі і балячкамі моладзі, тады здолеем зарганізаваць барацьбу батрацкай моладзі, больш эксплёатаваную менавіта як моладзь, барацьбу сэзоньнікаў, беспра-

цоўнай моладзі, вакол шарваркаў, школ на роднай мове і г. д.

Важную ролю ў справе арганізацыі моладзі і дзяцей, асабліва на вёсцы, у справе дапамогі барацьбы працоўнага сялянства можа адыграць рух **чырвоных ганцоў**. Цяпер, калі задача цэнтралізацыі, пашырэньня барацьбы сялян на іншыя раёны зьяўляецца цэнтральнай задачай дня,—роля сувязі, роля чырвоных ганцоў, як дапаможнай арганізацыі непамерна узрастае. Пытаньне арганізацыйных форм, характара гэтых арганізацый намі яшчэ зусім не апрацавана. Але трэба прыступіць да справы. Неабходна склікаць паасобныя нарады для падсумоўваньня вопыту, арганізацыйнага афармленьня чырвоных ганцоў. Не пусьціць самацёкам: «а мо уложыцца», а ўхапіцца за гэтую новую форму, расшырыць, напоўніць палітычным зьместам, арганізаваць у кожнай вёсцы, вакол маёнткаў, тартакоў і г. д. эстафэты чырвоных ганцоў.—«Стварэньне масавай арганізацыі чырвоных ганцоў—для цеснай сувязі паміж сялянскімі камітэтамі для аблягчэньня хуткай мабілізацыі сялян суседніх вёсак і раёнаў на дапамогу ахопленым баямі вёскам, для абсэрвацыі за рухам фашыстоўскіх бандаў, паліцыі і карных атрадаў, для дапамогі ў справе арганізаваньня гнуткай і сваечасовай інфармацыі аб палітычных падзеях ва ўсім краі». (VI пленум).

Чырвоныя ганцы могуць адыграць сваю ролю таксама ў гарадох у часе забастовак для сувязі забкомаў агульных і моладзі, сувязі бастуючых рабочых паасобных фабрык, сувязі ў часе дэманстрацыі, дапамогі самаабароне, сачыць за ворагам і г. д.

Чырвоныя ганцы выконваючы сваю ролю, павінны выхоўваць сярод сябе дысцыпліну, займацца спортам і палітасьветнай працай, уцягваць вакол эстафэтаў чырвоных ганцоў больш шырокія пласты працоўнай моладзі і дзяцей. Умовы для выкананьня дырэктыў VI пленуму аб «стварэньні масавай арганізацыі чырвоных ганцоў», ёсьць — справа ў арганізуючай ролі КСМ.

* * *

Дзеля пасьпяховага ажыцьцяўленьня задач, высунутых VI Зьездам і VI пленумам перад КСМ ЗБ неабходна палепшаньне сацыяльнага складу, перабудаваньне, палепшаньне сыстэмы і мэтадаў работы, узьняцьцё актыўнасьці кожнага камсамольца для правядзеньня ў жыцьцё прынятых рашэньняў.

Адно з цэнтральных месц у працах і рашэньнях пленуму КІМ'а заняла пытаньне перабудаваньня сыстэмы працы камсамолу, як важнейшы варунак у барацьбе за масы, за масавы камсамол. Тут высоўваецца шэраг задач: ператварыць камсамол колькасна ў больш шырокую арганізацыю, чым партарганізацыя; разбудаваньне сеткі фабрычна-заводзкіх ячэяк; узмацаваньне палітычнага, ідэолёгічнага выхаваньня і барацьба з цякучасьцю ў шэрагах КСМ; барацьба з бюрократычнымі і папяровымі мэтадамі кіраўніцтва; правядзеньне ў жыцьцё прынцыпаў дэмакратычнага цэнтралізму.

VI Зьезд высоўвае на першы плян галоўную слабасьць КСМ менавіта: а) слабасьць фабрычнага і фальваркачнага касьцяка КСМ; б) разьбежка паміж колькасным ростам вясковых арганізацый і іх актыўнасьцю, в) слабасьць ідэолёгічнай, палітычна-выхаваўчай працы. Гэтая слабасьць выступае падвойна востра ў нас на ЗБ. Хоць маем вялікі колькасны рост КСМ (з 1.150 у сакавіку 1931 г. да 3.600 у жніўні 1932 г.), але сетка фабрычная і фальваркачная база ня толькі не палепшылася, але **адносна нават пагаршаецца.** У той самы час процант фабрычных ячэяк упаў ад 2,5% да 1,7%. Бязумоўна, гэты факт зьвязан з недаацэнкай на практыцы гэтай задачы КСМ, неўменьнем канцэнтраваць нашы сілы на гэтым важнейшым фронце. Апошнія весткі паказваюць нават на пагоршаньне ў гэтай галіне і нават у галіне колькаснага росту. Беластоцкі інструктар ЦК КСМ, напрыклад, ня ведае, на якіх фабрыках працуюць члены тэкстыльнай ячэйкі ў Беластоку; за апошні час згублена ячэйка гутнікаў у Беластоку; у Вільні няма цяпер ані воднай вытворчай ячэйкі—усё гэта прама крычыць аб сэктанцкім апартуністычным дачыненьні да справы кіраваньня фабрычнымі ячэйкамі. Неабходна асаблівая апека з боку кіруючых органаў, іх непасрэднае кіраўніцтва і адказнасьць за фабрычныя і батрацкія ячэйкі. Не самацёкам, а плянава рэгуляваць рост КСМ. Мабілізуючы ўвесь КСМ пад

кіраўніцтвам і актыўным удзелам партыйных арганізацый на гэтыя важнейшыя вучасткі барацьбы. **Без фабрычнай і фальварачнай базы КСМ ня здалее кіраваць эканамічнымі баямі моладзі, ня здалее ажыцьцявіць пралетарскага кіраўніцтва ў барацьбе сялянскай моладзі і нацыянальна-вызваленчага руху моладзі, не здалее перамагчы сэктанцтва ў нашых шэрагах.** Неабходна канкрэтызаваць плян дзеяньня кожнай ячэйкі ў гэтай галіне, ставячы асаблівыя задачы для існуючых фабрычных і фальварачных ячэяк і ў справе арганізацыі новых.

Справа КСМ, яго масавай працы, яго фабрычнага і фальварачнага касьцяка, справа завяяваньня большасьці працоўнай моладзі,—**гэта справа ўсёй партыі,** усіх партарганізацый. У гэтай справе партарганізацыі надзвычайна мала пасунуліся наперад, а месцамі пайшлі нават назад. Партарганізацыі забываюць, што вучастак працы сярод моладзі—гэта іх вучастак, што яны адказны за працу КСМ. Рашэньне ЦК партыі ў гэтым напрамку не праводзіцца ў жыцьцё. Лёзунг аб стварэньні пры кожнай фабрычнай партячэйцы — камсамольскай ячэйкі не зьдзейсьнены; часта папросту няма кантакту паміж партыйнымі і камсамольскімі арганізацыямі на мясцох. У справаздачах АК, ГК рэдка калі даюць справаздачу аб КСМ працы. Гэта ўсё гаворыць аб неабходнасьці ў бліжэйшы час зьліквідаваць існуючую ў шэрагу партарганізацый недаацэнку важнасьці вядзеньня боя з фашызмам за моладзь.

Адзін з небясьпечнейшых недахопаў КСМ зьяўляецца тое, што нашыя часта добрыя рэзалюцыі, дырэктывы затрымліваюцца на дарозе паміж АК, ГК і ячэйкамі, часта да ячэяк не даходзяць, застаюцца вісець у паветры. Адгэтуль рашэньне застаецца часта на паперы, атрымоўваецца некаторы разрыў паміж словам і справай, «ножніцы» паміж рэзалюцыямі і іх правядзеньнем у жыцьцё. Такая практыка—гэта адна з найгоршых традыцый сацыял-дэмакратыі, якую мы павінны вытравіць з камсамола. Ленінскае бальшавіцкае адзінства слова з чынам павінны мы ўкараніць у кожным камсамольцы. На XII пленуме ВККІ тав. Куусінен гаварыў: «Паміж нашымі рэзалюцыямі і іх правядзеньнем ствараюцца «ножніцы». Гэта абразчык чыну ІІ інтэрнацыяналу... Камуністычная моладзь павінна паставіць сабе цьвёрдае патрабаваньне: раз назаўсёды палажыць канец практыцы папяровых рашэньняў—усе прынятыя рашэньні праводзіць з сапраўды бальшавіцкай рашучасьцю і энэргіяй».

Актывізацыя ячэяк, бліжэй кіраўніцтва да ячэяк, прыстасаваньне дырэктыў, мэтадаў кіраўніцтва менавіта да ячэяк зьяўляецца адным з варункаў выкананьня гэтай задачы. Плянавасьць, кантроль, бальшавіцкая самакрытыка спаборніцтва і вучот дзейнасьці кожнага камсамольца па выніках працы, ужо сёньня ўзяцца кожнай ячэйцы за распрацоўку і канкрэтызацыю і выкананьне рашэньняў VI Зьезду і VI пленуму, узьняць палітычны зровень ячэяк, — толькі такім чынам КСМ будзе сапраўднай масавай арганізацыяй і кіраўніком працоўнай моладзі ў надыходзячых буйных клясавых баёх.

## І. СЬПІС.

# Рухавыя сілы і характар рэвалюцыі на Заходняй Беларусі.

Адзін з пунктаў парадку дня VI пленуму ЦК КПЗБ быў прысьвечаны высьвятленьню праблемы рухавых сіл і характару надыходзячай рэвалюцыі на Заходняй Беларусі. Зусім зразумела неабходнасьць пастаноўкі такой праблемы і яснага адказу на яе. Партыя павінна дакладна ведаць сілы, на якіх яна зможа і павінна будзе абаперціся ў барацьбе пралетарыяту за ўладу, павінна таксама ведаць сілы і пазыцыі клясавага ворага — імпэрыялістычнай польскай буржуазіі на данным вучастку. Агульны аналіз рухавых сіл рэвалюцыі для ўсёй Польшчы дае надта агульны адказ на гэта. Ужо з самага факту акупацыі вынікае значная адасобнасьць варункаў, у якіх у нас, на Заходняй Беларусі, будзе праходзіць пралетарская рэвалюцыя.

Каб адказаць на гэтую праблему, трэба высьсніць сабе:

1) Якія на ЗБ **суадносіны клясавых сіл,** г. зн. сіл паасобных клясаў, і якія важнейшыя клясавыя супярэчнасьці.

2) Якое на ЗБ **разьмяшчэньне галоўных палітычных сіл,** калі ўзяць пад увагу ня толькі самыя сацыяльна-эканамічныя адносіны краю і сацыяльную базу, якую гэтыя суадносіны ствараюць для рэвалюцыі і для контр-рэвалюцыі, але таксама **нацыянальныя адносіны,** нацыянальны склад паасобных клясаў насельніцтва Заходняй Беларусі, факт польскай акупацыі з аднаго боку, і адзінства рэвалюцыйнага руху на ЗБ з рэвалюцыйным рухам ва ўсёй Польшчы — з другога, геаграфічнае палажэньне, суседзтва СССР і БССР і г. д.

Паспрабуем адказаць на гэтае пытаньне ў як мага больш сьціслай форме.

З пункту гледжаньня сацыяльна - эканамічнай структуры, Заходняя Беларусь зьяўляецца адным з краёў эканамічна найбольш адсталых у Эўропе, з краёў найменш разьвітых прамыслова, найбольш аграрных, прычым асноўная прадукцыя сельскай гаспадаркі на ЗБ знаходзіцца на параўнальна больш нізкім узроўню вытворчай тэхнікі. Каля 82% насельніцтва жыве з сельскай гаспадаркі (сярэдняя лічба для ўсёй Польшчы — 63%), прычым для 3-х ваяводзтваў з 4-х (без Беластоцкага ваяводзтва) процант насельніцтва, якое жыве з сельскай гаспадаркі, яшчэ больш высокі: для Віленскага ваяводзтва (бяз гораду Вільні) 88,6%, для Навагрудзкага ваяводзтва і Палескага — 87,7%.

Слаба разгорнутая прамысловасьць зьяўляецца прамысловасьцю амаль выключна перарабляючай (адсутнасьць цяжкай прамысловасьці) з перавагаю дробнай прамысловасьці, саматужнай (халупніцтва) і рамеснай. З найбольшай колькасьцю занятых рабочых пры часах польскай акупацыі (1928 г.), у прамысловых прадпрыемствах, з колькасьцю рабочых больш 20 чал было ўсяго каля 28.000 чалавек. У ліпені 1931 г. прамысловасьць разам з некаторымі гарадзкімі прадпрыемствамі, але бяз транспарту налічвала 20.254 рабочых, у сакавіку 1932 г. 16.578 рабочых.

Гарадзкі пралетарыят такім чынам зьяўляецца нялічным. Пераважна гэта — **дробна-прамысловы пралетарыят.** Значная частка пралетарыяту (рамесьніцтва, халупніцтва) слаба адасоблена ад дробна-буржуазнага асяродзішча. Паасобныя, важныя для Заходняй Беларусі га-

ліны прамысловасьці, як дрэваапрацоўчая прамысловасьць, ствараюць так званыя рабочыя гнёзды на вёсцы. Рабочыя гэтых асяродкаў слаба адасоблены ад сялянскай масы.

Сельска - гаспадарчага пралетарыяту, пастаянна занятага ў маёнтках, налічваецца каля 35.000 чалавек. Колькасьць пралетарыяту (парабкаў, падзёншчыкаў) занятага ў кулацкіх гаспадарках і т. п. можна з прыблізьненьнем вызначыць у 60.000 рабочых, не адасобленых з сялянскай масы (члены сем'яў сялянскай беднаты і г. д.).

Насельніцтва гарадоў, па-за пралетарыятам (фабрычным, гарадзкім, транспартным, саматужным і рамесным) складаецца пераважна з дробнай буржуазіі, займаецца дробным і найдрабнейшым гандлем — тыповай **гарадзкой беднаты.** Частка насельніцтва мястэчак займаецца сельскай гаспадаркаю.

Данныя польскай статыстыкі неабходныя для высьвятленьня **зямельных адносін** на Заходняй Беларусі, зьяўляюцца ўстарэлымі і няпоўнымі (данных перапісі 1932 г. мы яшчэ ня ведаем і павінны галоўным чынам грунтавацца на перапісі 1921 г., якая не ахоплівала б. Цэнтральнай Літвы (Літвы Сьродковэй) і ў якой апрача гэтага «згубілася» каля 2-х мільёнаў га зямлі), гэтыя данныя дазваляюць толькі ў грубых рысах вызначыць адносіны ў справе земляўладаньня.

| | У процантах | | |
|---|---|---|---|
| | У адносінах да агульн. колькасьці гаспадарак | | У адносінах да агульнай тэрыторыі |
| Абшарнічыя гаспадаркі | 0,8 | | 40 |
| Кулацк. гаспадаркі | 7,8 | | 15 |
| Серадн. „ | 29,4 | | 20 |
| Поўпралетарыят | 14 | разам | 12 |
| Бедната | 48 | | |
| Дзяржаўныя лясы і т. п. | — | | 13 |
| | 100 | | 100 |

Гэтае вылічэньне, як абапертае на ня вельмі дакладных данных, напэўна патрабуе ў дэталях досыць значных паправак на падставе далейшых досьледаў і дадатковай інфармацыі. Гэта датычыць ня толькі падзелу зямлі паміж паасобнымі катэгорыямі гаспадарак, але таксама гэтак важных для акрэсьленьня характару даннай гаспадаркі паказальнікаў, як колькасьць жывога і мёртвага інвэнтару. Але і на падставе гэтых данных, якія ў нас ёсьць, мы можам устанавіць наступныя рысы зямельных адносін на Заходняй Беларусі:

1. Абшарнікі займаюць блізка паловы ўсёй зямельнай тэрыторыі.

2. Сяляне (якія складаюць звыш 80% насельніцтва) сьпіхнуты на палову зямлі.

3. Клясавая дыфэрэнцыяцыя сялянства пайшла ўжо досыць далёка. Бедната і вясковы поўпралетарыят разам складаюць звыш 60% гаспадарак. Серадняцтва (каля 30%) параўнальна больш лічнае, чым у сярэднім у Польшчы.

Сялянства падпала ўжо значнай дыфэрэнцыяцыі пад уплывам капіталістычных адносін. З яго выдзялілася **вясковая буржуазія** — кулацтва. З другога боку, з падставовай масы сялянства выдзяліўся **сельска-гаспадарчы пралетарыят** і досыць лічны **вясковы пралетарыят.** Але адначасна ў аграрных адносінах Заходняй Беларусі захоўваецца старая гістарычная супярэчнасьць **паміж падставовай сялянскай масаю і панскім дваром.** Высокаму напружаньню гэтай супярэчнасьці спрыяе ня толькі буйнае абшарніцкае земляўладаньне пры вострым зямельным голадзе, але таксама вельмі значныя **перажыткі фэадальнай залежнасьці** селяніна ад панскага двара. Абшарніцкая гаспадарка абапіраецца на ЗБ на першабытных спосабах апрацоўкі. Рабочая сіла ў абшарніцкай сельскай гаспадарцы складаецца ледзь у 38% з сталых рабочых (у Пазнаньшчыне—84%), пераважную-ж частку рабочай сілы складаюць **сэзоньнікі.** А сэзонныя рабочыя на Беларусі гэта не (як у Пазнаньшчыне) вандроўныя пралетарыі здалёка, а сяляне з суседняй вёскі, патомкі тых, хто ў гэтым самым маёнтку адраблялі паншчыну.

Перажыткі фэадальна-паншчыннай залежнасьці ствараюць вузел непрастанных канфліктаў, завастрэньня супярэчнасьці паміж падставовай сялянскай масай і панскім дваром, завастрэньня сялянскай барацьбы за зямлю.

Галоўныя перажыткі фэадалізму на беларускай вёсцы гэта наступныя: а) сэзонныя заробкі ваколічных сялян за працу ў маёнтку выплачваюцца часта выключна ў натуры (сенакос—на 10—14 копну і т.п.), б) дробная арэнда абшарніцкай зямлі за адпрацоўкі альбо частку

ўраджаю (не за палову — «испольщина» — але за трэць, чацьвертую частку і нават за пятую частку ўраджаю). У Баранавіцкім, Косаўскім і Стаўпецкім паветах абшарнік у 1931 г. забіраў 60-65% чыстага ўраджаю без усякага ўдзелу ў коштах севу пры поўнай сялянскай працы. в) Адпрацоўкі за даўгі—што шырока стасуецца абшарнікам, кулаком, ксяндзом. Адпрацоўкі за штрафы, напрыклад, за выкуп захопленай абшарнікам каровы 2 дні адпрацоўкі. г) Сэрвітуты. Процант маёнткаў, абцяжаных сэрвітутамі, нягледзячы на сыстэматычную іх ліквідацыю, складае ў Беласточчыне 20,9%, на Палесьсі — 17,3%, у Навагрудчыне — 14,9%. д) Шарваркі — паншчынныя павіннасьці, перанесеныя на карысьць дзяржавы і самаўрадаў. е) «Пасылка» — абавязак працы ня толькі самаго наемнага рабочага, але таксама яго жаны і дзяцей. ж) Церазпалосьсе сялянскіх земель, а таксама абшарніцкіх і сялянскіх земель— важны фактар паніжэньня ўраджайнасьці зямлі. з) Капытковыя, рагатковыя, мастовыя і т. п. аплаты, якія зьяўляюцца перажыткамі фэадальнай улады і фэадальнага партыкулярызму (мейсцовай замкнутасьці). і) Улада касьцёлу—прымусовыя аплаты на карысьць касьцёлу, касьцёльныя падаткі, адпрацоўкі на плебаніі і т. п. к) Шляхецка-абшарніцкі характар дзяржаўнай улады на вёсцы, дзе пануючай «тройкаю» па - даўнейшаму зьяўляецца абшарнік - чыноўнік - ксёндз.

Пры сярэднім зборы з аднаго гектару 8 кв. жыта (у Пазнаньшчыне—17 кв., пры сярэдняй для Польшчы 11,4 кв.) і зборы бульбы з га (на Віленшчыне) 68 кв. (сярэдні збор для Польшчы — 102 кв.), селянін на 7-мі гектарах на ЗБ адчувае такі самы зямельны голад, як на 3-4 гектарах у Пазнаншчыне. Церазпалосьсе, вялікая колькасьць няўжыткаў, межаў, узгоркаў спрыяе занапаласьці грунтаў, нізкі ўзровень сельска-гаспадарчай культуры цягне за сабою хранічныя неўраджаі, хранічны **голад** сярод беднаты і нават часткі серадняцтва. Заходняя Беларусь, край наскрозь аграрны, не задавальвае сябе ўласнымі сельска-гаспадарчымі прадуктамі («Слова», 12-XII-31 г.). Імпорт мукі і круп перавышае экспарт. Вастрэйшы яшчэ чым у астатняй Польшчы спадак цэн на сельска-гаспадарчыя прадукты тлумачыцца тым, што падаткові шруб і задоўжанасьць прымушае сялян выкідваць на рынак прадукты коштам галаданьня сялянскай сям'і.

Перажыткі фэадалізму ў зямельных адносінах зьяўляюцца магутным **фактарам рэвалюцыйнага напружаньня на вёсцы,** фактарам аграрнай рэвалюцыі. Буржуазія ня мае сёньня тых **капіталістычных** сродкаў разладаваньня гэтага напружаньня, якія ўжываліся напрыклад прускім урадам у мінулым стагодзьдзі. Неабходным варункам капіталістычнага «упарадкаваньня» зямельных адносін у Прусіі і Пазнаншчыне, было масавае выпіхваньне сялянскай беднаты ў бурна разьвіваўшуюся ў той час прамысловасьць. Сёньня для гэтай беднаты няма адплыву, і масавага яе выпіхваньня нельга правесьці без глыбокіх рэвалюцыйных патрасеньняў. Барацьба за зямлю зьяўляецца падставовай задачай у сялянскай барацьбе, у сёньняшніх варунках, зьяўляецца барацьбою з абшарніцтвам, часткова яшчэ фэадальным, але ў аснове ўжо абапёртым на капіталістычнай падставе. Фашыстоўская зямельная рэформа, ня гледзячы на тое, што ліквідуе некаторыя перажыткі да капіталістычных зямельных адносін, не ліквідуе і не перашкаджае разгортваньню напоўпрыгонных форм вызыску. Узмацняючы і пашыраючы кулацкую запору на вёсцы, узмацняючы капіталістычны вызыск, яна ўзмацняе адначасна формы напоўпрыгоннага вызыску, якія асабліва завастраюцца ў варунках сучаснага зямельнага крызысу. Буржуазная зямельная рэформа зьяўляецца контррэвалюцыйнай незалежна ад таго, ці зьяўляецца яна больш альбо менш радыкальнай. Яна зьяўляецца контррэвалюцыйнай не дзеля таго, што ня досыць «радыкальна» ліквідуе перажыткі фэадалізму, а дзеля таго, што тыя з іх, якія яна ліквідуе (церазпалосьсе, сэрвітуты), яна ліквідуе **па-капіталістычнаму,** для захаваньня і ўмацаваньня абшарніцкай уласнасьці, шляхам аграбленьня падставовых сялянскіх мас на карысьць абшарнікаў і кулакоў. Наша справа гэта барацьба супроць усякай зямельнай рэформы, за рэвалюцыйную ліквідацыю перажыткаў фэадалізму, за аграрную рэвалюцыю.

Адносіны да капіталістычнай зямельнай рэформы зьяўляюцца вельмі важным пунктам у нашай барацьбе з правіцай. Ле-

нін ганьбіў у сваім часе хісткія адносіны да сталыпінскай зямельнай рэформы, як здраду рэвалюцыі. Правая група Варскага-Кастшэвы, якая ў пытаньні адносін да сацыял-фашызму стварыла тэорыю «абасечнасьці», прыпісвала таксама капіталістычнай зямельнай рэформе значэньне барацьбы супроць... абшарніцтва. Стэфанскі, тварэц тэорыі «абасечнасьці» бачыў у законе 1925 года «ліквідацыю зямельнай рэформы», якая «не давала спаць абшарнікам». Гэта ёсьць яўнае скатваньне на буржуазна - рэфармісцкія пазыцыі ППС і народнікаў у ацэнцы зямельнай рэформы. Гэтыя хістаньні паўтараліся сярод кіруючага актыву КПП у трактаваньні ліквідацыі перажыткаў фэадалізму (праз буржуазію), як «прогрэсыўнага фактару». Гэтыя хістаньні існуюць і сярод нашага вясковага актыву ў постаці невыразных адносін да справы камасацыі і ліквідацыі сэрвітутаў, праяўляюцца ў бязьдзейнасьці на тым вучастку сялянскай барацьбы паасобных нашых вясковых арганізацый, у той час, калі сялянскія масы (як гэта прызнаюць нават фашыстоўскія афіцыйныя крыніцы) даюць зацяты адпор камасацыі і ліквідацыі сэрвітутаў. Гэтыя хістаньні зьяўляюцца выразам націску кулацкіх элемэнтаў на паасобныя зьвеньні нашай партыі. Нягледзячы на зацяты адпор шырокіх сялянскіх мас, нягледзячы на трудныя для буржуазіі аб'ектыўныя варункі (працяжнага аграрнага крызісу і ўсеагульнага крызісу капіталізму), фашыстоўскі ўрад праводзіць сваю зямельную палітыку з моцным упорам і не шкадуючы сродкаў, **асабліва** на Заходняй Беларусі. Паводле афіцыяльнай статыстыкі за час ад 1919 да 1931 году на тэрыторыі ЗБ перайшло абшарніцкай і дзяржаўнай зямлі ў рукі набыўшых парцэляў і іншых:

| | |
|---|---|
| Шляхам парцэляцыі . . . | 700.653 га. |
| Як компэнсацыю за сэрвітуты | 198.933 га. |
| Шляхам надзяленьня зямлёю пры камасацыі . . . | 25.893 га. |
| Разам . . . | 925.481 га. |

Гэта азначае, што: а) больш чым 4-х мільённая тэрыторыя буйнай уласнасьці была зьменшана на некалькі сот тысяч га зямлі пераважна горшай, альбо такой, якая не паддаецца, дзякуючы свайму палажэньню, рацыянальнай апрацоўцы; б) абшарнікі ўзамен за скупы эквівалент (у сярэднім 2,4 га на гаспадарку) атрымалі значныя абшары пашы і лясоў, вольных ад сэрвітутаў; в) у выніку парцэляцыі ўзьнікла 22.000 новых гаспадарак і 70,6 тысяч «надзеленых зямлёю». Гэта азначае пэўны рост **кулацкіх** гаспадарак, набыўцы каторых фігуруюць звычайна ў статыстыцы, як «безьзямельныя». Што да слабейшых набыўцоў і тых якія, разьлічваючы на крэдыты, пайшлі на «земленадзяленьне», дык аб іх становішчы орган міністэрства рольніцтва піша наступнае:

> «Мусіць ён, апрача ўсялякіх выдаткаў, заплаціць за зямлю і закупіць нехапаючы інвэнтар, якога ён амаль ня мае... У кожным выпадку абцяжарваюць набыўцу проценты і іншыя кошты, а пры гэтым і на ўплату задатку мусіць ён запазычыцца на ліхвярскі процант» («Рольніцтва», III, 1932 г.).

У рэзультаце — заканчвае аўтар артыкулу — «яны застаюцца без зямлі... ім пагражае высяленьне з прычыны няўплаты належных сум».

г) Камасацыя, паводле афіцыйных даных, ахапіла на ЗБ каля 1/5 сялянскіх гаспадарак. Хаця частка камасацыйнага пляну, фігуруючага ў статыстыцы, застаецца на паперы (правядзеньне камасацыі працягваецца гадамі), аднак трэба ў гэтай галіне прызнаць **значны посьпех** кулацка-капіталістычнай зямельнай палітыкі.

Паралельна з уплываньнем фашыстоўскай зямельнай палітыкі разьвіваўся ў гэтым самым часе стыхійны працэс **дэградацыі сельскай гаспадаркі** (пераход да горшых спосабаў апрацоўкі), таксама ў абшарніцкім і кулацкім гаспадарстве, а таксама працэс зьнішчэньня бедняцкіх гаспадарстваў, зьбядненьня і руйнаваньня серадняцкіх гаспадарстваў. У зьвязку з гэтым адбываецца ўзварот да напоўпаншчынных спосабаў вызыску (адпрацоўкі, арэнда за частку ўраджаю і т. п.).

**Капіталістычна-ліхвярскі вызыск** падставовых сялянскіх мас набірае разьмераў іх масавай **экспропрыяцыі** ў выніку растучай задоўжанасьці. Нават селянін-серадняк, фармальна «самастойны гаспадар», фактычна працуе на капіталіста (банк, кулка ральніча, мястэчковы ліхвяр сусед-кулак альбо ксёндз), на аплату

даўгоў і працэнтаў. Гэнерал Жэлігоўскі ў сваёй монографіі аб наогул серадняцкай вёсцы Ажэвічы канстатуе, што «калі-б мы прадалі ўвесь жывы інвэнтар вёскі, нельга было-б аплаціць нават паловы даўгоў».

Фашыстоўская зямельная палітыка, нягледзячы на пэўныя часовыя посьпехі, не выканала сваёй палітычнай задачы — не разладавала рэвалюцыйнага напружаньня аграрных адносін Заходняй Беларусі, а наадварот (у злучэньні з іншымі фактарамі) прычынілася да яго завастрэньня. Гэтае напружаньне зьяўляецца тым больш, што супярэчнасьці, якія караняцца ў зямельных адносінах, неразрыўна сплецены з нацыянальнымі адносінамі і з нацыянальна-вызваленчай барацьбой.

Абшар дзейнасьці КПЗБ, гэта значыць ЗБ разам з напоўукраінскім Палесьсем і этнаграфічна-літоўскім пасам уздоўж літоўскай граніцы лічыць няменш 70% паняволеных народаў (беларусаў, украінцаў, літоўцаў) і апрача таго каля поўмільёна нацыянальна таксама прыгнечаных яўрэяў. З сфальшаванай польскай статыстыкі аб нацыянальным складзе можна расшыфраваць наступны прыблізны малюнак нацыянальнага складу насельніцтва ЗБ:

| | | |
|---|---|---|
| Беларусаў | 2.300.000 | 52% |
| (у тым ліку каталікаў 350.000). | | |
| Палякаў | 800.000 | 18% |
| Украінцаў | 600.000 | 13,6% |
| Яўрэяў | 500.000 | 11,5% |
| Літоўцаў | 150.000 | 3,7% |
| Іншых | 50.000 | 1,2% |
| Разам | 4.400.000 | 100% |

Лічба польскай меншасьці—нягледзячы на ўсебаковае фільтраваньне ілжывых афіцыйных даных — адавочня ацэненена тут яшчэ занадта высока.

Нацыянальны склад паасобных сацыяльных клясаў Заходняй Беларусі прадстаўляецца наступным чынам:

**Абшарніцтва** зьяўляецца на 80-85% польскім. **Гандлёва-прамысловая буржуазія**—палякі і яўрэі. Іншыя нацыянальнасьці слаба прадстаўлены. Асноўная маса **пралетарыяту**—польскія і яўрэйскія рабочыя, прычым польскія рабочыя займаюць рашаючыя галіны прамысловасьці і транспарту. Беларускі пралетарыят (таксама ўкраінскі) заняты ў дрэваапрацоўчай прамысловасьці, у прамысловасьці перабляючай сельска - гаспадарчыя прадукты, часткова ў гутах і т. п. Сярод сельска-гаспадарчага пралетарыяту, у катэгорыі сталых фальварачных рабочых, асабліва ардынарыюшаў, пераважаюць палякі. **Сялянства** ў масе сваёй зьяўляецца беларускім, украінскім, літоўскім. Больш значныя польскія выспы: большая частка павету Вільня-Трокі, Ашмянскі павет, паўночна-заходняя частка Сьвенцянскага, паўночная частка Лідскага, дзесятак з чымсь гмін на стыку паветаў Дзісьненскага, Пастаўскага і Вілейскага, у павеце Валожынскім, у ваколіцах Беластоку і г. д. **Вясковая буржуазія** (кулацтва): параўнальна досыць лічнае кулацтва польскае. Кулацкі пласт параўнальна больш значны ў раёнах літоўскіх і ўкраінскіх, чым у беларускіх. Беларускае кулацтва параўнальна больш лічнае ў паўночнай частцы Віленшчыны. **Гарадзкая дробная буржуазія**—пераважна яўрэйская пры значным працэнце польскай дробнай буржуазіі. Чыноўніцтва, працоўная інтэлігенцыя і т. п. складаецца пераважна з палякаў. Інтэлігенцыя паняволеных народаў эканамічна паскарджана, не дапускаецца да лепш аплачваемых пасад у апараце дзяржаўным і самаўрадавым.

Як вышэйакрэсьленыя эканамічна-сацыяльныя і нацыянальныя адносіны адбіваюцца на **разьмяшчэньні галоўных палітычных сіл?** Сацыяльная база фашыстоўскай дыктатуры, зьяўляючайся на ЗБ акупанцкім урадам, ёсьць па сутнасьці сваёй больш вузкай чым у Польшчы. Яе адпаведная **клясавая база**—клясы пануючай—нацыянальна не адзіная, а значыцца і з пункту гледжаньня дзяржаўна-палітычнага менш маналітная, чым у Польлітычнага менш маналітная, чым у Польшчы. Сэпаратыстычныя імкненьні буржуазіі паняволеных народаў сёньня прыглушаны ня столькі апартуністычнымі прычынамі, а перадусім супольнымі клясавымі інтарэсамі, якія пераважаюць над нацыянальнымі супярэчнасьцямі і зьмякчаюць іх. Але ў разьвіцьці рэвалюцыі на ЗБ трэба прадугледжваць, што контррэвалюцыя выступіць у адпаведнай сытуацыі пад лёзунгамі дзяржаўнай адасобленасьці, «беларускай народнай рэспублікі», «гістарычнай Літвы», «вялікага літоўскага княжаства» і т. п. У сучасных варунках непольская буржу-

азія пад рознымі заслонамі гуртуецца навакол акупацыі.

На аднэй толькі клясавай базе ніякі буржуазны ўрад ня можа трымацца. Ён мусіць мець больш ці менш разбудаваную сыстэму трансмісій да працоўных мас. Непасрэдныя трансмісіі польскага фашызму зьяўляюцца на ЗБ больш кароткімі, чым у Польшчы і вядуць галоўным чынам да польскіх працоўных мас (клер, групы ББ, арганізацыі «асьветныя», зьвёнзкі «гаспадарчэ», арганізацыі ПВ, спартыўныя і т.п.). **У рабочай клясе** галоўнае значэньне маюць на ЗБ, як і ў Польшчы, пасрэдныя трансмісіі фашыстоўскай дыктатуры—польскі і яўрэйскі сацыял-фашызм.

Роля сацыял-фашызму, апрача гэтых функцый у сыстэме фашыстоўскай дыктатуры, якія ён выконвае ва ўсёй Польшчы, заключаецца яшчэ ва ўзмацненьні захопніцкай і палёнізатарскай акупанцкай палітыкі. Шырака ўжываючы тактыку левых манэўраў для ўтрыманьня сваіх уплываў і паралізаваньня барацьбы рабочых мас, сацыял-фашыстоўскія партыі захоўваюць пры гэтым сьціслейшую чым у Польшчы лучнасьць з уладамі, узгадняюць з імі кожны важнейшы палітычны ход, альбо упрост выконваюць дырэктывы ваяводаў. Спэцыяльная роля іх у службе польскаму імпэрыялізму заключаецца ў распаўсюджываньні культу польскай дзяржаўнасьці, прышчэпліваньні рабочым масам польскага і яўрэйскага нацыяналізму, ізаляваньні пралетарыяту ад сялянскіх мас і нацыянальна-вызваленчага руху.

Яўрэйскі сацыял-фашызм—Бунд—роля якога заключаецца ў атручваньні яўрэйскіх рабочых нацыяналізмам, адцягваньні іх ад міжнароднага клясавага фронту і падпарадкаваньні фашыстоўскай палітыцы яўрэйскай буржуазіі, зьяўляецца вельмі важнай пляцоўкаю контррэвалюцыі.

Усе фракцыі **яўрэйскай буржуазіі**, як Агуда, гэтак і розныя атрады сіяністаў і фолкістаў, зьяўляюцца на ЗБ актыўнай апораю акупацыі. Усе яны адыгрывалі ролю пляцовак ББ на яўрэйскім грунце, усе яны служаць акупанцкай палітыцы праз афішаваньне сваёй вернасьці дзяржаве і сваёй нянавісьці да СССР, праз барацьбу з рабочым рухам, праз выкананьне на сваім вучастку (самаўрады, яўрэйская гміна, школьніцтва) задач фашыстоўскай палітыкі ў галіне фашызацыі, мілітарызацыі і палёнізацыі.

Але галоўнай палітычнай праблемаю для польскага імпэрыялізму на ЗБ зьяўляецца пашырэньне базы акупацыі сярод беларускіх мас: разьбіцьцё трансмісій пралетарыяту ў нацыянальна-вызваленчым руху, пазбаўленьне гэтага руху пралетарскага кіраўніцтва і ахоп мас у той ці іншы спосаб у сыстэму сваіх палітычных уплываў. Гэтым плянам кіраваўся фашыстоўскі ўрад, разьбіваючы Грамаду і Змаганьне. Тагачасны генэральны курс польскага імпэрыялізму быў накіраван да выкарыстаньня паглыбляючыхся клясавых супярэчнасьцяў унутры беларускага народу, да набліжэньня да сабе і падпарадкваньня сабе фармуючагася беларускага нацыянал-фашызму, як галоўнай прылады для ахопу мас пасьля разгрому Грамады. Каб аблягчыць нац.-фашыстам іх задачу, ім былі кінуты пэўныя субвэнцыі на выбары (1928) і на газэты, а таксама пэўныя мізэрныя ўступкі ў галіне школьнай (беларуская сэмінарыя).

Беларускі нацыянал-фашызм усіх груповак, зьяўляючыся выразьнікам беларускай буржуазіі, а значыцца, перадусім **кулацтва**, стаў адкрыта («Цэнтрасаюз»), альбо ў больш замаскаваны спосаб (хадэцыя) на грунце супрацоўніцтва з акупантамі, але ня выканаў ускладзеных на яго акупантамі надзеяў. Рэнэгацкая група якая выйшла з Грамады, выйшла з яе без мас. Акупанты ставілі стаўку па чарзе і адначасна на Цэнтрасаюз, на Сельсаюз Ярэміча, на беларускую хадэцыю, трымаючы ўсіх іх фактычна за грошы і інструктуючы кожны іх крок. Але пробы разбудаваньня праз гэтыя партыі масавай арганізацыі ня далі сур'ёзных вынікаў. У зьвязку з гэтым ва ўрадавым лягеры ўзмацняецца няшчадна палёнізатарскі кірунак, выразіцелем якога стаў Голувка. Ужо пры выбарах 1930 г. санацыя зачыняе выборчую касу для нац.-фашыстаў, праводзіць у сойм вядомымі спосабамі адных сваіх паслоў, прычым творыць «беларускую групу ББ» і групу «Супрацы польска-беларускай». Згодна з асьцярожнай манэўровай тактыкай пілсудзчыны, якая звыкла камбінаваць свае палітычныя стаўкі, нац.-фашыстам была застаўлена

акрэсьленая роля але больш абмяжаваная ў параўнаньні з першапачатковым курсам. Некалькі разоў імкнецца акупацыя пры іх дапамозе апанаваць ТБШ, але і гэтая скромная параўнальна задача канчаецца паражэньнем. Школьныя уступкі, уступкі царкоўныя і т. п., якія павінны былі быць палітычным капіталам нац.-фашызму, адабраны назад, альбо даведзены да мінімуму. Адначасна ідзе ўзмоцненая нямшчадная палёнізатарская палітыка, разьлічаная перадусім на моладзь, на палёнізацыю новага пакаленьня.

Важнейшай запорай, на якую напатыкаюцца беларускія буржуазна-кулацкія партыі ў сваіх імкненьнях да пашырэньня ўплываў у масах зьяўляецца — як гэта яны самі неаднокраць сьцьвярджалі — **магутнае ўплываньне камунізму на сялянскія масы і нацыянальна-вызваленчы рух.** Гэта ёсьць ці-то непасрэдна ўплываньне КПЗБ, ці-то пасрэдна — уплываньне пераможнай пралетарскай рэвалюцыі ў СССР, уплыў рэвалюцыйных і нацыянальна-культурных дасягненьняў працоўных мас БССР пад кіраўніцтвам пралетарыяту. Апрача гэтага параўнаўчая слабасьць беларускіх буржуазна-кулацкіх партыяў стаіць у сувязі з недахопам досыць моцнай эканамічнай базы. Гаспадарчыя пляцоўкі беларускай буржуазіі мізэрны. Гучная назва «Цэнтрасаюзу» зьяўляецца спробаю існаваць па сьлядох украінскіх каапэратыўных саюзаў і «Прасьвіты», але гэта ёсьць запазычаньне формы пры адсутнасьці матар'яльнага зьместу. Нялічныя каапэратывы, як напрыклад адзіны Беларускі Банк у Вільні, зьяўляюцца слабенькімі крамкамі бяз уласных сродкаў і без крэдыту.

Адасобнасьць эканамічных інтарэсаў беларускай буржуазіі адносна да польскай буржуазіі і выплываючыя адсюль эканамічныя запатрабаваньні маюць характар ці то «краёвы», ці то больш вузка нацыянальны. «Краёвыя» пастулаты» беларускай буржуазіі падтрымліваюцца досыць шырокімі коламі яўрэйскай і нават польскай буржуазіі, стала пратэстуючай супроць паскарджваньня Земі Віленьскай» параўнальна з іншымі часткамі дзяржавы. Але беларуская буржуазія адчувае, апрача «краёвага», таксама галоўным чынам і нацыянальнае паскарджэньне. Яна наогул адсунута ад удзелу ў даходах якія плывуць з эксплёатацыі краю праз польскі капітал, ад пасад у дзяржаўным апараце, ад рэгулярных субсыдый, што раздаюцца польскім асаднікам, польскім гаспадарчым арганізацыям і г. д. Яе скромная праграма «арганічнай працы» застаецца вісець у эканамічнай пустаце, а яе ня менш скромная праграма «культурна-асьветнай» працы, упіхнута ў цесныя рамкі цьвёрдай палёнізатарскай сыстэме, і спатыкае апрача гэтага непераможанае недавер'е мас.

Для сваіх дзяржаўна - палітычных імкненьняў беларуская буржуазія не знаходзіць пунктаў апоры па - за межамі Польшчы. Яна аддана на ласку польскага імпэрыялізму, адзінай сілы, якая можа вызначыць яе якуюсь палітычную ролю ў сваіх плянах вайны з СССР. У якасьці слабай рэзэрвы застаецца толькі Літва і надзея праз Літву, пры зьмене палітычнай сытуацыі, зацікавіць нямецкі імпэрыялізм. Гэтую «літоўскую арыентацыю» прадстаўляе ў пэўнай меры Бел. цыю» прадстаўляе ў пэўнай меры БХД. «Цэнтрасаюз» арыентуецца цалкам і выключна на польскі імпэрыялізм, як адзіныя салідныя «плечы» супроць працоўных мас і супроць БССР. Існуюць аднак яскравыя довады, што заглядваньні Бел. хадэцыі ў бок Коўна і яе больш сьмелая чым у «Цэнтрасаюзе» апазыцыйная фраза, не перашкаджае ёй быць у той жа самай ступені на ўтрыманьні «выдзялу беспечэнства» і выконваць ідучыя адтуль даручэньні. Беларуская буржуазія змушана прадавацца вельмі танна і без захоўваньня прыстойнасьці. Замест палітычных альбо хаця-б эканамічных «кампэнсацый», яе дзеячы бяруць упрост аб'едкі «фундушаў дыспозыцыйных» дэфэнзывы і на яе падтрыманьні будуюць свае палітычныя кар'еры (пасол Ярэміч і інш.).

Было-б аднак-жа палітычнай памылкаю ацэньваць палітычнае значэньне нац. фашызму выключна на падставе яго сёньняшніх пазыцый. Трэба памятаць, што нац.-фашызм зьяўляецца выразіцелем перадусім **кулацтва** — надзвычай жывучага атраду буржуазіі, зьвязанага ўсім сваім вобразам жыцьця з сялянскімі масамі, асабліва з серадняцтвам. Нац.-фашызм сёньня мае яшчэ за сабою шырокія ўплывы сярод беларускай інтэлігенцыі Заходняй Беларусі і амаль

усё беларускае духавенства абодвух вызнаньняў, манапалізуе ўсю легальную беларускую прэсу, мае параўнальна шырокія мажлівасьці выдавецтва і т. п. Нац.-фашызм, ня маючы магчымасьці здабыць для сябе давер'я шырокіх мас, можа пасьпяхова, пры дапамозе сваёй прэсы, касьцёлу, царквы і сваёй кулацкай падставы на вёсцы, падкапываць давер'е да КПЗБ, да польскага пралетарыяту, да палітыкі пралетарыяту ў СССР і БССР. Сеючы з другога боку ілюзіі больш мірных сродкаў барацьбы, чым рэвалюцыйны шлях, альбо прапагандуючы чакаць міжнародных падзеяў, якія «самі» зьменяць сытуацыю, нац.-фашызм падмацоўвае няўнікнёныя хістаньні і апартунізм серадняцтва і аслабляе баявую гатоўнасьць мас. Трэба апрача гэтага памятаць, што вострая небясьпека вайны з Савецкім Саюзам павышае палітычнае значэньне нацыянал - фашызму, бо ў выпадку вайны ён нясумненна яшчэ раз адыграе ў руках польскага імпэрыялізму ролю прылады для канцэнтрацыі сіл контррэвалюцыі ў ЗБ і БССР. Нарэшце досьлед СССР вучыць, што роля кулацтва ў лягеры контррэвалюцыі параўнальна (у параўнаньні з іншымі атрадамі буржуазіі) узрастае ў ходзе разьвіцьця пралетарскай рэвалюцыі. У той момант, калі польская акупацыя заламаецца, нац.-фашызм пад сьцягам «беларускай народнай рэспублікі», стане бязумоўна **цэнтральнай** пазыцыяй контррэвалюцыі на ЗБ, прычым частка польскіх «краёўцаў» зафарбуе сябе, падобна таму, як у 1917-18 г.г., для абароны сваіх клясавых інтарэсаў, у нацыянальна-беларускія фарбы. Вось дзеля чаго нац.-фашызм, нягледзячы на свае няўдачы, застаецца сёньня і на ўвесь пэрыяд нашай барацьбы за ўладу асабліва небясьпечным ворагам.

З - пасярод **міжнародных** фактараў на разьвіцьцё і характар рэвалюцыі на ЗБ уплывае **суседзтва СССР** і ў пэўнай меры таксама суседзтва **Літвы.** Суседзтва СССР і існаваньне БССР зьяўляецца магутным фактарам завастрэньня клясавых супярэчнасьцяў на ЗБ, узьняцьця палітычнай сілы пралетарыяту, яго ўплыву на шырокія працоўныя масы. З другога боку, суседзтва СССР паскарае і ўзмацняе палітычную канцэнтрацыю буржуазіі паняволеных народаў навакол польскага імпэрыялізму.

Суседзтва Літвы і напружаныя польска-літоўскія адносіны зьяўляюцца фактарам, аслабляючым пазыцыі польскага імпэрыялізму на ЗБ. Яно можа адыграць пэўную ролю ў ходзе рэвалюцыі праз завастрэньне пытаньня аб Вільні і нават праз актыўную інтэрвэнцыю—пробу захвату Вільні ў выпадку заламаньня польскай акупацыі.

* * *

Сацыяльная база пралетарскай рэвалюцыі на ЗБ зьяўляецца, як мы бачым, вельмі шырокай. Але **разьмяшчэньне сіл** на фронце рэвалюцыі, адносіны паміж **галоўнай** рухавай сілай рэвалюцыі—рабочай клясаю—і **рэзэрвовымі сіламі**—рэвалюцыйным сялянскім рухам і нац.-вызваленчым рухам — зьяўляюцца іншымі, чым у карэннай Польшчы. Пралетарскі сьцержань зьяўляецца параўнальна слабым. Галоўныя стратэгічныя задачы камуністычнай партыі—заваяваньне большасьці рабочае клясы, рэвалюцыйная канцэнтрацыя ўсіх сіл, якія пралетарыят на данным вучастку можа мабілізаваць, — затруднены ў выніку адсутнасьці сапраўды буйнай прамысловасьці, якая ў працэсе вытворства гуртуе шырокія рабочыя масы. Гэтая канцэнтрацыя затруднена таксама, дзякуючы нацыянальнай стрыкатасьці пралетарыяту, якая стварае грунт для пранікаR ньня ў рабочыя масы буржуазнага нацыяналізму. Асабліва небясьпечным зьяўляецца націск польскага вялікадзяржаўнага нацыяналізму, калі прыняць пад увагу, што менавіта польскія рабочыя пераважаюць колькасна ў важнейшых прамысловых асяродках (Беласток, Вільня) і ў важнейшых галінах гаспадарчага жыцьця. Той факт, што мы маем у сваёй большасьці польскі і яўрэйскі пралетарыят у беларускім краі, у масе беларускага сялянства, зьяўляецца найбольшай труднасьцю таксама для разьвязваньня **рашаючай** у даных варунках рэвалюцыйнай задачы—**падцягваньня рэзэрваў пралетарыяту,** увязкі пралетарыяту з сялянскай масаю і з нацыянальна-вызваленчым рухам, угрунтаваньня не ў адозвах і дэклярацыях, а ў **штодзённай акцыі** кіруючай ролі (гегеманіі) пралетарыяту ў рэвалюцыйным

сялянскім руху і нацыянальна-вызваленчым руху.

Побач з гэтымі труднасьцямі, на Заходняй Беларусі ёсьць яшчэ такія моманты, якія надзвычайна спрыяюць мабілізацыі рэвалюцыйных сіл: высокае напружаньне клясавых супярэчнасьцяў на вёсцы, шпарка насьпяваючыя варункі вялікай **аграрнай рэвалюцыі** і нацыянальна-вызваленчы рух, даючы магчымасьць мабілізаваць супроць польскай акупацыі і накіраваць супроць самога панаваньня буржуазіі народныя масы шмат шырэй, чым у карэннай Польшчы. Нягледзячы на колькасную слабасьць пралетарыяту, пазыцыі КПЗБ у нацыянальна-вызваленчым руху зьяўляюцца бясспрэчна дамінуючымі, і яны (пры ўсёй нашай слабасьці на шэрагу важных вучасткаў рэвалюцыйнай барацьбы) чыняць з КПЗБ **такую палітычную моц,** да зваленьня якой накіраваны бадай што выключна ўсе іншыя палітычныя сілы, што дзейнічаюць на ЗБ (акупацыйныя ўлады і польскія фашыстоўскія партыі, сацыял-фашызм і беларускі нацыянал-фашызм). Надзвычайна вострымі зьяўляюцца сродкі крывавага тэрору, якія ўжываюцца ў барацьбе супроць рэвалюцыйнага руху. Гэты тэрар зьвязан з агульнымі варункамі акупацыі і значньнем ЗБ, як аванпосту для вайны з СССР. Але ён вынікае таксама і з таго, што на ЗБ больш выразна чым дзе-кольвек у Польшчы ўся палітыка буржуазіі стаіць пад знакам барацьбы з камунізмам. Надзвычайна важным фактарам, узмацняючым уплыў і значэньне КПЗБ, зьяўляецца беспасрэднае ўплываньне на масы пераможнай барацьбы за сацыялізм у СССР і БССР.

Магчымасьць рэвалюцыйнай мабілізацыі, на грунце барацьбы з акупацыяй, больш шырокіх чым у Польшчы народных мас азначае, што мы можам ставіць сабе мэту на ЗБ заваяваць для рэвалюцыі падаўляючую большасьць серадняцтва паняволеных народаў.

Адносна **польскага** серадняцтва на ЗБ мы ставім сабе тую самую задачу, што і ў карэннай Польшчы—заваяваньне для рэвалюцыі пераважнай яго часткі і нэйтралізацыю рэшты—прычым гэта задача на ЗБ можа быць параўнальна больш труднай чым у Польшчы з прычыны большага ўплыву нацыяналізму на польскае сялянства ў акупаваным краю. Мы маем таксама большыя чым у Польшчы магчымасьці здабыцьця гарадзкой дробнай буржуазіі, прычым гэта адносіцца і ў гэтым выпадку да паняволеных народаў. За-тое заваяваньне альбо нэйтралізацыя **польскай** дробнай буржуазіі і працоўнай інтэлігенцыі патрабуе ад нас асаблівых намаганьняў. Дагэтуль мы ў гэтым кірунку амаль нічога не зрабілі.

Наскрозь аграрны характар, адсталыя сацыяльна-эканамічныя адносіны з вельмі значнымі перажыткамі фэадалізму, выключнае значэньне нацыянальнага пытаньня і колькасная слабасьць пралетарыяту цалкам апраўдываюць пастаноўку такога пытаньня: ці рэвалюцыя да якой мы ідзем на ЗБ, будзе **сацыялістычнай** рэвалюцыяй, ці можа мы будзем мець спачатку рэвалюцыю пад гегемоніяй пралетарыяту, але па характару буржуазна-дэмакратычную, якая толькі ў далейшым сваім разьвіцьці будзе перарастаць у рэвалюцыю сацыялістычную? Гэтая праблема была закранута—у дачыненьні да Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны—у міжнароднай прэсе і ў прэсе КПП. Яна была шырока абгаворана таксама на VI зьездзе КПП у сувязі з праграмнай дыскусіяй і нацыянальным пытаньнем у Польшчы. Партыя заняла ў гэтай справе ясную пазыцыю, прызнаўшы, што рэвалюцыя на ЗБ і ЗУ, як складовая частка рэвалюцыі ва ўсёй Польшчы, будзе насіць **прынцыпова** той самы характар, гэта значыць будзе **сацыялістычнай** рэвалюцыяй, якая мімаходам, па шляху да сваіх падставовых сацыялістычных мэтаў павінна будзе зьдзейсьніць **вельмі шырокі аб'ём задач буржуазна - дэмакратычнага характару,** перадусім у галіне зямельнага пытаньня (сялянская аграрная рэвалюцыя) і нацыянальнага пытаньня (вызваленьне паняволеных польскім імпэрыялізмам народаў). Значэньне гэтых задач у ходзе барацьбы пралетарыяту за заваяваньне і ўтрыманьне ўлады будзе на ЗБ і на ЗУ такое вялікае, што трэба прызнаць іх за задачы **пераважаючыя** ў першым пэрыядзе сацыялістычнай рэвалюцыі. Гэта не зьмяняе сацыялістычнага характару рэвалюцыі, бо характар гэты рашаецца **пытаньнем улады,** рашаецца тым, якая кляса нізьвяргаецца рэвалюцыяй і якая прыходзіць на яе месца. А ў гэтай справе ня можа быць сумненьняў. Рэвалюцыйны

рабоча-сялянскі ўрад ня можа быць і на ЗБ (падобна як ва ўсёй Польшчы) нічым іншым, як **дыктатураю пралетарыяту,** і **асноўнай** задачай рэвалюцыі будзе з самага пачатку шэраг сацыялістычных дэкрэтаў (рабочы кантроль над усім гаспадарчым жыцьцём, пралетарская нацыяналізацыя падставовых галін прамысловасаці, транспарту, банкаў, буйнага гандлю). Адзінства рэвалюцыі на ЗБ з рэвалюцыяй у Польшчы, якая значна больш чым ЗБ эканамічна і сацыяльна насьпела да сацыялістычнай рэвалюцыі, а таксама суседства СССР дазваляе пралетарыяту ЗБ справіцца з гэтымі задачамі, якія былі-б для яго гістарычна заўчаснымі, калі-б ЗБ была пазаўстаўлена выключна ўласным сілам. **Перавага задач буржуазна-дмакратычнага характару азначае, што галоўнымі вагарамі рэвалюцыйнай мабілізацыі мас у барацьбе пралетарыяту ЗБ за ўладу і за ўтрыманьне ўлады будзе разьвязваньне аграрнай рэвалюцыі —экспрапрыяцыя абшарнікаў і захоп зямлі сялянамі—і разьвязваньне нацыянальнага паўстаньня — прагнаньне акупантаў.** Толькі рушыўшы галоўныя сілы на апанаваньне гэтых вагароў, зможа пралетарыят на ЗБ ажыцьцявіць сваю сацыялістычную рэвалюцыю. Аграрная рэвалюцыя ў варунках Польшчы, а значыць і на ЗБ зьяўляецца складовай неад'емнай часткай сацыялістычнай рэвалюцыі і пасьпяховасьць яе залежа ад пасьпяховасьці і перамогі сацыялістычнай рэвалюцыі. Прызнаньне таго факту, што буржуазна-дэмакратычныя задачы будуць пераважаць у першым пэрыядзе сацыялістычнай рэвалюцыі, не зьмяншае сацыялістычнага характару гэтай рэвалюцыі. Гэта азначае толькі, што сацыялістычная рэвалюцыя адбудзецца тут у варунках **выключна трудных,** непараўнальна труднейшых, чым у краёх высокага разьвіцьця капіталізму, што партыя ўжо сёньня павінна цалкам здаваць сабе справу з гэтых труднасьцяй і ўзброіцца да іх перамажэньня.

Мы павінны прапітаць зразуменьнем важнасьці гэтых задач ня толькі кожнага члена КПЗБ і КСМ ЗБ, але таксама шырокі рэвалюцыйны актыў, і перадусім рабочы актыў. Мы павінны шляхам упартай барацьбы за ізаляцыю сацыял-фашыстоўскіх і іншых буржуазных партый ад рабочых мас, і шляхам асабліва напружанай барацьбы з **нацыяналізмам** узгадаваць наш пралетарыят у духу непрымірымага пралетарскага **інтэрнацыяналізму** і перамагчы гэтым спосабам перашкоды нацыянальных розьніц, якія падзяляюць паасобныя атрады рабочае клясы і аддзяляюць рабочую клясу ад сялянскіх мас. Адначасна павінны мы сярод пралетарыяту ўсіх нацыянальнасьцяй, а асабліва сярод польскага і яўрэйскага пралетарыяту распаўсюджваюць зразуменьне значэньня барацьбы паняволеных народаў для яго ўласнай пралетарскай сацыялістычнай рэвалюцыі. Лёзунгі: «вон акупантаў!» і «права паняволеных народаў на самавызначэньне аж да аддзяленьня ад Польшчы» павінны стаць лёзунгамі штодзённай барацьбы усяго пралетарыяту Заходняй Беларусі. З няменшымі упорам і націскам павінны мы ўсякімі шляхамі і ўсякімі спосабамі зацясьняць натуральны і неабходны ў варунках ЗБ сплёт паміж штодзеннай клясавай барацьбой пралетарыяту і барацьбою сялянскіх мас супроць абшарніцтва, супроць падатковай і ліхвярскай грабежы, супроць палупрыгонных форм вызыску, супроць акупантаў, за зямлю бяз выкупу. Сьвядома і сыстэматычна зацясьняць спляценьне пралетарскай рэвалюцыі з сялянскай аграрнай рэвалюцыяй і з нацыянальна-вызваленчым паўстаньнем супроць польскай акупацыі, няўстанна ўзмацоўваць кіруючую ролю пралетарыяту ў сялянскім і нацыянальна-вызваленчым руху, ніколі, ні на хвіліну ў штодзённай крапатлівай партыйнай працы не траціць з вачэй гэтай генэральнай установкі — вось шлях да пераможнай **сацыялістычнай** рэвалюцыі на ЗБ.

# Супроць права-трацкісцкіх рэнэгатаў.

У нашы рукі трапіў **мэмарыял,** распрацованы праз рэнэгацкую трацкістоўскую групку, у якім ў непрыкрытай форме дадзена **плятформа барацьбы з партыяй** і партыйным кіраўніцтвам. На гэтай плятформе яны імкнуцца здабыць прыхільнікаў і скалаціць фракцыю. Аўтары мэмарыялу не скрываюць сваёй варожасьці да палітыкі і дзейнасьці партыі. Яны называюць гэтую палітыку «фальшываю», «ультралевою» і заяўляюць, што яны будуць «не ўступаючы, змагацца» супроць партыі ў імя пазыцыі, якую яны прадстаўляюць. А якая-ж гэта пазыцыя?

## АБАРОНА ППС

«Дробна-буржуазныя дэмакраты (ППС) баяцца з аднаго боку фашызму, а з другога боку—камунізму»—заяўляюць трацкісты ў сваім дакумэнце. У гэтым разуменьні ППС — гэта прадстаўнік дробнабуржуазнай дэмакратыі, а не, як гэта мы гаворым, агентура буржуазіі ў шэрагах рабочае клясы. Дзеля таго ня дзіўна, што аўтары мэмарыялу раяць зьмену тактыкі ў дачыненьні да ППС, што вынікае з зьмены ацэнкі яе ролі і функцыі.

Ці правільна трактаваць ППС, як дэмакратычна-дробнабуржуазную партыю? Здавалася-б, што пасьля трынаццаці год досьледу вайны, рэвалюцыі, пэрыядаў адноснай стабілізацыі і нарэшце сучаснага канца гэтай стабілізцыі — пытаньне гэта павінна быць ясным.

Праграма Камуністычнага Інтэрнацыяналу так характарызуе сутнасьць сацыял-дэмакратыі:

«...Імпэрыялістычнаю формаю падпарадкаваньня пралетарыяту ідэолёгічнаму ўплыву буржуазіі зьяўляецца сучасны «сацыялістычны» рэфармізм...

У галіне замежнай палітыкі сацыялдэмакратычныя партыі пад сьцягам «абароны айчызны» актыўна супрацоўнічалі ў імпэрыялістычнай вайне. Экспансія імпэрыялістычнай дзяржавы і «калёніяльная палітыка» знаходзяць у іх поўнае падтрыманьне, арыентацыя на контррэвалюцыйныя сьвяшчэныя саюзы імпэрыялістычных дзяржаў (Ліга Нацый), абвяшчэньне «ультраімпэрыялізму», мабілізацыя мас пад ашуканчымі пацыфісцкімі лёзунгамі і адначасна актыўнае падтрыманьне імпэрыялізму ў яго атаках на СССР і ў яго будучай вайне супроць СССР—вось прынцыповыя рысы замежнай палітыкі рэфармізму.

У галіне ўнутранай палітыкі сацыялдэмакратыя паставіла сабе за задачу **непасрэдна супрацоўнічаць і непасрэдна дапамагаць панаваньню капіталізму.** Падтрыманьне цалкам капіталістычнай рацыяналізацыі і стабілізацыі капіталізму, **забесьпячэньне клясавага міру,** «міру ў прамысловасьці» палітыка ўрастаньня рабочых арганізацый у арганізацыі прадпрыемцаў і разбойнай імпэрыялістычнай дзяржавы, практыка так зв. «гаспадарчай дэмакратыі», што зьяўляецца ў сапраўднасьці **практыкай поўнага падпарадкаваньня трэставанаму капіталу,** дыфырамбы імпэрыялістычнай дзяржаве, асабліва-ж яе хлусьліва-дэмакратычным **шыльдам,** актыўнае будаўніцтва органаў гэтай дзяржавы, яе паліцыі, арміі, жандармэрыі, яе клясавага суду, **абаро-**

**на гэтай дзяржавы** ад усякіх варожых імкненьняў з боку рэвалюцыйнага камуністычнага пралетарыяту і катаўская роля сацыял-дэмакратыі ў часе рэвалюцыйных крызысаў—вось лінія рэфармісцкай унутранай палітыкі» (усюды падкрэсьлена мною).

А рэзалюцыя XI пленуму Выканкому Камінтэрну кажа:

«Усё разьвіцьцё сацыял-дэмакратыі ад часу вайны і паўстаньня Савецкай улады ў СССР—гэта **неразрыўны працэс эвалюцыі да фашызму**».

Менавіта гэтага працэсу эвалюцыі сацыял-дэмакратыі аўтары мэмарыялу ня хочуць бачыць, хочуць схаваць ад рабочых мас. І дзеля таго аўтары мэмарыялу ня могуць стравіць гэтай ацэнкі, якую партыя дае ППС, Бунду і іншым сацыял-фашыстоўскім партыям. Вось якое фармуляваньне гэтай ацэнцы дадзена VI пленумам:

«ППС і іншыя сацыял-фашыстоўскія і ўгодовыя партыі зьяўляюцца тым ворагам, які найбольш далёка пранікае ў глыбіню працоўных мас, які найбольш хітра дэзарыентуе масы, які прабіраецца ў масы, што імкнуцца да барацьбы з фашызмам, і адцягвае іх ад рэвалюцыйнай барацьбы ня толькі радыкальнай і дэмакратычнай фразаю, але таксама апазыцыйнай фразаю да ўраду; ворагам, які захапіў кіруючыя органы ў прафэсыянальным і каапэратыўным руху, які найбольш хітра ламае фронт палітычных і эканамічных баёў пралетарыяту, які найбольш здрадна сее нянавісьць да пралетарскай дзяржавы, да СССР».

Што-ж падкрэсьліваюць аўтары мэмарыялу, як найбольш істотнае ў палітыцы ППС, Строніцтва Людовего і т. п.?

Па-першае, што іхная палітыка (Цэнтралеву) мае на мэце «абарону сялянства і дробнай буржуазіі **супроць гаспадарчай палітыкі картэляў, банкаў і сындыкатаў»**. Па-другое, што яна накіравана да **«зьмены палітычнага парадку»**, г. ё. замены фашыстоўскай дыктатуры дэмакратычна-парлямэнцкаю дыктатурай буржуазіі». Значыцца аўтары разумеюць дробнабуржуазную дэмакратыю, як змагаючуюся ў абарону сваіх гаспадарчых інтарэсаў супроць буйна-капіталістычнай палітыкі ўраду і змагаючуюся ў абарону сваіх палітычных інтарэсаў за дэмакратыю супроць фашыстоўскай дыктатуры. З гэтага ў далейшым ходзе вынікае, што ППС і іншыя партыі Цэнтралеву, змагаючыся супроць палітыкі картэляў, банкаў і сындыкатаў, накіраванай супроць інтарэсаў найшырэйшых народных мас — а значыцца і рабочых, — змагаюцца таксама за рабочыя інтарэсы. Далей вынікае з такой пастаноўкі пытаньня, што дэмакратычна-парлямэнцкі строй палітычна адпавядае інтарэсам дробнай буржуазіі.

Ці не пярэчыць яскрава гэтым цьверджаньням досьлед дэмакратычна-парлямэнцкай сыстэмы панаваньня ў Польшчы да 1926 году? Хіба роля ППС-аўскага ўраду з Марачэўскім на чале ў 1918-19 г. не заключалася ў тым каб даць адпор рэвалюцыйнаму наступленьню мас, збудаваць падваліны капіталістычнай Польшчы, панаваньня буржуазіі, падрыхтоўкі вайны супроць СССР. Ці не рэалізавалі партыі так званай дробна-буржуазнай дэмакратыі палітыкі буйнага капіталу? Ці не перакідвалі яны максымум цяжараў на плечы рабочае клясы і сялянства і найшырэйшых дробна-буржуазных мас? Чыім коштам адбылася інфляцыя, а потым і стабілізацыя валюты?

А заграніца? Хто скажа, што урад Брунінга — Зэвэрынга ў Нямеччыне праводзіў «абарону сялянства і дробнай буржуазіі супроць гаспадарчай палітыкі картэляў, банкаў і сындыкатаў»? Вось-жа нават ППСаўская прэса не магла ўкрыць буйна-капіталістычнага рэакцыйнага і антынароднага характару гэтага ўраду, цалкам падтрыманага праз сацыял-дэмакратыю.

А можа Макданальд, яго ўрад прадстаўляў і праводзіў інтарэсы дробнай буржуазіі напракі буйнаму капіталу? Ці не нагадвае гэта проста на зьдзек?

**Гэтыя тэзысы яскрава супярэчаць праграме Камуністычнага Інтэрнацыяналу:** у той час, калі праграма Камінтэрну кажа аб практыцы «поўнага падпарадкаваньня трэставанаму капіталу» — троцкісты супроцьстаўляюць гэтаму «абарону сялянства і дробнай буржуазіі супроць гаспадарчай палітыкі картэляў, банкаў і сындыкатаў». У той час, калі праграма Камінтэрну кажа, што лінія II Інтэрнацыяналу «забясьпечыць клясавы мір», — правыя балбочуць аб «зьмене палітычнага парадку». Тут атакуецца лінія і праграма Камінтэрну.

І ня дзіва. Троцкі ўвесь час атакуе **праграму і лінію** Камуністычнага Інтэрнацыяналу, асабліва-ж нашую пазыцыю

ў справе II Інтэрнацыяналу. Ён дапамагае II Інтэрнацыяналу і лічыць ацэнку сацыял-дэмакратыі, як сацыял-фашызму, памылковай, неадпавядаючай рэчаваснасьці. Ён таксама ня прызнае працэсу эвалюцыі сацыял-дэмакратыі да сацыял-фашызму. У гэтай справе пазыцыя правых рэнэгатаў (Брандлер) цалкам зьбягаецца і пакрываецца з трацкістоўскай пазыцыяй.

Ці не ясна, такім чынам, чаму аўтары мэмарыялу ў сваім дакумэнце так старанна ўнікаюць таго, каб акрэсьліваць сацыял-дэмакратыю, як сацыял-фашызм? Усе іх намаганьні накіраваны да таго, каб давесьці, што сацыял-дэмакрытыя (ППС) абараняе дробную буржуазію перад палітыкай картэляў і змагаецца за зьмену палітычнага парадку. Бязумоўна, ППС, Бунд і іншыя партыі сацыял-угоды імкнуцца ў рамках капіталістычнага гаспадарства выжабраваць і выгандляваць падачкі для сваёй кліентуры — для пэўных пластоў дробнай буржуазіі і рабочай арыстакратыі. Таксама бязумоўна тое, што яны голасна крычаць аб гэтым, як аб барацьбе супроць палітыкі картэляў, сындыкатаў, банкаў і т. д. Але трэба быць безнадзейным апартуністам, каб прыняць гэты крык за шчырую манету, каб ацаніць гэты крык так, як яна сама пра сабе кажа. Трэба быць разьюшаным шкоднікам, каб у імя апалёгіі ППС узьняць у партыі барацьбу супроць правільнай лініі партыі і Камінтэрну.

А як-жа справа з гэтай «зьменаю палітычнага парадку»? Бязумоўна, што сацыял-фашысты ўсіх краёў імкнуцца ўтрымаць «дэмакратычны» фасад дыктатуры буржуазіі і захаваць з яго як мага больш парлямэнтарных форм, без якіх ім трудна выконваць сваю падставовую функцыю — ашукваць масы і зьвязваць іх рэвалюцыйную энэргію ілюзіямі аб «праве і дэмакратыі», бяз якіх нарэшце трудней ім утрымаць сваіх пазыцый ў сыстэме розных партый буржуазнага лягеру, трудней утрымаць свае пазыцыі ў апараце дзяржаўным, самаўрадавым і т. п., пазыцый, якія зьяўляюцца крыніцаю даходу і маюць вельмі вялікае значэньне для бюракратыі. Але трэба быць безнадзейным апартуністам, каб пасьля ўсіх досьледаў—італьянскіх, польскіх, венгерскіх, нямецкіх — выступаць у абарону ППС, ня бачыць службовае ролі сацыял-дэмакратыі ў фашызме, каб ня бачыць, што сацыял-дэмакратыя ня толькі пракладвае шлях да фашызму, але зьяўляецца партыяй, якая цягне масы на шлях капітуляцыі і ўгоды з фашызмам, што с.-д. зьяўляецца заслонаю і **дапамагальнай сілаю фашызму, а не зьяўляецца сілаю, што змагаецца** за замену фашыстоўскай дыктатуры парлямэнтарнай дэмакратыяй. З гэтага пункту гледжаньня надзвычайна навучальнымі зьяўляюцца падзеі апошніх некалькі месяцаў у Нямеччыне, асабліва падзеі 20 ліпеня, дня фашыстоўскага перавароту ў Прусіі. Калі фашыстоўскі ўрад Папена разьвязаў пруські ўрад з сацыял-дмакратыяй на чале, назначыў свайго камісара ў Прусіі, зьняў сацыял-дэмакратычнага прэзыдэнта паліцыі Бэрліна і г. д. — што было галоўным клопатам сацыял-дэмакратыі? Абарона заваяваньняў пралетарыяту? Адпор фашыстоўскім замахам? **НЕ!** Галоўным клопатам іх было утрымаць масы ад рэвалюцыйных выступленьняў, якія маглі-б устрасануць падставы існуючага ражыму. Лёзунг — спакою, г. ё. лёзунг капітуляцыі — был іх лёзунгам.

**Тэатральныя жэсты і фікцыйныя ўдары па адрасу Папена, а на справе напружаныя імкненьні, каб супроцьдзейнічаць кінутаму Кампартыяй лёзунгу — усеагульнай забастоўкі,** каб разьбіць і асалабіць пашыраючыся і магутнеючы адзіны фашыстоўскі фронт рабочых мас.

Усяго гэтага аўтары мэмарыялу ня хочуць бачыць, ня ўмеюць бачыць, бо яны засьлепляны апартунізмам, які іх прасяк да мазга касьцей.

## ПРАГРАМА КАПІТУЛЯЦЫІ ПЕРАД ППС

Пратэстуючы супроць трактаваньня ППС, як складовай часткі буржуазнага і фашыстоўскага лягеру, выходзячы з падставы, што ППС зьяўляецца дробнабуржуазнай партыяй дэмакратыі і як гэткая «імкнецца да зьмены фашыстоўскага ражыму» — аўтары мэмарыялу бачуць у ёй часовага і няпэўнага, але **саюзьніка** ў барацьбе, з якім трэба ісьці на «кампромісы», «угоды» і г. д.

Напрыклад, кажучы аб Берасьцейскім працэсе, мэмарыял яшчэ раз падкрэсьлівае, што ўрад застасаваў тэрар да «прадстаўнікоў дэмакратычнай дробнай

буржуазіі» і што ў той час трэба было «зьвярнуцца да правадыроў ППС з прапазыцыяй супольна выступіць пад лёзунгам: супроць фашыстоўскага тэрару, за вызваленьне ўсіх палітычных вязняў, за свабоду прэсы, сходаў і іншыя частковыя палітычныя дамаганьні. Гэты «кампроміс» даў-бы нам магчымасьць здэмаскаваць у практыцы дробна-буржуазную сутнасьць ППС»...

Старая песенька: вось «дробна-буржуазная дэмакратыя», якую громіць буйна-капіталістычны фашызм. У абарону палітычных свабод камуністы нібы кавалак шляху павінны ісьці з гэтай дробна-буржуазнай дэмакратыяй. Гэтак уразумела правіца (Варскі, Кастшэва) у памятным 1926 г. у часе майскага перавароту. Толькі што ў той час прадстаўніком дробна-буржуазнай дэмакратыі меў быць Пілсудзкі. Сёньня Костшэва-троцкісты варочаюцца да сваёй старай канцэпцыі з крыху інакш растаўленымі фігурамі і кажуць:

> «Адзіны фронт з ворагам у рабочым асяродзішчы можа быць ужыт толькі пры ўмове, што мы ня будзем сабе зьвязваць рукі, г. ё. пры ўмове захаваньня поўнай самастойнасьці і права на нічым незьвязанай крытыкі кожнага акту здрады «часовага і ломкага «саюзьніка».

Значыцца ў той час, калі ўвесь Камуністычны Інтэрнацыянал і наша партыя цэнтр цяжару у сваёй тактыцы кладзе на ўтвареньне і аб'яднаньне адзінага фронту **зьнізу**, г. ё. адзінага фронту з рабочымі — троцкістоўскія рэнэгаты дагаварваюцца да такой б'ючай у вочы бязглузьдзіцы, як «адзіны фронт з ворагамі», прычым гэтыя «ворагі» маюць быць адначасна «часовымі саюзьнікамі». Агаворка, што пры гэтым трэба захоўваць «поўную незалежнасьць» і «права на незьвязаную нічым крытыку» зьяўляецца толькі дымовай заслонаю для тактыкі, якая рэкамэндуецца ў мэмарыяле— **капітуляцыі перад сацыял - здрадаю.** Гэтая тактыка нязвычайна яскрава выступае ў частках мэмарыялу, трактуючых аб прафсаюзным руху. Там гаворыцца: «павінен наступіць радыкальны паварот у прафсаюзнай палітыцы, якая дагэтуль шла па лініі **раскладваньня.** Ідучы мімаволі на руку раскладальнай палітыкі ППС, наша партыя прычынілася з свайго боку да таго, што большасьць працуючых рабочых знаходзіцца наогул па-за прафсаюзамі». А далей: «справа ідзе аб тым, што прынцыпова трэба ўзяць курс на адзінства прафсаюзнага руху.» «Лёзунгам дня павінен быць паварот ад памылковага шляху так зв. профлявіцы і самастойных саюзаў, паварот ад падставовага курсу на ўжываньне адналітых профсаюзаў, у якіх цаною ўсякіх ахвяр трэба праводзіць камуністычную працу». Што гэта значыць? Гэта значыць, што групка правых недабіткаў, верная сваёй ролі, як рэха паўтарае хлусьлівых здрадніцкіх прафсаюзных бонцаў, што гэта камуністы дагэтуль праводзілі раскольніцкую палітыку, што гэта камуністы аслабілі прафсаюзы, а не здрадніцкая палітыка саюзнай бюрократыі. Гэта значыць, што яны заклікаюць, каб камуністы паддаліся «у імя адзінства» камандзе саюзных бонцаў і адмовіліся ад усякага самастойнага рэвалюцыйнага прафсаюзнага руху.

Пры гэтым яны спасылаюцца на словы Леніна:

> «Бяз сумненьня, паны правадыры апартунізму будуць хватацца за ўсякія штучкі буржуазнай дыплёматыі, будуць карыстацца буржузнай дзяржаваю, папамі, паліцыяй, судом, каб не дапусьціць камуністаў у прафсаюзы, будуць імкнуцца ўсякімі спосабамі іх адтуль выгнаць, зрабіць ім працу ў прафсаюзах нязносnай, абражаць, прасьледваць. Трэба ўмець супроцьпаставіцца ўсяму гэтаму, пайсьці на розныя ахвяры, нават пры неабходнасьці пайсьці на розныя хітрыкі, штучкі, нелегальныя спосабы, прамоўчваць, укрываць праўду, каб толькі пранікнуць у прафсаюзы, застацца ў іх, праводзіць за ўсякую цану камуністычную працу». (Ленін,—«Дзіцячая хвароба лявізны ў камунізьме, стар. 43).

Гэтыя парады Леніна захавалі сваю поўную сілу. І сёньня партыя яшчэ больш чым калі-кольвек падкрэсьлівае неабходнасьць працы ў саюзах угадовых, хрысьціянскіх і іншых рэакцыйных прафсаюзах. Але з гэтага зусім не вынікае адмаўленьне ад самастойнага рэвалюцыйнага прафруху. Бо гэтыя парады Леніна ня былі высунуты ім дзеля таго, каб кансэрваваць уплывы рэфармістаў у рабочай клясе, але каб іх зламаць, каб работаю ў рэфармісцкіх саюзах падрыхтаваць грунт для рэвалюцыйнага прафсаюзнага руху. Да гэтага ідзе таксама і профлевая. Сёньня ў Польшчы **разгортваньне профлявіцы,** якая мае ўжо за сабою шэраг слаўна праведзеных ба-

еў, у абарону рабочага быту, зьяўляецца **тым больш неабходнаю**, што мы знаходзімся ў вагні стачачаных баёў амаль усіх атрадаў рабочае клясы, што мы падыходзім непасрэдна да рэвалюцыйнага крызісу. І гэтае разгортваньне зусім не выключае, а наадварот патрабуе максымальнага ўзмацненьня працы ва ўсіх масавых прафсаюзах.

**ВЫВАД:** Кастшэва - трацкісты высоўваюць, як галоўнае, не адзіны фронт зьнізу, а «адзіны фронт з ворагамі». У гэтым ворагу яны бачаць не ворага, а «часовага саюзьніка», з якім раяцьісьці на «угоды і кампрамісы». У імя «адзінства» яны заклікаюць ліквідаваць профлявіцу і падпарадкавацца камандзе прафсаюзнай бюрократыі. Словам, для гэтай групы **тактыка адзінага фронту зьяўляецца тактыкай капітуляцыі перад сацыял-фашызмам.**

Гэткую самую тактыку раіць Троцкі для Нямеччыны. Ён кінуў лёзунг: «трэба змусіць сацыял-дэмакратыю да блёку (з намі) супроць фашыстаў. Як павінны нямецкія камуністы паводле Троцкага рэалізаваць тактыку адзінага фронту. «Трэба выявіць поўную гатоўнасьць **заключыць блёк з с.-д.** супроць фашыстаў ва ўсіх выпадках, калі толькі с.-д. пойдзе на блёк».

Камуністычная партыя Нямеччыны ўжо даўно заявіла, што яна гатова ісьці з кожнай рабочай арганізацыяй, якая сапраўды пойдзе на барацьбу з фашызмам, і ўжо не адна нізавая сацыял-дэмакратычная арганізацыя была ўцягнута намі ў адзіна-франтовую антыфашыстоўскую акцыю. Але «змусіць» сацыял-дэмакратыю, г. ё. сацыял - дэмакратычных правадыроў да **«блёку з намі** супроць фашыстаў» — гэта нічога іншага не азначае, як хацець стварыць блёк тых, якія вядуць рабочых да капітуляцыі перад фашызмам, з тымі, якія вядуць рабочых да барацьбы з фашызмам. Такі блёк, зразумелая рэч, служыў-бы толькі справе ўзмацненьня сіл, што разбройваюць нямецкі пралетарыят у яго барацьбе з фашызмам.

Распаўсюджваньне гэтых троцкістоўскіх поглядаў садзейнічае ўсялякай недаацэнцы контррэвалюцыйнай ролі сацыял-дэмакратыі. Бязумоўна апошнія крокі і манэўры ППС асьляпілі некаторых т.т. якія ўгледзілі ў іх сілу, што аб'ектыўна дзейнічае на карысьць рэвалюцыі. Няма нічога больш фальшывага. Кожны, хто хацеў-бы ўгледзіць у найбольш левых, псэўда-рэвалюцыйных кроках ППС акты, якія аб'ектыўна дапамагаюць у рэвалюцыйнай мабілізацыі мас, і, у духу гэтага хоць-бы сабе ў найбольш укрытай форме, трактаваў гэтыя крокі ППС, як дапамагальную сілу для нас—той сілаю лёгікі павінен быў-бы скаціцца да канцэпцыі «абасечнасьці» і трактаваньня ППС, як саюзьніка. **Мабілізаваць пабальшавіцку масы і выкарыстаць кожную шчыліну ў лягеры ворага для ўзмацненьня рэвалюцыйнага напору мас на ўсю сыстэму капіталізма можна толькі тады, калі ні на хвіліну не забываць контррэвалюцыйных мэтаў і характару кожнага найбольш «левага» кроку ППС, калі трактаваць іх паводле акрэсьленьня тав. Ленскага, як «манэўры прэвэнцыйныя» у дачыненьні да нарастаючай пралетарскай рэвалюцыі, калі шукаць не шляхоў супрацоўніцтва з аб'ектыўным саюзьнікам», а шляхоў і сродкаў скасаваньня хітрых манэўраў правадыроў ППС, якія заўсёды імкнуцца да таго, каб забясьпечыць капіталізм ад усялякіх патрасеньняў,** каторыя ўсёй сваёй дзейнасьцю аблягчаюць капіталу перакідываньне цяжару крызысу на плечы працоўных мас. Толькі на такой пазыцыі тактыка адзінага фронту зьяўляецца магутным сродкам мабілізацыі мас і адрыву іх ад здрадніцкіх правадыроў сацыял-угоды.

## РЭНЭГАЦКАЯ АЦЭНКА СЫТУАЦЫІ

Гэрольды капітуляцыі перад сацыял-фашызмам, б'ючы ў лінію Камінтэрну і партыі, не маглі не паспрабаваць заатакаваць тав. Ленскага, які стаіць на чале нашага Цэнтральнага Камітэту. Яны прыводзяць з уступнага артыкулу т. Ленскага ў «Новым Пшэглёндзе» (верасень-кастрычнік), як довад фальшывай ацэнкі настрояў мас і сытуцыі наогул, наступную цытату:

«Але пацыфікацыя не апраўдала сябе, не устрымала напору рэвалюцыйнай хвалі. Рэвалюцыйны рух загортваў што - раз больш шырокія колы, набіраў што-раз вастрэйшых форм. Пацыфікацыя не магла ўстрымаць насьпяваньня рэвалюцыйнага крызісу ў Польшчы, але ўзбудзіла яшчэ большую нянавісьць у працоўных масах, яшчэ больш наблізіла ма-

сы да непасрэднай барацьбы з фашыстоўскай дыктатурай».

«Новая хваля — піша тав. Ленскі — нацыянальна-вызваленчага руху на ЗУ зьбягаецца з высокай ступеньню рэвалюцыйнага ўздыму у Польшчы».

Ці-ж гэтая ацэнка і гэтая пэрспэктыва не апраўдаліся амаль з матэматычнай дакладнасьцю? А аб чым сьведчыць сялянскае паўстаньне ў Ліску? А двухмесячная барацьба 30 вёсак у Валыцу на Валыні? Ці не бывае так, што калі сялянскія баі на Заходняй Украіне ўвосені 1930 г. былі наогул ізаляваны і ня мелі свайго водгуку ў баёх у самой Польшчы, дык зараз зусім інакш і **як-раз так**, як кажа т. Ленскі—«новая хваля нацыянальна-вызваленчага руху зьбягаецца з высокай ступеньню рэвалюцыйнага ўздыму ў Польшчы».

Далей рэнэгаты прыводзяць з гэтага артыкулу наступную, вырваную з кантэксту думку:

«Што-раз мацнейшым становіцца імкненьне мас да зброі», а далей:»

Польская буржуазія, адчуваючы, што грунт гарыць пад яе нагамі, зьбірае ўсе свае сілы, каб перажыць надыходзячую зіму».

І кажуць:

«А значыцца ад імкненьня да зброі да збройнага паўстаньня ўзімку 1932 г.».

Грубая фальсыфікацыя б'е проста ў вочы! Хіба з цьвярджэньня факту, што расьце імкненьне мас да зброі, выцякае, што партыя ставіць сабе як актуальную задачу, арганізацыю ўзбройнага паўстаньня? Хіба з цалкам правільнага аналізу, пацьверджанага пасьля амаль усёй буржуазнай прэсай, што «буржуазія... зьбірае ўсе свае сілы, каб перажыць зіму»—выцякае, што ўжо ўзімку 1932 г. будзе збройнае паўстаньне? Тут яўнае ашуканства. А якія мэты гэтага? Атакуючы Цэнтральны Камітэт, **кантрабандаю перакінуць нявер'е** ў тое, што «пацыфікацыя не ўстрымала рэвалюцыйнай хвалі», што сапраўды расьце ў масах імкненьне да зброі, што мы набліжаемся да рашаючых клясавых баёў. Паводле трацкісцкіх рэнэгатаў узрастаюць сілы сацыял-фашыстаў, а рэвалюцыйны рух зьяўляецца слабым і нікльм.

Хіба баявыя дэманстрацыі гарнякоў Дамброўскага басэйну, выступленьні ў Ліску і на Валыні, баі ў Пабіяніцах і г.д. —хіба ўсё гэта не пацьвярджае яскрава ўстаноўку партыі, што ў масах расьце воля і здольнасьць змаганьня з дзяржаўным апаратам гвалту, што расьце імкненьне мас да зброі?

Трацкісты хочуць прыпісаць партыі, што на III пленуме яна нібы паставіла сабе як задачу дня арганізацыю збройных дэманстрацый. Такой дырэктывы няма ні ў воднай пастанове партыі. На данай ступені разьвіцьця масавых баёў партыя **не** арганізуе збройных дэманстрацый. Але партыя арганізуе адпор мас супроць гвалтаў паліцыі ў паасобных выпадках, напрыклад падчас пацыфікацыі, аж да збройнага адпору ўключна. Партыя не тармозіць, а падтрымоўвае імкненьне мас да зброі. Ва ўсё гэта б'е атака Кастшэвы-трацкістаў, якая адмаўляецца ад задачы падрыхтаваньня партыі і мас да гэтых баёў, якая ўгледжвае ў гэтым толькі «ўльтралевую» устаноўку Цэнтральнага комітэту. У іншым месцы мэмарыял атакуе зноў наступнае цьверджаньне, заключанае ў артыкуле тав. Ленскага :: студзеня 1932 г.

Дасягнуты ў другой палове мінулага году зровень стачачнага руху зьяўляецца бязумоўна доказам пераходу значных рабочых мас да контрнаступленьня ня толькі на фронце эканамічных, але і палітычных баёў».

Нічога падобнага!—крычаць яны. Барацьба зьяўляецца контрнаступальнай **толькі** тады—кажуць яны—калі рабочыя высоўваюць такога роду лёзунг, як:

«Прэч з зьніжэньнем заробкаў — патрабуем павышэньня»!

«Прэч з рэдукцыяй — патрабуем ня толькі спыніць звальненьня з працы, але і прыняць раней зрэдукаваных»! і г. д.,

альбо калі рабочыя бастуюць для салідарнасьці. Усякія іншыя выступленьні гэта выключна **абарона.** Масавасьць барацьбы, яе напружанасьць, яе ступень рэвалюцыянізаваньня, палітызацыі, яе формы — усё гэта ня мае значэньня! Напрыклад, гэтак папулярнае сёньня ў Польшчы зьявішча, як захоп фабрык **у абарону** сваіх інтарэсаў, для рэнэгатаў зьяўляецца толькі абаронаю і ня мае ніякіх нават рысаў пераходу рабочых мас у контрнаступленьне.

Гэтая вузка-эканамічная мерка правых апартуністаў знаходзіць сваё завяршэньне ў іхнай ацэнцы такіх магутных зьявішч, як забастоўка гарнякоў Дамброўскага басэйну. Аб гэтым яны патрафілі сказаць толькі столькі, што па-пер-

шае, гэта была прайграная забастоўка, па-другое, — яна кіравалася выключна праз цэнтральны саюз гарнякоў (Ц.З.Г.), па-трэцяе, што «ход гэтай забастоўкі даў яскравае сьведчаньне палітычнай бясплоднасьці прафсаюзнай лініі, прадстаўленай кіраўніцтвам».

Праз свае апартуністычныя акуляры яны ня бачуць вялізарнага палітычнага значэньня гэтай забастоўкі, якая ўзьняла настроі і баявы дух у рабочай клясы ўсёй Польшчы. Нават «Роботнік» не адважыўся пісаць аб гэтай забастоўцы, што яна прайграная. Матарыяльнае паражэньне гарнякоў можа толькі сьляпым засланіць вялізарны крок наперад руху і партыі, якім была гэтая забастоўка. Толькі сьляпы мог ня бачыць, што баявы магутны Першы Май у Дамброўскім басэйне быў паміж іншым вынікам толькі што закончанай гераічнай барацьбы, што шматтысячныя натоўпы дэманстравалі 1-га мая пад камуністычнымі сьцягамі— менавіта таму, што ў ходзе забастоўкі наша арганізацыя Дамброўскага басэйну напракі ўсялякім дапушчаным памылкам, а перадусім напракі нячуванаму тэрару здолела кіраваць значнымі масамі бастуючых гарнякоў, заваяваць іх давер'е, узмацніць свае уплывы і яшчэ больш зацясьніць вузы, якія так глыбока зьвязваюць яе з масамі.

### ВЫВАДЫ.

Выходны пункт для іхняй «ідэалёгіі» мэмарыялу — гэта трактаваньне ППС, «Вызваленьня» і іншых партый, як прадстаўнікоў дробна-буржуазнай дэмакратыі, гэта прынцыповае супроцьстаўленьне дэмакратыі фашызму, гэта — трактаваньне сутычак у лягеры буржуазіі, як самастойнага фактару рэвалюцыі. Усё гэта ўзята з арсэналу старай правай групы ў партыі. Яны пайшлі, аднак, яшчэ далей: яны зрабілі **ўсе** вывады з правых канцэпцый і падмацавалі гэта яскрава антыбальшавіцкімі, рэнэгацкімі **адносінамі да партыі.** «Зьмена ўнутрыпартыйнага рэжыму»! — вось іхны лёзунг. Згуртаванасьць партыі, дысцыпліна — гэта для іх соль у воку. Яны цалкам прынялі рэнэгацка-траскісцкія адносіны да партыі і паклёпнічаюць на партыйны рэжым, на партыйную «бюрократыю», г. ё. на наш актыў, які няўхільна і самаахвярна вядзе рэвалюцыйную працу ў варунках шалеючага тэрару.

Чаго-ж яны хочуць? Свабоды дыскусіі! Партыя дае свабодна выказвацца кожнаму ў рамках лініі партыі і Камінтэрну. Але гэта іх не задавальняе. У чымжа справа? У свабодзе для антыпартыйных поглядаў, у свабодзе фракцый, у свабодзе распаўсюджваньня ў шэрагах камуністычнай партыі чыждых і варожых нам праграм. Толькі трацкісты маюць такія адносіны да партыі і такое разуменьне аб партыі, як аб блёку розных груп і фракцый.

На нашых вачох адбыўся **працэс перарастаньня кастшэвізму ў трацкізм,** і аўтары мэмарыялу — гэта трацкісты, хаця ва ўсім сваім мэмарыяле яны ні разу на Троцкага не спасылаюцца. Але палітычная сувязь паміж імі ясная, а сёньня выявілася і сувязь арганізацыйная.

Ня толькі адносіны да партыі зьяўляюцца трацкісцкімі. Ва ўсіх падставовых пытаньнях палітыкі Камінтэрну, як мы гэта ўбачым, пазыцыя нашых нэокостшэвістаў згаджаецца з трацкісцкай пазыцыяй. Супроцьстаўленьне буржуазнай дэмакратыі фашызму, адзіны фронт, як угода і блёк з с.-д., адносіны да камуністычнай партыі, — у гэтых пытаньнях змагаецца Троцкі з Камуністычным Інтэрнацыяналам на працягу гадоў.

Доказам гэтага зьяўляецца ў апошнім «Бюлятэню апазыцыі» — органе Троцкага — прывітаньне «правадыра» да **польскай** «ленінскай» апазыцыі. Для збанкрутаваных кастшэвістаў контр-рэвалюцыйны трацкізм стаў прыцягальнай сілаю; для ізаляванага ад рэвалюцыйнага руху трацкізму нэндзная жменька правых банкротаў — гэта каштоўная здабыча.

Чаму менавіта сёньня ўзьнікла трацкістоўская група, гуртуючая ў сваіх шэрагах усе антыпартыйныя элемэнты? Бо цяпер пад уплывам сацыял-фашыстоўскіх манэўраў узмацніліся ілюзіі і хістаньні дробнабуржуазных элемэнтаў. Бо цяпер пад націскам узможанага тэрару узмацніліся ліквідатарскія і капітулянцкія тэндэнцыі сярод скрытых правых у партыі, бо цяпер у сувязі з шпаркім узростам рэвалюцыйнай хвалі перад партыяй сталі ня толькі важнейшыя задачы і адчыніліся большыя магчымасьці,

але вырасьлі таксама і большыя **труднасьці,** з якімі партыя змагаецца, якія партыя стараецца перамагчы, якія аднак адначасна выклікаюць у некаторых зьвеньнях пэсымізм, згубу пачуцьця сілы і ўпэўненасьці.

Гэтакія настроі і гэткія тэндэнцыі ствараюць падатны грунт для Кастшэва-трацкісцкіх нашэптаў. Дзеля таго мы павінны гэтаму абвясьціць найвастрэйшую барацьбу.

**Кастшэва-трацкісцкім капітулянтам і фракцыянэрам няма месца ў нашай партыі.** Шэраговым рабочым, якія добрасумленна мыліліся, мы будзем высьвятляць ролю і функцыю гэтага фармуючагася напрамку, што ён у шэрагу пытаньняў зьяўляецца **рэхам** сацыял-фашыстаў, што ва ўсякіх справах ён зьяўляецца яго **агентураю,** што ён уступіў на шлях **капітуляцыі** перад ППС і клясавым ворагам.

Рэнэгаты ўмаўчываюць пакуль-што пазыцыю Троцкага ў расійскіх пытаньнях. Прыпомнім ім. Троцкі, які да рэвалюцыі 1917 г. ішоў супроць бальшавікоў, з 1924 г. зноў узьняў сьцяг барацьбы супроць бальшавіцкай партыі. Ён выступаў супроць аграрнай палітыкі ВКП(б), не разумеючы значэньня і ролі рабоча-сялянскага саюзу. Ён выступаў супроць магчымасьці будаўніцтва сацыялізму ў СССР. Разам з усім ІІ Інтэрнацыяналам ён высунуў тэзіс аб нямінучасьці «перараджэньня» бальшавікоў і савецкай улады. Троцкі выступіў супроць партыі і савецкай улады і, паводле акрэсьленьня т. Сталіна, трацкізм стаў «перадавым атрадам контррэвалюцыйнай буржуазіі». Вось дзеля таго «лібералізм у дачыненьні да трацкізму мяжуе са злачынствам, са здрадаю рабочае клясы» (Сталін). Гэтае самае датычыць цалкам трацкісцкіх фракцыянэраў у нашай партыі.

---

**ПА МЕРЫ ПЭЎНАГА ПРЫСТАСАВАНЬНЯ ЭКАНАМІЧНАЙ ПАЛІТЫКІ МАНАПАЛІСТЫЧНАГА КАПІТАЛУ ДА АСОБНЫХ УМОЎ І ТРУДНАСЬЦЯЙ ЭКАНАМІЧНАГА КРЫЗЫСУ АДБЫВАЕЦЦА ІДЭАЛЁГІЧНАЕ ПРЫСТАСАВАНЬНЕ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫІ ДА ПАТРЭБ ГЭТАЙ КРЫЗЫСНАЙ ПАЛІТЫКІ ФІНАНСАВАЙ АЛІГАРХІІ.**

**МАСАВЫ ЎПЛЫЎ САЦЫЯЛ-ФАШЫСТАЎ АМАЛЬ ВА ЎСІХ КРАІНАХ ЗЬМЕНШЫЎСЯ, АЛЕ ТЫМ БОЛЬШ УЗМОЦНЕНЫМІ І РОЗНАСТАЙНЫМІ СТАНОВЯЦЦА СТАСАВАНЫЯ ІМІ МАНЭЎРЫ (узначальваньне забастовак для іх зламаньня, у паасобных выпадках абвяшчэньне нават дэманстрацыйных усеагульных забастовак, мнімая барацьба супроць фашызму, за мір, у абарону СССР і г. д.). АСАБЛІВУЮ СТАРАННАСЬЦЬ У ГЭТЫХ МАНЭЎРАХ ПРАЯЎЛЯЮЦЬ «ЛЕВЫЯ» САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНЫЯ ГРУПЫ ПРЫ АДНАЧАСОВЫМ РАЗГОРТВАНЬНІ ШАЛЁНАГА ЦКАВАНЬНЯ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ І СССР.**

(XII пленум Выканкому Камінтэрну)

## Досьлед забастоўкі тэкстыльшчыкаў у Беластоку *).

Забастоўка тэкстыльшчыкаў была падрыхтавана нашай Беластоцкай арганізацыяй. Забастоўка выбухла, дзякуючы ініцыятыве і ўзмоцненай працы нашай арганізацыі, напракі адпору і сабатажу сацыял-фашыстоўскіх правадыроў. Мясцовыя верхаводы ППС і Бунду, маючы ў сваіх руках праўленьне саюзу тэкстыльшчыкаў, зрабілі ўсё, каб да ўсеагульнай забастоўкі тэкстыльшчыкаў не дапусьціць, каб паасобныя стачачныя выступленьні адасобніць, каб сілу тэкстыльшчыкаў разьбіць і распарушыць.

Ужо ў сакавіку месяцы гэтага году пасьля атакі фабрыкантаў (абніжка платы ткачам) прафсаюзная лявіца, ідучы за лёзунгамі нашай партыі, правяла ў шэрагу фабрык рэзалюцыі аб усеагульнай забастоўцы тэкстыльшчыкаў напераком праўленьню саюзу, якое выступала адкрыта процiў стачкі. У выніку гэтай падрыхтоўчай працы агульны сход тэкстыльшчыкаў 7-IV у колькасьці 700 чалавек прыняў пад кіраўніцтвам прафлявіцы рэзалюцыю аб усеагульнай забастоўцы тэкстыльшчыкаў і выбраў стачачны камітэт у ліку 23 чалавек для кіраўніцтва барацьбою. Дзякуючы памылкай профсаюзнай левіцы і нашай арганізацыі, сац.-фашыстоўскім правадыром удалося гэтую рэзалюцыю ануляваць і стачачны камітэт разьбіць. Наша арганізацыя, аднак, павяла і надалей у вуснай агітацыі і ў сваіх выданьнях кампанію за забастоўку і давяла да выбуху стачкі ў дзень 9-га мая. Сацыял-фашысты, бачучы, што стачка зьяўляецца няўнікнёнай, у астатнюю хвіліну зьмянілі тактыку і сталі на чале стачкі, каб захаваць уплыў на масы, і зламаць іхную барацьбу пры адпаведнай сытуацыі.

У ходзе стачкі наша партыя і рэвалюцыйныя рабочыя, выступаючы на сходах і камісіях, дэмаскоўвалі здрадніцкую ролю сцыял-фашыстоўскіх правадыроў і іх паасобныя манэўры. Трэба падкрэсьліць факт, што рэвалюцыйныя рабочыя, абапіраючыся на масы, заваявалі сабе магчымасьць выступаць на ўсіх стачачных сходах, а таксама на сходах, скліканых і кіраваных сацыял-фашыстамі. На стачачанай камісіі, створанай праз управу саюзу з сяброў управы і фабрычных дэлегатаў, рэвалюцыйныя рабочыя ў шэрагу выпадкаў праводзілі свае рэзалюцыі большасьцю галасоў процiў сацыял-фашыстоўскіх правадыроў. Пасрэдна, напрыклад, у справе так званых вольных рук для ўправы саюзу у перагаворах з фабрыкантамі, стачачная камісія пад уплывам рэвалюцыйных рабочых выражала вотум недавер'я Капітулцы і іншым кіраўнікам саюзу (паседжаньне камісіі 4 ліпеня, на якім тры капітулянцкія прапановы сацыял-фашыстаў былі адхілены большасьцю 27 галасоў процiў 17 і т. п.). Профлявіца атрымала вялікі посьпех у справе так званай «чырвонай дапамогі» (са збораў арганізаваных праз МОПР), дабіўшыся рашэньня аб прыняцьці яе на стачачнай камісіі і далей, пры бурлівым падтрыманьні мас, на агульным сходзе тэкстыльшчыкаў. Профлявіца на працягу доўгага часу з посьпехам давала адпор манэўрам сацыял-фашыстаў аб тым, каб замяніць агульныя сходы бастуючых «фахавымі сходамі».

*) Рэдакцыя зьмяшчае гэты артыкул ня гледзячы на ўстарэлую яго тэму, бо лічыць, што досьлед слаўных баёў беластоцкіх тэкстыльшчыкаў зьяўляецца і па сёньняяшні дзень актуальным і дае вузорны вурок для партарганізацыяў.

Выдатным посьпехам Беластоцкай арганізацыі, які аказаў рашаючы ўплыў на справу ўсеагульнай стачкі тэкстыльшчыкаў, зьявілася затрыманьне ў першай фазе стачкі чатырох фабрык, працуючых на ваенныя заказы, праведзенае шляхам мабілізацыі для гэтай мэты рабочых пікетаў у колькасьці некалькі сот чалавек; сацыял-фашысты імкнуліся гэтыя фабрыкі адарваць ад стачкі шляхам заключэньня спэцыяльнай умовы з фабрыкантамі. Таксама пашырэньне стачкі на падгародныя фабрыкі Беластоцкай акругі (Грудэк, Васількова і г. д.) было зроблена сіламі нашай партыі. Стачачная акцыя ў загародных фабрыках праходзіла амаль пад выключным рэвалюцыйным кіраўніцтвам.

## МАНЭЎРЫ САЦЫЯЛ-ФАШЫСТАЎ.

Важнейшымі манэўровымі крокамі сацыял-фашыстаў у Беластоцкай забастоўцы былі наступныя:

1. У красавіку, калі забаставалі ткачы, сацыял-фашысты не дапусьцілі да ўсеагульнай забастоўкі тэкстыльшчыкаў, скасаваўшы ўжо прынятую на агульным сходзе рэзалюцыю наконт стачкі і выбраны на гэтым сходзе стачачны камітэт.

2. З моманту выбуху стачкі сацыял-фашысты пачынаюць крычаць аб «забастоўцы аж да перамогі», але адначасна заключаюць лёкальную ўмову з 4-ма буйнымі фабрыкамі, працуючымі для арміі. Яны таксама супроцьдзейнічаюць пашырэньню стачкі на правінцыі.

3. На прафсаюзнай канфэрэнцыі, скліканай па прапанове профлявіцы, дзеля абгаварэньня справы ўсеагульнай стачкі салідарнасьці і дапамогі бастуючым, сацыял-фашысты, бачучы, што яны застаюцца ў меншасьці, пры дапамозе фармальных прычэпак зьнімаюць гэтае пытаньне з парадку дня, адначасна праводзячы галасамі адных толькі старшынь паасобных саюзаў супроць большасьці прысутных, хлусьлівую рэзалюцыю, накіраваную проціў КПЗБ.

4. На ўз:нятую праз лявіцу і МОПР акцыю дапамогі бастуючым кіраўніцтва саюзу адпавядае правакацыйным «лістом у рэдакцыю», апублікаваным у буржуазных газэтах, аб «падазроных асобах», што зьбіраюць грошы «нібыта» для бастуючых. Управа саюзу супраціўляецца падзелу хлеба, дастаўленага пекарамі па ініцыятыве профлявіцы і закупленага на зборы МОПР'а. У часе дыскусіі аб прыняцьці «чырвонай дапамогі» на стачачнай камісіі, бундаўцы імкнуцца зрабіць націск на выніківі галасаваньня пры дапамозе заявы аб тым, нібы гарадзкая рада, па прапазыцыі бундаўскай фракцыі асыгнавала 10 тысяч злот для дзяцей бастуючых. Гэтае паведамленьне пасьля аказваецца маною. Пацярпеўшы паражэньне ў справе «чырвонай дапамогі», сацыял-фашысты стараюцца рэабілітаваць сабе ў вачох мас шляхам зьмяшчэньня ў сваёй прэсе адозваў, заклікаючых да збору для бастуючых.

5. Нясупынна паўтараючы пробы вырвацца з-пад кантролю мас (справа «вольных рук», пробы замяніць агульныя сходы фаховымі сходамі і т. п.) сацыял-фашысты карыстаюцца тым, што шэраг рэвалюцыйных актывістаў арыштоўваецца дзеля таго, каб склікаць паасобны фаховы сход ткачоў, наперакор рашэньню стачачнай камісіі. Аднак іхныя капітулянцкія прапановы і на гэтым сходзе сустракаюць адпор. Манэўр «фаховых сходаў» быў, аднак, урэшце выкарыстан сацыял - фашыстамі дзеля зламаньня стачкі.

6. Супрацоўніцтва сацыял-фашыстоўскіх правадыроў з паліцыяй выразілася ў ходзе стачкі некалькі разоў у вядомым манэўры, які заключаўся ў тым, што іхны старшыня на сходзе, бачучы перавагу лявіцы, агалашае сход зачыненым, што для паліцыі зьяўляецца сыгналам для таго, каб уварвацца ў салю і разагнаць сабраўшыхся.

7. Выканаўшы сваю штрайкбрэхерскую работу ў Лодзі, прыбывае ў Беласток обэр-здраднік Шчаркоўскі. Ён праводзіць сход пад лёзунгам «забастоўкі аж да перамогі», а адначасна праводзіць сакрэтнае паседжаньне управы саюзу, на якім кажа аб неабходнасьці зьніжэньня платы і складае з мясцовымі Капітулкамі плян зламаньня стачкі.

8. Хадэцкі саюз тэкстыльшчыкаў, створаны непасрэдна перад стачкаю, пачаў ад «радыкальнай» дэмагогіі (кіраўніцтва хадэцкага саюзу прыняла раней чым сацыял-фашысты рашэньне, каб

прыступіць да стачкі), але ў часе стачкі хутка выявіла сваё чорнасоценнае аблічча. Ужо ў першым месяцы стачкі кіраўніцтва хадэцкага саюзу становіцца на шлях адкрытага штрайкбрэхерства і разьбіваньня адзінства рабочага фронту шляхам раздзьмухваньня нацыяналістычных настрояў сярод найбольш адсталых рабочых, нацкоўваньня супроць «засільля яўрэяў» у ткацкім фаху і т. п.

З бегам стачкі выявіўся падзел роляй паміж хадэцыяй і сацыял-фашызмам: хадэцыя адкрыта ламае стачку, агітуючы за прыняцьцё абніжкі, сацыял-фашысты-ж выкарыстоўваюць гэтую іхнюю акцыю, каб адцягнуць увагу мас ад сябе, а адначасна разгортваюць штрайкбрэхэрскія манэўры. У канцы стачкі, спэкулюючы на зьнясіленьні рабочых і змучанасьці барацьбою, сацыял-фашысты сеюць штораз больш адкрыта няверра ў перамогу і капітулянцкія настроі, спасылаючыся на тое, што «хадэкі ўсёроўна ламаюць ужо стачку». Накіроўваючы абурэньне мас супроць хадэкаў, яны паступова падрыхтоўваюць грунт паскарэньня капітуляцыі.

## ПАМЫЛКІ І НЕДАХОПЫ Ў ДЗЕЙНАСЬЦІ БЕЛАСТОЦКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ.

Важнейшыя недахопы, якія выявіліся ў дзейнасьці Беластоцкай арганізацыі ў пэрыядзе стачкі, гэта, па-першае; **няверра ва ўласныя сілы,** што знайшло выраз у хістаньнях у падставовым пытаньні барацьбы за рэвалюцыйнае кіраўніцтва, і па-другое — нязвычайна **слабае правядзеньне тактыкі адзінага фронту зьнізу.**

Няверра ва ўласныя сілы і баявую гатоўнасьць мас, знайшла выраз у невыстарчальным адпоры паасобным манэўрам сацыял-фашыстаў і націску фашыстоўскаму тэрару, у невыстарчальных намаганьнях у бок пашырэньня і завастрэньня барацьбы, арганізацыі самастойных выступленьняў і асабліва ў вывядзеньні бастуючых на вуліцу. Выцякаючыя адсюль хістаньні ў пытаньні барацьбы за самастойнае кіраўніцтва стачачнай акцыяй і тактычныя памылкі, былі прыкрыты з боку паасобных таварышоў з кіруючага актыву наскрозь апартуністычнымі матывамі, як напрыклад: «кіраўніцтва фактычна ў нашых руках, сацыял-фашысты толькі фармальна кіруюць стачкаю»; «калі мы зараз выкінем сацыял-фашыстаў з кіраўніцтва, яны гэта выкарыстаюць, каб зламаць стачку і зваляць віну на нас, як гэта было ў Лодзі» і т. п.

Слабае і няўмелае стасаваньне тактыкі адзінага фронту выявілася ўжо ў барацьбе за **левы стачачны камітэт,** абраны ў пачатку красавіка. Гэты камітэт не быў падмацаваны праз адпаведную масавую кампанію на фабрыках і выбар фабрычных стачачных камітэтаў. З гэтае прычыны не аказалася дастатковых зачэпак для барацьбы за гэты камітэт, пасьля таго сацыял-фашысты лёгка разьбілі яго. Не навучаная гэтым досьледам Беластоцкая арганізацыя таксама і ў ходзе стачкі занядбала барацьбу за адзіны фронт зьнізу: 1) ня было напружанай акцыі — у справе выбару **фабрычных** стачачных камітэтаў, 2) не пераканалі— праз профлявіцу — рэвалюцыйную апазыцыю ў стачачнай камісіі, створанай праўленьнем саюзу, каб выступіць перад масамі ў якасьці **меншасьці камісіі** і сыстэматычна пераносіць у масы кожную справу, за якую апазыцыя вяла барацьбу ў стачачнай камісіі.

У выніку невыканананьня гэтых двух падставовых варункаў—канкрэтнай пастаноўкі перад масамі і папулярызаваньня рэвалюцыйнага кіраўніцтва, барацьба ўнутры стачачнай камісіі (дзе апазыцыя—ня гледзячы на паасобныя памылкі—стасавала наогул правільную тактыку і здабыла шэраг сур'ёзных посьпехаў), вялася наогул адарвана ад бастуючых мас, бяз зварочваньня да мас **за кожным разам і сыстэматычна.** Правільнае стасаваньне тактыкі адзінага фронту зьнізу пры забесьпячэньні двух вышэйпамянёных варункаў павінна было прывесьці пасьлядоўна да **палітычнай і арганізацыйнай ізаляцыі ад мас** сацыял-фашыстоўскіх правадыроў шляхам: 1) неўстаннай пастаноўкі з боку меншасьці стачачнай камісіі—у зьвязку з кожнай актуальнай і спрэчнай справаю—**вотуму недавер'я** для найбольш ужо скампрамэтаваных у вачох мас сацыял-фашыстоўскіх правадыроў, (не для праўленьня саюзу ў цэлым) і перанясеньня гэтага пытаньня аб вотуму недавер'я на стачачныя фабрычныя камітэты, масоўкі бастуючых паасобных фабрык і агульныя

сходы; 2) у выпадку **прыняцьця** большасьцю галасоў стачачнай камісіі вотуму недавер'я для сацыял-фашыстоўскіх правадыроў, паставіць на камісіі прапанову аб тым, каб сама стачачная камісія неадкладна перанесла гэтае рашэньне ў масы і паставіла перад масамі пытаньне стварэньня новага кіраўніцтва — стачачнага камітэту — **выкінуўшы з існуючай стачачнай камісіі здрадніцкіх правадыроў** і папоўніўшы яе **новымі дэлегатамі, выбранымі праз масы.**

Важнейшыя паасобныя памылкі ў ходзе стачачнай акцыі, дапушчаныя з боку партыйнай арганізацыі, профлявіцы, альбо незарганізаванага рэвалюцыйнага актыву (памылкі рэвалюцыйнага актыву сьведчаць аб недастатковым альбо няўмелым кіраўніцтве ім з боку партыі) гэта наступныя:

1. Манэўр сацыял-фашыстаў, якія востра выступалі супроць капітулянцтва і штрайкбрэхерства **хадэкаў,** каб адкіраваць увагу мас ад **сваіх** здрадніцкіх манэўраў, ня быў здэмаскаваны праз лявіцу. У паасобных выпадках левыя прамоўцы паўтаралі атакі сацыял-фшыстоўскіх правадыроў на ХД, не адгараджваючыся выразна ад іх і не паказваючы на іх як на галоўную агентуру буржуазіі і найбольшую небясьпеку здрады.

2. Калі на стачачнай камісіі прайшла прапанова, даручаючая праўленьню саюзу дамагацца звальненьня арыштаваных, апазыцыя спынілася на гэтым, не паставіўшы пытаньня аб перанясеньня гэтай справы да мас (з выбарам для гэтай мэты дэлегацыі і падтрыманьнем яе праз дэманстрацыю) і сама не ўчынілася для мабілізацыі мас навакола справы арыштаў.

3. Лявіца ня ўмела выкарыстаць сваіх асобных перамог (бурлівыя сходы і усеагульнае абурэньне рабочых з прычыны забароны з боку праўленьня саюзу прымаць «чырвоную дапамогу», сход стачачнай камісіі 4-VII, на якім лявіца ў трох галасаваньнях здабыла 27 галасоў супроць 6-ці, 3-х і 8, аддадзеных на капітулянцкія прапановы сацыял - фашыстаў і т. п.). Замест таго, каб сьмела ўзяць ініцыятыву ў свае рукі і ўзмацніць свае пазыцыі шляхам зварочваньня да мас, лявіца ставілася ў ролю апазыцыі ў дачыненьні да сацыял - фашыстоўскіх правадыроў.

4. Дырэктыва ЦК аб неабходнасьці зварочвацца спэцыяльна да рабочых з ППС і Бунду у справе адзінага фронту, аб арганізаваньні нарад з гэтымі рабочымі і, аб тварэньні адзінафрантовых фабрычных камітэтаў не была выканана. Нягледзячы на добрыя вынікі паасобных нарад (партыйных), якія адбыліся, гэты мэтад ня быў пашыраны, а асабліва ня быў выкарыстаны ў барацьбе за адзіны фронт.

5. Характарызаваньне (у лісьце беластоцкага кіраўніцтва) 4-х фабрык, якія спачатку да стачкі не прыступілі, як «сацыял-фашыстоўскіх гнёзд», таксама як выданьне ў імя АК афішы з лёзунгам «не дайце **бандам ППС і Бунду і іх правадырам** атуманіць сябе», сьведчыць аб тым, што нават кіраўніцтва Беластоцкай арганізацыі мешала ў адно сацыял-фашыстоўскіх правадыроў і масы, якія яшчэ ідуць за імі. Гэта ёсьць адна з прычын недастатковага зразуменьня тактыкі адзінага фронту.

6. Рэвалюцыйныя рабочыя, абраныя ў ліку іншых стачачнай камісіяй у камітэт дапамогі, застаўшыся ў меншасьці, **выступілі з гэтай камісіі,** замест таго, каб змагацца ў ёй у абарону сваёй пазыцыі за самастойнае кіраўніцтва акцыяй дапамогі і дэмаскоўваць здраднікаў. Гэта ёсьць тыповае «левацкае» сэктанцкае ўніканьне сутыканьня з ворагам і нежаданьне актыўна змагацца, гэта ёсьць памылка, якая часта робіцца беластоцкімі таварышамі.

7. У часе стачкі ня было супольных выступленьняў бастуючых з **беспрацоўнымі,** ня гледзячы на тое, што ў гэты час у Беластоку былі ліквідаваны кухні для беспрацоўных, што пацягнула за сабой стыхійную дэманстрацыю жанчын. Дэманстрацыя беспрацоўных, занятых на магістрацкіх работах (6-VII) не была ўвязана з стачкаю тэкстыльшчыкаў.

8. Стачачная хваля не была належным чынам выкарыстана для таго, каб разгарнуць **антываенную акцыю,** хаця паасобныя антываенныя выступленьні на сходах бастуючых сустракалі спачуваньне з боку сходу.

9. Стачачныя пікеты, якія пад кіраўніцтвам лявіцы выявілі вялікую актыўнасьць, не былі выкарыстаны для стварэньня сталых кадраў масавай рабочай самаабароны.

10. Ажыўленая выдавецкая дзейнасьць Беластоцкай арганізацыі ў першым пэрыядзе стачкі значна аслабла ў другім месяцы, чаго нельга апраўдаць аднымі толькі тэхнічнымі труднасьцямі.

11. Беластоцкая арганізацыя КСМ праявіла слабую актыўнасьць у ходзе стачкі. КСМ ня змог узмацніцца сярод фабрычнай тэкстыльнай моладзі. Дзейнасьць КСМ канцэнтруецца ў далейшым галоўным чынам у асяродку яўрэйскай дробна-прамысловай і школьнай моладзі. Частка адказнасьці за гэта кладзецца на партыйную арганізацыю, якая недастаткова дапамагала КСМ па лініі кіраўніцтва і дапамогі ў заваёўваньні фабрычнай моладзі.

12. Арганізацыя дапамогі бастуючым, разгорнутая партыяй у Беластоцкай акрузе, не была падхвачана ўсёй КПЗБ, што дала магчымасьць сацыял - фашыстам часткова вырваць ініцыятыву ў гэтай справе. Асабліва недапушчальнай была пасыўнасьць у гэтай справе **Віленскай арганізацыі,** якая як наймацнейшая арганізацыя нашай партыі, павінна была ісьці наперадзі і служыць прыкладам іншым арганізацыям у акцыі дапамогі беластоцкім тэкстыльшчыкам.

Беластоцкая арганізацыя, якая разгарнула досыць значную акцыю дапамогі і правільна высунула лёзунг усеагульнай стачкі ў Беластоку для падтрыманьня тэкстыльшчыкаў, бадай што патрафіла правесьці **частковыя стачкі салідарнасьці** ў іншых галінах прамысловасьці, а таксама ўзяць пад сваё кіраўніцтва і ўвязаць з барацьбой тэкстыльшчыкаў шэраг меншых стачак, якія разыгрываліся ў гэты час у Беластоку: фанэрная фабрыка (дыктавая) Маліняка, магістрацкія брукары, столяры, краўцы і г. д. У сапраўднасьці Беластоцкая арганізацыя заставалася на аднэй **прапагандзе** ўсеагульнай стачкі салідарнасьці.

Акцыя збору сродкаў для бастуючых, разгорнутая ў шэрагу вёсак Беластоцкай акругі, не была выкарыстана для арганізацыі масавых сялянскіх выступленьняў салідарнасьці, якія былі-б конкрэтным відочным для мас выразам **рабоча-сялянскага саюзу** і далі-б выходны пункт для ўвязкі барацьбы тэкстыльшчыкаў з барацьбой працуючых сялян і нацыянальна-вызваленчай барацьбой супроць акупацыі.

13. Беластоцкая арганізацыя не паставіла ў адпаведны час справы **лонкетнікаў,** справы ўключэньня працуючай і эксплёатаванай часткі лонкетнікаў у супольны фронт барацьбы супроць фабрыкантаў. Толькі пад канец стачкі была створана камісія для ўзгадненьня барацьбы фабрычных рабочых і лонкетнікаў.

---

**ДЗЕЛЯ ЎЗМАЦНЕНЬНЯ ПРАФСАЮЗУ З МАСАМІ, ДЗЕЛЯ ПАШЫРЭНЬНЯ НАШАГА КІРАЎНІЦТВА ІХ ШТОДЗЕННАЙ БАРАЦЬБОЙ ТРЭБА ВЫКАРЫСТОЎВАЦЬ РОЗНЫЯ ФОРМЫ АРГАНІЗАЦЫІ (апазыцыйныя рабочыя групы, культурна-асьветныя, спартыўныя арганізацыі і г. д.).**

**ТРЭБА АБАВЯЗКОВА МАБІЛІЗАВАЦЬ МАСЫ ДА БАРАЦЬБЫ ЗА ЛЕГАЛЬНАЕ ЯЎНАЕ ІСНАВАНЬНЕ ПРАФСАЮЗАЎ І РОЗНЫХ РАБОЧЫХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ.**

(VI Зьезд КПП).

## НАША ТРЫБУНА.

### Да пытаньня аб арганізацыі вулічных дэманстрацый ў гарадох *).

У сучасны момант разгортваючыхся рэвалюцыйных сутычак і баёў, пытаньне арганізацыі намі вулічных дэманстрацый павінна прыкаваць увагу ўсёй партыі. У шэрагу гарадоў і вёсак ЗБ выступленьні рабочых і сялян за свае штодзенныя патрабаваньні, адбіваючы атакі капіталістаў і фашыстоўскага ўраду — **стыхійна** выліваюцца ў бурныя дэманстрацыі. Гэтыя дэманстрацыі, ня гледзячы на іх стыхійны неарганізаваны хкрактар, робяць націск на капіталістаў і фашыстоўскі апарат, які пад напорам мас прымушанісьці на ўступкі.

Як нашы партыйныя арганізацыі адносяцца да пытаньня дэманстрацый? За апошні час мы ў сувязі са стачкамі, апрача Гайнаўкі, ня мелі амаль ні аднэй сур'ёзнай спробы з боку партыйных арганізацый ладзіць вулічныя дэманстрацыі. Так напрыклад, Беластоцкая арганізацыя на працягу 10 тыдняў апошняй забастоўкі тэкстыльшчыкаў ня вывела бастуючых на вулічную дэманстрацыю, ня гледзячы на тое, што рабочыя выходзілі з прафсаюзных сходаў з сьпяваньнем рэвалюцыйных сьпеваў. У Вільні ў часе забастоўкі шаўцоў дэманстрацыі такса-ма ня было. Мясцовыя таварышы тлумачаць гэты факт шэрагам тэхнічных прычын і арганізацыйных непаладак. Але калі прыгледзімся бліжэй да справы, дык упэўнімся, што галоўная прычына ў тым, што далёка ня ўсе члены партыі зразумелі значэньне вулічнай дэманстрацыі, а нават і ў штодзённай эканамічнай барацьбе, як магутнай зброі націску на капіталістаў, на фашыстоўскі апарат дзеля таго, каб дабіцца сваіх патрабаваньняў. Таму шэраг арганізацый недастаткова даюць увагі, недастаткова выяўляюць настойлівасьці ў справе арганізацыі дэманстрацый у той час калі ў масах маюцца баявыя настроі.

Нашы партыйныя арганізацыі не навучыліся яшчэ ўлічваць настрояў у масах. У ходзе эканамічнай барацьбы выбар моманту для дэманстрацыі, калі настроі асабліва баёвыя, часта зьяўляецца рашаючым. Дзеля гэтага патрэбна быць у масах, сачыць за ўсялякімі зьменамі ў настроях іх, рашуча дзейнічаць, хутка арганізоўваючы дэманстрацыю. Не малае значэньне для пасьпяховасьці такой дэманстрацыі мае выбар зборнага пункту. Дзеля гэтага патрэбна ўлічыць, дзе больш за ўсё зьбіраюцца бастуючыя рабочыя. Тут павінна быць праяўлена гнуткасьць усёй партыйнай арганізацыі — падрыхтоўка сьцягу з адным ці двума

*) Друкуючы гэты артыкул у парадку абгаварываньня рэдакцыя заклікае т.т. выказацца на старонках «Бальшавіка» па гэтаму актуальнаму пытаньню.

галоўнымі патрабаваньнямі (ня больш і выразна сфармуляваныя), адпаведная літаратура. **Уся** партыйная арганізацыя павінна сама зьявіцца на зборны пункт і прыцягнуць з сабой рабочых з прадпрыемстваў. У нас часам бывае, што партыйная арганізацыя вызначае зборны пункт не там дзе больш усяго зьбіраюцца бастуючыя ці беспрацоўныя (калі гэта павінна быць дэманстрацыя беспрацоўных); у выніку на пункт прыходзяць невялічкія групы рабочых, частка партыйцаў і дэманстрацыя не адбываецца.

Як партыйныя арганізацыі праводзяць падрыхтоўку да дэманстрацый, тэрмін падрыхтоўкі да дэманстрацый, як напр.: першамайская, першажнівеньская, дзень беспрацоўя і г. д.? Партыйная арганізацыя часта вызначала да гэтага дню дэманстрацыі. У лепшым выпадку дэманстрацыі адбываліся не масавыя, часта зусім не адбываліся. Калі бліжэй прыглядзімся да падрыхтоўкі, дык упэўнімся, што шэраг арганізацый недаацэньвалі ролі палітычнай дэманстрацыі і праяўляюць сваю баязьнь перад масамі, якія з кожным днём усё больш уцягваюцца ў палітычнае жыцьцё. Дзеля таго, каб дэманстрацыя была масавай патрабуецца ў першую чаргу **падрыхтоўка ў саміх масах сярод рабочых і сялян.** Толькі тады калі масы ведаюць добра патрабаваньні, за якія яны павінны змагацца, што дабіцца іх можна толькі барацьбой, толькі тады вулічныя дэманстрацыі будуць масавыя, стануць магутнай зброяй у барацьбе супроць існуючага ладу. А як мы часта паступаем? Пачынаем работу ў масах у апошнія дні да вызначанай дэманстрацыі. Наша агітацыя часта носіць прапагандысцкі характар, адарваны ад штодзенных патрабаваньняў і патрэб рабочых, Мы недастаткова растлумачваем масам галоўныя лёзунгі, што высоўваюцца партыяй і часта ня ведаем, якія патрабаваньні больш за ўсё папулярны ў масах у сучасны момант. Мы часта нават не гаворым рабочым, дзе будзе зборны пункт дэманстрацыі, утойваем яго ў агітацыі; у лістоўках указваем зборны пункт, але фактычна дэманстрацыю пераносім ў другое мейсца. У выніку адно і тое-ж—хаваемся ад масы. Часта на вызначаных дэманстрацыях няма камэнданта, няма самаабароны, няма адпаведнай літаратуры, а на нашых сьцягах напісана столькі патрабаваньняў, што самі ўдзельнікі дэманстрацыі не прачытаюць. Аб незразуменьні ўсёй сур'ёзнасьці значэньня і ролі дэманстрацыі сьведчыць таксама тое, што партыя ў падрыхтоўцы да яе не мабілізуе ўсіх сваіх сіл, якія мае (ня ўсе члены партыі, камсамолу і г. д.).

Аб недаацэнцы ролі палітычнай дэманстрацыі сьведчыць распаўсюджаная думка сярод часткі членаў партыі, што дэманстрацыі дэзарганізуюць рабочых, што на дэманстрацыю рабочыя ня прыдуць, бо выйдуць на вуліцу толькі ў апошні рашучы бой. У сутнасьці гэтыя думкі зьяўляюцца праявай адарванасьці ад мас і незразуменьня таго, што рабочыя масы да рашучага бою пойдуць толькі тады, калі партыя іх будзе вучыць штодзённа, на іх уласным вопыце, змагацца рознымі формамі барацьбы: забастоўкамі, дэманстрацыямі і г. д. Неабходна, каб усе члены партыі, а з іх дапамогаю рабочыя і рэвалюцыйныя сяляне, зразумелі палітычную ролю дэманстрацыі.

* * *

Для разгону масавых вялікіх палітычных дэмнстрацый фашыстоўскі ўрад ужывае войска. Тут рабочыя і сяляне ў салдацкіх шынэлях непасрэдна сутыкаюцца з сваімі клясавымі братамі. Такі стык **пры нашай адпаведнай рабоце** ў арміі, пры нашым заклiку да салдат перайсьці на бок дэманструючых напракі загаду афіцэраў разганяць і страляць у палітычныя дэманстрацыі, рэвалюцыянізуе, выхоўвае салдацкія масы, выхоўвае ў духу клясавай салідарнасьці і такім чынам садзейнічае разлжэньню фашыстоўскай арміі, гэтай збройнай апоры фашыстоўскага ўраду. У надыходзячых клясавых баёх рэвалюцыйнага пралетарыяту за ўладу заваяваньне арміі адыгрывае рашаючую ролю.

Палітычныя дэманстрацыі адыгрываюць тую ролю, што яны абуджаюць да рэвалюцыйных чынаў усё новыя і новыя кадры адсталых рабочых і працоўных сялян. Кожная масавая баявая дэманстрацыя атрымоўвае свой водгук далёка за межамі данага гораду і акалічных вёсак і зьяўляецца прыкладам барацьбы для адстаючых, яшчэ ня ўцягнутых у барацьбу.

Як бальшавікі ў свой час ставілі пытаньне аб палітычных дэманстрацыях? На ІІ зьезьдзе РСДРП у 1903 г. была прынята рэзалюцыя аб палітычных дэманстрацыях, у якой чытаем: «а) Пры існуючых у Расіі варунках палітычныя дэманстрацыі зьяўляюцца адным з самых важных сродкаў палітычнага выхаваньня самых шырокіх мас і пашырэньня і узмацненьня ўплыву с.-д. (так у той час называлася рэвалюцыйная партыя рабочае клясы); б) дэманстрацыя зьяўляецца разам з тым лепшым сродкам сыстэматычнай дэзарганізацыі (расстройства) урадовага механізму; в) паступова разрастаючыся гэтыя дэманстрацыі павінны прывесьці і часткова ўжо прыводзяць да шэрагу ўзбройных сутычак народу з урадовай ўладаю, падрыхтоўваючы тым самым народныя масы да ўсенароднага паўстаньня супроць існуючага ладу...». Зьезд раіць дзеля гэтага ў першую чаргу «заняцца шырокай падгатоўчай агітацыяй, імкнуцца забясьпечыць спачуваньне да мэтаў дэманстрацыі з боку самых шырокіх мас і усьвядомленасьць іх аб задачах партыі». З гэтых рашэньняў зьезду мы бачым, якое аграмаднае значэньне бальшавікі надавалі вулічным баявым дэманстрацыям і падрыхтоўцы да іх. Знаёмячыся з матар'яламі, як у той час бальшавікі арганізоўвалі першамайскія дэманстрацыі, мы бачым, што яны пачыналі падрыхтоўку задоўга да 1-га мая. Некалькі асноўных галоўных лёзунгаў, самых актуальных, на зразумелай для мас мове, доўгі час папулярызоўваліся ў масах шляхам усялякіх форм агітацыі. Агітацыяй былі ахоплены ўсе месцы, дзе толькі знаходзяцца рабочыя. Уся партыйная арганізацыя была мабілізавана на гэтую справу. Прычым у ходзе агітацыйнай падрыхтоўчай работы бальшавікі стала правералі высунутыя лёзунгі, патрабаваньні, ці сапраўды яны зьяўляюцца самымі арганізуючымі, ці зразумелі масы неабходнасьць змагацца на вуліцы.

Усьведамляючы ўсім нашым членам партыі правільны погляд на палітычную ролю дэманстрацыі, мы павінны вучыцца на нашых памылках і адначасна вучыцца досьледу бальшавікоў, якія ў свой час выводзілі масавыя рабочыя дэманстрацыі, менавіта дзякуючы таму, што бльшавікі шчыльнейшым чынам былі зьвязаны з масамі, чуйна прыслухоўваліся да настрояў мас, выразна і коратка фармулявалі патрабаваньні, што высоўваюцца рабочымі, докладна растлумачвалі лёзунгі што кідаюцца партыяй. Толькі дзякуючы шчыльнай сувязі з масамі рабочых бальшавікі перамаглі.

Нашу падрыхтоўчую работу да дэманстрацыяў, **тэрмін якіх нам заўчас вядомы**, патрэбна пачаць задоўга да вызначанага тэрміну. Падрыхтоўчую работу трэба весьці ў сувязі з мабілізацыяй на барацьбу за штодзённыя эканамічныя патрабаваньні, на простай, зразумелай для рабочых мове. Мы павінны разам з рабочымі выпрацаваць пару асноўных эканамічных і палітычных лёзунгаў, якія трэба папулярызаваць з усей сілай сярод усіх рабочых. Мы павінны нашай агітацыяй ахапіць усе месцы, дзе ёсьць рабочыя, фабрыкі, майстэрні, біржы беспрацоўных, ПУПП'ы, рабочыя дамы, казармы і т. п. Мы павінны выкарыстаць усе мэтады агітацыі, газэт і адозвы, масоўкі, групавыя гутаркі і г. д. Правяраючы ў масах як успрыняты нашы газэты і адозвы, мы павінны імкнуцца ужываць як мага больш форм жывой агітацыі, напрыклад: масоўкі; напярэдадні выступленьня прыхадзіць групай рабочых аднаго прадпрыемства, якія прынялі рашэньне дэманстраваць, на другое, заклікаючы рабочых да дэманстрацый і г. д. Мы павінны рабочым расказваць пра дэманстрацыі у іншых гарадох і краінах і якое значэньне яны мелі. У ходзе падрыхтоўчай работы на прадпрыемствах, на масоўках, сярод беспрацоўных ствараць самаабарону, тлумачучы рабочым, што на фашыстоўскі тэрор трэба адказаць арганізаваным адпорам. Абавязкова як мага шырэй паведамляць аб месцы і часе збору, Прычым для месца збору выбіраць пункт, дзе зьбіраюцца рабочыя, якія да таго часу сябе праявілі як самаарганізаваны атрад рабочых — рабочыя прадпрыемства дзе адбываецца забастоўка.

За падрыхтоўку і правядзеньне дэманстрацыі адказвае партыйны камітэт. Партыйныя арганізацыі павінны зьвярнуць падвойную ўвагу на падрыхтоўку тэхнікі самой дэманстрацыі, на растаноўку сіл самаабароны, на тое, каб на самой дэманстрацыі паміж групамі рабочых і кіруючым ядром дэманстрацыі была жы-

вая сувязь. Гэта вельмі важна пры перакідцы дэманстрацыі з аднаго месца на другое. Неабходна падрыхтаваць прамоўцаў, людзей, якія выкідваюць лёзунгі, запевал і г. д. Гарадзкія арганізацыі павінны падрыхтаваць таварышоў, якія прымаюць сялян, прыходзячых з вёсак, не астаўляць на падпунктах без усялякай сувязі, каротка паведамляць іх аб ходзе акцыі ў горадзе і прыводзіць на пункт дэманстрацыі.

Заданьне вывучэньня праз партыйцаў як арганізаваць дэманстрацыю стаіць тым вастрэй, што кожны дзень прыносіць здарэньні на каторыя партарганізацыі павінны **НЕАДКЛАДНА** рэагаваць правядзеньнем масавай дэманстрацыі. Так напр.: ваенна-палявыя суды, пацыфікацыя ў Камень-Кашырску і г. д. і т. п. У гэткіх выпадках неабходна праявіць максымум энэргіі, самастойнасьці і гнуткасьці для шыбкай мабілізацыі рабочых і сялянскіх масаў на дэманстрацыю.

Мы павінны навучыцца ад бальшавікоў канцэнтраваць ўсе сілы, якія мае партыя на адну баявую задачу і паставіўшы яе перад сабою, упарта праводзіць у жыцьцё.

**К—я.**

---

## АД РЭДАКЦЫІ.

**Зьмяшчаючы артыкул аб дэманстрацыях у парадку абгаварэньня, рэдакцыя лічыць неабходным зрабіць некаторую пунктуацыю па гэтаму важнейшаму пытаньню ў дзеле завастрэньня барацьбы працоўных мас. Пунктуацыя дапаможа таварышом, якія хочуць выказацца па пытаньню аб дэманстрацыях, згрупаваць сваю ўвагу на асноўных момантах.**

### 1. ПАЛІТЫЧНЫ ЗЬМЕСТ ДЭМАНСТРАЦЫЙ

**Кожная дэманстрацыя павінна мець свой ударны асноўны лёзунг, які паказвае мэту дэманстрацыі. Напрыклад, «ідзём пад магістрат дамагацца хлеба і працы», альбо «масавай дэманстрацыяй недапусьцім зрыву зарплаты», «выступім на салідарную барацьбу разам з камень-кашырскімі сялянамі» і г. д. Такі асноўны лёзунг дэманстрацыі павінен быць папулярызаваны ў масах.**

**Масу можна пераканаць у неабходнасьці дэманстрацыі, калі паказаць ёй на вопыце, што дэманстрацыя зьяўляецца сродкам барацьбы асабліва за штодзённыя дамаганьні, што яна дае непасрэдную выгаду (выйграная забастоўка, атрыманая дапамога і г. д.).**

### 2. АРГАНІЗАЦЫЯ ДЭМАНСТРАЦЫІ

**Для вывядзеньня мас на дэманстрацыю трэба выкарыстоўваць камбінаваныя мерапрыемствы:**

**а) як і дзе абвясьціць цэнтральны пункт дэманстрацыі і тэрмін збора;**

**б) вылучэньне таварышоў (партыйцаў, камсамольцаў і беспартыйных актывістаў) для падвядзеньня мас да цэнтральнага пункту;**

**в) арганізаваньне брыгады ці дэманстрацыі для зьняцьця з работы рабочых;**

**г) арганізаваньне апарату сувязі і разьведкі, каб сачыць за рухам паліцэйскіх сіл;**

**д) выпрацаваць умоўныя знакі, паролі і г. д.;**

### 3. МЕРАПРЫЕМСТВЫ ПА АБАРОНЕ І ПРАВЯДЗЕНЬНІ ДЭМАНСТРАЦЫЙ

**а) як прарвацца праз кардоны паліцыі;**

**б) як правесьці масы да назначанага пункту, не ідучы пры гэтым на сутычкі з вялікімі паліцэйскімі сіламі;**

**в) на выпадак неабходнасьці, як рассыпацца па групах, каб забясьпечыць далейшы іх збор у другім пункце;**

**г) як утрымаць сувязь паміж кіраўніцтвам дэманстрацыяй і кіраўніцтвам паасобных груп дэманстрантаў, а таксама сувязь і з дружынамі самаабароны;**

**д) як арганізавана распусьціць дэманстрацыю, калі гэта зьяўляецца неабходнасьцю.**

### 4. СЬЦЯГ, ТРАНСПАРАНТЫ, ЛІТАРАТУРА

**а) Тэхніка падрыхтоўкі сьцягу і транспарантаў;**

**б) як не дапусьціць да арышта сьцяганосца;**

**в) выбар моманту і месца падняцьця сьцягу;**

**д) арганізацыя масавай абароны дэманстрацыі;**

**е) арганізацыя выкрыківаньня лёзунга;**

**ж) распаўсюджываньня літаратуры.**

### 5. АБ ПЕРАХОПЛІВАНЬНІ ДЭМАНСТРАЦЫЙ

**а) Як завалодаць дэманстрацыю, ладжаную іншымі варожымі партыямі і арганізацыямі;**

**б) ак адарваць хоць-бы часткамі масы ў ворага;**

**в) як недапусьціць да разьбіцьця ці захопу дэманстрацыі, ладжанай кампартыяй.**

# ВЕСТКІ З МЕСЦ.

Вялікае напружаньне рэвалюцыйнага руху рабочых і сялян на ЗБ і ў зьвязку з гэтым палітычная насычанасьць ва ўсіх галінах жыцьця і барацьбы працоўных мас уносяць новыя яскравыя праявы ў настроях мас, новыя формы і мэтады барацьбы.

Да рэдакцыі «Бальшавіка» паступаюць весткі з розных месц Заходняй Беларусі рознымі шляхамі (карэспандэнцыі, лісты, справаздачы з месц) аб падзеях, аб жыцьці-быцьці і барацьбе працоўных мас гораду і вёскі. Ва ўсіх гэтых вестках з месц ёсьць шмат цікавых данных і фактаў з практыкі барацьбы рабочых і сялян. У іх адбіваецца, як рэалізуецца масамі лінія партыі, па іх можна праверадь і правільнасьць лініі партыі і як у некаторых мясцох скажаецца гэтая лінія апартуністамі як справа так і зьлева.

Варункі падпольля не даюць магчымасьці гэтаму непасрэднаму адлюстраваньню сучаснай сапраўднасьці даць шырокую гласнасьць. Каб хоць часткова запоўніць гэты прабел рэдакцыя «Бальшавіка» будзе сыстэматычна зьмешчаць адпаведны матар'ял з месц, дзеля пераняцьця вопыту барацьбы, вучоту палітычнага жыцьця мас, дзеля вывадаў і вурокаў для працы партыі.

Рэдакцыя зьвяртаецца да сваіх працоўных чытачоў з фабрык, маенткаў, вёсак, кашар, зьвяртаецца да кожнага партыйца з заклікам пісаць карэспандэнцыі, артыкулы як жывецца ў данным працоўным асяродзішчы, як і супроць чаго вядзецца барацьба, абгаварваць на старонках «Бальшавіка» ўжо друкаваныя весткі з месц, высоўваць свае прапановы, каб усім гэтым памагчы партыі ў справе мабілізацыі працоўных мас, у справе арганізацыі сіл пралетарскай рэвалюцыі.

З ніжэй друкаваных матар'ялаў заслугоўвае асаблівай увагі зямельнае пытаньне ў барацьбе сялянскіх мас. Гутарка аб тым быццам у сялян аднэй-другой гміны Навагрудчыны «адпала ахвота да зямлі» бязумоўна патрабуе праверкі. Зямельны голад для шырокіх працоўных мас вёскі ЗБ зьяўляецца найбольш набалелым пытаньнем і адгэтуль барацьба за зямлю гэта галоўнае зьвяно, галоўнае дамаганьне мас, найбольш мабілізуючае беднякоў і сераднякоў.

Яскравым пацьвярджэньнем гэтага зьяўляецца двухгодняя завостраная барацьба сялян вёскі Баранова супроць камасацыі, барацьба, якая ў апошнія часы ўцягвала шырокія масы акаляючых сялян, што відаць у зьмешчаных ніжэй матар'ялах. Пасьпяховая разбудова сацыялізму ў СССР усё больш шырока выклікае сымпацыі ў працоўных масах, якія дзякуючы кампартыі ўсьцяж выразьней бачаць у СССР сваю пуцяводную зорку і пераконваюцца ў тым, што выхад з крызысу гэта шлях Кастрычнікавай рэвалюцыі. Гэтым тлумачыцца тая папулярнасьць і спачуваньні да калектывізацыі з боку сялян гібеючых ад безьзямельля і зямельнага голаду, а менавіта пралетарыят, поўпралетарыят і бедната вёскі ЗБ. Некулькі фактаў прыведзеных у «Вестках з месц» аб спробах некаторых вёсках ЗБ перахода на калектывізацыю ёсьць выяўленьнем сымпатыі мас да СССР, выяўленьнем своеасаблівага змаганьня за зямлю, супроць акупацыі. Аднак было б груба памылковым сьцьвярджаць быццам сяляне г. ё. і серадняцтва як кажа аўтар лісту прышлі да перакананьня: «Выхад адзін — гэта калектывызацыя».

Бязумоўна, частка сялянства ў першую чаргу з беднаты пойдзе пасьля рэвалюцыі ў сел-гаспадарчыя артэлі, але гэта ў ніякім выпадку не зьнімае лёзунгу барацьбы за канфіскацыю зямлі, гэта ні ў якім выпадку не азначае, што ў варунках капіталістычнага ладу можна пе-

раходзіць на шлях калектывізацыі, як гэта мы маем прыклад у Тэраспалі.

Пажадана, каб таварышы з месц прасачылі як праламляецца ў настроях сялянскіх масаў Заходняй Беларусі правядзеньне калектывізацыі ў СССР і напісалі аб гэтым у «Бальшавік». Бясспрэчна, што перабудова раздробленай бедняцка-серадняцкай гаспадаркі на сацыялістычны лад у СССР выклікае асаблівыя настроі ў працоўных сялян і ўносіць асаблівыя моманты ў іх барацьбу за зямлю. І вось за гэтым вельмі важна сачыць і неабходна ўлічваць у працы партыі.

Адзначаем у «Вестках з месц» таксама цікавыя факты барацьбы супроць так называемых дроговых аплат і за «вадзяны сэрвітут», факты, якія ставяць перад партарганізацыямі на мясцох задачу завострыць больш пільную ўвагу на ўселякія праявы нездавольства і балячак вёскі і на грунце іх мабілізаваць масы на барацьбу.

У «Бальшавіку» будуць друкавацца артыкулы, якія дадуць ацэнку зьмешчанага матар'ялу ў аддзеле «Весткі з месц», а таксама артыкулы, якія будуць падсумоўваць і даваць аканчальныя вывады пытаньням, што абгаварваюцца ў аддзеле «Наша трыбуна».

* * *

* * *

... 25 лістападу прыбыла ў вёску Баранова карная экспэдыцыя, арыштавала 18 чалавек, завезьлі іх на пастэрунок, дзе іх катавалі да згубы прытомнасьці. На АК прынята зараз-жа рашэньне аб разгортваньні акцыі супроць карных экспэдыцый і зьбіваньняў. Ужо з 25 на 26 мелі месца ў Індурах у 5-ці пунктах масоўкі, на якіх было удзельнікаў у ліку 220 чалавек і прыняты рэзалюцыі. 26 адбыліся яшчэ ў 5-ці пунктах масоўкі, якія ахапілі 230 чалавек. У Індурскім рёне было вывешана 16 транспарантаў. Гэтая акцыя была ўвязана з акцыяй супроць працэса Тарашкевіча. На некаторых масоўках абраны камітэты абароны Тарашкевіча. У Алекшыцкім раёне паводле неафіцыйных данных адбыліся масоўкі ў 10 пунктах, на якіх было прысутных каля 400 чалавек; транспарантаў вывешана каля 10-ці. У сувязі з гэтым арыштавана 6 чал. Адбыліся таксама масоўкі ў раёне Горніца—150 чал., вывешана 5 транспарантаў. У Баранове і 5 суседніх вёсках праведзены масоўкі, якія ахапілі 300 чал.

4 сьнежня ў 17-й гадзіне пачалася ў Баранове масоўка пад лёзунгамі супроць карных экспэдыцый у Баранове, супроць камасацыі. На масоўку прышло разам з насельніцтвам гэтай вёскі 500-600 чал. Выступіў адзін селянін, які зрабіў справаздачу аб акцыі ва ўсім раёне і выкінуў лёзунг, пасьля чаго быў выкінуты сьцяг і сьпявалі «Інтэрнацыянал». Наладжаная дэманстрацыя рушыла з пяяньнем «Смело товарищи в ногу». На другі дзень 5 сьнежня а 9-й гадзіне раніцою прыбыла другая карная экспэдыцыя з 60 паліцыянтаў і некалькі дзесяткаў шміцляў. Карная экспэдыцыя прашла па 10-12 вёсках, (Клеставічы, Кавсоўка, Лікоўка, Гараднікі, Гекаловічы, Дадашэвічы, Кругляны і інш.). Усюды катавала каго толькі хацела. Гэта выклікала яшчэ больш рашучы масавы адпор.

... На шматлікіх масоўках, якія ахапілі 1.300-1.400 сялян, прамоўцы пры гарачым падтрымаьньні мас заклікалі да няшчаднай барацьбы супроць акупацыі. Адбыліся 2 дэманстрацыі: адна ў Баранове з удзелам 500 чалавек, другая — у мястэчку Індуры—600 чал. Другая дэманстрацыя адбылася ў часе, калі ў адной частцы гэтага раёну праходзіла карная экспэдыцыя. Паліцыя прыбыла з гранатамі і пулеметамі. Арыштавалі 50 чал. Пасьля катаваньня 30 выпусьцілі, а 20 перавезьлі ў Горадню. Адбыліся арышты ў Індурскім і Алекшыцкім раёнах. Акцыя супроць пацыфікацыі разгортваецца па ўсёй акрузе пад кіраўніцтвам мясцовых парт. арганізацый...

(З справаздачы Горадзенскага інструктара— 12 сьнежня 1932 г.).

Вось што расказваюць вачавідцы пацыфікацыі ў Камень-Кашырску:

«Калі прыехаў атрад паліцыі ў в. Сжаляр і пачалі браць усіх пагалоўна і зьбіваць. Тады зьбеглася з 4-х вёсак многа людзей і прагналі паліцыю, так што яны ўцякалі бяз агляднкі. Праз некалькі гадзін прыбыў атрад паліцыі значна большы і пачалі распарўляцца над селянамі, нішчучы іх хатнія здабыткі. Паловы насельніцтва гэтых 4-х вёсак арганізаваліся ў атрад з аружжам у руках і пачалі фармальны бой з паліцыяй. Было некалькі забіта паліцыянтаў і сялян. Хутка на дапамогу паліцыі прыбылі новыя сілы і паліцыя адціснула паўстанцаў у лес. Пасьля гэтага чорныя крумчаны зноў распачалі расправу над сялянамі ды такую, што той хто стаяў у старане цяпер таксама браў у рукі што папала і далучаўся да паўстанцаў. Усё насельніцтва 4-х вёсак і старыя і малыя пайшлі ў лес. Усё часьцей стала чуваць, што там-сям адбыўся напад і спалілі панскі двор ці пастарунак. Паліцыя зьежджаецца з усіх бакоў, прыбывае і войска».

(Карэспандэнцыя, сьнежань 1932 г.).

Мы, сяляне вёскі Лаша, сабраўшыся 29-XI-32 г. на масоўку ў ліку 60 чалавек, энэргічна пратэстуем супроць кулацкай крывавай камасацыі ў вёсцы Баранава. Крывавы фашыстоўскі ўрад самым жорсткім чынам тэрарызуе, зьбівае да згубы прытомнасьці працоўных сялян. Арыштаваных 17 чалавек моладзі 26-XI-32 г. у в. Баранове, закутых і распранутых павезьлі ў дэфэнзыўскую катоўню, дзе катавалі іх двое сутак.

Мы, сяляне, моладзь і старыкі, патрабуем спыненьня карных экспэдыцый, патрабуем вызваленьня сялянскага пасла таварыша ТАРАШКЕВІЧА Бронiслава. Далоў карную экспэдыцыю з вёскі Баранова! Няхай жыве адзіны саюз рабочых і сялян Зах. Беларусі і ўсей Польшчы! Няхай жыве Савецкая Польшча!

Мы, сяляне вёскі Лаша, энэргічна патрабуем вызваленьня Заходняй Беларусі з-пад фашыстоўскага боту.

Няхай жыве рэвалюцыя ў Польшчы!

(Рэзалюцыя прынятая на масоўцы).

* *
*

У нашым раёне арганізуюць за апошні час масавае зьбіваньне канфідэнтаў. У 3-х вёсках маса ад 30 да 40 чалавек зьбіла да напоўсьмерці 4-х канфідэнтаў. У вёсцы Порасьляны сабралася 150 чал. з 3-х вёсак на вечарынку. На вечарынку прыйшлі канфідэнты з другой вёскі са шпікам. Ячэйка пачала рыхтаваць масу, каб зьбіваць іх. Шпік, пранюхаўшы гэтую справу, адразу ўцёк. Другі таксама пачаў уцякаць (гэта было 13-га студзеня). За ім кінуліся ўдагонку чалавек 30. Гэтая сволач уцякла ў хату солтыса і замкнулася. Там быў паліцыянт. Гэтыя 30 чал. выбілі дзьверы і выцягнулі на вуліцу і паліцыянта і канфідэнта і зьбівалі, другога — так, што гадзіны 2 качаўся на карачках і сьцякаў крыўёю. Двум канфідэнтам спалілі па 12 вазоў сена ў стагох на балоце. Праз некалькі дзён арыштавалі некалькі чалавек. Цяпер, у апошні час, з якой-бы вёсцы канфідэнт (дзе яны ёсьць) не зьбіраўся ў другую вёску, дзе яго ня ведаюць, ячэйка першай вёскі зараз-жа перадае ў другую, куды сабраўся ісьці канфідэнт, — што чакайце, сёньня да вас прыдзе канфідэнт. Тут маса ўжо рыхтуецца спаткаць яго.

У аднэй з вёсак Барасьцейшчыны на вечарыне 110 чалавек моладзі зьбілі аднаго канфідэнта да поўсьмерці, так што ён ляжаў каля 3-х гадзін на дварэ, а маса з вечарыны з пагардай выходзілі глядзець на выкінутага шпіцля, як на сабаку. Цікава апісаць, як білі канфідэнта: яго абкружылі ўсім нтоўпам у круг, парэднія білі яго чым папала, пасьля адступалі і давалі месца заднім, якія рабілі тое самае і так кожны з натоўпу лічыў сваім абавязкам нанесьці ўдар фашыстоўскай сволачы.

(Справаздача ячэйкі з Берасьцейшчыны).

... Амаль у кожнай вёсцы паліцыя мае канфідэнтаў. Месяца тры таму назад у нас был забіт шпік па прозьвішчы Констанцін Грэсь з в. Песчанікі.

У другім месяцы сяляне таксама зрабілі спробу падпаліць сена, належнага шпіку Сьцепану Паплаўскаму. Падпал не ўдаўся. Гэтага шпіка байкатуе ўсё насельніцтва. Калі ён прабаваў паступіць на тэкстыльную фабрыку Індурскага, усе рабочыя гэтай фабрыкі заявілі фабрыканту, што яны са шпікам працаваць ня будуць. У рэшце фабрыкант прымушан быў не прыняць шпіка на фабрыку ...

(З карэспанд. Гарадоцкага раёну 21-ХІІ-32 г.).

... У апошні час забіт канфідэнт Лісоўскі з вёскі Палужжа. У сувязі з гэтым паліцыя праводзіла масавыя арышты...

(Карэспанд. з Новогрудчыны, сьнежань 1932 г).

... У Беластоку прыступлена да акцыі супроць канфідэнтаў; выдан камунікат, які кляйміць шэраг вядомых канфідэнтаў. Гэты камунікат распаўсюджаны сярод рабочых; пасланы ўсюды, дзе вядуць сваю «работу» канфідэнты і дамоў саміх канфідэнтаў ...

(З справаздачы Беластоку за лістапад 1932 г.).

У Кобрынскім раёне ў в. Ліхаты, калі канфідэнт прышоў на вечарынку дык моладзь яго так пабіла, што яго хворага адвезлі да хаты. Такія настроі ёсьць і ў іншых вёсках гэтага раёну. У вёсцы Баяры канфідэнт знаходзіцца пад агульным байкотам і ён баіцца выходзіць з хаты.

У нашай мясцавосьці баявы настрой сярод сялян ня дае спакойна спаць паліцыянтам-крумкачом. У вёсцы Руднікі, Рудніцкай гміны пастарунак паліцыі ўжо ў працягу 3-х тыдняў кожны дзень зьнімае свой шыльд на-ноч, а сам што ні ноч начуе ў іншай хаце. Нашы сяляне зьдзекуюцца з паліцыі, кажучы, што іхны пастарунак зьняўся з якара і хай лепш уцякае на ўсе чатыры стораны, ба ўсё-роўна яму ня жыцьцё.

(Ліст з Берасьцейшчыны).

* *
*

Акруговая канфэрэнцыя прафсаюзаў гарбароў у Беластоку адбылася 13 лістапада, было 11 дэлегатаў ад 6 саюзаў: з Беластоку, Крынак, Гарадні, Сьвіслачы, Заблудова і Саколка. Парадак дня быў наступны: 1) справаздачы з месц і калектыўная умова беластоцкага раёну, присутнічаў сэкрэтар Цэнтралі сацыял-фашыст Ліхтэнштэйн і з беластоцкай акруговай камісіі вядомы «герой» Капітулка. Склад дэлегатаў быў наступны: 4 бундаўцы, 3 пепеэсаўцы, 2 з апазыцыі, а рэшта беспартыйных. Да парадку дня прадстаўнікі апазыцыі дадалі пункты аб забастоўцы лясных рабочых у Белавескай Пушчы і аб скліканьні краявога зьезду скураных рабочых. Спачатку канфэрэнцыі адбыўся востры канфлікт з сацыял-фашыстоўскімі бонзамі. Беластоцкія шаўцы хочуць быць на канфэрэнцыі. Пепеэсаўскія і бундаўскія правадыры не хацелі дапусьціць дэлегатаў беластоцкіх шаўцоў, таму што гэта «непажаданы дл іх элемэнт», хаця шаўцы належаць да аднэй цэнтралі з гарбарамі. Прадстаўнік апазыцыі энэргічна выступае супроць ППС і Бунд і пад націскам іх яны змушаны былі дапусьціць двух дэлегатаў шаўцоў.

На канфэрэнцыі дэлегаты з Заблудова востра крытыкавалі беластоцкае праўленьне, зрыў-жа зарплаты адбіваецца на палажэньні і заблудоўскіх гарбароў. Па 2-му пункту аб калектыўнай умове такжа выступаў апазыцыйны прамоўца. Правадыры беластоцкага саюзу хочуць падпісаць калектыўную ўмову з фабрыкантамі і для раёну, на горшых умовах пры дапамозе інспэктара працы, а пепеэсаўска-бундаўскае праўленьне ня хоча дапусьціць да адзінага фронта барацьбы за сапраўды калектыўную ўмову. Выступленьне апазыцыйных прамоўцаў зрабіла ўплыў на большасьць прысутных беспартыйных і сацыял-фашысты прымушаны былі адступіць ад сваёй прапановы падпісаньня з фабрыкантамі пры дапамозе фашыстоўскага інспэкатара працы калектыўнай умовы, шкоднай для рабочых. Па пункту аб працы жанчын сацыял-фашысты

прапануюць зьвярнуцца да міністэрства, каб яно забараніла працаваць жанчынам «з прычын здровотных». Прадстаўнік апазыцыі выступае супроць гэтых прапаноў Ліхтэнштэйна і Капітулкі, якія хочуць выкінуць на беспрацоўе працоўных жанчын. Прадстаўнік апазыцыі даводзіць, што рабочая кляса павінна разам з працоўнымі жанчынамі за лепшыя варункі працы для жанчын. Прапанова апазыцыі адхілена. Па пункту аб халупніках у Сьвіслачы дэлегаты апазыцыі высьвятляюць штрайкбрэхерскую ролю халупнікаў, якімі кіруюць Поалей Сіон, саюзьнікі Бунду і ППС. Апазыцыя прапануе арганізаваць мітынгі супроць штрэйкбрэхерства халупнікоў і гэту прапанову таксама адкінулі. На канфэрэнцыі гаварылі яшчэ супроць падоўжаньня дня працы. І тут бундаўскія і пепеэсаўскія бонзы адкідваюць прапанову апазыцыі аб тым, што толькі барацьбой можна не дапусьціць да падоўжаньня 8-гадзіннага дня працы.

Не зважаючы на тое, што апазыцыя была ў меншасьці, яна ўсё-ж адыграла на канфэрэнцыі найважнейшую ролю. Гэтая канфэрэнцыя выказала, што бундоўска-пепеэсаўскія правадыры ўсялякімі мерамі хочуць не дапусьціць да барацьбы за палепшаньне становішча гарбароў і шаўцоў і што яны хочуць саюзы захаваць, як бюрократычныя апараты.

(Ліст рабочага гарбара).

18 лістападу 1932 г. я быў на агульным сходзе бастуючых рабочых у Новым Гданску (Белавеская Пушча). Выступалі бастуючыя рабочыя аб забастовачнай барацьбе і сучасным палажэньні. Прамовы іх былі ў рэвалюцыйным духу, накіраваны супроць дырэкцыі і фашыстоўскага ўраду. Рассказвалі, як іх эксплёатуюць, мучаць у голадзе, нэндзы і галечы, трымаюць пад бізуном ураду і яго паслугачоў сацыял-фашыстаў. Тэрарызуюць голадам і нэндзай і не дапускаюць да работы таварышоў, якія не належалі і ня хочуць належаць да фашыстоўскіх арганізацый, як «Стралец», «Рэзарвісты» і інш. Рассказвалі, што калі не належыш да рэзэрвістаў, дык не дапушчаюць да работ па 10 месяцаў, а некаторых перакідваюць з лепшых работ на горшыя, а калі і гэта не памагала, дык зусім выкідвалі з работы. Ня маючы ніякага ратунку, рабочыя пашлі да салідарнай барацьбы супроць сваіх тыраноў і гныбіцеляў, супроць нячуванай эксплёатацыі і абʼявілі вайну забастоўкай сваім паном з дырэкцыі і іх ўраду.

На гэтай масоўцы пастаноўлена пратэставаць масава і дэманстратыўна супроць фашыстоўскай дырэкцыі і штрэйкбрэхераў і пастаноўлена, што 19 лістапада а 6-й гадзіне раніцай усе як адзін павінны сабрацца пад кіраўніцтвам забастовачнага камітэту і выступіць дэманстрацыяй супроць штрэкбрэхераў і ўраду, які штыхом і гумовай палкай хоча задушыць барацьбу рабочае клясы. Тут-жа склалі прысягу і падалі сабе братэрскую далонь, што ў часе арышту таварышоў, усе стануць да барацьбы на сьмерць і жыцьцё, бо нічога ня маюць да згубленьня. Адзін за ўсіх і ўсе за аднаго.

(Карэспандэнцыя рабочага).

... Мы ў Беластоку распачалі шырокую кампанію матарʼяльнай і маральнай дапамогі бастуючым Белавескай Пушчы. Першае шырокае выступленьне мы мелі на сходзе ў тэкстыльшчыкаў, дзе выступаючыя рабочыя намалявалі карціну і характар гэтай забастоўкі і што трэба рабочым рабіць. Рабочыя вельмі добра прынялі прапановы і яны далі самі прапазыцыю абраць камітэт салідарнасьці. Характэрнымі зьяўляюцца паводзіны сацыял-фашыстаў на сходзе тэкстыльшчыкаў. Яны выступілі і сказалі: «добра, мы падтрымоўваем такія прапазыцыі», але гэтыя лісы адразу-ж зрабілі для сябе падпісныя лісты і пад імі далі подпіс праўленьня іхняга профсаюзу. Хаця яны і сказалі, што грошы зьбірае спэцыяльная камісія, іх думка была яснаая: узьняць аўтарытэт праўленьня і паказаць якія яны «левыя». Памылкой было тое, што мы дапусьцілі на рассыланьне лісту ад імя праўленьня. Сабраныя грошы рабочыя пасылалі бастуючым праз сваіх дэлегатаў абраных на сходах. У саюзе краўцоў на сходзе таксама былі закрануты пытаньні аб забастоўцы ў Белавежы. Прынята прывітальная рэзалюцыя, абраны камітэт салідарнасьці, зьбіраюць дапамогу.

У малярэй абраны камітэт салідарнасьці, зьбіраюць дапамогу. У пекароў прынята рэзалюцыя, усе высказаліся за тое, каб падтрымаць бастуючых. У мэталістаў сходу ня было, але там также пачалася акцыя. У апошні тыдзень справа забастоўкі была закранута на канфэрэнцыі гарбароў у Беластоку; сацыял-фашысты спачатку выступілі супроць, гаварылі, што няма забастоўкі, а пасьля пад націскам мас згадзіліся на пасланьне прывітаньня бастуючым... Наогул сабрана для бастуючых лясных рабочых Белавескай Пушчы звыш 1.000 злот.

(З партыйнай справаздачы, 1932 г., лістапад).

На дапамогу бастуючым беластоцкім шаўцам сабрана сярод рабочых 31 тэкстыльных фабрык і кафлярняў такжа і сярод рабочых будаўнікоў, пекарей, краўцоў і інш. 1.046 зл. 81 гр. Гэтыя грошы выдаткаваны:

| | |
|---|---|
| На 4.637 кілё хлеба . . . . | 887 зл. |
| На ладжаньне мітынгу . . . | 95 зл. |
| На паездку ў Белавеж . . . | 32 зл. 73 гр. |
| На паездку ў Туросьне Косьцельно . . . . . . | 3 зл. 50 гр. |
| На іншыя выдаткі . . . . | 14 зл. 76 гр. |
| Усяго выдаткавана | 1.032 зл. 98 гр. |
| Засталося | 13 зл. 83 гр. |

(З апублікаванай справаздачы Камітэту Дапамогі).

* * *

... Барацьба за зямлю становіцца надзвычайна востра. Больш усяго фактаў па гэтай лініі атрымалі з Берасьцейшчыны. Пытаньне ўвязваецца з камасацыяй, якую праводзяць узможаным тэмпам—Дамачоўшчына, Кобрыншчына, в. Мізуны, і таксама з ліквідацыяй сэрвітутаў—Тарэсполь, Пружаншчына, в. Ліхачы. Характэрна, што яшчэ сярод некаторых сялян - беднякоў моцны ілюзіі ў адносінах да камасацыі, якую яны лічаць прыемлемай пры умове прырэзкаў. Такі факт мы мелі ў Дамачоўшчыне, дзе сяляне згадзіліся на камасацыю пры умове аддачы ім царкоўнай зямлі.

У Пружаншчыне ў в. Ліхачы кулак захапіў сэрвітут. Сяляне прагналі яго, засеялі зямлю. Самі апрацоўваюць зямлю. А з кулаком судзяцца. Цяпер парашылі—на працэс больш грошай не даваць, а лепей арганізаваць барацьбу за ўтрыманьне зямлі...

(Справаздача з Палесься ад 6 сьнежня 1932 г.).

У Тэрасполе пастанавілі 200 дзесяцін зямлі забраць у кулакоў (даўней—сэрвітут) і пабудаваць калгас. На сходзе абралі праўленьне калгасу...

(Карэспандэнцыя з в. Баравікі).

... Сялянства цалкам настроена на карысьць Савецкага Саюзу (зразумела, не кулакі). Чуткі аб калектывізацыі прасачваюцца да нас і выклікаюць з боку ўсёй беднаты добры водгук...

... У сялян адпала ахвота да зямлі. Для іх цяпер лёзунг—зямля без выкупу— не такі актуальны. Ім гаворыць партыя: пасьля рэвалюцыі ўся абшарніцкая зямля пяройдзе да вас, а сяляне адказваюць: навошта гэта мне? Цяпер я маю дзьве дзесяціны, пасьля рэвалюцыі буду мець 4 дзесяціны; я цяпер усё здароўе ўлажыў у зямлю, працаваць не магу; зямля сябе не акупае. Што я буду рабіць з гэтай зямлёй? Выхад адзін—гэта калектывізацыя. Такія гутаркі я чуў у Турцы, Равінах, Рудковічах, Кельчыцах і іншых мясцох Навагрудчыны...

(Ліст партыйца з Навагрудчыны, сьнежань, 1932 г).

Сяляне вёскі Акуніна (Слонімшчына) чуючы што ў Сав. Сюзе сяляне перашоўшы на калектывізацыю, дабіліся лепшага жыцьця—сабраліся на сход, выбралі трох дэлегатаў да Старосты ў Слонім, каб заявіць што пераходзяць на калектывізацыю. Пан староста заслухаўшы довады дэлегатаў аб карысьці калектывізацыі здурнеў і ня ведаў што адказаць, а пасьля як укушаны падскочыў з крыкам: «Вы хочаце ў мяне камуну заводзіць? Я вам пакажу камуну ў вастрозе». Так дэлегаты і пашлі ні з чым.

( З гутаркі з таварышом са Слонімшчыны)

* *
*

... У нас разгортваецца барацьба за «вадзяны сэрвітут». У Кобрыншчыне (в. Баравікі) ячэйка арганізавала 45 чал., якія пайшлі на раку, прагналі трох кулакоў, якія захапілі для сябе лоўлю рыбы на рацэ—і арганізавалі лоўлю рыбы «камунай»—для ўсіх сялян. Паліцыя ўступілася за кулакоў. Дайшло да сутычкі з паліцыяй. Масы пабілі кулакоў.

У в. Песчанікі (Гарадокскі раён) быў такі факт. Там ёсьць возера, якое належыць да фабрыканта — лавіць рыбу на гэтым возеры забаронена. У гэту вёску прыехаў на адпачынак салдат, які пашоў на возера лавіць рыбу. Вартавы сторож пачаў страляць да салдата. На выстрал зьбеглася ўся вёска і пачала закідваць каменьнямі стоража. Аднаму майстру фабрыкі, які прыбег на дапамогу сторажу разьбілі галаву. У тую-ж ноч моладзь зьнішчыла ў гэтага фабрыканта ўсе яго агароды.

(Карэспандэнцыя, лістапад 1932 г.).

* *
*

... У Волчынскім раёне, у в. Залесьсе адбыліся наступныя падзеі: 12-га чэрвеня прышоў войт з паліцэйскім і патрабаваў выхаду на шарваркі. (Ужо два гады, як гэтая вёска не адрабляла шарварак). У гэтым годзе некаторыя з акаляючых вёсак выходзілі на шарваркі, а гэтая вёска не. Сяляне адмовіліся і прагналі вон войта і паліцэйскага. Назаўтры прышоў войт з 7-ю паліцэйскімі, але іх таксама выгналі вон, прычым, выганяючы за імі ішлі жанчыны або дзеці і барабанілі ў вёдры, выправаджаючы іх пад барабанны бой. Праз два дні прыехала на грузавіку з Волчына некалькі дзесяткаў паліцэйскіх у поўным узбраеньні і з кулямётам. Сяляне далі аб гэтым вестку ў 2 суседнія вёскі і ўсёй масай у некальлі сотняў чалавек пачалі наступаць на паліцыю, кідаць у яе каменьні. Наперадзе шлі дзеці, за імі жанчыны, а за жанчынамі і мужчыны і гэтак ззаду кідалі каменьні. Тады паліцыя выехала за вёску і пачала яе абстрэльваць з кулямёту. Тады сяляне разьбегліся. Быў моцны настрой у беспартыйнай масы выступіць са зброяў у адказ на абстрэл вёскі, але ячэйка, што кіравала барацьбой, утрымала ад гэтага. Калі сяляне разьбегліся, у вёску ізноў ўварвалася паліцыя і гумовымі палкамі і прыкладамі ад вінтовак пачала зьбіваць усіх пагалоўна. Потым пайшлі па хатах і забралі ўва ўсіх лепшую вопратку і г. д. за неадработанны шарварак і незаплочаныя падаткі. Грабеж вёскі працягваўся цэлы дзень. У кіраўніцтве барацьбой прымаў актыўны ўдзел абраны ў мінулым годзе сялянскі камітэт.

(Справаздача з Берасьцейшчыны).

* *
*

... Цяпер уводзіцца новы падатак, гэтак званы крызісовы, размер яго яшчэ невядомы. Адміністрацыя стасуе новы спосаб спагananьня недаімак за мінулыя гады. Цяпер ужо за гэтымі нядоімкамі не прыяжджае сэквэстратар, а кожнаму недаімшчыку селяніну з Навагрудку прысылаюць спэцыяльную паперку з указаньнем, што ён павінен гэтую недаімку ў такі-то тэрмін заплаціць. Прычым за пасылку такой паперкі налічваецца на старую недаімку дадаткова 8 зл. штрафу. У нас у Палужжы (Навагрудчына) адзін селянін па прозьвішчы Казёл, застаўся ў даўгу за старую нядоімку 7 зл. Ён атрымаў з Навагрудку такую паперку, і калі ён прыехаў у Новагрудак, каб заплаціць гэтыя 7 зл., дык там аказалася, што старая нядоімка ў 7 зл. разам з налічанымі на яе працэнтамі за несваечасовы узнос і плату за паперку напамінаньне, пераварылася ўжо ў 40 зл. За кожны прыход сэквэстратара налічваюць ад 1,50—да 5 зл. дадаткова...

(З карэспанд. селяніна сьнежань 1932 г.).

У вёсцы Залозкі, Любчанскай гміны прыяжджаў войт і агітаваў сялян заплаціць калі ня могуць усяго, дык хоць па аднаму злотаму, абяцаў за гэта ўсялякія палёгкі. Аднак ніхто не заплаціў. Нашліся два кулакі, якія заплацілі. У гэтую-ж ноч сяляне грамадой у аднаго кулака, які заплаціў увесь падатак выбілі ўсе вакны ў хаце, а той, што заплаціў палову, дык выбілі палову вакон.

(Карэспандэнцыя селяніна).

Наогул у нас падаткаў не плацяць і праганяюць сэквэстратараў. Серадняцтва ў сваёй масе ідзе за партыяй, паддаецца нашай агітацыі і не плаціць падаткаў, але калі праца партыі аслабевае, а з другога боку націскае мацней тэрар і запужываньне, дык серадняк ідзе на частковую аплату падаткаў.

(Ліст з Навагрудчыны).

* * *

У нашым Кобрынскім раёне ў некаторых вёсках арганізаваліся масавыя вечарыны-бяседы. У аднэй з вёсак сабралася каля 200 асоб, у тым ліку 9 атпускнікоў-салдат. Выступала 4 прамоўцы, якія закранулі такія пытаньні: супроць падаткаў, белага тэрару, супроць нападу на СССР і абарону СССР, пацыфікацыя і т. д. Адзін з прамоўцаў вяртаецца да 8 салдат з запытаньнямі: ці праўда, салдаты, што цяпер горш у войску кормяць і нікуды не пускаюць салдат, не даюць чытаць газэт, а хто чытае — караюць». Салдаты як адзін адказваюць: «так ёсьць». «А ці праўда, што афіцэры — гэтыя буржуйскія сынкі, робяць паклёп на СССР і заклікаюць да вайны супроць яго?» «Так ёсьць». «Няўжо вы пойдзеце супроць СССР ваяваць, процію сваіх братоў, як гарматняе мяса ў руках буржуазіі і абшарнікаў?» «Нема глупіх». «А што вы будзеце рабіць, калі вас пашлюць ваяваць супроць СССР?» «Бронь в бжух своіх офіцэрув і буржуев». Гэтыя словы былі пакрыты громам аплёдысмэнтаў. Прамоўца заклікаў усіх прысутных пасьледваць прыкладу салдат. Зноў гром аплёдысмэнтаў. Пасьля палітычнай часткі пачаліся дэклямацыі, пяяньне рэвалюцыйных песень і г.д.

У 7-мі вёсках Берасьцейшчыны адбыліся вечарыны-бяседы (акадэміі), на якіх прысутнічала столькі народу, сколькі можа зьмясьціць сялянская хата. На такіх вечарынах вядуцца бяседы на розныя палітычныя тэмы аб балячках працоўных мас, аб клясавай барацьбе, пасьля была масавая дэклямацыя рэвалюцыйных вершаў, пяяньне рэвалюцыйных песень, рассказы, успаміны і г. д., а таксама праводзяцца зборы на фонд КПЗБ.

(Карэспандэнцыя з Берасьцейшчыны).

* * *

У Карэліцкай гміне лічыцца найлепшая зямля у вакрузе і нягледзячы на гэта сёлета быў паўсямесны недарод і наогул у сялян ужо няма хлеба. Калі ўзяць іншыя гміны, як напрыклад Шчорсы, дык там сяляне зьмешваюць пуд зярна з трымя пудамі мякіны і ў такім відзе мелюць. Такі хеб называецца «хлеб з пухам», але добра, калі і такі хлеб ёсьць. За Нёманам у Шчорсаўскай і Негнявіцкай гмінах апрача недароду нівы пацярпелі ад града і іржы.

Маса жабракоў ходзіць па вёсках. Многія сяляне, якія год-другі таму назад былі самі гаспадарамі на сваім шнурку зямлі, дык цяпер ходзяць з торбамі. Штодзённа ў вёску заглядае 5-6 жабракоў.

(Ліст з Навагрудчыны).

У Міхалове каля Беластоку фабрыканты Глікфэльд і Лазінг дадумаліся да новых мэтадаў эксплёатацыі. Калі на фабрыцы псуецца машына дык фабрыкант пад пагрозай рэдукцыі і зачыненьня фабрыкі змушае рабочых на свой кошт рэмантаваць машыны. Былі выпадкі што рабочыя ішлі на гэта.

(З партыйнай справаздачы 14-XI—1932 г.).

... Цяпер пашыраецца ў нас барацьба сялянства за ўезды ў горад і мястэчка. У нашым мястэчку Карэлічы ў кожны базарны дзень (серада) адбываюцца фармальныя бойкі. З кожнай фурманкі пры уезьдзе ў мястэчка на базар бяруцца па 20 гр.; калі ты вядзеш карову або сьвіньню—за гэта плаці асобна. Апрача таго трэба заплаціць солтысу за пасьведчаньне, якое патрабуецца пры прадажы кожнай каровы, сьвіньні і авечкі, і гэтае пасьведчаньне сапраўдна толькі 10 дзён. Значыцца, калі на гэтым базары не прадасі, дык на наступны раз пачынай плаціць зноў усё спачатку. За ўезд з падводай на базар бяруць 20 гр., за агляд каня—1 зл., тое-ж самае за карову, сьвіньню і г. д. Пры ўезьдзе ў мястэчка стаяць двое цывільных і зьбіраюць гэтыя зборы. Звычайна права на збор прадаецца з ліцытацыі. Штогод у кожнай гміне адбываюцца такія ліцытацыі, і хто болей заплоціць, той атрымоўвае права на збор гэтага падатку.

Вось вакол гэтых збораў адбываюцца фармальныя бойкі. Некаторыя сяляне прама пугай перацягваюць па гэтых сборшчыках. У апошні час на дапамогу зборшчыкам паставілі паліцыю. Але што можа зрабіць адзін паліцэйскі, калі вялікі кірмаш? Сяляне зьбіраюцца ў масу падвод і прарываюцца...

(Карэспандэнцыя з Карэлічы).

---

# МАТЭР'ЯЛЫ І ДАКУМЭНТЫ.

## ДЫРЭКТЫВЫ ЦК КПП У СПРАВЕ СТАЧАЧНЫХ БАЁЎ І ПРАФРУХУ.

У разьвіцьцё рэзалюцыі XII пленуму ВККІ аб эканамічных баёх і палітычнай рэзалюцыі VI Зьезду КПП Цэнтральны Камітэт ухваляе наступныя дырэктывы па пытаньню аб нашых бліжэйшых задачах у эканамічных баёх і ў рэвалюцыйным прафсаюзным руху.

I.

1. У справе форм арганізацыі рэвалюцыйнага прафсаюзнага руху існуе яшчэ вялікае неразуменьне ў некаторых нашых нават кіруючых прафсаюзных дзеячоў. Замест таго, каб трактаваць левыя прафсаюзы і апазыцыю ў рэфарміс-

**цкіх прафсаюзах, як падставу профлевіцы, альбо рэвалюцыйнага прафсаюзнага руху,** а групы профлявіцы, як арганізацыі пераходныя, арганізацыі адзінага фронту арганізаваных і неарганізаваных рабочых, што мы ў акрэсьленых варунках ператвараем у левыя прафсаюзы, — гэтыя групы профлевіцы разумеюцца, як ужо закончаныя выразна акрэсьленыя прафсаюзныя арганізацыі. Левыя-ж прафсаюзы і апазыцыі ў варожых саюзах спіхваюцца на апошняе мейсца, альбо пра іх зусім забываюць. Каб гэтае становішча зьмяніць, неабходна:

а) Узмацніць актыўнасьць у галіне адбудаваньня **зачыненых левых прафсаюзаў і перайсьці** да арганізацыі ў больш шырокім маштабе левых прафсаюзаў — прамысловых і сельскагаспадарчых рабочых — там, дзе варункі да гэтага насьпелі. Гэтыя прафсаюзы могуць насіць любыя назвы.

б) Там, дзе паліцыя разьвязвае левы прафсаюз, нельга нам адмаўляцца ад яго ўтрыманьня і далейшага пашырэньня. Адначасна, аднак, трэба разгарнуць масавую акцыю супроць яго разьвязваньня.

в) Там, дзе існуе левы прафсаюз, трэба палажыць націск на ўцягваньне ў яго неарганізаваных рабочых, а не на тварэньне паасобных фабрычных груп профлевіцы. На фабрычных сходах груп членаў левых прафсаюзаў трэба прыцягваць неарганізаваных рабочых, членаў рэакцыйных саюзаў, абгавараючы з імі таксама справы, якія датычаць дзейнасьці іх саюзаў. З апазыцыйных членаў гэтых саюзаў трэба тварыць апазыцыйныя групы, працуючыя ўнутры гэтых саюзаў.

г) Трэба змагацца з усякага роду камандваньнем левымі прафсаюзамі і ўжываць у іх у найшырэйшым маштабе ўнутрысаюзную дэмакратыю. Уцягваць у праўленьні саюзаў і фахавыя камісіі рэвалюцыйных членаў саюзаў, якія належаць і да сацыял-фашыстоўскіх партый, беспартыйных, склікаць часта канфэрэнцыі ўпаўнаважаных, прафсаюзных дэлегатаў і г. д.

д) Імкнуцца да найбольш цеснага саюзнага супрацоўніцтва арганізаваных рабочых яўрэйскіх і польскіх аднэй і тэй-жа галіны прамысловасьці, з ясным курсам на адзіныя прафсаюзы.

2. Сільнае імкненьне рабочых мас да арганізаваньня пры слабасьці рэвалюцыйнага прафсаюзнага руху і хітрых манэўрах сацыял-фашызму спрыяе таксама значнаму росту шэрагу рэфармісцкіх прафсаюзаў. З гэтай прычыны яшчэ вастрэй чым да гэтай пары становіцца неабходнасьць утварэньня і пашырэньня апазыцый у сацыял-фашыстоўскіх прафсаюзах. Гэта задача, да рэалізацыі каторай мы павінны імкнуцца на грунце самастойнага разгортваньня эканамічных баёў, мусіць стаць галоўнай задачай фабрычных груп профлевіцы, якія мы арганізуем там, дзе не існуюць левыя прафсаюзы: а) Унутры фабрычных груп профлевіцы, якія могуць насіць рознастайныя назвы (левыя профгрупы і т. п.), трэба вылучыць тых членаў групы, якія належаць да рэакцыйных саюзаў, дзеля вядзеньня апазыцыйнай працы ў гэтых саюзах.

Групы профлевіцы, якія не вядуць працы ў сацыял-фашыстоўскіх прафсаюзах, гэтым самым не выконваюць сваіх важнейшых абавязкаў — тварэньня адзінага фронту арганізаваных і неарганізаваных рабочых.

б) Там, дзе нам пакуль што не ўдаецца арганізаваць фабрычную левую профгрупу як з неарганізаваных, гэтак і з арганізаваных рабочых (такую сытуацыю мы маем у мэталёвых фабрыках у Варшаве) — трэба пачаць яе арганізацыю ад утварэньня з членаў партыі апазыцыйнай групы рэфармісцкага саюзу. Тых-жа членаў партыі, якія яшчэ не належаць да саюзу, трэба ўводзіць ў саюз. На сходы гэтае групы трэба прыцягваць неарганізаваных рабочых, даваць ім выданьні профлевіцы, зьбіраць добраахвотныя зборы ў прэсавы фонд і ў гэты спосаб уцягваць іх у якасьці сталых членаў фабрычнай групы профлевіцы, а больш сьвядомых і баявых з іх уводзіць у рэфармісцкі саюз для ўзмацненьня апазыцыі ў сацыял-фашыстоўскіх саюзах.

3. Асуджэньне з боку Камінтэрну апартуністычнага лёзунгу — «цвінгт ды бонзэн» — «змушайте прафсаюзных кіраўнікоў» — нельга разумець, як спыненьне працы ў рэфармісцкіх і іншых рэакцыйных прафсаюзах. Наадварот, адкідваньне гэтага лёзунгу мае на мэце ўзмацненьне нашай самастойнасьці і актыўнасьці ўнутры гэтых саюзаў і адначасна ў фабрыках, капальнях і т. п. Пасьпяховае дэмаскаваньне рэфармісцкіх і іншых профбюрократаў і вырываньне з-пад іх уплываў рабочых мас можна весьці толькі тады, калі левыя рабочыя побач з беспасрэднаю мабілізацыйнай працаю ў фабрыках будуць адначасна выступаць на сходах, канфэрэнцыях, зьездах рэфармісцкіх саюзаў, па ўсіх пытаньнях арганізацыі і тактыкі эканамічных баёў, высоўваючы ўласныя прапановы і растлумачваючы іх масам, імкнучыся да іх правядзеньня і рэалізацыі, а таксама дэмаскоўваючы крок за крокам кіраўніцтва гэтых саюзаў.

Трэба змагацца з левацкім зьнеўважаньнем барацьбы за выбарнасьць усіх прафсаюзных пасад, а таксама са зьнеўважаньнем барацьбы за завалваньне перадусім нізавых прафсаюзных праўленьняў.

4. Задача КСМ і нашай партыі — давясьці ў найхутчэйшым тэмпе да таго, каб пры кожным левым прафсаюзе існавала маладзёжная група рабочых. Рабочая моладзь, арганізаваная ў ТУРу, а таксама ў сацыял-фашыстоўскіх саюзах, але распарушаная ў агульнай членскай масе, павінна быць арганізавана да барацьбы за маладзёжныя сэкцыі пры рэфармісцкіх саюзах на падставе барацьбы за штодзённыя інтарэсы рабочай моладзі.

II.

Сур'ёзным недахопам, падкрэсьленым VI Зьездам, затрудняючым пашырэньне стачачных баёў, а перадусім няўменьне ўвязкі іх з масамі. Дзеля таго неабходна:

1. а) Нельга ставіць у залежнасьць стварэньне цэнтральнага забастовачнага камітэту толькі ад выбару яго на канфэрэнцыі дэлегатаў і забастовачных фобрычных камітэтаў. Цэнтральны забастовачны камітэт можна таксама арганізаваць, бяручы за падставу для яго забастовачны камітэт аднэй важнейшай фабрыкі і папаўняючы яго шляхам выбараў і кааптаваньня прад-

стаўнікоў іншых фбрык. Трэба не забываць неабходнасьці стварэньня рэзэрвовага цэнтральнага забастовачнага камітэту.

б) Цэнтральны забастовачны камітэт павінен сыстэматычна зьбірацца. Важнейшая яго задача гэта як найхутчэй зьвязацца з бастуючымі (сходы, мітынгі, забастовачныя бюлетэні), а таксама з рабочымі тых фабрык, якія мы хочам уцягнуць у стачку і якія да яе яшчэ не прыступілі. На сходах бастуючых рабочых трэба праводзіць рэзалюцыі, што адзіным прадстаўніком бастуючых зьяўляецца цэнтральны забастовачны камітэт, і выражаць вотум недавер'я сацыялфашыстоўскаму кіраўніцтву.

в) Не камандваньне, а належная дапамога і кіраўніцтва цэнтральным забастовачным камітэтам праз камуністычную фракцыю ў камітэце ў часе забастоўкі — вось важнейшая задача партыйнай арганізацыі.

2. Цэнтрльны забастовачны камітэт у сваёй дзейнасьці павінен абапірацца на фабрычных забастовачных камітэтах, бо толькі тады ён здолее сапраўды кіраваць усёй барацьбой.

Фабрычныя забастовачныя камітэты павінны арганізоўвацца на ўсіх фабрыках, уцягнутых у акцыю. Дзеля таго адна з найважнейшых задач цэнтральнага забастовачнаг а камітэту гэта — дапамагчы фабрыкам арганізаваць фабрычныя забастовачныя камітэты.

Пры арганізацыі фабрычных забастовачных камітэтаў неабходна:

а) Усіленна і пасьлядоўна імкнуцца да тварэньня выбарных забастовачных камітэтаў. Забастовачныя камітэты павінны быць створаны на падставе шырокага адзінага фронту. У склад камітэту павінны ўваходзіць ня толькі арганізаваныя члены профлевіцы, ці то чырвонага прафсаюзу, але таксама члены рэфармісцкіх саюзаў і неарганізаваныя рабочыя. Выбары ў залежнасьці ад варункаў можна праводзіць альбо шляхам галасаваньня ўсіх кандыдатаў на агульных сходах рабочых усёй фабрыкі, альбо шляхам галасаваньня па цэхах усяго сьпісу, ці толькі дэлегатаў цэхоў, якія выбіраюцца ў склад фабрычнага забастовачнага камітэту. Калі немагчыма праводзіць выбары на сходах, дык гэта ня можа быць прычынаю нестварэньня забастовачнага камітэту. У такіх выпадках трэба тварыць забастовачны камітэт на больш вузкай базе. Забастовачныя камітэты, створаныя такім спосабам, павінны быць пры першай магчымасьці пацьверджаны і ў выпадку неабходнасьці папоўнены на сходзе бастуючых рабочых.

б) У фабрычныя і цэнтральны забастовачныя камітэты трэба ўцягваць рабочую моладзь, жанчын і беспрацоўных.

в) Ня трэба даводзіць да так званага «падагравання» забастовачных камітэтаў, выбраных ня ў гэтай акцыі, а значна раней, пра каторых рабочыя ўжо забылі.

г) Побач з нармальным забастовачным камітэтам мусіць быць створан рэзэрвовы забастовачны камітэт.

3. Мы змагаемся з забастовачнымі камітэтамі, створанымі праз кіраўнікоў рэфармісцкіх прафсаюзаў і іншых рэакцыйных прафсаюзаў. Там, дзе мы слабыя і ня можам самастойна давесьці да выбару забастовачнага камітэту масамі, мы ўваходзім у меншасьці ў назначаны камітэт, як арганізаваная апазыцыя, выступаючая самастойна як унутры камітэту, гэтак і па-за ім перад масамі. Задача апазыцыі — дэмаскоўваць крок за крокам дзейнасьць большасьці забастовачнага камітэту на падставе канкрэтных фактаў, пераконваць рабочых у неабходнасьці **выбару** забастовачнага камітэту і старацца як найхутчэй давясьці да гэтых выбараў.

## III.

Захоп фабрык становіцца ў астатнім пэрыядзе ўсё больш распаўсюджанай — выходзячай з самых мас — формаю барацьбы. Усюды там, дзе ў рабочых існуе імкненьне захапіць фабрыку, задача камітэтаў заключаецца ў тым, каб гэтую барацьбу арганізаваць і стаць на яе чале. Там, дзе захоп фабрыкі можа быць пасьпяховым сродкам націску на капіталістаў, на камунальныя ўлады і ўрад (пры рэдукцыях, лёкаутах, зачыненьні цэлых фабрык, у камунальных прадпрыемствах), камуністы выступаюць з ініцыятываю і арганізуюць гэтую форму барацьбы. Трэба пры гэтым памятаць, каб:

а) У часе падрыхтоўкі барацьбы, а перадусім пасьля таго як яна пачалася, мабілізаваць іншыя атрады працуючых рабочых і беспрацоўных, увязваць барацьбу рабочых, якія захапілі фабрыку, з барацьбою рабочых за вуліцу (рэзалюцыі і кароткія стачкі салідарнасьці, арганізацыя камітэтаў дапамогі, вулічныя дэманстрацыі і т.п.)

б) З захопленай фбрыкі трэба вывадзіць дэлегацыі, а таксама большыя групы рабочых для таго, каб прывесьці ў рух рабочых на іншых фабрыках, а таксама для супольных дэманстрацый.

в) У барацьбе з рэдукцыямі і лёкаутамі, калі мы ня можам утрымаць рабочых, якія дамагаюцца адчыненьня фабрыкі альбо скасаваньня рэдукцыі, у барацьбе за гэтыя дамаганьні, альбо-ж у той час, калі рабочыя не рашыліся прыступіць да барацьбы за гэтыя дамаганьні, трэба высунуць такія трэбаваньні, як выдача кампэнсацыі (адшкодованьне) за прапрацованы час, бесплатныя кватэры, апал і сьвятло для рэдукаваных і г. д.

Недамаганьнем стачачных акцый астатняга часу, як пры захопе фабрык гэтак і пры масавых стачках, зьяўляецца няўменьне арганізавана закончыць барацьбу. Абавязак камуністаў у той час, калі рабочыя ня могуць далей змагацца аж да поўнай перамогі, зьяўляецца арганізаваць спыненьне стачкі, заканчэньне барацьбы хаця-бы з частковай перамогаю.

## IV.

Нягледзячы на рост беспрацоўя і бесперапынных атак ураду на беспрацоўных, праца партыі на гэтым важным вучастку ў астатнім часе значна аслабла. Усіх членаў партыі трэба прасякнуць сьвядомасьцю, што сёньняшняе беспрацоўе — у адрозьненьні ад даўніх — гэта беспрацоўе сталае, — хранічнае, што-раз больш пашыраючаеся. Дзеля таго, праца партыі і рэвалюцыйнага прафсаюзнага руху сярод беспрацоўных ня можа трактавацца як кампанейская, **а павінна ўпорліва, стала, бесперапынна ўзмацняцца і пашырацца.**

Дасягненьні на гэтым вучастку маюць толькі тыя партыйныя арганізацыі, якія праводзяць сярод беспрацоўных сталую штодзённую працу. Дзеля таго трэба:

а) Неадкладна выпрацаваць лёкальныя задачы, якія зачапляюцца за найбольш пякучыя балячкі беспрацоўных, і навакол іх арганізоўваць беспрацоўных да барацьбы.

б) Выбіраць камітэты беспрацоўных пры ПУПП'ах, вулічныя, у паасобных дамох, вылучаць пры гэтых камітэтах камісіі для працы сярод беспрацоўных пры кухнях, сярод жанчын, моладзі, супроць эксмісій і т. п. Арганізоўваць беспрацоўных пры левых прафсаюзах.

в) Пры кожным акруговым камітэце павінна існаваць камісія для працы сярод беспрацоўных, а пры кожным РК — тройкі. Беспрацоўных членаў партыі, якія ня маюць шансу зноў вярнуцца да тэй працы, дзе яны у апошні час працавалі і дзе яны належалі да ячэйкі, трэба арганізаваць у вулічныя ячэйкі, а пры зборных пунктах для беспрацоўных (ПУПП, кухні, выдаваньне дапамогі і натурай і т. п.) трэба арганізаваць камуністычныя фракцыі.

г) Увязваць барацьбу беспрацоўных з барацьбой працуючых і наадварот, а ў асаблівасьці з барацьбой часткова працуючых, высоўваючы для гэтых апошніх спэцыяльныя патрабаваньні.

## ДЫРЭКТЫВЫ ЦК КПП У СПРАВЕ НАЙБЛІЖЭЙШЫХ ЗАДАЧ ПАРТЫІ Ў ПРАЦЫ СЯРОД СЯЛЯНСТВА.

VI Зьезд партыі асабліва ў сьвятле прац камісіі рольнай зьезду сьцьвердзіў, што нашыя вясковыя арганізацыі ня ўмеюць яшчэ сваю штодзенную працу дастаткова ўвязваць з найактуальнейшымі балячкамі вёскі, і што яны слаба выяўляюць балячкі сялянскіх мас. Найбольш яскравы выраз гэтыя слабасьці нашай працы сярод сялян знайшлі ў памылковых адносінах да сялянскіх стачак, у пасыўнасьці да справы ліхвярскай задоўжанасьці працоўных мас вёскі, у аслабленьні барацьбы з фашыстоўскай камасацыяй і грабяжою сэрвітутаў, і нарэшце ў адсутнасьці ўсякай акцыі супроць паншчынных перажыткаў, перадусім супроць адработак.

Уся наша дзейнасьць сярод сялянскіх мас мусіць быць накіравана на давядзеньне сялянскіх мас да беспасрэднай барацьбы за зямлю бяз выкупу, за рабоча-сялянскі ўрад. Першараднай задачаю зьяўляецца каардынацыя рабочых і сялянскіх баёў, разгортваньне акцый салідарнасьці на вёсцы з баямі пралетарыяту і наадварот: сыстэматычнае штодзённае ўмацоўваньне рабоча-сялянскага саюзу. З гэтай мэтаю павінны мы крок за крокам дэмаскоўваць і змагацца з высілкамі людова-фашызму, накіраванымі да таго, каб адарваць сялянскія масы ад пралетарыяту, супроцьстаўляючымі нашаму лёзунгу рабоча-сялянскага саюзу лёзунг адзінства бедняцкіх і серадняцкіх мас з кулакамі. Мы павінны дэмаскоўваць і змагацца з манэўрамі людова-фашызму, які стараецца, таксама як і сацыял-фашызм, стаць на чале выбухаючых сялянскіх баёў з тым, каб лягчэй іх здрадзіць, каб вырваць адтуль іхнае рэвалюцыйнае вастрыё. Барацьба з ашуканствам дэмакратычнага выхаду з крызысу павінна стаць неразрыўнаю складовою часткаю кожнай нашай акцыі на вёсцы. Ашуканчым фразам людова-фашызму і ППС мы павінны супроцьпаставіць наш рэвалюцыйны выхад з крызысу, тлумачыць, што скінуць фашызм, што ўстанавіць рабоча-сялянскі ўрад — гэта адзіны выхад для сялянскіх мас, што толькі гэткі ўрад зьмяце ўсялякія формы капіталістычнага і фэадальнага вызыску і ўціску і дасьць сялянам зямлю бяз выкупу.

Каб правесьці паварот у нашай дзейнасьці сярод сялянскіх мас, партыйныя арганізацыі павінны згуртаваць сваю ўвагу на наступных найважнейшых задачах:

1. Дагэтуль найбольш занедбаная ў партыі **барацьба супроць напоўфэадальных і паншчынных перажыткаў** павінна ахапіць найшырэйшыя масы працоўнага сялянства:

а) Мы мусім разгарнуць масавую **барацьбу супроць адработак**, якія зьбліжаюць становішча селяніна цяперашняй капіталістычнай Польшчы з палажэньнем селяніна пры паншчыне. Неабходна арганізаваць стачкі супроць адработак за дзяржаўныя чыншы пад лёзунгам надзяленьня зямлёй дробных арэндатароў, адработак за ліхвярскія даўгі, за амартызацыю доўгу, за процанты, за жыро на вэксалю, за паручэньне, за каморныя і г. д. Барацьба супроць адработкаў будзе першарадным фактарам для паглыбленьня клясавай барацьбы на вёсцы, для супроцьстаўленьня зьнітаванага фронту бедняцкіх і серадняцкіх сялянскіх мас абшарнікам, кулакам і клеру, які побач з кулацтвам адыгрывае сёньня на вёсцы ролю ліхвяра.

Для арганізацыі барацьбы з ліхвярскімі даўгамі трэба праводзіць сходы, якія прымаюць рашэньні не плаціць даўгоў, ганьбіць найбольш зьненавіджаных кулакоў-ліхвяроў і заклікаюць сялянскія масы даць актыўны масавы адпор экзэкуцыям і ліцытацыям за даўгі.

б) **Барацьба супроць уселякага роду шарваркаў** мусіць стаць больш чым дагэтуль галоўнай задачай нашых вясковых арганізацый.

Арганізацыя стачак, масавага адпору супроць шарваркаў павінна адбывацца на грунце шырокай кампаніі масовак і сходаў. Асаблівую ўвагу арганізацыі павінны накіраваць на ладжаньне стачак і масавага адпору супроць так званых зімовых шарваркаў, супроць прымусу забясьпечаньня за кошт сялян розных дзяржаўных, камунальных і гмінных інстытуцый. У адказ на гэтага роду шарваркі трэба арганізоўваць масавую канфіскацыю дрэва з лесу і звазіць яго да сялянскіх хат. Партыйныя арганізацыі павінны таксама разгарнуць барацьбу з прымусам даваньня падвод, што шырока ўжываецца на акупаваных землях і ў шэрагу аколіц карэннай Польшчы.

в) **Барацьба з аплатамі рагатковымі, капытковымі, targовымі і разьнічымі.** Наша тактыка павінна быць наступнай.

Улічваючы, што сялянскія масы амаль ва ўсім краі імкнуцца застасаваць у барацьбе з гэтымі аплатамі аружжа стачкі-байкоту, наш абавя-

зак — падрыхтаваць, арганізаваць і кіраваць сялянскімі стачкамі супроць пераліча́ных вышэй аплат. Стачка-байкот мусіць быць як найбольш сьцісла зьвязана з арганізацыяй масавых пікетаў, канфіскацыяй сельска-гаспадарчых прадуктаў, што абшарнікі і кулакі звозяць ў горад, з дэманстрацыямі пад магістраты і старостввы.

Абавязак рабочых у горадзе — гэта арганізаваць супольныя дэманстрацыі з сялянамі, усялякую дапамогу змагаючымся сялянам (ухвалы салідарнасьці і т. п.).

Камбінаваньне розных форм барацьбы: байкоту — стачкі, альбо таксама масавага праезду ў горад, нішчэньне рагатак, байкот уселякіх аплат — усё гэта залежыць ад настрою мас у кожным канкрэтным выпадку. Калі нам не ўдаецца ўтрымаць сялянскія масы ў стачцы, трэба імкнуцца закончыць барацьбу на падставе частковай перамогі.

г) **Трэба арганізоўваць байкот усялякіх касьцёльных аплат** (за службу, пахаваньне і т. п.), а таксама ўсялякіх касьцёльных павіннасьцяў (аплаты на рамонты касьцёльных будынкаў).

2. **Барацьба за зямлю для сялян бяз выкупу** мусіць стаць штодзённай задачай партыі. Лёзунг — зямля сялянам бяз выкупу — павінен быць высунутым на чале ўсіх нашых акцый у вёсцы. Ня можа быць ані воднага сялянскага сходу на якім бы рэвалюцыйныя сяляне ня высунулі гэтага асноўнага лёзунгу. Асабліває значэньне для таго, каб давесьці сялянскія масы да беспасрэднай барацьбы, мае ўзмацненьне барацьбы супроць фашыстоўскай «перабудовы аграрнага ладу», супроць камасацыі, ліквідацыі сэрвітутаў, супроць даўгоў, вынікаючых з капіталістычнай ліквідацыі гэтых фэадальных перажыткаў:

а) **Барацьба з фашыстоўскай камасацыяй** мусіць набраць больш канкрэтнага чым дагэтуль характару:
арганізоўваць вясковыя сходы, якія выказваюцца супроць камасацыі, якія заклікаюць сялян праганяць землямераў і зямельных чыноўнікаў;

арганізоўваць масавае праганяньне чыноўнікаў, якія зьяўляюцца ў вёску, каб праводзіць вымярэньні зямлі;

арганізоўваць масавы адпор супроць перанясеньня сялян на новыя вучасткі, а таксама супроць уселякіх імкненьняў фашыстоўскіх улад для рэалізаваньня камасацыі.

Там, дзе камасацыя ўжо праведзена, трэба разгарнуць масавую барацьбу супроць даўгоў, вынікаючых з камасацыі; гэтага роду акцыя дае магчымасьць пашыраць фронт сялянскай барацьбы, уцягнуць найшырэйшыя масы цэлай гміны альбо шэрагу вёсак.

б) **Барацьба з грабежаю сэрвітутаў** мусіць быць сёньня як найбольш сьцісла ўвязана з мабілізацыяй сялянскіх мас навакол завостраных тактычных лёзунгаў, высунутых III пленумам ЦК, якія даводзяць сялянскія масы да беспасрэднай барацьбы за зямлю бяз выкупу, з барацьбою за масавае ўжываньне абшарніцкіх, урадавых і гмінных пашаў, лугоў, масавае ўжываньне лясоў (вырубаньне дрэва), непрызнаваньне ліквідацыі сэрвітутаў — драговых, водных — масавую канфіскацыю збожжа, сена і г. д.

Правя́дзеньне рэзалюцый на сялянскіх сходах аб тым, што сяляне не прызнаюць праведзенай ліквідацыі сэрвітутаў, увязка з ужо зьліквідаванымі сэрвітутамі дае магчымасьць уцягваць найшырэйшыя сялянскія масы да рэалізацыі гэтых лёзунгаў.

3. **Барацьба супроць падаткаў** застаецца і ў далейшым галоўнай задачай партыі на вёсцы. Яе найбольшым недахопам зьяўляецца распыленасьць, адсутнасьць увязкі антыпадатковых баёў нават у найбліжэйшых аколіцах. Для зьнішчэньня гэтай распыленасьці неабходна:
арганізоўваць сялянскія масы на адмаўленьне ад уплаты падаткаў ужо тады, калі надыходзяць наказы платнічы, праводзіць сходы з рэзалюцыямі аб неплацежы падаткаў;

арганізоўваць варты і сталую чуйнасьць, калі набліжаецца пэрыяд экзэкуцый і ліцытацый, каб масы не былі захоплены зьненацку праз экзэкуцыю;

арганізоўваць байкот ліцытацый і адбіраньне масамі выстаўленага сялянскага дабра.

4. **Барацьба з беспрацоўем на вёсцы,** якое ахоплівае мільённыя масы безьзямельнай і малазямельнай беднаты і сельска-гаспадарчага пралетарыяту мусіць разгарнуцца пад галоўным лёзунгам барацьбы за зямлю бяз выкупу, за рабоча-сялянскі ўрад.

**Нашыя галоўныя задачы:** пашырыць дзяржаўныя дапамогі для беспрацоўных на ўсіх бяз вынятку сельска-гаспадарчых рабочых на працягу ўсяго часу беспрацоўя; супроць эксмісій сельска-гаспадарчых рабочых і сялянскай беднаты; за дзяржаўныя і гмінныя дапамогі для беспрацоўнай сялянскай беднаты; масавая канфіскацыя збожжа, мукі у абшарнічых і дзяржаўных сьвіранах, масавая канфіскацыя пашы, апалу з абшарніцкіх і дзяржаўных лугоў, стадолаў і лясоў.

**Формы акцыі:** сходы, дэманстрацыі пад гмінныя ўстановы, староствы, магістраты; супольныя дэманстрацыі рабочых і сялян.

5. **Барацьба супроць фашыстоўскіх гмінных бюджэтаў.** Яе найбольшай слабасьцю зьяўляецца адсутнасьць палітычнага завастрэньня барацьбы супроць непасрэднай апоры фашыстоўскага ўраду на вёсцы — супроць фашыстоўскіх солтысаў і войтаў.

Мы павінны як найбольш востра змагацца супроць апартуністычнага нявыкрэсьліваньня ў гмінных бюджэтах выдаткаў на пэнсіі фашыстоўскім войтам і гмінным пісарам, якія праводзяць усякія загады фашыстоўскага ўраду, збор падаткаў, шарваркі і г. д.

На гмінных сходах, якія абгаварваюць бюджэт, мы павінны высоўваць дамаганьні аб вотуму недавер'я для фашыстоўскіх солтысаў і войтаў, супроцьставіць ім кандыдатуры рэвалюцыйных сялян і праводзіць явачным парадкам выбары гэтых кандыдатаў.

6. **Чым больш мы набліжаемся да рэвалюцыйнага крызысу, тым большага значэньня набірае стварэньне шырокай сеткі сялянскіх камітэтаў,** як органаў барацьбы найшырэйшых працоўных мас сялянства супроць усялякіх прояваў капіталістычнага і напоўфэадальнага вызыску і ўціску, а ў сытуацыі рэвалюцыйнага крызысу, як органаў барацьбы за зямлю бяз выкупу. Камітэты сялянскай барацьбы трэба супроцьстаў-

ляць створаным праз фашызм фінансава-рольным камітэтам.

7. Цэнтральны камітэт зьвяртае ўвагу ўсіх партыйных арганізацый, што прадпасылкаю для ўзмацненьня нашай працы сярод сялянскіх мас зьяўляецца **адначаснае палепшаньне нашай працы сярод сельска-гаспадарчага пралетарыяту**, якая ў апошніх часах была вельмі значна аслаблена. **Неразуменьне неабходнасьці палепшаньня** на гэтым вучастку гэта праява грознага апартуністычнага неразуменьня ролі сельска-гаспадарчага рабочага ў аграрнай рэвалюцыі, як складовай часткі сацыялістычнай рэвалюцыі.

Разгортваньне шырокай стачачнай барацьбы супроць наступленьня абшарнікаў, супроць пагоршаньня варункаў працы і платы, рэдукцый, невыплачваньня заробкаў, эксмісій, узмацненьне партыйнай арганізацыі і рэвалюцыйнага прафсаюзнага руху сярод сельска-гаспадарчых рабочых, стварэньне рэвалюцыйных апазыцый у саюзах Квапінскага і НПР-аўскіх саюзах — вось баявыя задачы сёньняшняга моманту.

## VI ЗЬЕЗД КПП АБ ПРАЦЫ СЯРОД МОЛАДЗІ.

1. Шпаркае насьпяваньне рэвалюцыйнага крызысу і абвастрэньне небясьпекі вайны—павялічваюць абавязкі партыі і камсамолу ў арганізацыі барацьбы шырокіх мас рабочай і сялянскай моладзі. «...час ваенны — моладзь вырашыць аканчэньне барацьбы...» (Ленін, 1905 г.).

2. Галоўныя недахопы КСМ, на перамаганьне якіх павінны накіраваць усю сваю ўвагу партыя і саюз моладзі,—гэта—а) слабасьць базы фабрычнага і сельска-гаспадарчага пралетарыяту ў КСМ, адставаньне роста фабрычных ячэек ад агульнага росту арганізацыі, што найбольш яскрава выяўляецца ў Варшаўскай і Горнасілескай арганізацыях; нязначнасьць прафсаюзных арганізацый сярод прамысловай моладзі, невыстарчальная актыўнасьць КСМ сярод беспрацоўнай моладзі. б) Растучыя «ножніцы» паміж сурёзным колькасным ростам камсамольскіх арганізацый і іх палітычнай актыўнасьцю ў разгортваючайся рэвалюцыйнай барацьбе працоўнага сялянства. в) Слабая ідэалёгічная і палітычна-выхаваўчая праца КСМ.

3. Канстатуючы, што на падставе правільных рашэньняў II і III пленумаў ЦК КСМ, саюз дасягнуў сур'ёзных посьпехаў (рост КСМ ад 5 тысяч на V Зьездзе, да 14 тысяч на VI Зьездзе, узросшая роля камсамолу ў арганізацыі эканамічнай барацьбы рабочай моладзі, арганізацыя масавай антываеннай кампаніі ў апошні пэрыяд і рост рэвалюцыйнага саюзу дапрызыўнікаў), Зьезд падкрэсьлівае, што высілкі ўсіх арганізацый павінны быць накіраваны на выкананьне гэтых рашэньняў цалкам актуальных у сучасным пэрыядзе:

а) Настойлівая арганізацыя прамысловай моладзі на барацьбу за яе штодзённыя інтарэсы на падставе адзінага фронту зьнізу, арганізаванага на фабрыцы, у вёсцы, маёнтку і профшколе. Досьлед добрых вузораў працы камсамолу на фабрыках Дамброўскага басэйну і Лодзі павінен быць перададзены ўсяму саюзу, перадусім, Варшаўскай арганізацыі. Узмацненьне працы сярод беспрацоўнай моладзі, распрацоўка спэцыяльных патрабаваньняў для беспрацоўнай моладзі, якая яшчэ не працавала; канцэнтрацыя нашай працы сярод беспрацоўнай моладзі, апрача кухняў, на вуліцы, у рабочых дамох і ў масавых арганізацыях.

б) Сыстэматычнае кіраўніцтва з боку райкомаў і акружкомаў фабрычна-заводзкімі ячэйкамі, стварэньне вакол іх шырокага беспартыйнага актыву праз арганізацыю юнацкіх груп профлевай, ядром якіх павінна быць фабрычна-заводзкая ячэйка, праз арганізацыю фабрычна-заводзкай ячэйкі на фабрыцы, газэткі, спартыўнага клюбу і бібліятэкі. Стварэньне юнацкіх сэкцый пры рэвалюцыйных прафсаюзах, там, дзе ў значнай колькасьці знаходзіцца моладзь. Безагаворачным павінен быць прынцып: кожны камсамолец — член прафсаюзу. КСМ павінен у бліжэйшы пэрыяд дагнаць і перагнаць у колькасным адношэньні партыю.

в) Далейшае ўмацненьне масавай антываеннай кампаніі і разгортваньне саюзу рэвалюцыйных дапрызыўнікаў, перадусім, яго фабрычных, фальварачных і вясковых гурткоў. Арганізацыя барацьбы салдат вакол іх штодзённых балячак, перанясеньне барацьбы рабочых і сялян у казармы, разгортваньне сыстэмы нарадаў з салдатамі, сыстэматычная праца з салдатамі, аж да перадачы іх армейскай партарганізацыі.

г) Падняцьцё палітычнага роўня вясковых арганізацый, актывізацыя іх у адбываючыхся масавых баёх у вёсцы і падрыхтоўка іх да надыходзячых вялікіх баёў працоўнага сялянства. Вылучэньне вясковага актыву, перадусім батрацкага і бедняцкага.

д) КСМ Польшчы павінен дабіцца пералому ў сваёй барацьбе супроць польскага шавінізму, супроць акупацыі, супроць акупацыі Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі, супроць нацыянальнага ўціску яўрэяў, немцаў і г. д. Барацьба украінскіх і беларускіх мас супроць польскай акупацыі — гэта барацьба усяго польскага пралетарыяту і польскіх працоўных мас. КСМ павінен папулярызаваць гэтую барацьбу сярод шырачэзных мас працоўнай моладзі Польшчы, арганізуючы яе ў дапамогу **барацьбы на ЗУ і ЗБ,** шляхам паднятцьця рэвалюцыйнай салідарнасьці, ладжаньня дэманстрацый, палітычных забастовак і г. д. Барацьба супроць усялякіх праяваў шавінізму ў КСМ і ў масах. Перад КСМ ЗБ і ЗУ стаіць задача правядзеньня павароту да барацьбы супроць канкрэтных праяваў нацыянальнага ўціску і акупацыі, задачы мабілізацыі на гэтым грунце, а таксама за дадатныя, частковыя нацыянальныя патрабаваньні шырачэзных мас працоўнай моладзі.

е) Аграмадная радыкалізацыя мас моладзі ў сацыял-фашыстоўскіх арганізацыях моладзі дае вялікія магчымасьці разгортваньня рабочай апазыцыі ў гэтых арганізацыях. Вагаром стварэньня і разгортваньня гэтых апазыцый можа быць толькі шырокае стасаваньне адзінага фронту зьнізу. Камуністычныя фракцыі павінны імкнуцца да самага шпаркага вывядзеньня апазыцыі (раскол).

ж) Зьезд канстатуе, што КСМ недастаткова выкарыстоўвае легальныя магчымасьці працы сярод моладзі і ўказвае на неабходнасьць раз-

гортваньня спартыўных клюбаў, культурна-асьветных арганізацый, хат-чытален, клюбаў і г. д.

4. На чале задач КСМ высоўваецца неабходнасьць правядзеньня павароту ў яго палітычна-выхаваўчай працы. «Задача Саюзу Моладзі заключаецца ў тым, каб так накіраваць сваю практычную дзейнасьць, каб моладзь, навучаючыся, арганізуючыся, злучаючыся, змагаючыся, — выхоўвала камуністаў і з сябе і з тых, якія бачаць у ёй правадыра». (Ленін).

Саюз павінен быць школай камунізму, каб сыстэматычна і арганізавана перадаваць у партыю сотні і тысячы моладзі — бальшавікоў. У гэтай галіне перад КСМ стаяць наступныя задачы:

а) Прасяканьне ўсёй практычнай дзейнасьці кожнага зьвяна Саюзу палітычнымі пытаньнямі. Частыя палітычныя даклады, хуткая ацэнка ва ўсёй арганізацыі важнейшых палітычных падзеяў у краіне і за мяжой. Арганізацыя ва ўсіх раёнах школ палітмінімуму, гурткоў прамоўцаў, арганізацыя акруговых школ і гурткоў — дакладчыкаў у падставовых прамысловых акругах, гурткоў кіраўнікоў школ палітмінімуму, школ вясковага актыву, сыстэматычная арганізацыя цэнтральнай школы і г. д. Цэнтральны Агітпроп павінен быць значна узмоцнен, у Агітпроп трэба пасылаць лепшых таварышоў.

б) Падняцьцё палітычнага зроўня камсамольскіх выдавецтваў пры адначасным іх ажыўленьні і даступнасьці для шырокіх мас працоўнай моладзі: разгортваньне выдавецтваў ячэяк — праклямацый і фабрычных газэтак.

в) Выпрацоўка ў вучнёўскай моладзі камуністычнага сьветапогляду, сур'ёзная прапрацоўка з ёй марксызму-ленінізму і накіраваньне лепшых яе прадстаўнікоў на прапагандысцкую працу.

5. Рашучая барацьба з права-трацкісцкай групай, поўная ізаляцыя іх правадыроў і забяспечаньне для лініі партыі камсамольцаў рабочых, якія пайшлі за гэтай групай — абавязак КСМ.

Уся камсамольская арганізацыя павінна вучыцца на досьледзе Варшаўскай арганізацыі, якая выявіла невыстарчальную пільнасьць на ўзьнікненьне рэнэгацкай права-трацкісцкай групы.

6. Зьезд канстатуе невыстарчальнае кіраўніцтва партыі камуністычным саюзам моладзі. Узрост рэвалюцыйнай актыўнасьці працоўнай моладзі, які адбываецца ў масавай барацьбе, пры адначасным узросьце актыўнасьці фашызму і сацыял-фашызму ў барацьбе за моладзь, неабходнасьць заваяваньня ў бліжэйшы пэрыяд большасьці рабочай моладзі, разгром масавага базыса сацыял-фашызму і народніцкага фашызму сярод працоўнай моладзі, аграмадныя задачы правядзеньня павароту ў палітычна-выхаваўчай працы КСМ, — усё гэта вымагае ад усіх партыйных арганізацый лепшага і больш шырокага штодзённага кіраўніцтва Саюзам Моладзі. Барацьба за моладзь — задача ўсёй партыі.

Задачы ўсіх партыйных арганізацый у гэтай галіне наступныя:

А) Стасаваньне ўсюды — зьверху да нізу — супольнага прадстаўніцтва.

Б) Кіраўніцтва Камсамолам партыйных арганізацыяў ў кампаніях, масавай барацьбе (у часе забастовак, палітычных кампаній і г. д.).

В) Дапамога партыйных арганізацый КСМ у канкрэтызацыі для моладзі агульна-палітычных задач.

Г) Правядзеньне пастановы XI Пленуму Выканкому Камінтэрну аб тым, што пры кожнай партыйнай ячэйцы на фабрыцы павінна быць ячэйка моладзі.

Д) Партыйная арганізацыя Горнай Сілезіі адстае ад усіх партыйных арганізацый у краі ў кіраўніцтве камсамолам. Перад партыйнай арганізацыяй Горнай Сілезіі стаіць задача дапамагчы камсамольскай арганізацыі ў яе адбудаваньні і разгортваньні, у арганізацыі масавай барацьбы супроць правакацыі.

Партыйныя арганізацыі і іх кіраўніцтва павінны памятаць, што яны адказны за існуючыя камсамольскія арганізацыі.

7. Зьезд даручае нова-абранаму Цэнтральнаму Камітэту вырашэньне пытаньня аб партыйнай прыналежнасьці камсамольскага актыву. Галоўная задача партыі і КСМ — гэта выхоўваньне маладых камуністаў і камсамольцаў у духу адданасьці і поўнага давер'я да зьнітаванага бальшавіцкага кіраўніцтва камуністычнай партыі Польшчы.

## ЛІКВІДАЦЫЯ КОНТРРЭВАЛЮЦЫЙНАЙ ТРАЦКІСЦКАЙ ГРУПЫ.

Настойлівая прынцыпіяльная барацьба нямецкай кампартыі, узмацніўшаяся асабліва за апошнія месяцы, супроць трацкізма, прывяла да распаду невялікай трацкісцкай групы, існаваўшай ў Нямеччыне.

Тыднёвік нямецкіх трацкістаў «Перманэнтнэ рэволюцыон» у апошнім нумары абвяшчае аб ліквідацыі нямецкай трацкісцкай арганізацыі.

«Перманэнтэ рэволюцыон» паведамляе, што большасьць арганізацый адракласяя ад Троцкага, здэмаскаваўшы яго ў якасьці паклёпніка на Камуністычны Інтэрнацыянал, Савецкі Саюз і, перадусім, на тав. Сталіна, і безагаворачна выказалася за лінію Камінтэрну, УсеКП(б) і КПН.

«Перманэнтэ рэволюцыон» зьмяшчае на першай старонцы зварот большасьці трацкісцкай апазыцыі ў Нямеччыне, у якім, паміж іншым, гаворыцца:

«Большасьць левай апазыцыі заяўляе, што яна поўнасьцю, палітычна і арганізацыйна, парывае з трацкісцкім ухілам. Прагнозы Троцкага ў адносінах разьвіцьця Савецкага Саюзу і Нямеччыны збанкрутавалі. Трацкісцкай апазыцыі ў Нямеччыне прыходзіць канец. Ад імя большасьці гэтай арганізацыі мы абвяшчаем аб яе ліквідацыі... Пасьля таго, як Троцкі, напракі нашым папярэджаньням, выкарыстаў зьяўленьне кніжкі амэрыканскага дробнага буржуа, ворага Саветаў і камуністаў, Кемпбелла, поўнасьцю давераючы заявам гэтага пана, для заклікаў да выражэньня «недаверра Сталіну» і для абвяшчэньня «прадстаячай здрады Сталіна» рэвалюцыі, — чаша нашага цярпеньня перапоўнілась... Гэты адзін факт меў большае значэньне, чым усе іншыя паклёпніцкія сьцьверджаньні Троцкага і яго пасьлядоўнікаў; яго аднаго было дастаткова для

таго, каб поўнасьцю апраўдаць разрыў з Троцкім...

Няма ніводнай праблемы міжнароднага руху, у якой трацкісцкія ацэнкі не аказаліся-б фальшывымі. Прэч антыпартыйныя групы і групіроўкі (САП, Брандлер Урбанс і г д.). Няхай жыве Камінтэрн, камуністычная партыя Савецкага Саюзу і кампартыя Нямеччыны».

У тэзісах большасьці трацкісцкай арганізацыі, у якіх выяўлены адносіны большасьці да праблем міжнароднага рэвалюцыйнага руху, маецца, у прыватнасьці, заява:

«Ва ўсёй гісторыі фракцыйнай барацьбы ўнутры і па-за Камуністычнага Інтэрнацыяналу правым аказаўся Камуністычны Інтэрнацыянал. Ня можа быць месца ўнутры Камуністычнага Інтэрнацыяналу для якіх небудзь іншых груп, якія быццам хочуць змагацца на глебе рэвалюцыйнай клясавай барацьбы».

У тым-жа нумары «Перманэнтэ рэволюцыон» зьмешчаны заявы рэдакцыі лістка саксонскай арганізацыі трацкістаў «Ротэр кур'ер» а таксама большасьці рэдакцыі «Перманэнтэ рэволюцыон»; у гэтых заявах указваецца, што рэдакцыі гэтых органаў стаяць на пазыцыі большасьці, г. зн. выступаюць за ліквідацыю трацкісцкіх груп.

Адначасна «Перманэнтэ рэволюцыон» зьмешчае паведамленьне рэдакцыі «Октобэр брыфэ», лістку трацкістаў унутры «Соцыалістышэ арбэйтэр партэй» (партыя Зэйдэвіца — Розэнфэльда) аб тым, што выданьне «Октобэр брыфэ» спыняецца.

**(З « Праўды»).**

## РЭЗАЛЮЦЫЯ, ПРЫНЯТАЯ НА СХОДЗЕ ПАРТАКТЫВУ Н-КАЙ АРГАНІЗАЦЫІ.

У той момант, калі Польшча ўшчыльную падыходзіць да рэвалюцыйнага крызысу, калі ўсё мацней разгортваецца стачачны рух, усё мацней разгортваецца рэвалюцыйны рух сулян і паняволеных народаў, які прымае характар масавых паўстанцкіх выступленьняў супроць эксплёатацыі і ўціску фашыстоўскага ўраду і абшарнікаў (ЗУ і ЗБ), — мабілізуюцца супроць растучых сіл рэвалюцыі ў Польшчы ўсе сілы контррэвалюцыі. Польская буржуазія прыбягае ў барацьбе супроць рэвалюцыйнага руху да мэтадаў грамадзянскай вайны. Сацыял-фашызм у Польшчы прыбягае да ўсё больш «левых» манэўраў дзеля таго, каб утрымаць масы ад пераходу на бок кампартыі.

На гэтым фоне разгортваючыхся падзеяў выступіла права-трацкісцкая група рэнэгатаў з разгорнутай праграмай барацьбы супроць лініі Камінтэрну і польскай кампартыі. Адмяжоўваючыся на паперы ад правай групы Кастшэвы-Варскага, рэнэгацкая група на справе абараняе, разьвівае ўсю сыстэму права-апартуністычных поглядаў разьбітай і збанкрутаваўшай групы Кастшэвы-Варскага.

У процівагу Камінтэрну, які лічыць сацыял-фашызм агентурай у шэрагах рабочае клясы, яе галоўнай сацыяльнай апорай, права-трацкісцкая група бачыць у ППС не агентуру польскага фашызму, а прадстаўніцу «дробна-буржуазнай дэмакратыі», якая імкнецца да «зьмяненьня фашыстоўскага ражыму» і абараняе «сялянства і дробна-буржуазную дэмакратыю ад гаспадарчай палітыкі картэлей, банкаў і сындыкатаў». Гэтая ацэнка сацыял-фашызму супадае цалкам і поўнасцю з пазыцыяй контррэвалюцыйнага трацкізму, які ня прызнае ролі сацыял-фашызму, як агентуры буржуазіі ў рабочай клясе.

Лічучы контррэвалюцыйных правадыроў прадстаўнікамі дробна-буржуазнай дэмакратыі, права-трацкісцкія рэнэгаты выступаюць за адзіны фронт з адданымі лёкаямі Пілсудзкага, бачаць у іх «часовых саюзьнікаў» у барацьбе супроць фашыстоўскай дыктатуры. Рэнэгацкая група выступае супроць самастойнага кіраўніцтва эканамічнымі бойкамі, супроць стварэньня рэвалюцыйных прафсаюзаў пры вядомых варунках, за падпарадкаваньне рабочае клясы інтарэсам буржуазіі.

Рэнэгаты атакуюць лінію Камінтэрну і ЦК КПП у ацэнцы палітычнай сытуацыі. Ня ўздым рэвалюцыйнага руху па іхняму мы маем у Польшчы, ня рост эканамічных і палітычных баёў, а рух уніз, паражэньне за паражэньнем.

Стоячы на пазыцыі марксызму-ленінізму, сход актыву лічыць, што права-трацкісцкая група скажае Леніна шляхам жульніцкага цытаваньня паасобных месц з брашуры «Дзіцячая хвароба лявізны», якія адносяцца да іншых часоў і да іншых варункаў.

Па прыкладу Троцкага польскія рэнэгаты ўзводзяць паклёп на партыйную масу, якая ідзе ў нагу з ЦК партыі, выдаючы сябе за «ленінскі мысьлячы актыў». Партыйны актыў, які працуе ў варунках шалёнага тэрору, прахвосты сацыял-фашызму называюць «партыйнай бюрократыяй». Па прыкладу Троцкага рэнэгаты ўзводзяць паклёп на партыю і яе кіраўніцтва, лічучы кіраўнікоў бюрократамі і зажымшчыкамі. Па прыкладу Троцкага яны выступаюць за зьнішчэньне ленінскай маналітнай партыі, за ператварэньне нашай партыі ў фэдэрацыю груп і фракцый.

Сход ячэйкі ганьбіць ліквідатараў і капітулянтаў, якія здрэйфілі пад націскам нячуванага тэрору, пад націскам «левых» манэўраў верных сабак фашыстоўскай дыктатуры.

Сход горача падтрымоўвае выключэньне гэтай рэнэгацкай групы з партыі і лічыць патрэбным разгортваньне шырокай ідэолёгічнай і выхаваўчай работы ва ўсіх нашых арганізацыях.

Сход горача падтрымоўвае выключэньне з УсеКП(б) контррэвалюцыйнай групіроўкі Руціна і Эйсмонта-Толмачева. Гэтая група, якая складалася выключна з былых правых і трацкістых, капітулявала перад цяжкасьцямі росту сацыялістычнага будаўніцтва і скацілася на шлях адкрытай контррэвалюцыі.

У адказ на вылазку рэнэгатаў партыйны актыў яшчэ больш згуртуецца вакол абранага VI зьездам бальшавіцкага ЦК на чале з т. Ленскім для выкананьня задач, якія пастаўлены перад нашай партыяй XII пленумам ВККІ.

## З АДОЗВЫ ЦК КПП.

Пацыфікацыя — гэта грамадзянская вайна супроць валынскіх сялян, якія змагаюцца супроць імпэрыялістычнай вайны, бо абараняюць СССР.

**Таварышы!** Барацьба украінскіх сялян Валыні—ёсьць ваша барацьба, гэта ёсьць супольная барацьба супроць супольнага ворага, фашыстоўскай дыктатуры. **Гэта ёсьць барацьба за хлеб, працу, зямлю, за рабоча-сялянскі ўрад.** Валынскія сяляне—адзін з атрадаў змагаючайся рэвалюцыйнай арміі працоўных мас. Перамога народных мас Зах. Украіны—ёсьць ваша перамога, ёсьць адначасна перамога польскага рабочага і селяніна.

Вас таксама душыць і гныбіць фашыстоўская дыктатура, капітал выкідвае вас на брук, абніжае вам галодную плату, асуджае на галодную сьмерць сотні тысяч беспрацоўных усей Польшчы. Экзэкутар таксама адбірае ў польскага селяніна, як і ў украінскага і беларускага, астатнюю кароўку і астатняе дабро за падаткі і даўгі. Па гарадох і вёсках Польшчы, таксама як Зах. Украіны і Зах. Беларусі, лютуюць паліцэйскія ватагі, громячы і растрэльваючы змагаючыхся рабочых і сялян. 20 сялян палягло на працягу трох месяцаў у барацьбе з паліцыяй у Запанове, Ядове, Ліску і іншых мясцовасьцях. Тысячы польскіх рабочых і сялян супольна з украінскімі і беларускімі рабочымі і сялянамі гніюць у вастрожных казэматах фашыстоўскай Польшчы. Пятла шыбеніц аднолькава павісла над працоўнымі масамі Польшчы, Зах. Беларусі і Зах. Украіны.

**Таварышы рабочыя, сяляне і салдаты!**

**Узьнініце голас пратэсту супроць пацыфікацыі.**

**У масавых дэманстрацыях і пратэстацыйных стачках выказвайце сваю салідарнасьць са змагаючыміся ўкраінскімі масамі. Сьпяшыце з дапамогаю змагаючымся Валынскім братам. У адзіным фронце пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі Польшчы да барацьбы з крывавай фашыстоўскай дырктатурай, з наступленьнем капіталу, з падатковай грабежай, з уціскам і тэрорам.**

Сацыял-фашысты і людова-фашысты з ППС і «Строніцтва Людовего», якія ўсюды сыплюць апазыцыйныя фразы нібы-та барацьбы з фашыстоўскай дыктатурай, ні воднага слова не кажуць на конт падзеяў на Валыні. Яны ўкрываюць ад польскіх мас пацыфікацыю Валыні, бо яны хэўрусьнікі фашызму і падтрымоўваюць акупацыю польскага імпэрыялізму на Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне, бо разам з фашызмам падрыхтоўваюць напад на СССР.

**Салдаты!**

Вас фашыстоўская дыктатура хоча зрабіць катамі змагаючыхся мас, вам загадваюць зьдзеквацца з украінскага селяніна.

**Рабочыя і сяляне ў салдацкіх мундзірах.** Вашымі рукамі кат Пілсудзкі хоча задушыць барацьбу вашых братоў. Не дапускайце, каб вас ужывалі як прыладу фашызму. Адмаўляйцеся ад выконваньня ролі катаў і забойцаў. Станавіцеся на старане змагаючыхся ўкраінскіх сялян. Накіроўвайце зброю супроць фашыстоўскіх забойств.

**Прэч з акупацыяй Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі!**

**Прэч з пацыфікацыяй Валыні!**

**Няхай жыве самавызначэньне паняволяных народаў аж да аддзяленьня ад Польшчы!**

**Прэч з фашыстоўскай дыктатурай!**

**Няхай жыве рабоча-сялянскі ўрад!**

**Няхай жыве сацыялістычная рэвалюцыя!**

Цэнтральны Камітэт
Камуністычнай партыі Польшчы.

---

**ДЫКТАТУРА БУРЖУАЗІІ ВІДАЗЬМЯНЯЕЦЦА Ў БОК ДАЛЕЙШАГА ЎЗМАЦНЕНЬНЯ ПАЛІТЫЧНАЙ РЭАКЦЫІ І ФАШЫЗАЦЫІ ДЗЯРЖАВЫ, ВЫЯЎЛЯЮЧЫ ПРЫ ГЭТЫМ ЗВУЖВАНЬНЕ БАЗ БУРЖУАЗНАГА ПАНАВАНЬНЯ І ЗЬЯЎЛЕНЬНЕ Ў ЕЙ ШЧЫЛІН І РАЗЛАЖЭНЬНЯ... ЯК ПРАВІЛА, БУРЖУАЗІЯ СТАНОВІЦЦА ЎСЁ ЦЯЖЭЙ УЛАДЖВАЦЬ УЗЬНІКАЮЧЫЯ Ў ЯЕ АСЯРОДЗЬДЗІ КАНФЛІКТЫ.**

**У БОЛЬШАСЬЦІ КАПІТАЛІСТЫЧНЫХ КРАІН БУЙНАЯ БУРЖУАЗІЯ АРГАНІЗУЕ ФАШЫСТОЎСКІЯ АТРАДЫ ГРАМАДЗЯНСКАЙ ВАЙНЫ, УВОДЗІЦЬ У СЫСТЭМУ ПАЛІТЫЧНЫ БАНДЫТЫЗМ, БЕЛЫ ТЭРОР, КАТАВАНЬНІ ПАЛІТВЯЗЬНЯЎ, ПРАВАКАЦЫІ, ФАЛЬШЫЎКІ, РАССТРЭЛЫ БАСТУЮЧЫХ І ДЭМАНСТРАНТАЎ, РОСПУСК І РАЗГРОМ РАБОЧЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ. ПРЫ ГЭТЫМ БУРЖУАЗІЯ ЗУСІМ НЕ АДМАЎЛЯЕЦЦА АД ВЫКАРЫСТАНЬНЯ ПАРЛЯМЭНТУ І ПАСЛУГ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПАРТЫЙ ДЛЯ АШУКАНЬНЯ МАС.**

(XII Пленум Выканкому Камінтэрну).

## ЗЬМЕСТ: